# Змест




# Яугенія Паўлавец

паэтка. Вучаніца 7 «Б» класа Барысаўскай гімназіі № 3. Нарадзілася ў 2006 годзе ў вёсцы Ланкаўшчына на Барысаўшчыне. Жыве ў Барысаве.

# Покліч мары

Ты паклічаш яе і не знойдзеш,
Толькі скажаш: — А дзе яна? Дзе?
Колькі сцежак за ёю ты пройдзеш,
Нібы хваля па соннай вадзе...

Ну а потым, калі азірнешся,
То пабачыш адныя руіны...
Але што гэта — Рэха ці Песня,
Покліч мары, ці покліч Радзімы?..

Гэта ўсё, што навек застанецца,
Пры адзінай нязменнай умове,
Калі ў сэрцы тваім свята б'ецца
Беларускае роднае Слова.

## Завушніцы

Мару я пра завушніцы,
Як у казцы-небыліцы...

Вершы, каб пра іх складалі,
Песні, каб пра іх спявалі!

Каб, як зорачкі, гарэлі,
Каб у сцюжу сэрца грэлі...

Завушніцы-бліскавіцы
будуць мне штоночы сніцца...

Да святла іх дакрануся
І, шчаслівая, прачнуся...



# Ганна Рудак

паэтка. Скончыла філалагічны факультэт БДУ.
Друкавалася ў «Верасні».
Нарадзілася ў 1989 годзе ў вёсцы Бортнікі
на Глыбоччыне. Жыве ў Бараўлянах.

# Размова з Богам...

***

*Насці*

Ты хочаш не баяцца глыбіні? —
Стань марской хваляй —
Вечнай, смелай, чуйнай, непакорнай.
Нібы час, толькі гаючай,
Здольнай зажывіць усе шнары на целе Зямлі.
Нібы вецер, толькі спакойнай,
Павольнай і паступовай.
Нібы агонь, толькі моцнай і небяздумнай.
Уяві — ты і ёсць пачатак глыбіні,
Дык, дурненькая, навошта табе яе баяцца?

## Байкалу

Я хачу ў тваю глыбіню,
Я хачу проста стаць тваёй хваляй...
Ты душу адчуваеш маю.
Я не ведаю, што будзе далей.

Ты не верыш, што будзе спакой,
Бо ты ведаеш: прыйдуць людзі.
Адзінота паўсюль. Ты — мой.
Ты — у сне, бо інакш не будзе.

Я хацела ўбачыць цябе,
Для мяне ты не проста мора.
Чым глыбей зазірнеш у цябе —
Тым глыбей ты спасцігнеш гора...

***

Прыходзіў учора Бог і сказаў, што хоча жыць,
Хоць ужо зусім стары і бяззубы.
Зубоў дык і не было ніколі, таму ўсё жыццё жаваў аблокі.
А вочы каб не мазоліць — сказаў, што сыдзе ў лес,
Але ў госці, можа, і зойдзе калі.

***

Месяц жыць — няма часу тужыць.
Трэба добрай быць
І пяшчотнай.
Трэба ўсіх абдымаць употай, каб
Запомніць далоні і дотыкі.
Каб не плакалі, што
Не бачылі,
Як сябе я да дна не выпіла,
Пачала дробна-кволую чарку
І паставіла на вакно.
Я не бачу цябе даўно,
Я не чую цябе і не слухаю.
Толькі ты на дне пасткі дыхаеш,
Ты караскаешся і злуешся.
Ты — дзіця з анямелым сэрцам.
Месяц жыць — там пабачу цябе...

## Каралі

Праліцца б у тваё самае глыбокае мора
на самае дно.
Толькі на самае дно.
Там, на мяккай, пяшчотнай падэшве зямлі
ляжаць каралі —
Іх там забыліся Карл і Клара.
Я іх проста знайду —
Але потым зноў хтосьці скажа, што іх укралі.

***

(...) Сёння Бог зноў прыходзіў — крыж прыносіў.
Сказаў, што трэба трохі пачакаць
і ў кахання крылы вырастуць,
Тады яго анёлы будуць крыжаваць.
І мне было страшна размаўляць з Богам (...)

***

Душу не нараджаюць,
не даюць,
душу — ўдыхаюць...

А калі цяжка на душы —
Анёлы дыхаюць ў цішы
і свет трымаюць.
Анёлы плачуць і трымцяць,
нібыта свечкі,
бо чалавек не можа быць
ЗАЎСЁДЫ вечным.
Яго душа слабее ўдзень,
мацнее ўночы.
Бярэ анёл ў руку далонь і лёс прарочыць...

## Майму сумленню

«Печку зрабілі, каб табе цёпла было, як родзішся...»
А мне цёпла ад таго, што ты дыхаеш,
цёпла ад таго, што ты пра мяне думаеш,
цёпла, калі ты за мяне молішся.
Мне так цёпла глядзець у твае сінія глыбокія вочы,
цёпла называць цябе сваім «байцом-ахоўнікам»,
цёпла каля цябе плакаць...
Мне цёпла, калі я чую твой голас.
Мне так цёпла ад таго, што мне зрабілі печку...

***

Калі перастаеш камусьці верыць,
ты прагнеш волі,
ты бясконца хворы.

Ты, безнадзейна хворы,
хочаш волі,
калі перастаеш камусьці верыць.

***

Вёрсты мае топчуць ногі мае зламаныя,
Напісаць бы на небе крык — на ногі не ўстаць.
Вёрсты мае здзекліва-імклівыя
Хутка-хутка і цвёрда-цвёрда бягуць па нагах.

Праламіць лакцямі зямлю — не надыхаешся.
Прарасці травой — не пара яшчэ!..

А ранаю быць — мне не рана?
Вы так многа гаворыце
І так многа ведаеце
пра мяне.
Шкада, што я сама пра сябе не памятаю.
Толькі ведаю, што ногі зламаныя
і да неба не дакараскацца.

***

Цалавала ціха цябе ў цемечка.
Пяць пальчыкаў — пяць дзетачак.
Пяць пальчыкаў — пяць дзетачак...

Цалавала ціха ў цемечка і ў скроні.
Ноч не спала.
А раптам засну — і прысніцца ёй страшны сон.
Ну а што калі будзе сніцца, што знікла дачушка?
Не спала, цалавала ціха мне скронь і цемечка.
Пяць пальчыкаў — пяць дзетачак.

Так казалі.
Казалі, што дзетачкі — нібы пальчыкі.
Ну а што ж, слабенькія, тонкія,
Знітаваныя ніткаю ружанцоваю,
Для цябе,
Як адно,
Як жыццё,
Не было б іх — цябе не было б.

Ну а як жа? А як жа не было б іх?

Яны ж раней за мяне дыхаць пачалі.
Я для гэтага нарадзілася, каб яны не плакалі,
Яны плакалі, клікалі, не маглі навучыцца
Дыхаць правільна.

Ну і я спяшалася, каб лагоднай стаць
Для іх мамаю.

Беражы іх, лёс,
Ціхі светлы лёс, напаткайся ім...

Я так бегла, што сілы страціла.
Мае сілы ў іх, ў гэта веру я.

Пяць дзетачак — пяць пальчыкаў.

Ноч не спала, лічыла,
А колькі маіх?..
Ноч не спала, лічыла,
Пяць дзетачак — пяць пальчыкаў,
Раз — два — тры...

Тры ўздыхі, тры мары, тры сонейкі.

Я трымаю жыццё сваё, каб яны раслі,
Я лаўлю кожны сон,
Кожны крок, кожны крык,

Я жыву, бо жыве
Мая неператомная
Крыжаваная
Моцная
Верная
Ціха-ціхая
Запаветная,
Мая самая светлая і адданая ў сэрцы любоў да іх.

***

Сонца няма.
Яно знікла,
Сышло,
Закацілася.
Неба — турма —
Захапіла сабе
Усё лепшае.
Ну а ты —
ты жывеш
і дарма
моўчкі клічаш
з пустэчы
рукамі, зубамі

і пальцамі
захудалае
шчасце
сваё
што
даўно
разам з сонцам
у небе знікла
растварылася
расчаравалася
разышлося
і на кавалкі
разбілася.

Шчасце — дарма
Не бывае.
Неба — турма нямая,
Сонца ў падоле носіць,
Дзецям гасцінцаў просіць.

Хутка ўжо будзе восень.
Хутка ўжо будзе лёгка...
Толькі глыток бы сонца,
Толькі б прыгаршчы сонца...

Можа жыццё стаць бясконцым,
Калі раптам згасне сонца.

***

Усё згарэла,
А ты
Стала ціхай кляновай слязой
Ў тую ноч, калі ўсё
Захлыналася ў полымі свечкі.

Усё згарэла,
А ты
Стала ціхай кляновай слязой,
Стала ціхай кляновай слязой
І цяпер будзеш вечнай.

***

Я так люблю твае вочы
Бязмежныя.
Сінія, светлыя, снежныя, смешныя.

Я так люблю твае вочы
Восенню.
Вечарам, прыцемкам, подыхам, вечнасцю.

Я так люблю твае вочы
Бачыць, любіць, лагодзіць, пяшчоціць, люляць.
Зачароўваць.

Я так люблю твае вочы ў радасці,
ў горы, ў самоце, ў пяшчоце.
Раніцай.

Я так люблю твае вочы любіць,
Заўсёды бачыць бы іх...

## Калі б толькі...

*(Спроба паэмы)*

Свабоднай проста паспяшыць дамоў —
Ад цяжкіх жыццяў, ад заўзятых думак.
Свабоду піць, свабодай дыхаць зноў,
Свабоду браць, як лепшы падарунак.
Свабодна ўзяць у рукі той спакой,
Што можа толькі там гаіць і мучыць...
Свабодна размаўляць і быць з Табой,
Свабода нас ніколі не разлучыць.
Надыхацца, набегацца ў цішы,
Цішы сумлення, горычы сумлення.
Крычыш — крычы, жывеш — пішы,
Калі няма другога наталення.

Злавіць хоць пару сонечных далоней,
І называць усё такім, як яно ёсць.
Вось неба сіняе — няхай і будзе сінім,

Трава — зялёная, няхай расце трава.
Душа — празрыстая. Была... Няхай так будзе,
Душу тваю ужо нічога не ўкрадзе.
Усё так жыва, так кранальна, так імкліва,
Але нядоўга памяць жывіць лёс...
Цябе няма там больш, ты побач дзесьці,
Але не там. Ты проста нібы збоку
Глядзіш на сваё светлае жыццё.
А зараз — ты крадзешся, нібы злодзей,
І хочаш уварваць сабе шматочак,
Прыгаршчы шчасця, і дзяцінства, і святла.
Цябе няма там. Дом твой — адзінокі.
Ён нібы ёсць яшчэ, але цябе няма.

Цябе няма, цябе — няма, цябе — не будзе.
Ты іншая, не тая, не свая.
Вакол цябе цяпер чужыя людзі.
Жыццё — гульня. Жыццё — абсурд і мітусня.

Святло ў акно ліхтарыкам засвеціць
І павярнецца шэры медальён.
«Ты верыш мне, ты верыш мне?»
Ды дзе там... Ты прагнеш толькі зноў адчуць спакой.
Працей за ўсё лячыць чужыя душы,
Наіўна верачы, што стане ім лягчэй,
Калі сказаць, што ўсё міне —
І боль, нібы рака, перавярнецца,
Пральецца, выльецца...
Надыдзе лепшы час.
Ты верыш, што не будзе болей Нас?..

А я не думаю, што я табе патрэбна,
Калі б ты нават так і часта гаварыў.
Ты мог бы не задумвацца і срэбра
Душы маёй змяніць на бляск маны.
Маны і праўды, несусветных болей,
Мяжу натхнення, слодыч забыцця.
А я — не болей за сябе.
Я не слабая. Я і не моцная.
Я проста — проста я.

Я простая, забітая, нямая.
Мяне няма, кажу табе ў каторы раз.
Калі жыццё для іншых прамінае,
Я не магу гаіць іх хворы час.

Я думаю, што будзе ўсё, як трэба.
У іншых, у цябе, мой светлы лёс.

Свабодай наталіцца,
Праўдай загаіцца,
Басанож нахадзіцца,
З мамай нагаварыцца.
Ісціну спаймаць,
З сабой пасябраваць...
Калі б толькі...



# Кацярына Ваданосава

паэтка, музыка, дызайнер, лідарка музычнага гурта «Kaciaryna Vadanosava & Fantasy Orchestra». Аўтар паэтычнага зборніка «Міфатворчасць» (2015 г.) і аднайменнага музычнага альбома (2016 г.).Скончыла БДПУ імя Максіма Танка па спецыяльнасці «Гісторыя. Рэлігіязнаўства». Працуе тэлевядучай праграмы «Жывая культура» (тэлеканал Беларусь 3) і выкладчыкам мастацкай вышыўкі ў «Школе выкшталцоных рукадзелляў». Лаўрэатка шматлікіх песенных фестываляў. Нарадзілася ў 1986 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Забіць цмока...

## Восень

На ўсіх шляхах, на ўсёй зямлі —
Бязлюддзе.
Якімі ўлетку мы былі —
Забудзем.
Адзенне вецер з дрэваў рваць
Гатовы,
І праглынула цішыня
Ўсе словы.
І гіне жураўліны стан
Пад стрэлам,
І, ахінуўшыся ў туман,
Лес дрэмле.

## Санет 3

Крані маю душу сваім крылом,
Суцеш яе ў кастрычніцкай трывозе...
Я крочу па забруджанай дарозе,
Пакінуўшы даўно спусцелы дом,

Дзе не знайшла спагады і святла:
Я камянела ў вусцішным спакоі,
Змарнелая незаўважным боем,
Што з цішынёю столькі дзён вяла.

Іду наперад шляхам сноў і льдоў
І бачу вобраз твой між хмар далёкіх —
Яго нясу праз тысячу вякоў!..
Пазнай мяне па ледзьве чутных кроках,
Пусці ў свой Дом, дзе больш ніколі зноў
Ты не дазволіш мне быць адзінокай.

## Санет 4

Прывет табе, мой сябар. Ты змяніўся.
Ты так няўмела змарнаваў свой дар...

Дзе горды позірк, нескароны твар?..
Сярод натоўпу ты амаль згубіўся.

Не чуеш ветру ў шэрай мітусні,
Не бачыш сонца за святлом ліхтарні...
Ці здзейсніў ты свае былыя мары?
Калі апошні раз ты бачыў сны?

Я помню сорам, жар сваіх прызнанняў,
Пыхлівы холад твой і ліпеньскую ноч,
А потым — безнадзейнае світанне...
Я за ўсмешкай смутак свой схаваю.
Прывет, мой сябар. За натоўпам кроч.
Не бойся — я цябе больш не кахаю.

## Санет 5

Тут ісціна не мае больш вугла:
Увесь мой храм быў перабудаваны,
І готыка парталаў зруйнаваных
Больш не прымае з вітражоў святла.

Святыя фрэскі разбурылі ўшчэнт
І не чытаюць пропаведзь з амбона.
Бетон і сталь — замест разных калонаў,
Замест батлейкі — Ірада партрэт.

А смокінг Ірада — у гноі ды крыві,
І перад ім схіляюцца жанчыны,
Што на алтар нясуць дзяцей сваіх,
І мне ніяк не зразумець прычыны,
Чаму ніхто не закрычыць: «Жыві!»
І не схавае сына хоць ў аўчыну.

## Санет 6

На белым снезе расквітнеў мой сад:
Я — гаспадыня холаду і спёкі,
А ты — далёка. Ты заўжды далёка, —
Сівога мора нескароны брат.

Не зразумець мне плынь тваіх шляхоў,
Табе ж не крочыць па маіх палетках,
І толькі вецер навявае зрэдку
Мне сны пра мора скрозь імглу вякоў.

Нашто мне яблыкі з заснежаных галін,
Рупліва ўзрошчаныя ў піку перашкодам?..
Гібее талент мой сярод нямых далін,
І я зайздрошчу Еве з дзіўным плодам,
Бо накарміць змагла Адама ім...
Мае ж плады гніюць пад шэрым лёдам.

## Санет 7

Запоўнены твой кубак да краёў
Атрутай чорнай, пераліўна-гладкай:
Яе я мушу выпіць без астатку,
Бо ты не церпіш нічыіх адмоў.

Як выстаяць мне супраць слоў тваіх?
Ты лёгка знішчыў гонар мой і праўду,
І я, аголеная, п'ю з тваёй пагарды,
І поўняцца атрутай зрок і слых.

Слабы герой — ніколі не герой.
А я — слабая. Паўтараю: «Дзякуй»
І п'ю да дна агідны твой напой,
Што вяжа вусны даўкім горкім смакам,
А ты ў неперaward можнасці...

## Вясковы санет 8

*Падгледжана ў вёсцы Д.*

Каленькі вострыя, як дзюбкі у шпакоў,
І пасмачкі над шэрымі вачамі;
Ты адхінаеш іх і шэпчаш маме:
«Ўставай, ну, мам!.. Пайшлі хутчэй дамоў!»

Трасеш яе за рукі, за каўнер,
А я баюся выдыхнуць ад жаху,

Бо падаецца: маці п'яным ўзмахам
Цябе ударыць, крыкне, адштурхне.

Але яна ляжыць пад ганкам крамы,
Хрыпіць, булькоча нешта у паўсне,
У звыклым для аднавяскоўцаў стане,
І невыносна страшна бачыць мне,
Як ты бярэш на плечы рукі мамы
І цягнеш прэч на кволенькай спіне.

***

Страшна табе, мой дружа?..
Страшна. У зрэнках — цемра.
Той, хто няпраўдзе служыць,
Дулам у спіну цэліць.

Ведаеш, я пад ранне
Дзетак сваіх сніла:
Быццам іх катавалі,
Ботамі ў твар білі.

Крыкам крывава-цяжкім
Горла мне захліснула...
Вось што было страшна.
Болей я не заснула.

Ну, а цяпер — ззаду
Чорныя йдуць калоны.
Страх — ўсё адно здрада:
здрада каханым, родным.

Так, нам зламаюць рукі,
Так, нам растопчуць твары,
Але нястрашна, слухай, —
Ім не знявечыць мары.

Дзеля чаго мы крочым
Ускрайкам сваёй магілы?
Каб нашым дзецям у вочы
Смела глядзець маглі мы.

*24.03.2017*

***

Кожнай вясной
Хрумсткі налёт
Снег у палях раз'ядае.
Кожнай вясной
Цар-крыгаход
Рэкі з турмы вызваляе.

Кожнай вясной
Ластавак свет
Ладзіць нябёснае ткацтва.
Кожнай вясной
Ты, чалавек,
Хочаш вярнуцца ў юнацтва.

Што ты любіў
Юнай вясной —
Усё табе несла ўдачу:
Рэчак разліў
Перад сабой
Ты не ўзгадаеш іначай.

Усё, як тады.
Быццам бы зноў
У чыстым каханні прызнаўся...
Шэра-сівы
Попел гадоў
З белай душою з'яднаўся.

## Забіць цмока

*«Работа предстоит мелкая.*
*Хуже вышивания.*
*В каждом из них придётся убить дракона.»*
Яўген Шварц. «Дракон».

Над намі ўладарыць бязлітасны цмок —
Краіна пад чорным крылом.
Вядомы яму кожны ўздых, кожны крок,
І мы яго клічам царом.

Мы шэрагам стройным ідзем па шляхах,
Што нам пратапталі дзяды,
Але ў кожным сэрцы — сумненні і страх,
Што нас павядуць не туды.

Наколькі павінны змяніцца наш свет,
Каб здолелі мы ў ім кахаць?
Што мусіць адбыцца, каб кінулі ўсе
Маркотна цярпець і маўчаць?

Дзячым Богу за хлеб, а цару — за віно,
Ладзім бітвы за ўраджай,
Ды з выразаў ўсіх разумеем даўно
Толькі два: «Крокам руш!» і «Зважай!»

Тут кожная справа — нібыта вайна,
А кожны жыхар тут — салдат,
І мэта натоўпу заўсёды адна:
Ніколі ні кроку назад.

На гэтым шляху нас ніхто не вучыў
Адрозніваць бойку і бой,
І ў бітвах ніхто так і не заслужыў
Раскошу быць проста сабой.

Вер, што наш край абудзіць бясстрашны герой:
Светлым мячом ён выкліча цмока на бой,
Прыйдзе канец палону, нястачы, журбе,
Але як навучыць нас па-новаму жыць
і цмока забіць у сабе?

*29.10.2018*

***

Зімовы вецер горла апячэ,
Нібы віно з крываўніка й палыну:
Яго глытаю і хачу яшчэ,
Пакуль яно на вуснах не застыне

Халодным нераскрышаным ільдом —
Яго не растапіць і пацалункам...
Увесь мой свет скаваны белым сном,
Звязаным з лёгкіх снегавых карункаў.

А ты — гарачы, ты такі жывы,
Як золата, распаленае ў тыглі,
І воскам плоць цячэ ў руках тваіх,
Хаця зімы маёй ты не спасцігнуў.

## Ведзьма

Павекі мае — туман,
А вусны — рабіны сок,
Агонь ахінае стан,
Карону звівае глог.

На ростанях варажыць,
Складаць завірухам гімн...
Навошта ты тут, скажы?
Што бачыш ты між ялін?

У кнігах маіх няма
Прароцтваў пра твой прыход.
Мой светлы!.. Усё дарма:
Табе не расплавіць лёд.

Я чую стагоддзяў дым —
Ён пахне крывёй і сном,
Пад снегам адвечных зім
Святы бараню агонь.

Цела маё — снягі,
Сэрца маё — агонь;
Скажаш, хто ты такі —
Смеху пачуеш звон.

Я не пайду з табой...
Я не змагу любіць...
Распачынай свой бой —
Полымя не скарыць.

Мілы мой, смелы!..
Як я хацела б
Сцішыць пажар у душы...
Снегам празрыстым,

Белым і чыстым
Я цябе знішчу...
Бяжы!

З горкім закляццем
Птушкаю ўзняцца
Ў танцы снягоў і агню...
Чорнай стралою
Дай жа мне волю —
Душу уратуй маю.

## Snedronningen[1]

Дай мне сваю руку:
Не бойся — балюча не будзе.
Праз срэбраную смугу
Дарогу нам сцеле студзень.
Пакрытыя сані мае
Футрамі з гарнастаю...
Я дам табе зорны снег,
Дам табе ўсё, што маю.

Глядзі, як блішчаць ільды,
І снег адбірае памяць...
Халодную стынь вады
Накрые буранам замець.
Ці здолееш ты паспець
Мазаікай бездакорнай
На вечнасць адкласці смерць
І стаць ад грахоў свабодным?

А дзесьці гарыць агонь
У зрэнках азёраў фінскіх...
Вядзьмарка старой рукой
Гайдае вясны калыску,
І плавіцца кроўю снег
Пад звонкімі капытамі...
Дзяўчынка руйнуе свет,
З крыштальнага льду сатканы.

---

1 Снежная каралева

## Развітальная песня

Хай завея знадворку гуляе —
Тут полымя жвава гарыць...
Мы ў кубкі віно наліваем,
Каб цэлую ноч гаварыць.

Мы гаворым пра дзікія землі,
Дзе буран ненажэрны не сціх,
Пра світанні ды шэрую цемру —
Мы гатовыя хутка сысці.

Кожны выбраў і долю, і зброю:
Хтосьці — кнігі, а хтосьці — мячы...
Мы клянемся, што вернемся з бою,
Не загінем бясслаўна ўначы.

Застаяліся нашыя коні,
Ў печцы ціха згасае агонь,
Вые вецер за вокнамі дома,
Гэты вечар мінае, як сон.

Перарвецца дыханне марозам,
Зарыпіць спарахнелы парог —
Мы з прытулка старога сыходзім,
Бо нязлічана новых дарог.

Што на свеце больш вабіць, чым воля?
Пыл дарожны, як срэбра, блішчыць...
Мы, напэўна, не ўбачымся болей,
Але дом гэты нам не забыць.



# Уладзімір Чараухін

паэт. Студэнт 5 курса Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны. Аўтар паэтычных зборнікаў (сумесна з Дар'яй Дарошка): «Не наступайте птице на крыло» (2010 г.) і «Маяк» (2014 г.). Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# Змрочны анёл

## Азярніцы

Россып зіхотак, блішчыць Зорны Кол[1].
Спіць азярына і пушча наўкол.
З-за аблачын паказалася поўня,
Шухнула ззяннем малочным, халодным.
Ад чаратоў, між лілеяў чароўных,
Сцежка прабегла зіхоткая, роўная.
Раптам яе патрывожылі вілы,
То з глыбіні таямнічай усплылі
Купкай, пабраўшыся разам за ручкі,
Вадзяніковы гарэзныя ўнучкі,
Каб пагуляць колькі часу на волі,
Покуль зара не дзьмухне на вуголле.
І пачалося: смех, пырсканне, віск.
Лес закрактаў, скасавурыўся ўніз.
Згледзеў у хвалях рухавыя спіны,
Вырачыў дуплы і веі-галіны,
Шырай расплюшчыў, замёр, не рыпіць —
Хто ж гэта дзіва такое праспіць?
Доўга ці мала іх доўжыўся вэрхал —
Ды прытаміліся, выйшлі на бераг.
Селі ў кружок на бялюткім пясочку,
Косы выкручваюць нібы сарочку.
Ветрык спыніўся, прыкмеціўшы іх,
Ссунуўся ў травы, ікнуў і прыціх.
З неба данеслася ціха: «Авой» —
Поўня хітае сівой галавой:
«Што ж за мужчыны — і гэты туды ж!
Хоць не вылазь ты дзяўчынкам з вады!»
Пруткія, гнуткія нібы лазіны,
Косы зялёныя коцяць па спіне.
Голас празрысты і смех малады
Срэбру падобны крынічнай вады.
Гора, о гора табе, чалавек,

[1] Зорны Кол — беларуская народная назва Палярнай зоркі.

Як набрыдзеш ты ў ліхую часіну
На азярніц зорнавокіх мясціну!
Іх чарадзейнай забраны красой,
Выйдзеш бязвольна з-за схоўных кустоў.
Дзеўкі абдымуць, залашчаць нябогу —
Лепшае ночы не будзе ні ў кога!
Толькі... Абвесціць зара новы дзень —
Знойдзеш спачын ты ў глыбокай вадзе.
Доўга над возерам рэха звінела,
Нават калі яшчэ трохі віднела:
Вёскі далёка і пеўні далёка.
Толькі калі запалалі аблокі,
Кінулі гулі свае азярніцы
Ды падалей ад нялюбай Дзянніцы
Вёрткімі рыбкамі ў хвалі нырнулі
Ды пад карчом у прадонні паснулі.

*2016*

## Вецер і мастачка

Па двары блукае вецер,
шпурляе нагамі смецце.
Ён чакае рудую дзяўчынку
з непаслухмянымі кучарамі,
дзівачку-мастачку, што па начах,
пакуль ніхто не бачыць,
распісвае далоні клёнам і каштанам
золатам і барвяным.
А вунь і яна,
і позірк у яе зачараваны —
сёння ў іх будзе новая алея!

*2016*

## Дзеўчына-сонца

Ты лёгкая, як ліпеньскі дождж!
Калі ты ідзеш басанож
Па жвірыстай сцежцы,
То ўсе мінакі
Радуюцца тваёй усмешцы.

Каштаны і ліпы зашамацелі ціхутка,
Сланечнік павярнуў летуценныя вочы.
А вунь і яна
З несур'ёзнаю песенькай крочыць
Па ходніку вузкім.
Ты святлейшая за сонечны дзень!
Дзяўчынка-няўседа
ў саламянай панамцы і кедах.
Ніхто не павінен ведаць,
Дзе ты схавала свой цень...

*2017*

***

Дождж месяцовы ізноў завітаў у мой сад.
Скрозь пушыстае голле квітнеючых сліў
Ліецца святло.
І рэдкія, важкія кроплі
Сыплюцца ўніз,
Проста на гулкі бляшаны карніз,
Звоняць у шыбу бязважкім стаката.
Сяджу, прыслухоўваюся да перарывістых тактаў
Маркотнага Ліста.
Каб дапамагчы дажджу,
Я намаляваў на гэтым карнізе калісьці
Белыя клавішы.

*2016*

## Малына

Пайшоў уранні па маліны.
Адвёў рукой убок галіну
і ў нетрах цёмнае лістоты
убачыў мілую істоту.
Пунсовы рот і круглы тварык,
што ззяе ўсмешкай як ліхтарык.
Сеў на кукішкі і пытаю:
«А што за дзеўчына такая?»
Малая слоік — хоп за спіну
І важна мовіла: «Малына».

*2017*

## Меч-рака

*Балада*

Звінеў, спяваў кавыль пад капытамі.
Гуляўся вецер з грывамі, хвастамі.
Спявала сэрца цемніка старога.
Ляцела цьма без шляху, без дарогі.
Наперадзе туманяцца абшары,
Што схіляцца пад капыты татараў
І зведаюць уладу іх рукі!
Ды вылецелі коні да ракі.
І бліснуў жах у цемніка ў вачах.
Вясёлы шал у іх прывяў, зачах.
Рачная плынь ляжала перад імі,
Нібыта меч на дарагім кіліме.
Адчула сэрца цемніка ўдалога,
Што гэты меч ляжыць перасцярогай,
Мяжой між дзікім полем і лясамі,
Мяжой між кавылём і каласамі.
Адолеў стэпу сын раптоўны страх.
Ды гэта ж проста рэчка ў чаратах!
Нашто трымцець перад вадой звычайнай,
Калі ў яго паўсвету за плячамі?
Раку татары з коньмі пераплылі,
А там чакаў іх князь
З вялікай сілай...

І сеча лютаю была, пяялі стрэлы.
І дзіды з хрустам праціналі целы.
Забіты цемнік, цьма яго палегла —
Ніводнай жменькі ў дзікі стэп не збегла.
Суціхнуў гром і енк, замоўклі гоні.
Пагойдваюцца ў хвалях трупы коней.
Рака, нібы напоенае джала,
Заваленая целамі ляжала.
Татараў пахавалі пад курганам
Улучна з іх старым, няўдалым ханам.
Ды не сышлі яны ў татарскі рай —
Адпомсціў ім крывёй заліты край:

Пакінуў іх заходзіцца ад смагі.
І слухаюць зялёныя абсягі,
Як енчаць цені, цягнуцца да хваляў.
Ды Меч-рака ля вуснаў іх без жалю
Ператвараецца ў сталёвае лязо,
Абмытае мядоваю расой,
І рэжа ім бясплотныя далоні —
Такім быў лёс чужынцаў беззаконных!

Сышлі ў нябыт чародкаю вякі,
Паболела курганаў ля ракі.
Яна іх шчыра ўсіх папераджала,
Мячом бліскучым на шляху ляжала.
Ды нібы ўсім намазаны быў мёдам
Лясны свабодны край з яго народам!
І лезуць, лезуць цьмы цераз раку,
На радасць растлусцеламу круку,
Каб скон знайсці на берагох яе.
Вада бяжыць, іскрыцца і пяе,
А галасы шасцяць між чаратамі,
І жвір змяіцца ссохлымі ратамі:
— Піць-піць!..

*2017*

## Рыба

Вецер свішча ў скарлючаным голлі,
Дрэвы шкрабаюць кіпцямі шыбы,
Шыбы ціхенька енчаць ад болю
І люструюць зіхоткую рыбу —
Круглабокую рыбіну-поўню,
Што плыве ў прамарожаных нетрах
І глядзіць адхланёна і роўна.
А на песні сіпатыя ветру
Ёй пляваць з высачэзнай званіцы!
І не кіне галоднаму хлеба:
Колькі ў роспачы шыбам не біцца —
Не дакінуць малітвай да неба!
Рыбе тое не трэба.

*2018*

## Шаман

Барвяныя змеі, імклівыя змеі
Танцуюць вясёла.
І чорныя цені, маўклівыя цені
Сыходзяцца ў кола.

Духмяныя травы, дурманныя травы
Ссыпаю з далоні.
Таемнае слова, магутнае слова
Ляціць у бяздонне.

Дзікунская песня, гартанная песня
Накручвае сілы,
І позірк дзівосны, страхотна дзівосны
Сляпы і застылы!

Прасушаны бубен, раз'юшаны бубен
звініць і грукоча!
Узносяцца крылы, савіныя крылы,
І птушка рагоча.

У вабную бездань, зіхоткую бездань
Паўз нетры туману
Нябачная сцежка, вужыная сцежка
Бяжыць за шаманам.

*2018*

## Навальніца

Прыслухайцеся да дажджу — хіба так ходзяць?
Дождж прыязджае на вазку. А як жа йначай?
Вазок пастуквае, рыпіць. Храпе рамізнік.
Ён можа ехаць так дзень і два, а то і тыдзень.
Чаму так моцна цягне ў сон, як дождж праедзе?
Бо мы падселі да яго, пакуль ён трызніў..
Вазок пастуквае, рыпіць. Вада булькоча.
Храпе вазак, храпім і мы, а конь рагоча!

*2018*

## Змрочны анёл

У стромкім касцёле паўсюдна фігуры,
Што выраслі з каменя, дрэва і фарбы.
Між імі анёл, што глядзіць з верхатуры
Са скепсісам, жалем і трохі з пагардай.

Адкуль у вачах яго гэткая горыч
І твар нібы ў рымскага легіянера?
Напэўна разьбяр быў не ў добрым гуморы,
Ці страціў у людства апошнюю веру.

Пад позіркам гэтым страхотна і сыра.
Па спіне — мароз. Ты дрыжыш, як трысцінка.
Капаешся ў сэрцы імкліва і шчыра —
Не ў стане намацаць гарчыцы крупінку.

Анёл пазірае, і хмурацца бровы.
Ён мае шмат словаў пра род чалавечы.
Ды толькі на шчасце мы — клопат Хрыстовы,
Атара ваўчыная ў шкурах авечых.

*2018*



# Наста Кудасава

паэтка. Аўтар кніг паэзіі: «Лісце маіх рук», «Рыбы», «Маё невымаўля» (2016 г.). Скончыла філалагічны факультэт і магістратуру БДУ. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Рагачове. Жыве ў Рагачове.

# Веру й дыханню Твайму...

***

Так свяціцца Імя,
так ідзе Валадарства Тваё,
быццам хтосьці ў грудзях мне прарэзаў
аконны праём
і ўтрапёна ўзіраецца ў свет
зноў жывымі вачыма —
сумны вязень, даўно забыты,
дзівак нічыйны.
Кажа:
«Госпадзе, ну і адчайная ж
воля Твая!
Але што ні дасі, вось ён я —
Твой маленькі ваяр,
Твой даверлівы блазан,
пылок на Тваім плашчы...
Праўда ж, хораша разам, скажы?
Ну, чаму Ты маўчыш?
Хай да моташы ўвішнае тло мне давалася ў знакі,
але ўсё, што я вынес адсюль, —
гэта енк падзякі.
Вось я —
выціснуў боль,
выбіў змрок,
перажыў зіму.
...Ладна,
Бог з ім, са словам,
я веру
й дыханню
Твайму».

***

мёртвым не баліць, а мне — баляць,
баляць мае мёртвыя,
колькі ні замоўчвай, ні выкрэслівай, ні перагортвай,
колькі ні спрабуй трымацца верай у паняверцы...
мёртвыя мае, ну як там? пішацца вам?
пяецца?

ці хапае крылаў анёльскіх — без рук рукацца?
ці не надакучвае воблачны вечны шпацыр?
што там застаецца існым?
што там лічыцца важным?
хіба гэты чорны — між чорных лічбаў — працяжнік?
хіба гэта ўсё, што нажываем мы ў зямным нашым доме?
а зялёны жолуд на далоні? а каханы ў абдоймах?
а сняжынкі дотык?
а любоў, што так распальвала сэрца?
дзе яно дзяваецца?
ў якую дамавіну кладзецца?
ці мы гэта снім?
ці, можа, толькі падаёмся жывымі?
неба, набрынялае маўчаннем, — цёплай вечнасці вымя —
залівае даўкай цішынёй пустых пытанняў прадонне,
нібы ўсё, што ёсць тут, — толькі дождж,
самотны дождж жыццядойны...

***

Схамяніся, самотная схімніца,
бачыш,
ветах да вуліцаў хіліцца,
тонкай ножкай
жывое намацвае
між дамамі, палацамі, пляцамі.
Схамяніся,
пачуй, як упрошвае:
«Не згарай! Дарагая, харошая...
Між аблудаў пустэчы прагорклай
не згарай,
будзь маёй зоркай...»

***

проста ісці
міма пярэстых ісцін,
міма чужых далоняў, каханых калісьці,
міма чужога зроку,
змроку чужога,
проста ісці
скрозь дакучлівых шораў шоргат,

міма пустых апалонаў,
усіх палонаў,
слухаць, як вецер пяе ў шавялюрах клёнаў,
слухаць, як туліцца восень да ног сонным лісцем,
проста ісці,
бо дарога і ёсць выйсце.

***

Няхай шчыруе паміж намі злосць,
няхай пячэ ўспамін аб тым, хто здрадзіў, —
ёсць зорны дождж
і ёсць брунатны лось,
застылы светаром на даляглядзе.
Ёсць провід рыб, ёсць вера вераб'я —
і ўсё жыве,
жыве любові дзеля:
апенька сэрцам горнецца да пня,
прадуць анёлы нам на лёс кудзелю...
І жабчын хор свой улюбёны верш
пяе на ўсе лады, раздзьмуўшы шчокі, —
усё жыве.
І недзе ты — жывеш,
такі каханы і такі далёкі...

***

Крык бінтую маўчаннем лістоў
і жыву —
найспавіцейшай з мумій.
Гэта я — твой аддваны ніхто!
Гэта я па табе сумую
так,
што лета,
сарваўшы ланцуг,
збегла прэч ад нуды каляндарнай,
і цяпер у нас ёсць толькі цуд,
і дай Бог,
каб
не марны.

***

боль скасаваў ва ўсіх мовах пустое «разам»
дні без цябе шамацяць пад нагамі друзам
памяць стаіць над душою ў дурацкіх рызах
вусны ў сутоннях начэй выглядаюць парэзам
гэтак нядоўга й да прозы дайсці, а значыць
час выбірацца адсюль і пад небам ночыць
час даць дарогу маўчанню, вачам — сінечу
веры сланечнік адпойваць жыццём крынічным
значыць, нічога не значаць карункі датаў
крокаў пакуты, пяшчоты чужой крэдыты
значыць, ёсць толькі свабода і ветру дотык
і цішыня, што не ведае словаў «дзе ты»

***

Сосны пальцамі тонкімі келіхі шышак уздымуць
за любоў, што гаіла нас праўдай у здрадах і зімах,
там, дзе стрэламі ў спіну аддзячыць мне маці-радзіма,
сосны ў пальцах няскораных келіхі шышак уздымуць...
І забудзецца ўсё, чым жыла я і ў сне, і наяве:
цёплы шлях у радзімках каштанаў, пяшчота і травень...
Дух мой вольны прысядзе на беразе Кортэлан'ярві,
і забудзецца ўсё, што балела, —
і ў сне, і наяве.

## Ладага

Гэта Ладага ўсё распарола зубчастымі шхерамі:
пазрывала пароляў бінты — дагала, дагала...
Каб я здолела ўбачыць сябе,
каб я зноўку паверыла
ў імавернасць глыбінь, у жыцця незасмечаны лад.
Гэта Ладага, Ладага як на далоні разгортвала —
заміж крыку штандараў —
зямлі малітоўны кілім.
Каб люляць маўкліню,
покуль б'ецца зялёная Кортэла —
непрымроены вырай, пакінуты ў сэрцы маім.



# Вольга Ліхадзіеўская

празаік.Скончыла філфак БДУ. Друкавалася ў «Маладосці». Нарадзілася ў 1992 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Каця

Каця вучылася на трэцім курсе ўніверсітэта. І не сказаць, каб была яна завучкай там якой, але часу не ставала катастрафічна. Пра сябе дзяўчына ўзгадвала толькі пасля сесіі, а тое і яшчэ радзей. Тлумачылася гэта яшчэ і тым, што Каця вучылася на праграміста. Яе больш цікавілі праграмы, розныя прылады, нават робаты былі ёй больш блізкія, чым яна сама і людзі.

І вось у такія праявы, калі мозг падказваў ёй, што яна ўсё ж чалавек, Каця пачынала брацца за сябе. Шпацыравала па горадзе, хадзіла ў кавярні, цырульні.

Аднойчы, якраз пасля зімовай сесіі, Каця вырашыла схадзіць падстрыгчыся. Студэнцкія павер'і дазвалялі гэта зрабіць: маўляў, ідзі, састрыгай свае веды, больш яны не спатрэбяцца. Недалёка была адна недарагая цырульня, што задавальняла дзяўчыну, пагатоў, нічога моднага на галаве рабіць яна не збіралася. Каб патрапіць да майстра, трэба было толькі пасядзець у чарзе. Было адзінаццаць гадзін дня, калі дзяўчына ўвайшла ў цырульню. Аднак, Каця зусім забылася на тое, што скончыліся зімовыя святы, і ўсе рэзка ўзгадваюць пра тое, што трэба сябе неяк прыбраць і пазначыць этап новага жыцця. Таму ў гэтыя дні чарга была досыць вялікая. Дзяўчына ўсё ж вырашыла не вяртацца дадому, а застацца пачакаць.

Да дзвюх гадзін дня пенсіянераў стрыглі не па 5 рублёў, а па 4. Гэта таксама стварала пэўную чаргу.

Каця сядзела і чакала. У мужчынскую залу амаль нікога не было. Дый што там іх стрыгчы, тых мужыкоў, шах-мах — і гатова. Здаецца, яны не паспявалі зайсці, а ўжо выходзілі. Ішло як па канвееры. А вось у жаночую... сядзелі і чакалі. Нехта сядзеў фарбавацца, нехта стрыгчыся, а нехта і першае, і другое. Пачакаўшы трохі, і паглядзеўшы пару серый нейкай мутні, якую запусцілі на экране, каб кліенты не сумавалі, Каця пачала задумвацца, каб сысці назад дадому. Але з іншага боку паразважала, што заўтра ўсё адно давядзецца прыходзіць сюды. «Не, лепш ужо раз адмучыцца і зрабіць», — думала Каця. І Каця мучылася. Пасля другой серыі пачалася трэцяя, а пасля трэцяй зноў першая. «Відаць, не паспелі ўсё спампаваць. Не чакалі, што такая чарга будзе», — усплыла думка. Так яна прасядзела дзве гадзіны. Чарга, здаецца, не паменела і нават не збіралася. Усе сядзелі ў чаканні з вачыма поўнымі надзей, калі ля іх праходзіў майстр. Каця за гэты час пераглядала серыял трэці раз. Патроху запамінала рэплікі і паслядоўнасць кадраў.

Калі гадзіннік паказаў 13.55, адміністратарка аб'явіла: «Сканчваецца час для пенсіянераў, стрыжка будзе па 5 рублёў».

— Як па пяць? Вось жа ж...Эт, не паспела... Заўтра зноў ісці ці што?.. Я ўжо чацвёрты дзень пастрыгчыся не магу. Чарга не даходзіць... — пачалі далятаць галасы раз'юшаных кабет.

Але было вядома, што заўтра яны прыйдуць зноў, будуць выпрабоўваць удачу, пакуль не дамогуцца свайго.

Паступова зала пусцела. І чарга ператварылася ў такую невялічкую суполку па інтарэсах.

Выйшла маладая цырульніца і павяла за сабой жанчыну, якая займала чаргу перад Кацяй. Сэрца Каці трохі затрапятала, бо яна разумела: хутка выйдуць і па яе. Пачынаць глядзець серыял у чацвёрты раз было больш нецікава, хоць яна глядзела на экран безуважна. У галаве круціліся думкі: якую б стрыжку зрабіць.

І вось з-за дзвярэй паказаўся майстр. Гэта быў мужчына. Упершыню яе будзе стрыгчы не яна, а ён. Нават цікава стала. Дзесьці Каця чытала, што ў мужчын лепш атрымліваюцца жаночыя стрыжкі, а ў жанчын, адпаведна, мужчынскія. Бо супрацьлеглы бок бачыць, што з'яўляецца прыгажосцю для яго.

Майстр пасадзіў Кацю ў скураны фатэль і запытаўся:

— Як будзем стрыгчыся?

— Ну я нават не ведаю, можа, вы прапануеце. Бо я стрыгуся неяк аднатыпна.

— Ёсць ідэя... — усмешліва сказаў цырульнік і, завярнуўшы Кацю ў чорную накідку, пачаў пырскаць валасы. — Дарэчы, з вас 5 рублёў.

— Добра, — усміхнулася Каця ў люстэрка.

Майстр намачыў валасы, пачаў іх дзяліць на некалькі частак, запытваўся, ці не балюча ёй. І пачаўся сам працэс стрыжкі. Дзяўчына пазірала ў адлюстраванне, як падаюць мокрыя састрыжаныя пасмы валасоў. Як яны ўтвараюць круг вакол фатэля, у якім яна сядзела. Цырульнік сыпаў жартамі, расказваў пра святы, Каця таксама ўстаўляла колькі слоў, але больш за ўсё чакала, што ж там за ідэю прыдумаў майстр. У выніку яны так загаварыліся, што не заўважылі, як састрыглі паўгалавы. Адзін бок быў выстрыжаны амаль пад корань. На другім жа ж раскідана купка патлаў. Выпадкова ў адно і тое ж імгненне абое зірнулі ў люстэрка, на вачах адбілася неразуменне: як такое магло здарыцца. Майстар пачаў прыдумляць, што можна было зрабіць, каб ўратаваць стрыжку, Каця думала пра тое, колькі ёй трэба будзе сядзець дома і не выходзіць, пакуль усё не адрасце. Яшчэ яна ўзгадала, што можна на крайні выпадак павязаць хустку, так бывае робяць для паказу сваёй крутасці розныя маладзёны. Але ж увесь час у ёй хадзіць не будзеш. Дзяўчына стала праклінаць гэты дзень, яе трэсла. Пачыналася істэрыка. Цырульнік не ведаў, што рабіць. Ён стаяў разгублены, узгадваў, чаму яго вучылі на курсах. «Валасы не зубы — вырастуць. Не, гэта не дапаможа. Халера... і клеем не прыклееш. Божа, што рабіць? Святы гэтыя зусім мозг выжлукцілі. Задумаўся пра курава — і во табе», — усё шукаў патрэбных слоў і не знаходзіў ніяк.

Першай узмалілася Каця:

— Давайце проста састрыжэм, каб раслі роўна.

Мужчыну не знайшлося чаго сказаць, і ён пагадзіўся. Кацю абстрыглі, пакінулі якіх сантыметры тры. Яна баялася глядзець у люстэрка, твар скрывіўся

ад роспачы, яна стала падобная да старой цёткі. Дзяўчына падышла да касы, каб аплаціць за стрыжку.

— Сістэма зніжак для пенсіянераў ужо скончылася. Таму з вас 5 рублёў.

— Ааааа...— даносілася аднекуль знутры. Каця кінула 5 рублёў на стол і ўцякла.

Пасля гэтага дзяўчына яшчэ доўга не хадзіла стрыгчыся. І само слова «цырульня» стала для яе роўным фільму жахаў.

# Няўдалы хабар

Напярэдадні 23 лютага дырэктарка адной дзяржаўнай установы накіравала Лізу — свой шосты палец левай рукі — «прагуляцца». Дзяўчыне трэба было аддаць два пакункі. У адным ляжала нешта лёгкае, загорнутае ў паперу, якую звычайна не шкадуюць, і прадавачкі старанна ўкручваюць у яе набытыя шкарпэткі ды майкі. Сам пакет быў стракаты, і ўсё крычала пра тое, што ў грамадстве чакаюць нейкага свята. Другі пакунак быў менш насычаны фарбамі, важыў таксама няшмат, і там таксама віднелася такая ж папера. Дырэктарка ўзяла ў рукі пакеты перад тым, як аддаць іх Лізе. Падымала па чарзе то адзін пакет, то другі, нібыта тая спартоўка. Урэшце зрабіла хітры ход. «Не, гэты во яркі яму можа і не спадабаецца, дый ён ажно крычыць пра нешта такое... Лішняя ўвага. Не, Хваевічу аддадзім», — і вырашыўшы так, памяняла начынку пакетаў. Ліза глядзела за рухамі дырэктаркі і думала пра сваё.

— Вось што, Лізок, — працягнула дырэктарка, — вазьмі вось гэты і адвязі ў міністэрства, — працягнула яна першы пакет, — аддасі сакратарцы, скажаш, каб аддала нашаму шэфу, а гэты завязеш Хваевічу, ну гэтаму гамзатаму, што нам паліцы навешваў. Трэба ж павіншаваць...

— Ааа, — узгадала Ліза пра такую асобу ў іхнім офісе, які тут больш расказваў розныя здарэнні са свайго жыцця і піў каву, чым працаваў. Але гамзатым ён не быў. Проста дырэктарка любіла называць усіх ніжэйшых стварэнняў паза дырэктарскай пасадай living розным абразлівымі мянушкамі.

Ліза глядзела на два гэтыя пакеты і спрабавала прыгадаць тое нядаўняе, пра што казала бос. Як жартавалі падначаленыя: бос — маці вос. Яшчэ раз запытацца, які пакет каму аддаваць, Ліза засаромелася. Яна ведала, што начальніца гэта не можа трываць. Атрымаўшы пакеты, Ліза накінула паліто і выйшла за дзверы офіса.

***

Ішоўшы па вуліцы, Ліза намагалася ўзгадаць, які менавіта пакет каму аддаць. Зірнуць унутр яна баялася. Увесь офіс катастрафічна баяўся «пані Бос

чырвоны нос». Хоць зусім чырвоны ён і не быў. Хіба, толькі на марозе. Лізе здавалася, што нават у пакет укінута камера відэаназірання. Дзяўчына вырашыла думаць лагічна: «Калі гэта міністр, значыць і пакет мусіць быць адпаведны...бліскучы такі, яркі. Каб усе разумелі: вось ён — зорка».

Добра што і Хваевіч, і іх міністэрскі шэф сядзелі ў адным будынку, толькі, зразумела, на розных пасадах і заробках.

Ліза забегла ў міністэрства, паднялася на другі паверх да сакратаркі.

— Добры дзень!

— Добры дзень!

— Я з Дзяцкага офіса, трэба перадаць вось гэты пакуначак Мікалаю Кірылавічу.

— Няма праблем. Безумоўна.

— Дзякую!

— Калі ласка!

Аддаўшы пакет, Ліза пайшла на трэці паверх, дзе хадзіў Хваевіч і глядзеў, што б яму можна было зрабіць за дзень, каб не бадзяцца па калідоры проста так.

— Аа, Лізок! — прывітаўся Хваевіч.

— Добры дзень! Я якраз да Вас! Вось... — і працягнула невялікі пакунак да трохі стомленага ад бадзяння Хваевіча.

— Ооо! І шмат шкарпэтак дырэктарка дорыць? — жартам запытаўся той. — Ну, нічога... у гаспадарцы спатрэбіцца.

Ліза лагодна ўсміхнулася, яны яшчэ трохі пасядзелі, пагаварылі.

— Вось чаму гэтым усё, а нам нічога, дзядзька Максім?

— Ну, Ліз... я і сам не ведаю. І здаецца, ну, не дурнейшыя за іх, а няма гэтай валасатай рукі ці што. Рэдка калі па мазгах бяруць, усе чакаюць — дай ды дай...

І зноў тэма пайшла пра такое балюча-глабальнае, што ўсяго яны шрубы ў гэтай будыніне абсурду, а як далей жыць — адказу ніхто не дасць. І то ці не ведаюць, ці не хочуць казаць. Трохі пасумавалі, трохі і павесяліліся. І добра так развіталіся.

***

Праз паўгадзіны міністр у пакеце знайшоў дзве пары шкарпэтак і чорныя майткі. Ён нічога не зразумеў і кінуўся тэлефанаваць Бос-дыхлафос. Роў з абодвух канцоў быў страшэнны. Яны не маглі зразумець: у які момант сістэма дала збой.

Хвалевіч жа знайшоў чатыры пачакі розных партрэтаў прэзідэнтаў ЗША. Шчасце, якога ён так чакаў, само прыйшло да яго. Цяпер трэба было надзейна схаваць у кішэню тое жаданае і бегчы да сваёй мары.

А Ліза... Ліза ні пра што яшчэ не ведала, яна ішла дадому. І чамусьці на душы было радасна.

# Мясакамбінат

У той вечар далёка было чуваць голас з прапускнога пункта мясакамбіната. Гэта быў голас адчаю, пагроз, пераплецены са страчанай надзеяй і страхам. У адной жанчыны ў звычайнай скураной торбе ахоўнікі выявілі чатыры кілаграмы мяса і столькі ж кілаграмаў сасісак, намотаных на жаночае цела: на талію (якой амаль не было), на ногі, і нават пару сасісак укладзеныя...ага, між ног. Адзін ахоўнік размаўляў з жанчынай, спрабаваў прывесці яе ў адэкватны стан пасля шоку, калі яе накрылі. Другі ж займаў нейтральную пазіцыю: ён проста назіраў за тым, што адбываецца. Жанчына біла сябе ў грудзі, усё крычала, што гэты кавалак мяса ёй падкінулі.

— А што вы тады можаце сказаць пра сасіскі? Як яны на вас апынуліся?

— Ды не брала я іх. Няўжо я якая бедная, што купіць не магу...

— А як яны патрапілі? Скажаце: укруціў хто іх на вас? — пры гэтых словах другі яшчэ досыць малады ахоўнік пачаў рагатаць.

— Ах, ты ж боўдзіла бесчалавечнае. Скуль я ведаю? Хто там мне ўкруціў? На абед выйшла... Прыйшла нібыта нармальна ўсё было. А цяпер во сама адчула, што ў сасісках.

— Так, вы мне тут не залівайце. Скралі — дык і прызнайцеся. Я выклікаю дырэктара.

— Якога табе дырэктара... як што, дык адразу дырэктара. Я табе яшчэ раз кажу: не брала я ні таго мяса, ні тых сасісак.

— Як гэта не бралі? Калі ўсе доказы на вас.

— Ну што мне табе сказаць... А Божачкі...— пачала заходзіцца цётка.

— Пеця, — гукнуў старэйшы, — нясі паперу, будзем складаць акцік.

— Ну што я табе такога зрабіла, — не сунімалася жанчына.

— Анічога! Проста закон такі і ўсё.

— Вось акт, Паўлавіч, — Пеця неяк бадзёра і з пашанай уручыў аркуш паперы свайму старэйшаму калегу.

— Ага. Вось і добра. Ну, — звярнуўся Паўлавіч да жанчыны, — давай расказвай, як усё адбылося.

— Не буду я табе нічога казаць. Ты мне хто?.. Ніхто!

— Не хочаш так, будзе інакш. Пеця, набірай дырэктару. Надакучыла яна мне ўжо, — Паўлавіч разышоўся. Гэта было заўважна

Ад гэтых слоў жанчына зноў узбушавалася, але перамяніла сваю пазіцыю, паспрабавала прымірыцца.

— Паўлавіч, не трэба. Ну давай разыдземся, як нічога і не было.

— Ага! Захацела... Кожны дзень выносіш, а цяпер ядры яго... нічога не было.

— Дык а я што? Усе бяруць, і я бяру.

— Усе бяруць... — паспрабаваў перадражніць Паўлавіч. — Мо і бяруць, але ж ні па столькі за раз.

— Дык я ж не адна жыву. У мяне ж муж, двое сыноў. Усіх накармі. Дачка вунь вучыцца ў Мінск паехала. Ведама, там пражывеш на стыпендыю... А катлеціну якую заўжды хочацца. Яна на выхадныя прыедзе, я ёй і перадаю заўсёды мяска, адбіўных ці яшчэ чаго.

— Што ты мне расказваеш? Скрала, дык ты так і скажы... Дый жа ж не па столькі красці...

— Табе проста няма чаго самому з працы ўзяць, вось ты і зайздросціш.

— Ну ты ведаеш... маўчала б лепей.

— Даўно яшчэ жарт такі хадзіў: «Калі хочаш жыць у шчасці, трэба красці, красці, красці».

— От, я гляджу ты ўжо ашчаслівілася... Ну ўзяла ты таго мяса. Але ж навошта ўкручвацца ў сасіскі. Табе іх самой не гадка есці будзе?

— Крадзенае не пахне.

— Ага, я і бачу, што не пахне. Толькі ты ім прапахнеш.

— Усё, набіраю дырэктару...

— Ну хочаш. Вазьмі гэта мяса сабе. Я сёння абыдуся. Ну вазьмі, толькі не пішы нічога і не кажы...

— Усё, надакучылі мне гэтае пустое плявузганне...няма калі. Пеця, набіраю дырэктару.

І тут было зразумела, што нічога не ўратуе. Нават плач не здолее дапамагчы.

***

Назаўтра жанчыну звольнілі. Ахоўнікі атрымалі прэмію ў памеры двух кілаграмаў мяса. Некалькі дзён ніхто нічога не краў, пакуль не забылі гэты выпадак.

Жанчына ж цяпер сама працуе, як гэта ні дзіўна, ахоўніцай. Праўда, гэта і ні фабрыка, і ні завод, а звычайны сметнік, дзе яна націскае на кнопку, каб падняць ці апусціць шлагбаум для праезду машын. Аднак, і на тым сметніку знаходзіць што прынесці дадому, бо не можа заснуць, каб нешта не скрасці.

# Раб Ота

Жыў сабе на свеце чалавек па імені Ота. І ўсё б нічога, і жыў бы сабе спакойна, але ён быў рабом. Пагатоў, рабом ад нараджэння. Бацькі былі такія ж. Яны заўсёды казалі пра школу, універсітэты, пра тое, што трэба знайсці добрую працу, а там глядзіш — і жаніцца можна, і Оцікаў гадаваць. І хлопец ім верыў. Бацькі ж! Ота адхадзіў і ў школу, і ва ўніверсітэт, пасля і яшчэ ў адзін, які скончыў паралельна з тым. Не тое, каб на выдатна, але і ў горшых не лічыўся. Перад сваім першым сумоўем цыганкі наваражылі яму добрую кар'еру

і багацце — абы ён аддаў ім свае два рублі з кішэні, якія ён браў на булачку і гарбату. Ота даверыўся чорным вачам і аддаў грошы. Было б больш, аддаў бы і тыя. Што не зробіш пад уплывам прыгожай хлусні, якой штодзённа прагнуць вушы.

І вось поўны надзей Ота пакрочыў на сумоўе. Зайшоўшы ў прасторны высокі будынак, Ота спачатку разгубіўся.

— Вам да каго? — запытала светлая дзяўчына, трохі пасміхаючыся.

— А-а...Э-э. Мне на сумоўе.

— Ага. Ну вы так не хвалюйцеся. Хадземце.

І светлая павяла яго па доўгім калідоры, паказаўшы на дзверы галоўнага, усміхнулася і пайшла назад.

Ота трохі пастаяў пад дзвярыма, сабраўся і пагрукаў. Расчыніў дзверы, зрабіў крок і выдаў:

— Добры дзень! Я наконт працы.

Той, што сядзеў у кабінеце, злосна паглядзеў на Оту, што хлопец ажно спалохаўся і падумаў: «Ну ўсё, заваліў. Што чытаў тыя інструкцыі пра манеры паводзін падчас сумоўя, што не чытаў...» Галоўны паказаў на дзверы і сказаў:

— Яшчэ раз выйдзеце і зайдзіце.

Ота выйшаў. Чамусьці ў гэты момант яму захацелася бегчы адсюль, але ён пераадолеў сябе і пагрукаў яшчэ раз.

— Добры дзень! Я наконт працы.

Галоўны ўсміхнуўся ў свае пухкія вусны і выцадзіў:

— Ну вось! Цяпер зусім іншая справа.

Хоць, як падалося Оту, паміж першым яго груканнем у дзверы і другім не было розніцы. Ота прысеў насупраць, і пачалася размова. Сумоўе адбывалася як і заўсёды. Дырэктар нешта пасопваў, рабіў выгляд, што яму не вельмі цікава, хто будзе працаваць на гэтай вакантнай пасадзе: Ота ці яшчэ хтосьці. Але ў галаве ён даўно пракруціў колькі можна высмактаць сіл і энергіі з гэтага маладога хлопца, таму чакаў хутчэйшага падпісання кантракта. Ота ж у сваю чаргу не ведаў, як сябе паводзіць з дырэктарам, бо на сумоўі быў упершыню. Ён нават не ведаў на які заробак яму разлічваць. А дырэктар, безумоўна, пра гэта ўсё ведаў, таму прапанаваў мінімальны заробак, акрэсліўшыя яго «дастойным для маладога спецыяліста, у якога толькі пачынаецца кар'ера», і што «гэта пакуль максімум», а там глядзіш і «павышэнне пры добрай працы гарантавана». У Ота не засталося выбару, асабліва пасля таго, як узгадаў цыганак, якія напелі сёння зранку яму пра перспектывы жыцця. І ён пагадзіўся.

Прыйшоўшы дадому і агучыўшы радасную вестку бацькам, селі за стол, каб адсвяткаваць.

— Ну, каб усё атрымалася! — выгукнуў бацька.

— Цяпер можна і нявесту шукаць, — дадала маці.

***

Першы дзень на новым месцы, якое замяніла аўдыторыю ўніверсітэта, нічым асабліва не адрознівалася ад іхняй бібліятэкі на факультэце. Такія ж сталы, такія ж крэслы, камп'ютары. І таксама можна гаварыць паміж сабой, але нягучна. Новыя знаёмствы, усе разглядаюць яго, аднак робяць гэта неяк незаўважна, каб ён не бачыў. У кабінеце раздаецца ляскат клавіятуры. І так сінхронна, нават музычна. Нібы не ў офісе сядзіш, а ў філармоніі. Час ад часу звоніць тэлефон, аўтаматычна даводзіцца адказваць завучаным тэкстам. Гэта звычайна рабілі дзяўчыны, якія тут адпрацавалі гады тры. Яны маглі гаварыць і адначасова набіраць нешта на камп'ютары, маглі разглядаць сябе ў люстэрка, паралельна ліставацца з сябрамі праз Viber. Ім нават чатыры рукі не трэба было, яны паспявалі. Усе гэтыя дзяўчаты сядзелі ў чаканні павышэння, калі іх перавядуць на другі паверх. Там, казалі, жыццё іншае. Больш ганаровае...

Падчас абеду ўсе з першага паверха разыходзіліся, стаялі хто з кавай, хто з гарбатай і давіліся ранішнімі бутэрбродамі. Другі паверх накіроўваўся ў танную кавярню насупраць, трэці ж паверх замаўляў ежу ў офіс.

Па абедзе ўсё пачыналася наноў, толькі ўжо ішло на спад. Усе чакалі шасці гадзін, калі можна сігануць з працы.

Першы дзень на новым месцы заўсёды цяжкі, таму Ота прыцёгся дадому стомлены. Доўга не мог заснуць. Усё здавалася, што набірае нешта на камп'ютары. У галаве пульсавала, раздаваліся тэлефонныя званкі. Так працягвалася пару тыдняў, а пасля Ота прывык.

***

У характары Оты было дзве мяжы: нармальна і надакучыла ўсё гэта, гары яно гарам. І яны заўсёды ўзнікалі ў яго галаве. Адна мяжа замяняла другую ў залежнасці ад настрою і падзей, што адбываліся навокал. Што не вельмі напачатку падабалася Оту, дык гэта тое, што ён быў на пасадзе раба, але начальнікі хутка яго пераўпэўнілі:

— Як гэта ганарова займаць такую пасаду. Бацькі ж таксама з такіх?

— Так, — адказаў разгублена Ота.

— Ну вось. Ты ж, можна сказаць, дынастыю працягваеш. Вось ты толькі паслухай: я — дырэктар, вунь — той намеснік дырэктара, топ-менеджар. Ну! Як смешна гучыць: дырэктар, нейкі намеснік дырэктара. Той увогуле топ. Гучыць як марожанае. Пакуль скажаш, дык забудзешся, як самога завуць. А ты — раб. Коратка і зразумела.

— Ну, можа, яно і так , — пагадзіўся Ота.

І ён ўжо болей не зважаў на сваю пасаду — звыкся.

Дырэктар ні так часта заходзіў у іх кабінет. Яны ўсе лічыліся ніжнім паверхам ва ўсіх сэнсах, тым не менш, ім любілі прыдумляць розныя вар'яцкія заданні. Было ўражанне, што ўсе яны, хто працуе ў гэтым кабінеце, сядзяць пад

нейкім шкляным купалам, а вакол яго сабралася купка адміністрацыі і назірае за імі: справяцца ці не.

Што больш за ўсё не падабалася Оту, дык гэта тое, што заўсёды начальству трэба было ўсміхацца, нават калі табе ні кропелькі не весела.

Неяк іх сабралі на чарговы сход. Ён звычайна адбываўся штотыднёва па пятніцах, каб ніхто раней не сышоў дадому. І вось дырэктар вядзе сход, і тут справа даходзіць да анектотаў. Яму ж трэба паказаць, што з гумарам усё як мае быць. Захапляльна расказвае, расказвае, спыняецца. Апынулася, што гэта канец, а ніхто не зразумеў, толькі калі пачаў дырэктар рагатаць, то тады і ўцямілі, што канец, і пачалі раздзімаць вусны ва ўсмешцы, хоць нікому смяяцца не хацелася. Дрэнь анекдот той быў.

— Ой, Мікалай Паўлавіч, вы такі жартаўнік! — першай спрабавала пырскацца смехам сакратарка.

— Ой не магу. Жонцы раскажу, памрэ ад смеху. Ха-ха-ха. — доўга яшчэ чулася ў зале.

Але Оту чамусьці было сумна ад гэтага, і на жарт ён нават не пасміхнуўся. Мабыць, ён быў адзіным з усёй залы, якому хацелася плакаць ад пачутага. Тут саслужбовец, які сядзеў у тым жа ж кабінеце, што і Ота, штурхнуў яго ў плячо:

— Рагачы, дурань. А то прэміі не будзе.

Ота паглядзеў на яго безуважна, але выдавіў усмешку, праўда, без гучнага смеху.

***

Аднойчы іх аддзелу загадалі выканаць праект, рэалізацыя якога разлічвалася на тры гады. Адна рэстарацыя пачала несці выдаткі, бо часта даводзілася выкідаць сапсаваныя прадукты. Ну рыбу пратухлую можна ў сушы закруціць — усё адно ад іх усе труцяцца, з агародніны — суп зварыць, нават малако выкарыстаць можна. А вараныя яйкі? Вось тут праблема. Дырэктр акрэсліў задачу на сходзе: вараныя яйкі перарабіць у сырыя. Усе схапіліся за галовы ад геніяльнасці ідэі. Як яны не маглі дадумацца да такога! Калі можна з сырога зрабіць варанае, то магчыма і адваротнае.

Рэстарацыя вылучыла на праект грошы і пералічыла іх на рахунак фірмы Оты. Але ў хуткім часе месца дырэктара заняў яго намеснік. Куды дзеўся той — невядома. Праўда, грошы таксама невядома дзе. Таму цяпер офіс амаль за так працуе на рэстарацыю, робіць ім рэкламу. Пытанне яек пакуль вісіць у паветры, хоць ужо прайшло тры гады.

***

Мінаў час. Ота хадзіў пяць дзён на тыдзень на працу, вяртаўся дадому. Але ніякай цікавасці ў жыцці не было. Вольнага часу станавілася ўсё менш. Ён нават забыў, калі апошні раз сустракаўся з сябрамі.

Грошай трохі было, але ў асноўным усе яны разыходзіліся на ежу. Адзенне рэдка калі набывалася. Бывала, што даводзілася насіць дзіравыя шкарпэткі. Аднак, не праблема: у чаравіках ніхто не бачыць, якія яны. Тое ж было і з майткамі. Ота данашваў свае юнацкія з Мікі-Маусам. Пра парфуму размовы нават не было. Хлопец часта хадзіў у гандлёвыя цэнтры, дзе раздавалі напырсканыя парфумай паперкі, іх ён асцярожна клаў у кішэні і насіў некалькі дзён, пакуль пах не выветрываўся. А пасля зноў ішоў у гандлёвы цэнтр, і добрыя дзяўчаты давалі яму паперкі, спадзеючыся на тое, што ўсё ж такі ён набудзе нешта з парфумы. Ота заўсёды браў тыя паперкі — дзеля іх ён і хадзіў у тыя цэнтры, непрыкметна клаў у кішэні і ішоў далей, робячы выгляд, што ён ідзе ў гандлёвік нешта набываць. За адсутнасцю грошай, яго цешыла толькі тое, што заўсёды ў кішэні быў новы пах. А так набыў бы сабе флакон, надакучыў бы той. І што пасля рабіць? Зрэшты, гэта быў самападман.

Гадзіннікавыя стрэлкі круціліся, а прадказанні варажбітак усё так і не спраўджваліся. У апошні момант яго пачала непакоіць думка, што цыганкі таксама, як і ён, працуюць на таго ж дырэктара. І яшчэ больш жахала, што калі нічога не спраўдзіцца, то пасля смерці паставяць помнік, на якім будзе выбіта яго пасада — раб.

Тут пахаваны раб Ота. Жах!

# Фунтаопт

Цётка Ала, наслухаўшыся па тэлевізары пра выйграныя машыны і кватэры ў гульні ад «Фунтаопта», вырашыла выпрабаваць лёс. Жанчына рэдка хадзіла ў вялікія крамы. Яны яе палохалі. Здавалася, увойдзеш — і больш ніколі адтуль не выйдзеш. Згубішся там, ці яшчэ якая трасца здарыцца. Часцей у краму хадзіў муж. Але ён таксама губляўся ў іх. Па сто разоў тэлефанаваў, запытваўся, што купіць, хоць заўсёды запісваў на паперцы, якія прадукты трэба. Зрэшты, з гэтай паперкай ён хадзіў ні адзін раз. Дый навошта пісаць, калі і кожны раз адно і тое ж: малако, кефір, батон, мука і г.д. Аднак, усё адно званіў. І голас быў нейкі разгублены, як у школьніка. Сына Ала ў краму адпраўляць баялася: ён быў яшчэ больш разгублены, чым бацька.

Дык вось гэтым суботнім днём цётка Ала, пагартаўшы на сайце рэкламу ад «Фунтаопта» і паглядзеўшы, які тавар трэба купіць, каб выйграць прыз, накіравалася ў краму.

У галаве яна перабірала камбінацыі прадуктаў, якія будзе браць. Праўда, учора яны хадзілі з мужам закупляцца на тыдзень у «Родны кут», а сёння натхніў яе тэлевізар прызамі. «Вось дзе дурная галава... каб ведала, дык не пайшлі б учора, — думала Ала, — абы толькі нічога непатрэбнага не ўзяць. Бо ведаю я іх: уключаць музыку, ходзіш, як п'яны, прытанцоўваеш і бярэш, што бачыш, бо такое пачуццё, нібы цябе здымаюць у нейкім шоу».

Увайшоўшы ў краму, адчула прыемнае цяпло пасля халоднай вуліцы. Цётка Ала ўзяла кошык і пайшла прыглядацца да паліц з таварам. Яна памятала, што на «тавары ўдачы» сёння быў шакалад. Яго першым і ўгледзела. Паклала ў кошык і пайшла далей. Побач хадзілі людзі. Падлічвалі на калькулятары колькі яшчэ трэба дакупіць, каб было на 10 рублёў. У цётку Алу ледзь не заехаў раз'юшаны мужык з вазком, у якім быў толькі глазураваны сырок. Жанчыну раздражнялі такія пакупнікі, што сноўдаюць з гэтымі вазкамі, і каб хоць шмат бралі, а то два тавары закінуць і бразгочуць па плітцы, і ніяк не размінуцца з імі.

На акцыі стаяла чырвоная ікра. І хоць яе цётка Ала ела рэдка, можна сказаць, ніколі, — усё ж узяла. «Ат, хай будзе. На Вялікдзень з'есца», — усцешыла сама сябе жанчына. Трэба ж было набраць, каб на прыз хапіла. Прайшоўшыся ў бок малочных прадуктаў, заўважыла на акцыі кефір. Паглядзела на дату выпуску і паклала ў кошык.

Паўсюль мігцеў чырвоны колер, які крычаў пра зніжкі, перакрэсленыя лічбы. І чым далей ішла жанчына, тым усё цяжэй было руцэ. Цётка Ала сама не заўважыла, як не стала месца ў кошыку. Гэта азначала, што трэба было ісці да касы.

Чарга стаяла вялікая. Выходны ж дзень! Усе прыйшлі закупляцца, а можа, некаторыя пасля таго, як і яна, паглядзелі па тэлевізары на шчасліўчыкаў, што выйгралі прызы. Гэта ж так проста: набраў на 10 рублёў — і новую кватэру атрымай.

І кожны з гэтых людзей упэўнены, што наступнай суботай менавіта ён стане пераможцам.

Цётка Ала неяк паглыбілася ў думкі і толькі цяпер зразумела, што набрала чаго і не трэба было. Але адступаць было позна. Выйсці з чаргі было няёмка. «Толькі б грошай хапіла», — прамільгнула ў галаве.

Прадавачка няспешна падносіла прадукты да апарата, раздаваўся «піп», запаўняліся пакеты. Зрэшты, гэтых «піпаў» было аж занадта. За некалькі гадзін праслухоўвання гэтай моднай музыкі можна было звар'яцець. «І як яны тут працуюць...», — думалася ёй.

Ну вось і яе чарга. Дачакалася. Раскладае ўсё, што ўпіхнула ў кошык. Чаго там толькі няма! Здаецца, месяц можна не хадзіць у крамы. Цётка Ала падыходзіць бліжэй да касіркі, і тут яе ўвагу спыніла жанчына гадоў за шэсцьдзясят, якая стаяла па правы бок ад яе:

— Вы збіраеце бонсцікаў?

Цётка Ала спачатку не зразумела пра што яна, а пасля ўзгадала. Неяк бачыла ў аўтобусе, як малыя паказвалі адно аднаму малыя гумовыя штукі, падобныя на соплі.

— Ды не. Не збіраю.

— Як будуць бонсцікі, дайце іх мне. Бо я бачу ў вас іх шмат будзе.

— Добра.

І вось касірка пачала абслугоўваць цётку Алу. Разгарнула адразу два пакеты, бо было відаць: у адзін усё не змесціцца. Яшчэ раз у думках цётка Ала абазвала сябе «дурной галавой», паабяцала, што больш ніколі не прыпрэцца ў такія крамы, калі прыз будзе не яе.

— З вас роўна сто рублёў, — сказала касірка, — накапляльная карта ёсць?

— Так, безумоўна, — сказала цётка Ала, а сама сабе яшчэ дадала: «Каб не было, хрэн бы я тут закупку рабіла. І так столькі не планавала браць. Але ўжо што атрымалася...Усё дзеля прыза... усё дзеля выйгрышу».

Прыклаўшы карту, касірка сказала:

— Дзевяноста дзевяць семдзясят дзевяць.

«Ну хоць пару капеек», — іранічна падумала жанчына.

— Вось вам яшчэ шэсць бонсцікаў.

Цётка Ала ўзяла іх і аддала той жанчыне, якая з нецярпеннем чакала. Тая падзякавала і паклала іх у кішэню.

Разлічыўшыся і ўзяўшы два пакеты, цётка Ала адчула яшчэ большы цяжар. Цешыла толькі думка пра наступную суботу і прыз. Адыходзячы, яна пачула голас той жанчыны, які звяртаўся да іншага пакупніка:

— Вы збіраеце бонсцікаў?..

***

У наступную суботу, калі па тэлевізары паказвалі ў прамым эфіры розыгрыш прызоў, цётка Ала сядзела ў чаканні, трохі нервавалася. Вядоўца даставаў са слоіка нумары, паказваў на камеру, усе вохкалі. Спачатку разыгралі адну машыну, пасля другую, нумар цёткі Алы ўсё ніяк не выпадаў, пасля разыгралі трэцюю — і ўсё не тое. Жанчына пачынала ўжо злавацца. Толькі суцяшала думка пра кватэру. І калі разыгрывалі яе, яна ажно ўстала з канапы, адкрыла рот і замерла... Але нумар зноў не супаў. Яна не магла даць веры, як яна, якая накупіла на 100 рублёў рознай непатрэбшчыны, не выйграла той прыз, праз які і хадзіла ў тую краму. Жанчына злавалася, лаялася. Нават сын выйшаў з пакоя і, усміхнуўшыся, выдаў: «Гэта я разумею... малайца. А тое мне: не сварыся ды не сварыся». Але цётка Ала яго не слухала. Яна гатова была зараз не тое што лаяцца, а падпаліць гэты тэлевізар разам з вядоўцамі, якія лыбіліся з экрана. Нярвознасць і шок у хаце панавалі яшчэ пару дзён. Цётка Ала адмаўлялася ад ежы і пачувалася дрэнна. Толькі праз некалькі дзён яна ачухалася, хоць усё яшчэ не давала веры, што нічога не выйграла. Нават бонсцікі — і тыя не ў яе.

На першы погляд здавалася, што цётка Ала засталася такой жа як і раней, але гэта толькі здавалася. Яна працягвае штосуботу глядзець розыгрышы і спадзяецца, што ўсё ж выпадзе яе нумар, бо раптам на яе той раз забыліся... Жанчына не можа адэкватна рэагаваць на слова «зніжка», якое заставіла яе купіць столькі непатрэбнага, і ўвогуле, з таго часу яна ходзіць закупляцца выключна ў «Родны кут».

# Ялінка

Гэтае здарэнне адбылося напярэдадні дзён, калі паветра, падаецца, прапахла мандарынамі, але не ўсе могуць улавіць гэты водар, бо пазакладала насы — распачаўся сезон вірусаў. Дзён, у якія хутка пусцее гаманец: набываюць тое, што і не трэба, а яшчэ гэтыя чэргі... Тых дзён, якія суправаджаліся неверагоднай колькасцю ежы, якую можна было есці на працягу месяца. Дзён, у якія цябе не лічаць за вар'ята, калі ты на галаву начэпліваеш рогі аленя на абручы і рагочаш на ўвесь раён. Карацей, тых самых дзён, назва якім — Каляды.

Менавіта такімі днямі, а калі быць больш дакладным, 27 снежня каля дзясятай гадзіны вечара, Хведар Ячкоўскі выйшаў з дому з сякерай, каб ссекчы елку. Лес быў побач, але ж секчы дрэвы ў ім было нельга. Леснікам там розным можна, а вось іншым — не. Хведар не быў леснікам. Ён проста быў чалавекам...

Дык вось за тое, што нехта без згоды ляснічага зрэжа дрэўца, не запалаціўшы таму самаму ляснічаму пэўную суму, штраф быў гарантаваны. А ўжо які — будуць вырашаць у судзе: чым больш зарабляеш, тым большы штраф.

Ячкоўскі спадзяваўся, што нікога ў лесе такой цемрай не будзе, і ён зможа без цяжкасцяў прыцягнуць елку дадому. Ну не набываць жа яе, жывучы побач з лесам... Вядома, на кірмашах іх прадаецца да халеры: і вялікія, і маленькія, і нават да елак не падобныя. Але ж усё каштуе грошай... Неба было цёмнае, але зоркі гарэлі ярка. Хведар у думках ужо соладка ўяўляў, што вось ён хутка ссячэ елачку, прынясе яе ў пакой, жонка плясне ў ладкі і выкрыкне: «Супер!» І яны спакойна, без ніякай мітусні заўтра яе ўпрыгожаць, і стане елка ялінкай. Вось з такімі салодкімі марамі падышоў Ячкоўскі да купкі елак. Бяры — не хачу. Праўда, сем з іх былі чамусьці лысаватыя, без ігліцы. Яны стаялі побач. Ячкоўкі прыглядзеўся да ўсіх дрэў, і позірк спыніўся на адной — самай прыгожай.

І толькі ён замахнуўся сякерай на зялёную чараўніцу — на галаву ўпала шышка. Ды так моцна дзеўбанула, што Хведар не ўтрымаўся і выгукнуў: «Бляха! Падла!» Замахнуўся другі раз. Тут на галаву пасыпалася іглiца, і нейкі голас басам гаркнуў:

— Ты ненармальны ці што? Табе ж далі зразумець: не сячы. На халеру лезеш?..

Хведар быў у шоку. Хто гэта мог быць? Ён баяўся паварухнуцца. Нават галавой не круціў, проста вычыма пакасавурыўся, але нікога не заўважыў.

— Нічога не разумею, — ціха прамовіў Ячкоўскі,— нікога няма, а голас нібы ля вуха хтось выгукнуў. Паспрабаваць хіба што яшчэ раз.

І Хведар замахнуўся з усяе сілы. І адначасова на яго пасыпаўся дождж з іглiцы. А нечы голас прабасіў на ўсю моц:

— Дурань, ты супакоішся ці не? Што з першага разу не даходзіць? Вось скажы мне: я прыходжу да цябе дадому і бяруся секчы твае ногі?..

— Божа. Хто тут? — спалохаўся Ячкоўскі.

— Я тут. І я не Божа, — пацішэў голас і нават трохі павесялеў.

— Клава, гэта ты? Вырашыла мяне разыграць. Адпомсціць трохі. Я табе грошы аддам, ты толькі не турбуйся! Але ж лоўка ты прыдумала напалохаць мяне, — і тут Хведар засмяяўся. — Выходзь ужо. Чаго хаваешся?

— Што мне хавацца. Я і так перад табой.

— Дзе? — не ўцяміў Хведар, і ўсмешка знікла з твару.

— Ну вось стаю такая прыгожая, трохі ў снезе, — адказаў голас.

— Ты? Ты елка? — ледзь вымавіў Хведар і пракаўтнуў камяк у горле.

— Не, блін, піхта.

— Божа... Дапрацаваўся. Казала мне жонка: «Кідай працу на гэтай лакавай фабрыцы, адныя хімікаты. Чым ты дыхаеш?»

— Чаго сюды прыцёгся, хімікат?

— Ну зусім звар'яцеў, — спалохаўся Ячкоўскі канчаткова. Пачаў лэпаць па кішэнях у пошуку якога сродку. Відаць, каб адцягнуць момант асэнсавання ўсяго, што з ім цяпер адбываецца. Хоць у кішэнях нічога не было. Яны былі пустыя, і Хведар пра тое ведаў. Ён нават мабільны пакінуў дома.

— Прыйшоў мяне забіваць, а цяпер я мушу суцяшаць цябе. Во дажылася... Аёечкі-аёй. За дзесяць гадоў першы раз такое раблю. Звычайна шышку кіну і ўсё, ігліцы там сыпану трохі, а тут такі ўпарты трапіўся, — дакарала елка, нібы школьная настаўніца.

— Навошта я прыйшоў у лес. Ааа?... — Хведар быў на мяжы адчаю.

— І я пра тое. Навошта вы лезеце сюды. Дома не сядзіцца. Лес — наша жыллёвая плошча, ваша вунь стаіць, з блокаў нешта злепленае. Вось там і сядзіце. Дык жа не — трэба сюды прыцегціся і сekануць каго.

«Калі я яе не ссяку, то сапраўды звар'яцею, — думаў Хведар. — Елка... І гаворыць. Дурноцце! Перапрацаваў, мусіць, за тыдзень. Столькі ж спраў было. І гэтая падрыхтоўка да святаў. Ой...Ссяку і ўсё.»

І тут ён замахнуўся, але не паспела лязо крануць кары: Хведара зноў засыпала градам шышак і іглiцы.

Абстрэл елкі быў няшчадны. Зялёныя кулі ўпіваліся ў скуру, як пчолы... А пад ім на снезе разрасталася пляма крыві.

— Ну ўсё. Яшчэ адзін. І калі яны ўжо супакояцца?.. — сказаў голас. — Толькі прыгажосць сваю на іх трацім, давядзецца цэлы год лысаю стаяць. Трохі іголак засталося, але што гэта за прычоскі. За гэты тыдзень ужо ад васьмі адбіліся. А яны ўсё адно лезуць...

***

На наступны дзень Хведара знайшлі. Ён быў нежывы. Твару нельга было пазнаць — увесь у шчэці з іглiцы. Па тэлевізары ў кватэры Мікіты Пуслоўска-

га ў хроніцы крыміналу аб'явілі: «...Гэта ўжо восьмая ахвяра. Знойдзены пад елкай у крыві, як і ў астатніх здарэннях. Ці былі яны ўсе самагубцамі ці звар'яцелымі — невядома. Прыкмет нападу не выяўлена. Будзьце пільнымі! Па факту смерці праводзіцца праверка, калі вы валодаеце нейкай інфармацыяй, патэлефануйце, калі ласка, на нумар аддзела міліцыі.»

— Вось чаго толькі не здараецца, — вымавіў у роздуме Мікіта і пачаў нацягваць на сябе куртку. Ужо выходзячы з дзвярэй крыкнуў жонцы: — Мань, ну я пайшоў у лес па елку. Хутка буду...



# Ганна Навасельцава

празаік, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Друкавалася ў часопісах «Маладосць», «Полымя», штотыднёвіку «ЛіМ», калектыўных зборніках. Аўтар кнігі міфалагічных апавяданняў «І чарам сніцца чалавек...» (2016 г.), кнігі казачных гісторый «Калі цябе спаткае казка...» (2018 г.). Нарадзілася ў 1983 годзе ў Віцебску. Жыве ў Віцебску.

# Аповед пра век Траянаў

*(Міфалагічнае)*

Смяяўся звонка. Неспатольна прагнуў выпіць сваім шаломам сіні свет. Ужо трымаў у руках глыбокі, бяздонны, закаваны ў жалезныя берагі. Узіраўся. Вагаўся. Баяўся выпусціць... Ці бачыў што? Быў жа такім прагным, якім можа рабіцца адно смяротны, гнаны нясцерпным жаданнем стаць самым... Шаноўным. Слаўным! І ўсё выпіць дарэшты, бы той цуда-юда. Я некалі бачыў яго. Лятавы. Праніклівы. Сквапны.

Мы стаялі за гэтым прагным утрох, нябачныя, неадступныя. І цешыўся моцна чарадзейны Баян і ўжо быў гатовы высока ўзнесці яго ў славе. Абыякава маўчаў вячысты Траян, за безліч стагоддзяў ці аднойчы бачыў важна-шаноўных, ці аднойчы сустракаў дапраўды слаўных, дык чаму ж дзівіцца... А я? Ніхто. Зусім не боскі, ані колькі не вечны. Чаму не схацеў бласлаўляць гэтага, з цяжкім шаломам? Ведаў жа, што і лёс ягоны будзе цяжкім...

Шкадаваў. А каго... Цябе, вялікі сінявокі Доне, ты ж брат родны майго Дняпра Славуціча, дарма, што плешчаш спеўна ў шаломе халодным. Сам халодны, сам неспатольны... Хоць няма такой смагі, якую б ты не здолеў наталіць. Хто ж гэта цягнецца да тваёй прыгажосці? Хто ж гэта пагражае тваёй велічы... Не змог бы за цябе даравацъ нікому.

— Блаславі яго. Ён — смелы абаронца, — не так сказаў Баян, як папрасіў.

Абыякава змаўчаў Траян, не ўзрадаваўся новаму герою. А каму мог узрадавацца? Ахвоча паглядзеў бы на такога...

Не блаславіў, хоць і самому было смуткоўна. Смелы абаронца адно ў тваіх песнях. Не паверыў у гэтага смяротнага ды на цуду-юду падобнага!

— Хітры ж ты! — усміхнуўся мне ласкава, Баяне. — Але памятай, што ні хітраму, ні спрытнаму, ні чарадзею дасціпнаму...

— Волі нашай не мінуць! — цепнуў усёвідушчымі вачыма Траян. — Не зайздросці смяротнай славе! Не кліч задарма Карну, як рабіў некалі...

Я змаўчаў. Яшчэ пабарукаюся з вашай воляй. Яшчэ пагляджу на цябе, Баяне, які лёгка пабег па гонкім высозным ствале палахлівай рыжай вавёрачкай! Куды, то ж добра ведаю, але як абярнуўся... І лоўка, і таропка. Паважаю цябе, ведны ўнуча, хоць і слухаешся безадмоўна дзедавага слова.

Я ж слухацца не люблю. Мабыць, чуйна хвалююся, як гудамі-перагудамі азываюцца па-над светам твае вяшчунныя гуслі, шукаючы шчырага сэрца сабе на спажыву. Чыё-небудзь, можа, і знойдуць, але не маё, не маё... Разумным стаў! Дзёрзкім...

За тое стаўся гэтакім, што не любіць дзёрзкіх Вялес. Хоць без такіх праніклівых, як я, ці множыў бы ён свае вялізныя зямныя багацці? А можа, падземныя... Ці пагадніліся б суладна тыя, хто да бойкі ахвочы, за меч лёгка хапаец-

ца... «Маўчы!» — шыпіць мне раззлавана з-пад зямлі, дзе знікае глыбокая, як жыццё, сіняя вада. — «Не табе прасіць міру, не табе цягнуцца да згоды». Гэта праўда... І журліва, і скрушна, хоць умыйся салёнай слязой... Ды не сумуецца і не плачацца. За тое не плачацца, што многа болей за Вялеса не церпіць дзёрзкіх Пярун. Мяне ж не церпіць! Гняўлівы. Палымяны. Збройны... Улюбёны ў бітву!

Бітвы я не люблю. Як і зброі. Як і смерці...

— Грым-га-га! Грым-га-га! — азываецца з-пад неба пошчыкавы грамаўнічны голас, як цяжкі трапяткі дакор майго сумлення. — Не табе ўцякаць ад бітвы!

Гэта праўда. Як ёсць праўда... Але ўцяку! Збягу як-небудзь... Не зловіш. Не дагоніш. Свеціць мне ноч надзеяй на паратунак. Сузіраю зямлю прыжмураным вокам нізкага веташка, ці ўсё толькі бачу? Не, зусім не сузіраю. Бягу лясамі, бягу палеткамі, скачу лёгка праз плыткія рэкі, а самому здаецца, што вось-вось дацягнуся да прасіняга пашчай... І праглыну! Ці такі смачны, як прыгожы... Не! Навошта я думаю пра гэта?

Але ж думаю і не магу сам сябе судзіць. За іншых, мабыць, рашаць прасцей. Караць, не даравáць... Ці даравáць замнога, што нават самому прыкра... Не праглыну іскрысты, зманлівы, а то стануся ўраз магутным Дзівам. Не жадаю таго! Не шукаю сілы, а чаго прагну? Чаго баюся... Хоць, калі падумаць, то не сілы я баюся...

Шчыра баюся праўды.

— А памятаеш, воўча, як трымаў ты ў шаломе сіні Дняпро Славуціч?

Трымаў у палоне. Прагнуў выпіць. Прагнуў стацца слаўным...

Лагодны, спагадны, загадкавы, прачулы... Пра каго ж гэта так думаецца? Не ведаю! А пра сябе скажу без лішняй хвальбы, што быў такім чыстым, як сіняя бруістая глыб. Кожнай кропляй сваёй збіраў славу, якой звінець у вяках. Ад таго жадаў не ў шаломе збройным ціха плёхаць, а ўдацца сінню чалавечых вачэй... Сузіраць усю-ўсю зямлю! Прайсці чалавечай хадою. Дакрануцца чалавечай рукою. Хоць як можна было патрапіць у цёплыя чалавечыя вочы?

Відаць, можна было. Якраз нахіліўся да мяне адзін, чарамі спавіны... Загледзеўся на сябе самога. Не, гэта я сам нахіліўся да спатольнай вады, здзівіўся сваёй прыгажосці. Узрадаваўся. Захваляваўся. І стаў размаўляць і з высокім небам, і з цёмнай зямлёю, і з ясным сонцам...

Яно, ласкавае, мілае, чалавечым голасам мне тады сказала:

— А перабяжы мне шлях! Разаб'еш чужую халодную славу, а моцна збярэш сваю, легендавую, звонкую. Усю сваю славу... Век твой будзе вялікім. І доўгім-доўгім!

Бліснула спакушальна ясным промнем... Пра што яшчэ марыць, як здарыцца заступіць самому трысветламу! Як само найяскравае цябе з лёгкім паклонам вітае... Памятае гэтыя словы гуллівая дзвінская вада, дачулася і строгая,

дняпроўская... А пасля ўведалі і малыя, і вялікія рэкі, як перабягаў шлях... Памыляўся, вагаўся, баяўся... Смяяўся з мяне ты, Дняпро Славуціч, уладар усіх светлых імклівых рэк, казаў, што не быць мне вялікім князем. Дарэмна раздаю гарады! Што чары вялікія сабраў, а волі чалавечай у іх не знайшоў. Не здабыў...

Дарэмна смяяўся з мяне. Здабыў чалавечую волю. І тады, Дняпро Славуціч, ты патрапіў у мой шалом... А можа, гэта прыснілася мне... І зблытаўся мой доўгі сон з чароўнай явай.

Проста перакуліўся ў хамут, як у вір з галавою. Навошта? А чаго не зробіш, здабываючы волю... На волю праз хамут! Воля... Чары... Надзея. Лапы з таго хуткія, воўчыя, вочы іскрыста-агнёвыя, а сэрца... Сэрца чалавечае. Праз цемру бягу, людзей не сустракаю, скарбаў не чакаю, на здані зусім не зважаю. Імхі дрыгвяністыя пад нагамі, мяккія, нават пяшчотныя. Веташок. Масток. Звонкі дубовы лісток, які так адчайна трымцеў, каб мне вяшчунна прамовіць... Валунок. Пясок-пясочак... Не пачуў яго, хрумсткага, пад нагамі. Не, пад лапамі. У мяне ж воўчыя лапы...

І ты, Жэля, якая даўно спадзявалася на сустрэчу па гэты бок хамута...

— А ты ж мой чаканы! А ты ж мой жаданы! — прывітала мяне, усміхнуўшыся чырвонымі заплаканымі вачыма. — Ідзі да мяне! Ідзі...

Ураз супыніўся, адчуўшы, як пляжыць цябе невыносны жаль. Як моцна хочацца табе спачування і спагады... Як глуха і адчайна стукае маё сэрца. Не пайшоў. Ты паплыла да мяне нячуткай хадою. І спалохаўся тады, што атуліш мяне слязьмі, што дарэшты забярэш усю радасць... Адхінуўся, схамянуўся. Спытаў, чаго ж хочаш...

— А пусці мяне ў людскі свет, — папрасіла ласкава ды абяцала. — Я ворагаў тваіх дакрануся, а сяброў ані зачаплю... Цябе, слабога і смяротнага, зраблю слаўным!

— Не пушчу, Жэля! Занадта ты жалобная... Увесь свет слязьмі зальеш! Ды не сваімі, а чалавечымі...

— А чым жа дрэнныя салёныя чалавечыя слёзы? — запытала, уздыхнуўшы чакальна. — Як плача нехта, то не падманвае, не здраднічае... Шчырым робіцца, хоць ты з яго дзівіся!

— А я з такога дзівіцца не буду! — прамовіў ёй цвёрда.

Пачула мой адказ і засмяялася глуха, надрыўна. Як быццам заплакала. Не, усё ж засмяялася, а з нечага так шкадобна стала... Цёмна, няветла.

— Ды што я ў цябе прашуся. Хоць і зыркі, хоць і палымяны, але ж смяротны... Сама ў людскі свет патраплю! Смяротнага лёгка змагу!

І пацягнулася да мяне жалезнымі кіпцюрамі... Гэта не дзіва, як у цябе такія чорныя, бліскучыя, доўгія... Ведама, жальба пакідае глыбокія драпіны, як ні круціся. Дык што паробіш? Кінуўся бегчы з усіх ваўчыных ног, а ты, Жэля, за мною лёгкай лебядзінай хадою плывеш, а ні на крок не адстаеш! Адно дзе ступіш, там жоўты пясочак пляжыцца на цёмнае балота... Зусім змакае ад слёз.

Ці многа, ці мала бег, а сталі ценька дрыжэць моцныя лапы. А Жэля ўжо ні глядзіць нават, адно чакае ганарыста, калі зусім супынюся. Не здолею вечна бегчы, а ёй спяшацца няма куды. Няма смуткоўнай скону, бо няма стомы... Не выпусціць мяне з хамута!

Цяжкага, прыкрага, бо сам на сябе ўздзеў... Але чамусьці думаецца зусім не пра тое. Успамінаюцца мне сінія вочы Дняпра Славуціча. Мроіцца, што ён, слава-слаўны, скруціў бы той хамут у хамут... І здаецца, быццам ведаю, што гэта я сам учыню такое.

Узгадаў празрыстую радасць, якая сэрца цешыць прачулай песняй. Спадзявальнай, чалавечай. І як зыкамі вясёлымі плёхаюць хвалі, самі за гуслямі звонкімі гоняцца. А гуслі-перагуды... Не, гэта гусляр праніклівы самую шчырую радасць сабраў як быццам з усяго свету... Ад таго я зрабіўся ў сем разоў за сябе дужэйшым! Чаўны ды ладдзі незлічоныя цягну, як тыя бязважкія лісцінкі, берагі высокія выгінаю, а і зусім не зважаю, як з рэхам ламлю зімовыя крыгі. Прасторамі разбягаюся, мінаю вёскі, мінаю вёрсты! Збіраю зімы, збіраю леты... Хлопчыка малога за руку трымаю, а ён ужо такі дарослы! Панёс маю сінечу ў сваім сэрцы... Да мора далёкага. Да спраў слаўных!

— Гэй ты, Жэля жалобная! Пойдзем са мною ў свет вялікі. Смяяцца навучу, радавацца самой ды іншых радаваць! Забудзешся на чырвоныя слёзы...

І адказала Жэля жалобная, чорная, адказала некаму, але ж не вясёламу мне:

— Не пайду з табой нікуды, а яшчэ пакараю цябе, Дняпро Славуціч!

Ох і скача вавёрачка яснай іскрынкаю, рухавай, вясёлаю! Арэхі ў лапцы спрытна трымае, а старанна хавае. Дзе і што цікавага ёсць — выглядае... То ўверх па гонкім ствале пабяжыць, то ўніз засляшаецца, як быццам нізавошта не хоча спазніцца. Вочкамі цепае, а хвосцікам гладзіць калючыя галінкі. І не балюча ёй!

— Цок-цок-цок! Калючых галінак не баюся! А да цябе зусім не гарнуся!

— А чаму гэта да мяне зусім не горнешся?

— А за тое, як ледзьве свет не спляжыў, волю сабе здабываючы! Ледзьве мяне ж не пазбавіў радасці з гэта свету цешыцца! Навошта ты зусім такі?

— Ох і шкодная! Не прабачыш, не падаруеш!

— А за што дараваць злыдню, якому чараў простых замала?

І адкуль уведала толькі... Як вынес Дняпро Славуціч мяне з таго свету, што за хамутом быў схаваны, дык сонцу я пакланіўся, ягонай спагады прасіў. Пасмяялася з мяне ласкавае, мілае. Абяцаннямі болей не спакушала, а славу няпростую прадказала. Маўляў, няўжо думаю стацца слаўным толькі з таго, што перабягу шлях яму, тройчы светламу... Але ж мае вялікія сляды на зямлі бачыць. А ці спытала, навошта мне няпростая слава? Ужо спатоліўся ёй! Сказаў тады шчыра, што не жадаю і простай...

Не пакрыўдзілася на мяне сонейка. Не агонь Перуновы з таго да мяне прыляцеў. Дзівам нябачаным з'явіўся цуда-юда з далёкай зямлі... Паклікаў мяне да бойкі.

Выклікаў мяне цуда-юда на бойку. Так няпростую славу знайшоў, відаць, сонцава слова паслухаўся. Дык ці дзіва, як шукаю і чараў няпростых, каб Дзіву таму пытлю ўваліць. А ты на мяне цокаеш злосна... А сама дурэць ахвочая!

— Цок-цок-цок! Толькі паспрабуй паквапіцца на мае арэхі! Я ж табе!

— А што? У тых арэшках залатых чары вялікія схаваліся?

— А можа, і схаваліся... Адкуль табе гэта дазнацца?

Няма адкуль гэта дазнацца, твая праўда. Як спустошаны па свеце хаджу, нідзе не спыняюся, ні ад каго спагады не чакаю. Не-не — і прымроіцца за плячыма жалобная з лебядзінай хадою. Не сляды пакідае, а слёзы. Я пакідаю толькі сляды...

Гарады. Гарады. А што апроч іх? З таго і зайздрошчу табе, вясёлая, што радасць залатую сабрала. На славу не паквапілася. Волі не страціла. Скачаш лясамі, бяжыш як быццам хутчэй за чалавечую думку...

— Хі-хі! Цок-цок! Хіба ж можна бегчы хутчэй за чалавечую думку?!

Калі думка — гэта ж ты, мабыць, можна... Не зачаплю твае залатыя арэхі! Падкажы адно, як цуду-юду таго адолець. Як жалобную прэч ад сябе прагнаць... Ты ж ведаеш усё!

— Эх! Каб усё ведала, то сонцам па-над светам хадзіла б!

— Не пасылай мяне да сонца. Пасварыўся моцна з ім...

— А ты не пытайся ў мяне замнога! Бач, сквапны які! То хоча ён славы, то не хоча... Але ўсяго табе мала.

— Болей за ўсё шкадую, як захацеў стацца слаўным, але ж не ведным. Не абазнаным. Дык падкажы, што мне рабіці?

— А што ж тут падказваць, — вавёрачка жвава заварушыла хвосцікам. — Цуда-юда той нябесным гневам створаны. Ацішыш палкі, агнёвы — і ён сам знікне, быццам не было зусім...

— Адно здагадацца трэба, як агнёвы ды вадою заліць...

Паглядзела на мяне рыжая шчыра, пранікліва, штосьці павучальнае зацокала. І скок-паскок з галіны на галіну, з яліны на яліну пакуль з вачэй не знікла. З каго мне цяпер цешыцца?

І застаўся з нябесным гневам, як быццам спаткаўся са сваім...

Вакол мяне былі непраглядныя хмары. Мглістыя. Цёмныя, клублістыя. І чамусьці здавалася, што зусім жывыя. Ляцець праз іх — не даляцець. Не дапасці да зямлі, куды так прагнуў патрапіць. Навошта мне туды? Няма чаго, але ж лячу не сваёй воляй. Я і сам не свой. Народжаны чужым гневам і з таго магу адчуваць толькі гнеў. Дыхаю полымем, а крыламі ганю спляжаны ўшчэнт попел.

Я спапяляю ўсё, чаго толькі дакранаюся. Мабыць, і хацеў бы чыніць па-іншаму, але ж не магу. Гнеў не можа быць літасцівым... Адкуль ведаю пра

літасць, як сам ніколі не бачыў яе? А здагадаўся, як і пра зямлю, што схавалася ад мяне ў непраглядным покрыве хмар... Мабыць, спадзяецца: іх малыя дажджынкі зальюць маё гнеўнае вогнішча. Дарэмна спадзяецца. Я не баюся вады, хоць сам даўно стаўся чыстым агнём. І з таго чую біццё самага гарачага сэрца. Зыркага. Паляманага. Моцнага.

Забяру яго! Навошта такое сэрца смяротнаму? З гэтым сэрцам стануся роўным майму неміласэрнаму стваральніку, які б'е перунамі зямлю, грозіцца і жадае вечнай бойкі. Вызвалюся з ягонай палоннай волі, сам стану грукацець страхатліва, скаланаючы празрыстыя нябёсы. Забяру іх сабе, хоць яны і ў сем столак. Забяру сабе зямлю, якая ў неба чуйна ўглядаецца. Забяру адно смяротнае сэрца...

— Дзе ты схаваўся, малы ды слабы?! Выходзь са мною біцца!

Не чую смелага адказу. Зноў выгукваю, і зноў агартае мяне ціша, аж хочацца спытаць: «Дзе ж я падзеўся, дзе...».

Маўчаць нябёсы, не адгукаецца далёкая зямля. Чаму? Адкуль ведаю, што зусім не спалохаўся мяне... І чаму здаецца, што быццам не валодаю сабою. Лячу ды хмараў крыллем не магу разагнаць, хоць прагну таго аж занадта. Што здарылася са мною...

Ціха праблісквае сярод хмар азёрнае люстэрка, нават здагадацца цяжка, ці на неба яно ўзнялося, ці засталося на зямлі. У глыбокім азёрным воку адбіваецца высокае... Не, патанае, знікае сінеча ў сінечы, аж губляюся зусім.

Не лячу, а падаю. Знікаю ў халоднай вадзе, як у бяскрайнім небе, што некуды перакулілася. Патанаю ў бездані. І сустракаю цябе, Пяруне. Аж скаланаюся дрыготка ад твайго бязлітаснага гневу...

— Не гнявіся, — гаворыш мірна ды спагадна, — а лепей у люстэрка маё азёрнае паглядзіся, жорсткае братава стварэнне. Мабыць, убачыш сваё страхаццё.

— Братава? Страхаццё? — цяжка мне ўсё ўцяміць адразу.

— А што ж... Хоць і змагаюся з перуністым нямала, але ж братам яго заву. Брат мой і ёсць. Чаго ж дзівіцца?

— А страхаццём завошта назваў мяне?

— Кім жа яшчэ цябе назваць... Перуну стаў роўным, хоць і народжаны ягоным гневам. Нялюдскі...

— А ты — Вялес, — здагадаўся чуйна, хоць іначай і нельга ўжо было. — Адкуль ведаеш, што стаў роўным твайму нялюбаму брату? Сам такога пра сябе не ведаю...

— Чалавечае сэрца забраў, як смяротнага на бойку выклікаў. Не адчуваеш хіба, як б'ецца моцнае чалавечае сэрца?

— Б'ецца? Чаму ж не адчуваю літасці і спагады...

— Чаму ж, народжаны нябесным гневам, ты пра літасць здагадаўся? І чаго так моцна хацеў... Назаўжды стацца спагадным?

І тады, Вялес, ты сказаў, што я забраў сабе не самае спагаднае сэрца...

Адкуль у цябе такая сіла, пявучы Баяне, што кажаш вяшчуннае слова? Мабыць, ад твайго боскага дзеда, які навылёт ведае чарадзейныя таямніцы... І ты іх уведаў. Але ж і заплакаў ад таго празрыстай слязою! Шчымлівай, чыстай, якая каменем б'е самае халоднае сэрца. Пляжыць яго ўшчэнт, аж не дзівіся...

Падыходжу да цябе, хоць ты і нябачным хацеў удацца, схавацца, ані казацца, ды пытаюся проста:

— А скажы мне, абазнаны, пра чыю ж гэта страту ты цяпер плачаш? За каго пускаеш крыштальную слязу?

І мовіў прачула Баян, што плача за бітву ратную, якой скоранька быці. Пускае слязу крыштальную, бо Карны моцна баіцца. А яна ўжо нячутка зямлёю ідзе, сабе час найлепшы выбірае, а нейкіх позіркам праніклівым выхоплівае... Дык шлях іхні скончыцца хутка. А ты, вяшчунны, не хочаш быці сярод такіх!

— А якая ж яна, Карна? — спытаў цябе задуменна.

— Гэткая, як і Жэля, — адказаў мне хутка. — Хіба забыўся, як уцякаў?

Памятаю тое, цьмяна, няпэўна, але ж не прызнаюся, не... На цябе, вяшчунны, гляджу з пагардай. Кволы. Палахлівы. Зусім унучак... Кажаш мне, што не можа твой дзед утрымаць згоды, што ўцякае ад нас залатавалосая Жыва-Жывена. Бяжыць далёка, ані дагнаць...

— Бяжы за ёю. Яна — самая лепшая, — не так кажаш, як просіш, Баяне. — Няхай панясе цябе Дняпро Славуціч...

— Не хачу, каб нёс мяне Дняпро, — адказаў табе пыхліва.

І чамусьці зрабілася смуткоўна. Чаго... З таго, як уцякае ад нас жыццёвая сіла? Ці што верыш у мяне моцна? Спадзяешся зусім па-чалавечы. Думаеш пра маю смеласць, якою гатовы ўзнесці ў славе. А ў цябе вялікае сэрца... А ці варты я тваёй песні...

— Вярні Жывену, дык будзеш вартым усіх песень зямных! — гаворыш мне проста, як быццам чую самога сябе.

— Якая ж яна, Жывена? — спытаў цябе задуменна.

— Дагані... Вярні... Просіць цябе свет! Дык і цуд прыгажосці пабачыш, — зноў мовіш проста.

— А я думаў, скажаш: гэтакая, як і Жэля.

— Жэля да нас паціху сунецца. Ідзе следам за Карнай... Жывена ад нас бяжыць! Як сілы ўцякае!

Ці назаўжды ўцячэ толькі... Ступіць на палетак — зацвіце той кветкамі-красамі, адкрыецца вясёлкавай усмешкай. Увойдзе ў лес — дыхне той жывіцай-водарам, скаланецца чуйна, як быццам родных атуліць жадаючы, ды спаўецца таямнічым туманам. А як дакранецца смяротнага... Ты не кранаешся смяротных, Жывена, не выходзіш ім насустрач, беражэш слабых, ведаючы сваю сілу...

Сказала шчыра мне, што не хочаш дужацца з сястрою. Бяжыш і баішся.

— Дык пра чыю страту горка плачаш? За каго пускаеш крыштальную слязу? — як быццам не сваім голасам пытаюся.

— За цябе, які насмеліўся падужацца з Карнай... Цяжкі твой лёс!

— Паверыць у свет няпроста! — кажа мне рыжая, увішная ды яшчэ хвастом спрытна круціць. Арэшак грызе, пыскай вусатай варушыць. — А свет няхутка, зусім няхутка паверыць табе! Не захоча блаславіць! Кожны смелы абаронца трошкі падобны да цуды-юды...

За вушкі цябе ды ў мех, разумніцу такую. Вось зараз так і ўчыню! Праўда, клопаты важкія маючы, мех захапіць забыўся. Ды нічога, за вушкі ды пад світку. І не зіркай калючым-калючым позіркам, маленькая і здагадлівая...

— Цок-цок-цок! — сварышся на мяне. — Не хачу да няўдзячнага такога пад світку! Хто цябе навучыў, як ад цуды-юды пазбавіцца найлепей? Хто гэта быў?!

Пазбавіцца... Выйсці на бойку няроўную. Цмоку ж няма чаго баяцца смяротнага... Дык няхай цуда-юда забірае ягонае сэрца, калі так прагнуў! Сваіх пачуццяў не маючы, будзе моцна запалонены чалавечымі. А я тады спытаў:

— Навошта цмока шукае чалавечага сэрца?

— Не думай пра тое! — працокала сярдзіта. — Твайго сэрца надоўга не забярэ!

— Адкуль ведаеш тое?

— А ведаю, што баіцца цмока аднаго позірку Жывы-Жывены...

Адно трэба яе адзіны позірк спаткаць... Жадаць таго моцна-моцна, каб памятала пра гэта нават цмокава сэрца. Побач з Жывай хоць як аказацца — і зноў стацца сабою! Тады зноў стануся сабою, як ацішу палкі нябесны гнеў, якім створаны цуда-юда. Адно ва ўсё гэта трэба паверыць... Вось цяпер і паверыць!

— Цок-цок, — скачаш з галіны на галіну. — Свет за гэта паверыць у цябе. А ты ж — смелы абаронца! Што з таго, як да цуды-юды трошкі падобны...

Што з таго! Хапаю за вушкі ўвішную разумніцу.

— А ведаеш, што цмока робіць з хітрымі вавёрыцамі?

— Песціць? — упэўнена зіркаеш чорнымі вачанятамі.

— Не!

— Песціць і цешыцца? — задаволена круціш хвосцікам.

— Не!

— Арэхі падносіць? — удала шчырае здзіўленне.

— Не! Знаходзіць цябе ў любым абліччы, Жыва-Жывена. І скажы мне яшчэ раз, што не хочаш дужацца з сястрою...

Не сказала таго. Не спалохалася мяне. Адно спытала, як жа, цмока злы ды пракляты, я здагадаўся... Няўжо Баян мне падказаў...

— А Баян так за цябе сумаваў! Як не за тую далёкую Жывену, што зямлю ўсю жывіць, як за блізкую ды родную, дзеля якой — усе песні...

— Не дарую яму!

— Мне падаруй зноў стацца сабою! Вярні маё чалавечае сэрца, як абяцала. Не хачу быці праклятым! Паглядзі на мяне — і пабачыш, як не надта і злы...

— Не вярну табе нічога, а яшчэ пакараю!

Цок... Пакараеш! За што? За якую віну змусіш біцца з Карнай супраць маёй волі! Пачуй мяне, Вялесе, прашу ў цябе міру, усёй сваёю цмокавай душой цягнуся да згоды! Не жадаю біцца... Я гневам нябесным створаны, але ж сам не гнеўны. Да славы ані прагны... Ані Жывене, ані Жэлі, ані Карне слугаваць не буду. І няхай паверыць у мяне свет...

— Свет няхутка паверыць табе! Не захоча блаславіць! — далятае з-пад зямлі Вялесаў голас. — І не кліч мяне болей, братава страхаццё!

— Разам пройдзем праз агонь! Праз самую жорсткую сечу, у якой — пераможам! Ты дарэмна не хочаш біцца, — глядзіш ласкава, Пяруне, кажаш, як роўнаму, а ў вачах тваіх палымнеюць яскаркі пагарды. — І ты дарэмна просіш спагады ў майго брата...

Пра твайго брата ўжо зразумеў. І не трэба мне казаць, чаму родны не жадае міру з табою, хоць і гняўлівым, але ж справядлівым. Нябесным. Светлым. А ты ж сам да бойкі з гэтым падземным, цёмным зусім не горнешся, не... Адно брату з лепшых пачуццяў даказваеш, хто з вас галоўны... Дык што паробіш, як нялёгка скарыць такога ўпартага. І зноў клічаш за сабою ў бойку.

— Што ж гэта за цмока такі, які баіцца сечы? — як быццам і не мяне дакараеш, а ў неба проста пытаешся.

Маўчыць табе высокае, сіняе. А я ж баюся... Цуда-юда не ведаў сполаху, як меч ніколі не баяўся крыві. А смяротны, чыё сэрца цяпер б'ецца гучна, з прыстукам, лёгка выйшаў насустрач... Ніводзін не палахлівы, а чаму ж цяпер баюся?

Баюся Дняпра Славуціча! Чую спеўны плёскат ягоны:

— Хлопча мой мілы, што ж ты нарабіў! Спляжыў сваё жыццё, спапяліў сваю славу! Успомні, як прагнуў вады маёй выпіць, згадай, як марыў стацца слаўным... Што ж цяпер з табою... Волі сваёй не маеш! Літасці ў сэрцы не маеш! Стаўся нябесным гневам, які крыламі ганіць попел! Да сечы агнёвай ляціш, і не спыніць ужо цябе... Не пайшоў са мною ў вялікі свет, каб радавацца самому ды радаваць іншых!

А на яве грукоча нехта перуністымі сполахамі:

— Цмока паганы, нявартны, які анічога зрабіць не можа! Нават смяротнае сэрца праглынуць як след! Жыва слабая з цябе як хоча, так і здзекуецца! Нават брат мой ціхі табою пагарджае... Навошта зусім такі?

А з плёскатам зноў далятае:

— Гайдаў бы твой лёгкі човен, мілы ды плыткі. Нёс бы яго за сінія далечы, за прыгожыя краявіды! Ты ці зведаў дзівосы тыя? Ты ці бачыў нечуваныя цуды, што за маёй вадою? А ты б нёс маю песню ў сэрцы сваім... Так разам і доўжылі б жыццё, бераглі яго чуйна... Ты ж пакінуў мяне ў адзіноце. Ты ж пакінуў мяне ў смутку, быццам абяцанак даўні на радасць помслівай Жэлі спраўдзіў...

З'ядаюць ціхі плёскат словы перуністыя, прагна скачуць маланкамі:

— Ды каму ты патрэбны? Хадзіў па свеце ды Жэлі баяўся, юда страхатлівы. Нейкія гарады парабіў, а каму і навошта? Згараць яны ў полымі нібы лучынкі! З чым застанешся? Прагна волі шукаў! Дык будзе табе воля! Будзе воля мая раз і назаўжды! А іншага ты нявартаы!

Не чапай волі маёй, перуністы ды ганарысты. Не цябе я слухаю! Не да цябе іду... А да хваль высокіх, сініх, што клічуць мяне ласкава. Просяць шчыра прыняць ды ім слугаваць. Буду слугаваць! Буду несці вашу песню ў сваім сэрцы... Моцна жадаю пабачыць нечуваныя цуды за тваёй вадою, Дняпро Славуціч!

— І чаго ты Дняпра Славуціча роднага так баяўся? — пытаецца ў мяне грымотны голас.

Маўчу табе. Цмокі не ведаюць страху, а і смяротны той смелы-смелы... Ці да скону толькі?

— Ці да скону свайго ты застанешся смелым? — пытаюцца ў мяне сінія хвалі грымотным голасам, як быццам ты, перуністы, пытаешся. — Няма цмоку скону...

Маўчу вам. Пра скон зусім не думаю. А мрояй светлай лячу да волі, да песні, да цуду. Да сіняй вады. Да цябе, мой родны Дняпро Славуціч!

Да хваль тваіх спеўных спяшаюся спорай хадою. Трывожуся. Спадзяюся... Ухаладзелыя аж занадта, ды патрываю тое я, цмока, злы цуда-юда... Можа, не зусім яшчэ пракляты. Залі, залі мой агонь, чарадзейная дняпроўская вада!

Кажаш ціха нешта даўно чутае ды рознымі галасамі:

— Чалавечае сэрца забраў, як смяротнага на бойку выклікаў. Не адчуваеш хіба, як б'ецца моцнае чалавечае сэрца?

— Цуда-юда той нябесным гневам створаны. Ацішыш палкі, агнёвы — і ён сам знікне, быццам не было зусім...

— Адно здагадацца трэба, як агнёвы ды вадою заліць...

— Пра чыю ж гэта страту ты цяпер плачаш? За каго пускаеш крыштальную слязу?

— За цябе, які насмеліўся падужацца з Карнай... Цяжкі твой лёс!

Моцна спалохаўшыся, клічу, клічу цябе, Дняпро Славуціч! Адгукаецца мне ласкава сіняя вада... Зусім не сіняя. Балючая... Злая...

Абдымаеш мяне, Пяруне. І як жа гэта патрапіў да цябе...

— Хлопча мой мілы, што ж ты нарабіў! Не жадаеш агню... Не горнешся да сечы... Спляжыў сваё жыццё, спапяліў сваю славу! Нават стацца нябесным гневам не здолеў! Ад мяне што сілы ўцякаеш!

— А як жа гэта патрапіў да цябе?

Маўчыць мне Пярун. Доўга маўчыць...

— Дык ці патрэбны ты, страхатлівы? Нявартаы! Пагарджаны! Заліся вадою зусім! Навошта свету такі...

А ты, мудры Траяне, з вяшчунным Баянам побач стаіш! Зусім не чарадзейны, такі просты... І мяне клічаш! Просіш стаць побач з вамі трэцім. Не хачу да

вас... Не час мне яшчэ ўпрочкі пайсці... Яшчэ па зямлі не набегаўся. Няхай сабе і ў воўчым абліччы!

Поўсць ад снегу белага атрасаючы, поўсць ад улеўных дажджоў ратуючы, пушчы цёмныя мінаючы, сляды глыбокія пакідаючы, з моцы ўсёй вам крычу, каб заставаліся самі сабою. Адны, без мяне!

— Ідзі да нас! Хітры, увішны, спрытны...

— А мне і самому добра!

Чаму ж не... Сонейка яснае мяне шчыра клікала, радасць светлую абяцала. Што з тае радасці? Не адгукнуўся яму... А сонейка абяцала мне цэлы век, слаўны, доўгі-доўгі! Клікала мяне прачула і ты, Жыва-жывіца, самая моцная сястрыца, бо што ж мацней за жыццё? Сястру тваю, Карну, як быццам зусім прагнаў. Няхай ведае злых цмокаў... А ты, Жывена, абяцала мне цэлы век! Пражыць цэлае жыццё з табою! Пражыць цэлае жыццё з сонцам!

— Пражыві цэлы век са мною! — гэта Траян гукае абяцальна.

— Цэлы век буду славіць цябе! — гэта Баян голас падае.

Цэлы век слухаць песню тваю — гэта доўга... Вушы мае чуйныя, ваўчыныя моцна стомяцца. Ды, можа, як абыдуся і без таго. Што яшчэ трэба, калі свеціць мне ноч ясным сонейкам... Сузіраю зямлю прыжмураным вокам нізкага веташка. Бягу лясамі, бягу палеткамі, скачу лёгка праз плыткія рэкі. Не так сабе хутка бягу! Ганю прэч цябе, худая аж кашчавая, жаласная, вечна слязьмі залітая... Вyю радасна, гучна, вітальна. А ты ж як дужая ўцякаеш ад мяне!

Заганю цябе ў хамут! Заганю, каб маёй злой радасці моцна баялася...

— Ты злы?! — пытаецца ў мяне Жывена тваім голасам, Траяне. — Навошта зрабіўся злым?

Я воўчы. Зрабіўся такім, як падманула мяне яснае сонейка. Зрабіўся такім, як пакінуў мяне Дняпро Славуціч. І нават Пярун аблічча сваё гняўлівае ад мяне адвярнуў...

— А хіба лёгка тым, хто шлях мне перабягае? — сонцавым голасам прамаўляеш мне, Траяне.

Чаго гнявіцца... Чаго мне гнявіцца, калі стаў воўчым з волі сваёй. Дзіва сапраўднае ўчыніў! А як жа... Вушы воўчыя, што і дзе на свеце белым робіцца, чуйна слухаюць. Вочы воўчыя, што і дзе на свеце белым робіцца, сузіраюць пранікліва. Сэрца чалавечае... Сэрца чалавечае без літасці і спагады... Што мне лясы. Што мне палеткі. Што мне плыткія рэкі! Галаву ваўчыную ўгару — і носам цікаўна сіненькі веташок кратаю! І праглыну! Ці такі смачны, як прыгожы...

— Не еш мяне, воўча! — просіцца веташок. — Я тваім вокам пільным стануся! Буду на зямлю пазіраць, а ты будзеш усё тое бачыць!

— А праглыні веташок! — радзіш мне, Траяне. — Хітры, увішны, станься магутным Дзівам ды будзь з намі трэцім!

— Дзіва зрабі! — адгукаешся і ты, Баяне. — Паглядзімо, спрытны, ці зусім у цябе няма чалавечага сэрца...

Чалавечае сэрца? Было некалі... Аддаў яго Славуцічу, самаму лепшаму, самаму плыткаму, ды не зраўняўся з ім.

— Аддаў сваё сэрца цмоку! Бачым, што не сквапны...

Не хачу быці цмокам! Чуеце, не хачу! Не прасіце мяне стаць побач з вамі трэцім. Не змушайце мяне сваёй воляй...

— Не хочаш цмокам — не будзь! — лёгка кажаце згоду. — А Дзівам будзь! Несмяротным зробішся! Ці ж мала сем вякоў пражыць?

І яшчэ абяцаеце падараваць мне чары. Не будзе тады роўнага мне... А недаверліва пытаюся ў вас, за што ж звалілася багацце такое...

— За тое, што Жэлю адолеў! За тое, што Карну прагнаў!

Мабыць, зрабіўся Дзівам. І прыйшлі да мяне чары, і азірнуўся на мяне свет. І тады я ўспомніў пра Карну... Змагаўся з ёю. А ці прагнаў?

Не буду вас дзівіці. Нельга Карну прагнаць. Нельга перамагчы...

— Па-добраму пойдзем са мною! — усміхаецца мне дзяўчына, сінявокая, чарнабровая. Прыгожая. На Жыву падобная. На сваю родную сястру.

— Ты ж людзям суд судзіў, князям гарады дзяліў. І дапаможаш мне, і падкажаш!

Як прачынаецца мая чалавечая памяць. Хочацца сказаць, што каб суд які судзіць, трэба мець літасць у сэрцы. Ты ж, волі сваёй не хаваючы, збіраешся не дараваць, а толькі караць... Дык якім жа будзе твой суд... Але ж успамінаю, што і сам часам судзіў зусім не літасціва. Цяпер жа і сэрца сваё чалавечае згубіў, якое спачуваць магло, свет радаваць, дабрыню казаць.

— А пайду з табою! Смяяцца навучу, радавацца самой ды іншых радаваць! Забудзешся на сваю жорсткую прагу да кары...

І адказала прыгожая, гордая, адказала некаму, але ж не справядліваму мне:

— Вітаю цябе шчыра, Дняпро Славуціч! Як ведала, што будзе з табою цікава.

Мой Дняпро Славуціч... Калі і дзе ты сустракаў Карну? Як змагаўся з ёй? Мабыць, перамог. Каб жа ўведаць, што ёй цікава... А тая на мяне шчырым позіркам глядзіць, намеру свайго не хавае:

— Цікава мне бітва ратная, якой скоранька быці. Нячутка зямлёю іду, сабе найлепшы час выбіраю, а нейкіх позіркам пранíклівым выхопліваю! Вось цябе выхапіла.

— Падманулася, прыгожая. Мой шлях яшчэ здоўжыцца. Так мне сонейка абяцала.

— Значыць, з табою доўга будзе цікава... Дык падкажы, літасцівы. Сышліся ў бойцы два браты. Родныя. Ганарыстыя. І кожны другім пагарджае, і кожны сабе перамогі просіць. Крыўдаў даўніх, дарэмных, не прабачае. Каму ж мне паспрыяць?

— А нікому! Змусіць замірыцца Перуна і Вялеса.

— Тады сястра мая Жыва мяне ўпрочкі прагоніць!

— Не жадаеш таго?

— Не пытайся пра такое. Каму ж гэта не хочацца па зямлі як болей пахадзіць...

Сляды за сабой пакідаць, з якіх жальба вялікая паўстае. Па-добраму з табою пайду. Буду радзіць. Буду нагадваць табе пра літасць. Хачу, каб забылася на сваю жорсткую прагу да кары.

— Карна, а калі Славуціч перамог цябе?

Засмяялася грамаўнічным роскатам, якой разгараецца самая лютая сеча:

— А хто ж гэта спадзяецца, што Славуціч хоць калі-небудзь мяне пераможа?

А ці доўга, а ці мала ішлі, ды зразумеў я, што тры сястры свет у руках трымаюць, яму дыхнуць без волі сваёй не дазваляюць. Першай Жыва неадступная ідзе. Дзе яна, старэйшая, пройдзе, там жыццё родзіць. Свет пачынаецца, трымціць трапяткім спадзяваннем на шчасце. Упарціцца, нягодзе не скараецца, змагаецца... Пакуль ты, малодшая сястра, не прыйдзеш. Гожая, ад таго яшчэ болей жорсткая. Да бітвы ратнай хуткая...

— Славуціч, — настойліва клічаш мяне чужым імем. — А якая яна, жорсткасць?

Вось чаго табе цікава са мною. Але як паказаць жорсткасць, калі ж ты ніколі не бачыла дабрыні? Не ведаю. Дык прымі просты адказ:

— Гэта кожны твой след... Як ёсць. Не дзівіся.

— Кожны след... Гэта нават сумна. А хто мне радасць абяцаў? — усміхаешся аднымі вуснамі.

А трэцяя вашая сястра, наймалодшая, у твае сляды трапна ступае. Ідзебрыдзе, кіпцюрамі вострымі паблісківаючы. Як знаёмы з ёю добра, дык і сустракаць болей не хачу. Ды і з табою, Карна, ісці ўжо трошкі стаміўся...

— Слабы. А смяяцца навучыць, радавацца самой ды радаваць іншых?

Зноў усміхаешся вуснамі, а вочы халодныя.

— Абяцанні свае не праўдзіш. Глядзі, Славуціч, хоць я і жорсткая, але ж вясёлая. Сама смяяцца ўмею. А ўжо іншых радаваць... Глядзі на радасць маю, на прыгажосць маю!

Гляджу. Бачу пакатыя доўгія берагі. Такімі б лёгка бегчы разам з Дняпром Славуцічам...

— Глядзі, сінявокі. Сіняводны. Ці добра ўквеціла наш з табою шлях? Гайдай човен, мілы ды плыткі! Нясі песню ў сэрцы сваім!

А ўквечаны тыя берагі...

— Чаго ж мяне Славуцічам завеш? Ведаеш жа праўду... Не Дняпро я!

Уквечаны пакатыя берагі. Засеяны доўгія берагі...

— Плыві, плыві далёка, Славуціч! Радуйся сам ды радуй іншых!

А засеяны тыя берагі...

— Калі ты гэта зрабіла... Як паспела? Я ж поруч з табою ішоў... На цябе глядзеў!

— На мяне глядзеў. Поруч са мною ішоў нібы роўны... За тое праўду скажу табе: гэта не я зрабіла. Гэта ж ты! Як са мною ісці па-добраму пагадзіўся...

А засеяны тыя пакатыя берагі...

— Што зноўку не пытаешся, чаму Славуцічам цябе называю? Глядзіш, маўчыш. Сам разумееш, што вечнай быці славе тваёй! Аніяк не згаснуць... Упрочкі не пайсці! Дык ці добранька пацешыла цябе?

А засеяны тыя берагі касцямі сыноў рускіх...

— Хораша свеціш, яснае, прыўкраснае... Ласкава ззяеш і на тым свеце! Ці ўжо на гэтым?

— На гэтым. Але для цябе — на тым! — мовіць мне сонейка Вялесавым голасам.

— Ты, Вялесе? Братавым страхаццём мяне назваў. Чаго ж са мною гаворыш?

— А ўнукавы словы табе перадаю... Слухай чуйна! Са свету белага ляціць сюды твая песня.

Слухаю. Голас мілы зямлёю ідзе:

*«Усяслаў-князь людзям суды судзіў.*

*Князям гарады дзяліў!»*

І многа пакрыўджаных было. І князёў, і людзей... Праўда-праўда. Адкуль ведаю пра гэта? І яшчэ слухаю, як гул несціханы зямлёю ідзе. Бомкаюць шчымліва званы. Быццам пад зямлю праваліліся... Адкуль яны тут, Вялесе?

*«Пазвоняць у званы ў святое Сафіі,*

*А ён той звон пачуе ў Кіеве!»*

А я той звон пачую ў Кіеве... Пэўна ведаю, што некалі чуў! Калі?

— Слухай, братава страхаццё. Карна недаравальная цябе сваім зрабіці пажадала. Сілы табе дадала... І што з таго, як прагнеш ты памерці? Усё роўна яе служкам будзеш! Дзеля ўнука майго вяшчуннага, які моцна ў цябе верыць, кажу пра гэта...

Касцяныя берагі. Жорсткія словы. Агнёвыя вочы... Калі тое было?

Ці ж гэта я паглядзеў на веташок... Нізкі, прызрысты, сіні. Смачны. І зусім па-ваўчынаму аблізнуўся...

— Ох, воўча! Аблізваешся, а зусім не ведаеш... — засмуткаваў веташок, аж цмяна заірдзіўся.

Вуў! Так не хочаш да мяне ў пашчу, што нешта таемнае казаць гатовы? Няхай сабе. Дзейкай хоць колькі, але ж спакуслівы занадта! Смачна аблізнуў пакуль што ўласны нос. Кажы-кажы, куды ад мяне падзенешся...

— Ох! Воўча! — зацягнуў зусім жалліва. — Не ведаеш, як сышліся на ростанях Жывена, Карна ды Жэля! Сустрэліся ды пра цябе змовіліся. Я адзін тое з неба пабачыў...

Цьмяны. На прыдумкі хвацкі. Што ж, перш чым з'есці — выслухаю цябе. Гэта нават цікава...

— Жывена абяцала, што адужаеш ты цмока. Карна прадказала, што выйдзеш з таго свету, чаго і веднаму чарадзею пакуль што не ўдавалася...

— А Жэля? — як быццам цікаўна варухнуў хвастом, але не забываю сачыць, каб у хмару не загарнуўся, ад мяне збегчы не наважыўся.

— А Жэля тады сказала, што яна аб цябе кіпцюры свае зломіць!

— Яшчэ чаго не хапала!

Чмыхнуў проста на веташок, нібы зусім наважыўся разявіць пашчу. Задрыжэў цьмяненькі, як быццам вось-вось на зямлю сам зваліцца.

— А яшчэ ж смяяліся з цябе! Радаваліся, што слабы занадта, хоць і з вялікім лёсам!

— Гэта яны дарма!

Пачухаў лапай за вухам. Разявіў пашчу, каб прымерацца, як найлепей глынуць...

— Не еш мяне, воўча! — просіць слёзна, аж зоркі вакол спачувальна пабліскваюць.

Не сумуйце, з'ямо і вас усіх. Але ж дзеля справядлівасці пытаюся:

— Чаму гэта цябе не есці?

— А як тады будзеш на зямлю глядзець?

— Кажаш, не буду ведаць, куды ад прыкрасці падзецца...

— Кажу, што не будзе тады майго прыжмуранага вока, якое ўсё чыста бачыць...

— А што будзе?

— Ты будзеш! Дзівам магутным, якому спачуванне без патрэбы!

Спачуванне без патрэбы... А табе спачуванне трэба? І нудзіш, і жалішся, і просішся... Надакучыў, а ніяк не сціхнеш. Плач твой у вушах стаіць! З'ем, каб неваждацца залішне. А ты зноўку змаўчаць не можаш, а жальбу тваю не прысароміць:

— Дзівам магутным, усяведным, усямудрым, якому чалавечнасць і зусім без патрэбы...

Вось зараз жа ідзі да мяне ў пашчу! Не плач! Не круціся! Не хавайся!

— Ох, воўча! — мовіш ды зверху ўніз пазіраеш на мяне і проста, і спагадна.

Вуў! Ужо з'едзены, такі саладзенькі! Бы лужыну малака, паціху злізваю твой тварык языком. Пакуль не станчэў увесь, зноўку мне шэпчаш даверліва:

— А Жывена, Карна і Жэля казалі, што глынеш мяне разам з людскасцю...

Здзіўляюся. Супыняюся.

— І тады, калі так учыніцца, яны ўтрох з'явяцца да цябе! За табою...

Дык за мною ці да мяне? Занепакоіўшыся, я азірнуўся. Ад лесу цёмнага вялікі цень засцілаў палі ды ўзгоркі. Краўся Жэлінай хадою, шаптаў радасна з начным шолахам, што ў людскі свет лёгка патрапіць...

Выбліснуў ты, цьмяненькі, зусім слабенькі — і згубіўся цень. Тады з левага боку падступілася адна такая, уладная, да бітвы ахвочая. Не пайшоў гэтым

разам з ёю. Не зазвінела дзесьці жорсткая сеча... Прыгожыя квяцістыя берагі. Няхай сеецца на іх адно жыта. Жыта, яно нібы жыццё...

Са сваім пагрозлівым позіркам адступіла назад. Пачакай, узрадую цябе. Узрадую цябе добра тады, як заміру Перуна ды Вялеса...

— Як зробіш тое? — падступілася з правага боку Жывена.

— Ужо зрабіў!

— Добры ты! — азываешся мне, пачынальніца жыцця.

— Хітры, увішны, спрытны! — адказваю, як і не пра сябе. Пра добрага не азываюся.

— Добры... — цягне вусцішна Вялес з-пад зямлі. — Мяне без анічога пакінуў!

— Добры... — грымліва адгукаецца Пярун з-пад неба. — Мяне без анічога пакінуў!

І сумуюць багі. Крыўдуюць на мяне недаравальна. Адзін з-за страчаных багаццяў, якія ў бойцы ўсе спляжыў. Другі з-за грымлівай зброі, якую дзесьці ў бітве і згубіў. Вінавацяць, што дарункаў іхніх, якіх не прасіў, вярнуць няма як.

— А няма чаго гуза шукаць, — кажу без шкадобы. Хто я такі, каб багам патрабавальна радзіць? Просты, дасціпны. Той, каго ледзьве ўшчэнт не здраталі гэтыя багі.

Добра, што засталася песня. Быццам з ёю і лячу над зямлёю высока, сам прачулы, сам звонкі. Свету крыўду сваю кажу. Чаму крыўду? А пачуваю сябе зброяй, загартаванай, халоднай, — і баюся... Але ж пострах свой хаваю, хаваю. Не хочацца як ёсць прызнаць, што я не ўвішны. Я не спрытны.

— Мірыцеся цяпер, слабыя несмяротныя! Біцца ўжо не зможаце...

— Спрытны!

А на вас падобны. У цябе, Вялесе, навучыўся чуласці. У цябе ж, Пяруне, спагадзе.

Не жадаю з вамі, такімі шаноўнымі, быці. Збягаю ваўчынымі нагамі ў цёмную ноч. На веташок гляджу пранікліва, прачула... Сузіраю зямлю ягоным прыжмураным вокам. Спяшаюся лясамі. Спяшаюся палеткамі. Куды? Лёгка скачучы праз плыткія рэкі, шчыра жадаю абагнаць такі знаёмы голас:

— Волі нашай не мінуць!

Твой, Вялесе. Твой, Пяруне. Жадаю зрабіць сказанае нясказаным. Спраўджанае — няспраўджаным...

Дацягнуся да прасіняга веташка пашчай ды грызяну ладны кавалак. Праглыну ўраз!

Добры я. Хітры. Спрытны. А цяпер яшчэ і магутны... Хто ж там з мяне здзекаваўся? Пагарджаў. Зневажаў.

Той, хто мяне, Дзіва, прыязна вітае...

— Ізноў мы сустрэліся! — схіляешся да мяне, Дняпро Славуціч.

Як быццам патанаю ў тваіх бяздонна сініх вачах. І я б з табою павітаўся, адкрыта, сардэчна, калі б не трэба ламіць крутыя жалезныя берагі. Халодныя, нібы шалом, загартаваны ў лютых сечах. Шалом? Ты трымаеш мяне ў палоне, Дняпро Славуціч. Прагнеш выпіць. Прагнеш стацца слаўным.

— Зусім як ты! — вяртаеш памяць да асновы.

Але пра што так пранікліва кажаш? Ведаеш, як моцна-моцна жадаю ўдацца сінню тваіх чалавечых вачэй. Пайсці простай хадою. Сузіраць усю-ўсю зямлю. Вырвацца са збройнага шалома...

Схіліся да маёй вады, чарамі спавіты. Абяцаю табе звонкую неўміручую песню. Хвалі мае зычна плёхаюць, самі за гуслямі Баянавымі гоняцца. А песню сабраў з усяго свету...

— Ты мяне зрабіў у сем разоў дужэйшым! — дзякуеш проста, Славуціч. — Зрабіў сваёй прагай, сваёй непакорай. І расчараваннем, што гарчэй ад слёз. Многа іх сабраў, як і зімаў, як і летаў. Ты ці думаў калі, чаму мае воды роўныя з берагамі? Ты не першы, хто панёс маю сінечу ў сэрцы. Але ты першы, хто вярнуўся да мяне...

Вярнуўся табою. Зрабіўся табою. Куды ж мне без цябе...

Паплывём разам у прыгожы далёкі свет. Спазнаем дарэшты мілы і шчыры. Знойдзем самую чароўную таямніцу... Тады пайду чалавечай хадою. Дакрануся чалавечай рукою. Да чаго? А ты ад мяне куды?

— Чаўны незлічоныя цягні! Берагі высокія выгінай. І чакай доўга, чакай упарта спраў маіх слаўных...

Буду чакаць тваёй перамогі над прагавітай Карнай. Маёй перамогі? Ці ўсё ж тваёй...

— Гэта ж хітры, спрытны, дасціпны, — ляціць па-над светам Траянаў голас.

Мала зважаю на тое. Чаўны ды ладдзі цяжкія цягну, хваляй халоднай умываюся ад стомы. Але і хваля цяплее ад ладнай працы. Шчымлівай працы. Штодзённай працы... Хітрых не вітаю, хітрых не паважаю. Нехта там спрытны? Рады за яго. І дасціпны справу сабе знойдзе.

— Волю боскую перайначыў! — ці мне падаецца, ці чую трошкі павагі ў тваім голасе.

Неспатольна мне. Не час з табою размовамі бавіцца. Трэба крыгі халодныя крышыць ды разганяць. Вясну на плячах як хутчэй прынесці. Мілыя берагі маёй вады чакаюць... Уквеціць іх шчыра жадаю! Прыгнаць з чаўнамі светлую надзею, каб усцешна было...

— Хітры, спрытны, дасціпны выбавіцца з палону!

— Якога палону? — усё ж рашаюся спытаць.

— Ты ведаеш...

Ведаю. Прасторамі разбягаюся. Мінаю вёскі. Мінаю вёрсты. Збіраю зімы. Збіраю леты. Хто гэта магутнейшы за мяне?

— Глядзі! Ідзе да цябе хлопчык малы! Ці будзеш трымаць яго за руку? — азываешся нечакана, Траяне, бо я на цябе амаль забыўся.

— Ці ж сумняваешся, што верна панясе тваю сінечу ў сваім сэрцы? — мовіш маю думку, хоць і не прасіў цябе.

Нічога не адкажу, і не чакай. Амаль гнеўна ўскінуся сіняй хваляй. Заплёхаю звонка, нязгодна. За тое, што не буду трымаць малога за руку. За тое, што адчайна шкадую. За тое, што смуткую. Зусім не сумняваюся, што верна панясе маю сінечу ў сваім сэрцы.

— Выбавіцца так з палону не спрытна, не дасціпна, — кажу не табе, Траяне, а ты смяешся з мяне. Маўляў, магутным Дзівам стаў, але сам занадта просты.

Усё пра мяне ведаеш... Навылёт бачыш. І не радзіш. Не дакараеш. Але праз зімы ды леты ляціць твой прарочы голас:

— Хітры, спрытны, дасціпны выбавіўся з палону!

— А ты не хацеў яго благаслаўляць! — чую папрок няветлы. — Глядзі!

Твой, Баяне. І гляджу, як ты загадаў. На сумленнага, шчырага, мілага... Не ведаю, якога яшчэ...

— Дарослы ўжо. І моцна цягнецца да спраў слаўных.

Дарослы, а на мяне падобны, хочаш даказаць. Хочаш высока ўзнесці яго ў славе. Табе ж, Баяне, абы спяваць... А я думаю пра тое, што падобны, значыць, прагавіты...

— Спляжыў Славуціч тваю прагавітасць! І ты пачакай, пакуль схіліцца да тваёй вады — і ўдайся сінню чалавечых вачэй... Чаго табе губляць?

Не губляць. Яшчэ адзін век пражыць. З вамі, вечнымі, несмяротнымі. Вы ж клікалі мяне да сябе... А ты, Баяне, абяцаў мяне славіць... Толькі не сказаў, навошта...

— Не пайду да вас!

— Стаўся магутным Дзівам! Куды ж табе яшчэ? — даводзіш, нібы малому.

— Выбавіўся з палону. Чыйго? Вашага!

Стаўся магутным Дзівам. Няма роўнага мне... Ці чуеш слова маё, Дняпро Славуціч? Ці спраўдзіш волю маю...

Хітры. Увішны. Спрытны. І дзіва жадаю ўчыніць... Адно-адзінае, але ж моцнае:

— Вярніся, веташок! Станься прыгожай поўняй!

— Радуешся? — спытала сонца адным толькі праменьчыкам. — Сказанае ды нясказаным зрабіў! Веташок не чапаў аніколі... Не еў! Не глытаў!

«З чаго мне радавацца за простую справу? Звычайную справу... Ну, можа, і не зусім. Але ж такую чаканую, тое праўда», — хацеў запярэчыць, але не змог. Мовіць сонейку можа толькі смяротны...

— І Дзівам не рабіўся! А сказаць мне слоўца ці здолееш?

Як быццам не ведаеш! А калі шлях табе перасягнуў, ці памятаеш, пасварыўся з табою.

— Не сварыўся, пра літасць прасіў!

Вось як табе падалося. Цікава...

— Не дакарай мяне, воўча. Зусім ты мала прасіў спагады. З цудам-юдам падужацца быў нават і рады. Славы сабе шукаў, а пашаны ані казаў...

Дык ты, яснае, само прасіла перабегчы табе шлях, каб выпрабаваць мяне, такога слаўнага, на пашаноту... Не веру табе. Не веру, калі памятаю, як ноччу цёмнай іду... Крок ступлю — лес міну. Яшчэ адзін зраблю — палетак за спіною пакіну. Цераз раку нібы праз ручай... Хутка табе, яснае, уставаць і маімі слядамі ісці.

Ты ж само і прызналася тады:

— Твае вялікія сляды на зямлі бачу.

«Вялікія», — падумалася з нечага. У кожным следзе можна лёгка схавацца. «А хто ж ніколі не схаваецца?» — думаецца цяпер. Той, хто правіць світальны баль па-над светам. Разумею, няможна табе. І з нечага думаю пра поўню, пра веташок...

Ці праўда, што ў пачатку свету поўня была сонцам? Малодшым за цябе... Не, старэйшым! Два сонцы ў небе свяцілі, ноч на зямлю не пускаючы. Але ж прыляцеў цуда-юда і з аднаго сонейка агонь нібы ваду пацягнуў... Цмяным яно ўраз зрабілася, слабым. Не здолела свяціць ды з крыўды тае веташком стала.

І хто цяпер баіцца стаць слабым? Хто, такі палахлівы, роднага веташочка не шкадуе... Не жадае сустрэцца з ваўчынай пашчай, дык і шлях прасіў перабегчы... Бо хто ж аднойчы пераможанага яшчэ раз зачэпіць?

— Той, хто сумлення не мае! А ў цябе ж сумленне ёсць. Хоць і няма пашаноты...

Угадваеш, сонейка, таемную думку. Дык дзякую табе за літасць...

— А ты і сам здагадлівы! Хоць і несмяротны, але ж чуйны па-чалавечы...

Дзякую табе за літасць, што думку таемную ўгадала, веташок на поўню адвярнула. Сказанае ды нясказаным зрабіла. І Дзівам магутным я не быў...

— Няма чаго дзівіцца. Ты ж прасіў спагады... А за несмяротнасць сваю чалавечую пытайся ў Траяна!

— А мілае сонейка яснае... Літасць падаравала ды небыццём пакарала. Да Траяна ісці наказала! — не паспеў так падумаць, як паскакала па высокім дрэве жыцця рыжая вавёрка.

Нечая думка. Чыя?

— Пакарала няпамяццю! — гэта ж ты, Баяне, падаеш ціхі голас пад увішнае цоканне.

Праганяе няпамяць песня твая... А высока ўзнясі ў славе не мяне, зусім не мяне...

— Не цябе! Дняпра Славуціча!

Славуціча. Кім бы ён ні быў... Вось гэтым, маладым, з цяжкім шаломам. Гэты пільна ўзіраецца. Вагаецца. А болей за ўсё баіцца выпусціць... Нясцерпна жадае стаць самым слаўным, не палохаецца, што і лёс будзе цяжкім. Не ведае, што яно такое.

— Благаславі яго! — зычліва просіш, вяшчунны.

Калі так зраблю, ты скочыш рыжай вавёркай. Заспяшаешся ў свет таропка. І песняй сваёй няпамяць праганяць не будзеш! Забудзеш...

— А ўсё роўна так зраблю! Хто сказаў табе, што, зусім унучак, слухаюся безадмоўна дзедавага слова?

Я сам сіні Дняпро Славуціч. Несмяротны... Чыю думку спаткаў? Чыю волю спраўдзіў? Чый лёс перайначыў... Гэта я сабраў вялікую смагу зямную і трымаю ў руках глыбокі, бяздонны сіні свет. Сам неспатольны, баюся пазбыцца свету. А болей за ўсё спяшаюся, болей за ўсё прагну наталіць вялікую смагу. Не адно сваю...

Далёка ў вяках звініць слава.

— У нас няма літасці! — цвёрда мовіш, праніклівы Траяне. І я здзіўляюся тваёй цвёрдасці. Не ўпартасці, перакананасці. У чым...

Чаму ты з неспадзёўкі загаварыў пра літасць? Не ведаю. І ў каго ж гэта, у нас... Я ж не ваш! Не быў з вамі, ці памятаеш. І цяпер мяне побач з вамі няма!

Няма... А нехта прагне выпіць шаломам сіні свет. І мы стаім за гэтым прагным утрох, нябачныя, неадступныя. І цешыцца моцна чарадзейны Баян, і ўжо гатовы высока ўзнесці яго ў славе. Абыякава маўчыш, вячысты Траяне, за безліч стагоддзяў ці аднойчы сустракаў дапраўды слаўных...

— Дзёрзкіх, непакорлівых... Такіх, як ты!

А я? Ніхто. Зусім не боскі, ані колькі не вечны. Барукаюся з вашай воляй. Слухацца не люблю. Але ж і спытацца хачу: чаму гэта за вашае бясконцае несмяротнае жыццё вы не навучыліся літасці? Чаму...

Не спяваеш пра тое, Баяне. Нічога не мовіш, Траяне, і думаю я за цябе... Ці такі абыякавы? Ці такі праніклівы... Кім ты быў? Клікаў мяне, абяцаў цэлы век!

— Ты пражыў цэлы век з намі! — здаецца, я ўзгадаў цябе.

Ці гэта адкрылася вяшчуннае слова з Баянавай песні... Траян... Зусім не чарадзейны, такі просты. Нібы я сам сказаў пра век... Думаю цяпер, яшчэ трэба паабяцаць гэтаму прагнаму, вясёламу, неспатольнаму, што ён волі нашай не міне. А шкада мне Дняпра Славуціча. Добра ведаю, што няма такой смагі, якую б не здолеў наталіць... Але тое ўжо ягоная воля.

Смага нібы літасць... Не спрачаешся са мною? Маўчыш. А я думаю, што ўсё ж трэба благаславіць гэтага, мабыць, смелага абаронцу, які вось цяпер смяецца звонка. Прагне выпіць сіні свет, а сам шчаслівы, бо ў палоне вялікай надзеі. Не

ўтрымаў бы ў шаломе і Славуціча, калі б той не пажадаў... Проста ведаю гэта, як і тое, што заўтра ўзыдзе сонца.

А ты ж так чакаеш новага дня, неспатольны... І хітры. І спрытны. І дасціпны. Няхай сабе так. Адно не зайздросці смяротнай славе. І Карну задарма не кліч. У цябе адзін век. Вялікі, але ж адзін. У мяне не будзе літасці падараваць табе іншы... Няхай несмяротны і сем вякоў жыве. Толькі адзін з іх — сапраўдны. Той, які першы. Той, які смяротны...

І я здзіўляюся сваёй цвёрдасці. Не ўпартасці, перакананасці. Хто я? Абыякавы. Пранíклівы. Мабыць, у нечым мудры. Пагляджу на цябе, хітры, спрытны, дасціпны. Выпрабую. І зноў выпрабую. Хоць ведаю ўжо пэўна, што паклічу стаць трэцім...



# Юры Несцярэнка

**празаік, публіцыст, перакладчык, рок-музыка. Аўтар кнігі прозы «Звычайны шоу-бізнес» (2015 г.). Нарадзіўся ў 1965 годзе на Быхаўшчыне. Жыве ў Мінску.**

# Супадзенні

*Калі ў якой-небудзь краіне свету праходзяць вялікія мерапрыемствы дзяржаўнага ўзроўню, то, зразумела, выдатны настрой жыхароў гэтай краіны цалкам адпавядае маштабам задуманага свята. Адчуванне пэўнай узрушанасці і салодкага хвалявання супадае з прадчуваннем пераменаў і новых нечаканых сустрэч — напрыклад, як падчас карнавала ў Бразіліі. Альбо цягам выбараў у Беларусі. Можна было б прыраўняць да вышэй узгаданага якую-небудзь паездку Папы Рымскага ў Грузію ці, напрыклад, першы Актобер-фэст у Арабскіх Эміратах.*

## I

Пасярод нешырокай сталічнай вуліцы, дзе ў гэты час амаль не ездзяць машыны і зрэдку з'яўляюцца мінакі, раптам адкульсці з-за вугла старажытнага будынка вынырвае цыганка з залатым зубам у чорнай доўгай і шырокай спадніцы, з накінутай на плечы яркай каляровай хусткай і загадкава шэпча: «Ёсць адзін чалавек, ён вельмі добра гуляе, разумееш? Ён галоўны ў пэўных гульнях. Ніколі не гуляй з ім, чуеш?»

Белыя красоўкі, што выглядаюць з-пад джынсаў, спыняюцца, а капюшон шэрай байкі скідваецца на заплечнік, нібыта па звычцы чакаючы, што гаспадар зараз прадставіцца: «Лёха!» Але замест гэтага малады чалавек, па логіцы рэчаў — ад нечаканасці, — прамаўляе: «Якія гульні? З кім не гуляць?»

«Касацік, не задавай дурных пытанняў. Проста не гуляй і ўсё. Адно скажу — ён трэці па ліку. Другі — ён іншы! Ён з казёнными людзьмі ў казённы дом імкнецца. У яго дарога дальняя і турботы даўнія. А трэці — ён гуляе ў гульні. Запомні, касацік!» Цыганка пачынае кружыцца вакол Лёхі, спяваючы на цыганскай мове. Імгненна далучаецца другая цыганка, таксама з каляровай хусткай на плячах. Чарнявая жанчына з'явілася проста ніадкуль, узнікла, як кажуць, на роўным месцы. Потым аднекуль узялася трэцяя. Яны ствараюць столькі тлуму і мітусні, што здаецца — іх зусім не тры, а як мінімум, трынаццаць.

Цыганкі раствараюцца ў паветры гэтак жа хутка, як і матэрыялізаваліся некалькі хвілін таму. У раптоўна насталай цішыні, Лёха хутка падыходзіць да лавачкі пад вялікім дрэвам і абмацвае кішэні, правярае заплечнік. Дакументы, ключы, грошы на квіток дадому — усё на месцы. А вось пятнаццаць тысяч баксаў зніклі.

Лёхава сэрца затахкала, як басовы барабан Nickelback падчас саундчэку перад нядаўнім канцэртам. Ён яшчэ раз хуткімі рухамі нервова абмацвае ўсе кішэні. Збоку добра заўважна, што чалавек пад дрэвам спрабуе супакоіцца і засяродзіцца. Маўляў, так, — аднаўляем у памяці ход падзеяў: вось тут выходзіў з аўтобуса, нечакана ўбачыў столік з латарэйнымі квіткамі, яшчэ пажартаваў, што столік дакладна такі, як і ў пераходах метро. Прадавачка была такой мілай,

такой абаяльнай, што зараз у памяці яна малюецца не іначай, як сястрой міласэрнасці ў шырокіх чорных адзеннях да зямлі і з чорна-белым капялюшыкам на галаве: «Купіце латарэечку! Імгненны выйгрыш! Не пашкадуеце! Праверыць вынік можна адразу ж! Можна забраць грошыкі ў любым банку... »

Аднак непасрэдна той момант, калі набываў квіток, абсалютна сцёрся. Напэўна ж аддаваў нейкія капейкі, забіраў латарэйку, але нічога такога ў памяці не ўзнаўляецца. Толькі наступны фрагмент — прадавачка на бязлюдным прыпынку ў захапленні скача і пляскае ў ладкі: «Ваш нумар пачынаецца на тры сямёркі! Вы выйгралі аўтамабіль! Ён каштуе пятнаццаць тысяч!»...

Раптам над галавой, як грымоты пасярод яснага дня, гучыць сіплы бас: «Гражданін! Какіе праблемы?» Аграмадны чалавек у форме міліцыянта ўглядаецца ў заплечнік, што ляжыць на лавачцы. Лёха хуценька падхоплівае свае рэчы, накідвае лямкі на плечы і намагаецца сысці, не жадаючы пра штосьці размаўляць з волатам у форме. Але апошні мае іншае меркаванне, ён заступае Лёху шлях і даверліва падміргвае: «Наконт латарэйкі не хвалюйцеся — знойдзецца! У нас усё пад кантролем!»

## II

Не зважаючы на морась, Лёха шпарка крочыць па вуліцы ў бок аўтавакзала. Ён моцна злуецца ад сітуацыі, у якую патрапіў: «Вельмі паскудна пачуваешся ад таго, што ўсе навокал нешта ведаюць, валодаюць нейкай інфармацыяй, і толькі ты адзін не можаш нічога зразумець...»

У тыя часы аўтавакзал «Усход-Захад» яшчэ працуе ў звычайным рэжыме: другі паверх — касы, а на першым зала чакання. Тут жа кавярня, камеры захоўвання, аптэка, пункт абмену валюты, шапік з царкоўнай прадукцыяй — з сапраўднай манашкай у вакенцы. А яшчэ вельмі шмат сталоў і стэндаў з газетамі, часопісамі, папулярнымі кнігамі. І прадавачкі гэтай друкаванай прадукцыі — вельмі каларытныя, у спартовых касцюмах — дзяўчаткі і цётачкі.

А дата якая — 10 верасня! Панядзелак. То бок прэзідэнцкія выбары ў краіне ўжо адбыліся (учора), а вежам-блізнятам у Нью-Ёрку стаяць яшчэ цэлыя суткі. І вось, зайшоўшы ў будынак аўтавакзала, Лёха спрабуе разабрацца з уласным настроем: «Знаходзішся у нейкім ватным стане — ці то разгубленасці, ці то абыякавасці. Ці то гэта наступствы ад псіхалагічных перагрузак папярэдніх дзён, ці то прадчуванне чагосьці жудаснага наперадзе. Настрой паганы. Сталае адчуванне, што ў хуткім часе можаш патрапіць у якую-небудзь гісторыю. Але якую? Хіба толькі могуць затрымаць у любую хвіліну. У сэнсе пазбавіць свабоды. Сёння зранку афіцыйна абвесцілі, хто выйграў выбары, таму кажуць, што тых, хто ўдзельнічаў у перадвыбарнай кампаніі на іншым баку могуць проста схапіць прама на вуліцы. Хто абвінавачвае і ў чым віна іншых? Вось і спрабуеш разабрацца...»

Але прага да сапраўдных культурных здабыткаў радзімы пераадольвае пачуццё асцярожнасці і нязграбнай постаццю інтэлектуала выторкваецца над

ляжачым у балоце быта інстынктам самазахоўвання. Уладальнік складанай сістэмы інтэлектуальных прыкмет (чытай Лёха), з няшчасным відам ад таго, што схаваць гэтыя прыкметы немагчыма, абсалютна нечакана для самога сябе падыходзіць да прадавачкі за апошнім сталом і пытаецца: «Доўгая дарога дадому» Васіля Быкава ёсць?»

Лёха ўпэўнены, што ён зрабіў усё правільна: не прыцягваў увагі разявакаў (што гартаюць старонкі танных кніжак ды не дужа глянцавых часопісаў злева і справа ад яго), спытаўся нягучна, стаяў роўненька і сціпла. Але пасля яго пытання наступае такая цішыня вакол кніжнага стала, што Лёха пяць разоў пашкадаваў пра кола сваіх інтарэсаў. Час гэты, па сутнасці — імгненне, падаецца прыхільніку вялікіх айчынных дарог не тое што доўгім, а бясконцым.

А потым здараецца тое, што здараецца. Прадавачка некалькі секундаў углядаецца ў твар незвычайнага наведніка, ніяк не выражаючы сваіх патаемных эмоцый. Потым рэзка разварочваецца спінай і праз увесь аграмадны хол голасам, моц якога значна перавышае ўзровень гучнай вакзальнай сувязі, звяртаецца да калегі на іншым баку залы чакання: «Галя! У тебя «Долгая дорога до дома» Быкова есть?»

Гіпербалізаванае Лёхава мастацкае ўяўленне, пры істотна сапсаваных за апошні тыдзень нервах, імгненна малюе фатальную фантазію на тэму «Вылічэнне нацыянальна арыентаваных маргіналаў праз сферу іхнай цікавасці і пазначэнне спецыфічным аудыа-візуальным маркерам («Галя! У цябе тое ці іншае ёсць?») для аблягчэння іхняй ідэнтыфікацыі спецыяльна падрыхтаванымі назіральнікамі і далейшага адсочвання гэтых самых маргінальных суб'ектаў — як падазроных элементаў — якія апынуліся на вакзале сталіцы Рэспублікі з невядомымі мэтамі адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў.»

«Гэта паранойя!» — змагаецца за права існавання здаровы сэнс у адной палове Лёхавай галавы. «Не! Гэта — наша рэальнасць!» — упэўнена перамагае другая палова той самы сэнс.

Да рэальнасці тут жа схіляе і голас Галі, якая з іншага канца вялізнай залы грамавым голасам крычыць: «Валя! Не-а! «Долгой дороги» нету!»

«Можа я і памыляюся, можа гэта проста супадзенне? Чаму не дапусціць, што прадавачкі і сапраўды ведаюць пра такую кніжку?» Ветлівы і спакойны знешне, але надзвычайна напружаны ўнутры, Лёха развітваецца і пакідае зону кніжнага бізнэсу.

## III

Час да адпраўлення аўтобуса дае магчымасць на нейкі момант патрапіць у зону іншага бізнэсу — паглыбіцца ў атмасферу вольнай дзяржаўнай прэсы і свабоды слова ў дэмакратычнай дзяржаве. У Лёхавых руках апынаецца перадвыбарны спецвыпуск цэнтральнага друкаванага органа краіны, ад 5 верасня. Каб хто спытаўся, якім чынам гэты шэдэўр галоснасці і дэмакратыі

патрапіў да чытача, сам Лёха толькі недаўменна паціснуў бы плячыма, — маўляў, бывае ж такое, проста так супала — матэрылізаваўся, што называецца, з ніадкуль!

Першая старонка ўтрымлівае не надта шмат інфармацыі. Партрэт амаль на палову газетнага аркуша, у адрас якога дзве саракагадовыя кабеты, што праходзяць міма, дапускаюць нетутэйшую вольнасць: «Какой мужчина! У нас в Смоленске его обожают!»

Далей ідзе набор тэзісаў ці то са справаздачы, ці то з перадвыбарнай праграмы — там гаворыцца пра тое, што памежныя слупы прыбіраюцца з правільнага кірунку (смаленскага) і ўзмацняюць кірунак няправільны (да астатняга свету). Таксама ненавязліва і амаль незаўважна нагадваецца жыхарам краіны, што яны, як сыр у масле, тут боўтаюцца, маўляў, трэба ж разумець — каму дзячыць за іхнюю ахову і абарону! Яшчэ ўзгадваюцца два апаненты цяперашняга лідара — у сэнсе два тых няшчасных кандыдаты з трох магчымых, што выжылі ў перадвыбарнай гонцы. Падрабязна тлумачыцца ўзровень і прычыны іхняй кандыдацкай няшчаснасці.

На ўвесь разварот на другой і трэцяй старонцы інфармацыя іншага парадку — там надрукаваны адзін аграменны артыкул, які не так сумна ды і не сорамна чытаць колькі хочаш разоў — матэрыял такі вялікі і шматпланавы, што дачытаўшы да сярэдзіны, губляешся ў адступленнях і забываешся, з чаго ён пачынаўся. Галоўнае не чытаць падзагаловак — ён стварае кантэкст. А так, здаецца, і людзі цікавыя ўзгадваюцца, і што самае нязвыклае — узгадваюцца без абразаў і прыніжэнняў, як бывала на тых самых старонках у ранейшых нумарах. І аператыўная інфармацыя пра гэтых цікавых людзей — дзе, хто, калі і як. І нават не агучваецца, колькі ім за гэта пагражае пасля выбараў.

На апошняй старонцы — традыцыйна, навіны культуры і спорту. Напрыклад, вось інфармацыя пра тое, што сусветна вядомы хакеіст, зорка НХЛ, запісвае лідара нацыі ў зборную свету па хакеі. Нічога не ўказваецца, ці на кантрактнай аснове, ці на нейкіх іншых умовах.

А вось выява іншай суперзоркі апошніх гадоў трыццаці — каралевы эстрады суседняй краіны. Яна стаіць у рызыкоўнай позе — на каленях (перад кім, на здымку не паказана). Але загаловак паведамляе, што суперзорка па сваёй волі робіць сапраўдны акт кахання з вялікай павагі да галоўнага, і што важна адзначыць — станоўчага героя ўсіх вышэй пералічаных рэпартажаў гэтага спецвыпуску вядучай газеты краіны.

Аднак самы цікавы артыкул і апошняй старонкі, а прынамсі і ўсяго нумара, напісаны маладой выпускніцай журфаку Віялетай, якая зладзіла ўмоўны дыялог са сваёй калегай па газеце.

Дзяўчаты з першых радкоў задаюць тон: «Ловім момант і ўважліва разглядаем тых, у чые рукі мы заўтра, магчыма, перададзім узведзены намі будынак...»(цытата). У сярэдзіне артыкула два альтэрнатыўных кандыдаты, абсалютна нікому не патрэбных (як ужо стала зразумела з усіх папярэдніх тэкстаў)

канчаткова выбіваюцца з сёдлаў перадвыбарнага радэа адным моцным узбрыкам: «Шчыра сказаць, незразумела, адкуль усплываюць такія Бівісы і Батхеды...»(цытата).

А фінал артыкула мае аналогію з бомбай запаволеннага дзеяння пры ўсталяванні таймера на шасцідзённую адтэрміноўку:

«—...Зрэшты, усе кандыдаты служаць толькі выгадным фонам для дзейнага прэзідэнта, палітычная харызма якога, на мой погляд, як «боінг семсот шэсцьдзясят сёмы».

— Ці прама як «лятучая крэпасць». Ці нават, калі дзве «лятучых крэпасці» адну на другую паставіць і пару хмарачосаў зверху...»(цытата).

## IV

Як раз праз шэсць дзён пасля выхаду з друку спецвыпуску галоўнай газеты тое і адбываецца. З лавіны памех перанасычанага радыёхвалямі эфіра вырываюцца асобныя фразы: «...два хмарачосы... Боінг семсот шэсцьдзясят сёмы... колькасць ахвяраў падлічыць немагчыма... вялікая дымавая заслона ахутвае горад...»

Хвалі губляюцца, і Лёха са сваім сябрам па чарзе круцяць ручку аўтапрыймача. Ім удаецца вылоўліваць толькі абрыўкі фраз і ад гэтага інфармацыя становіцца толькі больш жудаснай.

За стырном старэнькага «Volkswagen-Passat» Лёху неабходна і ўважліва сачыць за дарогай, і выслухваць кавалкі экстранных рэпартажаў, якія паступова пачынаюць перадаваць амаль усе радыёстанцыі. Чым бліжэй мяжа з Польшчай, тым больш праясняецца сітуацыя — цяпер вядомыя ўжо і месца трагедыі, і асноўныя дэталі тэракта.

Пачуццё трывогі, нейкія незразумелыя і недарэчныя думкі Лёха стараецца прагнаць прэч. Яны адцягваюць увагу ад трагічных нью-ёркскіх навінаў з радыёэфіру, хоць, безумоўна, менавіта тыя самыя навіны і вызначаюць ягоны настрой.

Хваляванне кіроўцы «Фальксвагена» можна зразумець — у памежнай зоне жыве цяпер ягоная дачушка, што зусім нядаўна пераехала са сваёй маці, былой Лёхавай жонкай, на новае месца жыхарства. Лёха нарэшце выбраўся перадаць сваёй Ксюшы школьныя дакументы — навучальны год, вось ужо адзінаццаць дзён як пачаўся, а тата ніяк не давязе паперы ў новую школу.

Гэтаму ёсць важнае абгрунтаванне — тата быў вельмі заняты падчас перадвыбарчай кампаніі, датэрміновага галасавання, таксама як і непасрэдна ў дзень выбараў і... выпадковаануляваў вынікі гэтых самых выбараў. Выбачайце, суайчыннікі, а заадно і тыя, хто займаецца прагнозамі ў сучаснай сусветнай гісторыі! Усё пайшло крыху «не так». Тата, ён жа Лёха, ён жа Аляксей Уладзіміравіч, быў незалежным назіральнікам ад уплывовай міжнароднай арганізацыі па абароне правоў чалавека, але ўдзельнічаў у кампаніі не на «афіцыйным», не на праўладным баку.

Так атрымалася (яшчэ раз прабачце), што дзякуючы ўмяшальніцтву Аляксея Уладзіміравіча Барысевіча ў перадвыбарны працэс, з панядзелка рэчаіснасць у краіне пайшла двума паралельнымі курсамі: афіцыйны бок зрабіў вельмі шмат штучных і грубых дзеянняў, парушыўшы ўсе магчымыя правілы, папярэднія абяцанні, артыкулы Канстытуцыі, дзяржаўныя законы і гэтак далей. Зразумела, дзейны прэзідэнт пра гэта нічога не ведаў і свята верыў, што ён перамог на выбарах. Бедны і варты шкадавання чалавек! Хітры афіцыйны бок зладзіў пэўную ілюзію перамогі, і вось падмануты шчыры і сумленны кіраўнік краіны патрапіў у такую дваістую сітуацыю.

Патрапіў, таму што існуе іншы бок падзей — рэальны. А ў ім няма месца падману. Напрыклад, што загадаеце рабіць з пратаколам пра найгрубейшыя парушэнні, які склаў Лёха (прабачце — Аляксей Уладзіміравіч), і які падпісалі прадстаўнікі афіцыйнага боку — старшыня выбарчай камісіі ды яго намеснікі?

Факт існавання гэтага пратакола ануляваў увесь найскладанейшы падрыхтоўчы доўгатэрміновы працэс. Ён сапсаваў, здавалася б, такі адладжаны і такі надзейны механізм працы пэўных афіцыйных устаноў. Вось, у выніку і атрымалася вельмі дзіўная гісторыя: калі афіцыйны бок вырашыў падмануць гістарычны час, падрабіць прастору існавання пэўнай нацыі, ды іншыя працэсы, то атрымаўся неверагодны ілюзіён. Які завіс агітацыйным банэрам у межах адной краіны на доўгія дзесяцігоддзі. А сапраўдная рэальнасць рушыла далёка наперад сваім шляхам. Такая вось недакладнасць.

## V

Сябра на пасажырскім крэсле слухае запар станцыю за станцыяй, а Лёха, заглыбіўшыся ў свае думкі, пад бясконцае ўсхваляванае балбатанне радыёвядоўцаў, прыслухоўваецца да сябе, спрабуючы разабрацца з тым, што адбывалася апошнім часам і ўнутры, і звонку.

Як яго ўвогуле занесла ў гэты квазіпалітычны гушчар? Калі б Лёха камунебудзь распавёў свае перадвыбарныя прыгоды, слухачы доўга б рагаталі. Чаго толькі вартыя былі б успаміны пра гурт «Blues Of The Misty Morning»! Гэта трагі-камічная гісторыя, якая пачынаецца з вяртання пасля доўгатэрміновых і далёкіх вандровак у роднае мястэчка, дзе жывуць Лёхавы бацькі, і якое носіць неверагодную назву Ранак-Туманны.

Уявім сабе, што ў ціхае існаванне невялікага правінцыйнага гарадка, які горда трымае марку грубаватага, не надта абцяжаранага інтэлектам і адукаванасцю раённага цэнтра аграрнага кірунку, спрабуе ўкараніцца падазроная асоба, якая (гэта проста замах на святое!) хоча стварыць ледзь не ДЖАЗ-БАНД! Чаму ледзь? Таму што ствараецца на самой справе блюз-бэнд. Але вымавіць, а тым больш запомніць гэта словаспалучэнне большасць насельніцтва не ў стане.

Вось свежы прыклад. Паседжанне райвыканкама. Зала, запоўненая чыноўнікамі з каменнымі тварамі, нагадвае школьную галёрку («...толькі б мяне не

выклікалі сёння...»). Нервовае пытанне намесніка старшыні да кіраўнікоў сферы культуры: «Что за группа представляет Ранак-Туманный на международном фестивале в областном центре?..»

Ніхто з іх — ад загадчыка аддзела культуры да дырэктараў бібліятэкі, музея, музычнай школы ці Дома культуры — не ведаюць пра такую групу. Па шчырасці, яны і не могуць ведаць, таму што група толькі рыхтуецца дэбютаваць на вышэй узгаданым фестывалі. Але па радыё ўжо прайшла рэклама будучага канцэрта і, на няшчасце для падначаленых, яе назву пачуў той самы намеснік старшыні райвыканкама па ідэалогіі, адукацыі і культуры.

У адказ на пытанне боса, культурныя кіраўнікі на паседжанні райвыканкама ветліва маўчаць, пераглядаюцца і паціскаюць плячыма, а намеснік старшыні ўдакладняе: «Ну, там ещё название такое, что хрен выговоришь — чего-то там «Плюс...»

Зразумела, у культурных кіраўнікоў такія-сякія думкі ёсць. І вось, дырэктар Дома культуры па прозвішчы Дамінжанка, адразу пасля ўзгаданага паседжання, тут жа на плошчы перад будынкам райвыканкама, выпадкова сустракае Лёху. Парадваўшыся супадзенню ў адпаведнасці з пастаўленай задачай (высветліць, што за група...) дырэктар ветліва вітаецца і тактоўна заходзіць здалёк: «Здарова, лабух! Гэта не ты там нейкую супергрупу стварыў? Нейкі там «Плюс»?»

Ад ступені тактоўнасці Лёху не адразу ўдаецца выйсці са ступару і ён мае неасцярожнасць абсалютна шчыра адказаць: «Ды не, першы раз чую...» «Ну ладна, глядзі! А то нам тут наводка адна паступіла. Не ведаем на каго думаць...» — Дамінжанка пасля паседжання райвыканкама, відаць, адчувае сябе следчым спецыяльнага камітэта па справах праблем культуры, на якога павесілі «глухара».

Лёха адыходзіцца ўжо метраў за трыста і тут да яго даходзіць: «...група з райцэнтра», «нейкі там «Плюс»... Гэта ж пэўна — «Блюз»! І не «нейкі там», а «Blues Of The Misty Morning» — «Блюз Туманнага Ранку»! О, не! Цяпер яны могуць падумаць, што я хаваюся ад іх!..»

## VI

«Blues Of The Misty Morning» дэбютуе годна. На фестывалі «Апошні фаэтон» іхні выступ — адзін з найлепшых, і за іх сапраўды не сорамна! Публіка прынімае музыкаў вельмі добра і калегі-ўдзельнікі ацэньваюць станоўча. Шмат водгукаў у прэсе. Карацей кажучы, дэбют атрымліваецца.

Праз сродкі масавай інфармацыі намеснік старшыні райвыканкама (дарэчы, яго прозвішча Ленінскі) таксама ў курсе справаў пра Лёхавы поспехі. Але адно не супадае — відаць, ён адразу пасля фестывалю таксама хоча сустрэць Лёху, аднак той ці то з’ехаў кудысьці, ці то адлёжваецца недзе, узяўшы творчы адпачынак. Нарэшце, супала праз некалькі месяцаў — Лёха сутыкаецца з чыноўнікам нос у нос на вуліцы мястэчка.

«О! Здарова! Ну, ты малайчына, усюды пра цябе пішуць. Давай-ка далучайся да перадвыбарнай кампаніі!»

Лёха не думае доўга. Дакладней сказаць, ён увогуле не думае. Вось, праўда — ніводнай думкі, галава нібы тым самым туманам напоўненая. Аднак, калі туман можна было б чытаць (напрыклад, гадаюць жа на «кававай гушчы»), то нечакана для чытача, ватныя бялявыя літары маглі б скласціся ў такім парадку: «Хочаце ўцягнуць мяне ў бруд? Каб даказаць, што вы не правы, я нават гатовы праехацца...»

Пэўна адчуваецца эрудыцыя начытанага чалавека — Уінстан Грум («Гампізмы, ці мудрасці Форэста Гампа»): «Калі ступіў у лайно, паспрабуй неяк выкарыстаць сітуацыю — хаця б праедзься на ім».

Трэба адзначыць, што Лёха і сапраўды спрабуе «праехаць». Шчыра і непасрэдна. Для таго, каб гэта зрабіць, зразумела, патрабуецца транспарт. Таму што Ленінскі абяцае на перадвыбарную кампанію камплект вельмі дарагой, па яго словах, апаратуры. Намеснік старшыні вядзе Лёху ў патрэбны кабінет і ў яго ж прысутнасці строга загадвае кіраўніку культуры раёна па прозвішчы Павароцін арганізаваць машыну для перавозкі каштоўнасці раённага маштабу — той самай апаратуры. Павароцін ветліва махае галавой, у яго позірку — згода з меркаваннем начальніка і гармонія з усім светам.

Як толькі за начальнікам з грукатам зачыняюцца дзверы, з позіркам гарманічнага культасветработніка здараецца катастрофа. Ці можа такое быць, што адзін удар дзвярэй у стане парушыць сусветную гармонію? Вочы чыноўніка пачынаюць бегаць з такой хуткасцю, што становіцца зразумела: насамрэч гэта хуткасць руху паршнявой сістэмы той самай машыны, так неабходнай для перавозкі апаратуры. Якая кудысьці з'ехала з верагоднасцю вярнуцца не раней чым праз тыдзень.

Добра, што ёсць сябры. Саня, былы аднагрупнік па Інстытуце культуры, а цяпер аўтарытэтны ў мястэчку таксіст, за невялікую плату, на сваім старэнькім «Фальсвагене» ў некалькі рэйсаў перавозіць усю неабходную апаратуру.

І каштоўнасць апаратуры, і сама яна аказваюцца поўным фэйкам. Аграменны груд скрыняў з дынамікамі проста не выдае ніводнага жывога гука. Два Валодзі (для сяброў — Ваваны), супрацоўнікі Дома культуры, зладжваюць скандал, таму што ім гэты бескарысны груд цяпер давядзецца самім везці назад на склад. Лёха вымушаны браць яшчэ пляшку гарэлкі (плюсуючы яе кошт да іншых выдаткаў у доўгім працэсе сваіх намаганняў толькі ПАСПРАБАВАЦЬ вызначыцца, чым можна дапамагчы бездапаможнай перадвыбарнай кампаніі). Факт наяўнасці бутэлькі крыху супакойвае разнерваваных Вавanaў.

Падчас дэгустацыі Лёхавага паднашэння Ваваны моцна крытыкуюць кіраўніцтва, якое, па іх словах, ні халеры не можа арганізаваць ні для моладзі, ні для дарослых. Тут і прыходзіць да Лёхі думка, што калі цяперашнія чыноўнікі такія прафнепрыдатныя, то трэба самім зладзіць канцэрт. А ўжо на чыім баку, гэта не так і важна.

## VII

Не важна, дык не важна. І бок у выніку апынаецца «не афіцыйным», то бок не праўладным. «Апазіцыйным» — паправіў бы філолаг. Але філолага адразу ж паставілі б на месца больш дасведчаныя спецыялісты — якія, што праўда, як раз і спецыялізуюцца па баках (а таксама па нагах, па руках, па галаве, па спіне).

Справа ў тым, што ў нейкі час гэты бяскрыўдны тэрмін у адной цэнтральна-еўрапейскай краіне набыў такі страшны сэнс, што маладыя мамы пачалі палохаць сваіх непаслухмяных дзетак: «Вось будзеш дрэнна паводзіцца, прыйдзе апазіцыя і забярэ цябе!»

На самой справе, тэрмін абсалютна не страшны. Напрыклад, у астраноміі ён пазначае кропку знаходжання планеты адносна зоркі пад назвай Сонца, — так званы стан супрацьстаяння.

У шахматах гэта сітуацыя, калі фігуры двух каралёў стаяць насупраць адно аднаго і іх раздзяляе адзінае поле шахматнай дошкі.

У лінгвістыцы так называецца супрацьстаянне моўных адзінак, якое выяўляе адрозненні паміж імі (напрыклад, фаналагічная апазіцыя фанемаў «б» і «в» у «быць» і «выць»).

Сінонімамі і блізкімі па значэнні да слова «апазіцыя» з'яўляюцца тэрміны, здольныя напалохаць яшчэ больш: «абструкцыя», «франдзёрства», «нонканфармізм». Але ёсць і прыгожыя сінонімы, актыўна ўжывальныя і, хочацца спадзявацца, абсалютна цывілізаваныя: «супрацьдзеянне» (напрыклад, «прапанова незалежнага назіральніка мела апазіцыю з боку сябраў выбарчай камісіі»), «супрацьпастаўленне» (апазіцыя рамантыкаў класікам на пачатку XIX ст.)

Аднак у розныя часы ўсё складалася па-рознаму — калі сапраўдным рамантыкам (як тут не ўзгадаць нашага галоўнага героя?) што зараз, што раней — супрацьстаялі розныя сілы. А калі-небудзь і сапраўдныя нерамантычныя монстры. Вось, мяркуйце самі, якая часам бывае апазіцыя — цытата з тлумачальнага слоўніка савецкіх часоў:

— У буржуазнай дзяржаве — дзейнасць, накіраваная супраць дадзенага ўрада і яго палітыкі (напр., парламентская апазіцыя).
— Дзейнасць апартуністычных антыленінскіх груповак, якія дзейнічаюць па найму ў выведвацельных органаў замежных дзяржаў. «Такі неаспрэчны вынік эвалюцыі трацкізма за апошнія 7-8 гадоў.» І. В. Сталін (1937 г.)

Мінае час і мала таго, што ўсё паўтараецца, дык ўсё яшчэ вельмі дзіўна пераплятаецца. Здавалася б, недапушчальны ў савецкія часы тэрмін «парламент» становіцца звычайным для сённяшняй сістэмы кіравання ва ўласнай краіне. І ў той жа час пазначэнне «верныя ленінцы» ператвараецца ў абсалютны рудымент палітычнага руху ва ўсім свеце. Толькі вось парадокс — ва ўсім

свеце, але не ва ўласнай краіне, — мяркуючы па тым, колькі помнікаў Леніну стаіць ад усходняй мяжы да заходняй на сённяшні дзень. Ды яшчэ па тым, што краіна гэта — адзіная ў свеце дзяржава, якая афіцыйна адзначыла 100-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі. У Расіі, дзе ўласна кажучы, падзея стогадовай даўніны адбылася, ужо даўно свята Рэвалюцыі не адзначаецца. Вось так! Хочаш рабі, а хочаш не рабі пасля ўсяго гэтыя рэвалюцыі!

Лёха ні ў якім разе не пазіцыянуе сябе рэвалюцыянерам. Хаця сентэнцыя «Рэвалюцыі робяць рамантыкі, а пладамі карыстаюцца нягоднікі» датычыцца да яго напрамую — ён з'яўляецца (так перапляпося) — класічным рамантыкам.

Не паспеў наш герой летуценна азірнуцца, як нейкія дзіўныя падзеі, нечакана для яго самога, зацягнулі ў свой — часам зусім не рамантычны — вір прыгодаў і супадзенняў. Відаць, так вось склалася, што пэўныя зоркі і планеты апынуліся ў адмысловай апазіцыі, а на чыіхсьці шахматных дошках каралі сталі насупраць адзін аднаго.

## VIII

Калі рамантык Лёха, падчас сустрэчы з Ваванамі, агучыў, што канцэрт трэба зладзіць самастойна, то нейкі экзальтаваны джын пэўна ўжо натхнёна завіс у паветры над галавой героя з пытаннем «Чым я магу дапамагчы, мой Гаспадар?». Мабыць, вылецеўшы з той самай бутэлькі, якую сябры «раскаталі» на траіх.

Гэта ўскосна пацвярждаецца тым, што не пазней, чым назаўтра зраніцы, у Лёхавым двары апынаецца чалавек па мянушцы «Апгрэйдзер» (вядомы як арганізатар маладзёвага грамадскага аб'яднання, мэтай якога з'яўляецца «upgrade» мясцовым праўладным структурам).

І вось, Апгрэйдзер, пазяхаючы, стаіць пасярод двара і, лянотна аглядаючы убогасць сялянскага быту, кажа нейкія дзіўныя рэчы. Кшталту таго, што за кошт дабрачынных унёскаў і ахвяраванняў на рахунку яго грамадскай арганізацыі назбіралася пэўная сума, і ён хацеў бы правесці любое, не істотна якое, мерапрыемства. Напрыклад, лекцыю ў бібліятэцы на тэму сучаснага мастацтва і сувязі яго з сённяшнім грамадствам.

Лёха ад здзіўлення раскрывае рот. «Ён што, вар'ят? — думае Лёха. — Ці ён не разумее, што прыйшоў да рок-музыканта, які ледзь зводзіць канцы з канцамі, які хапаецца за любую магчымасць паўдзельнічаць у любым канцэрце і атрымаць хоць які заробак?»

«Выбачайце за празмерную цікавасць, — кажа Лёха, — але пытанне такое: «Замест лекцыі ў бібліятэцы можна зладзіць канцэрт рок-гурта ў нармальнай зале?»

Апгрэйдзер хітравата ўсміхаецца і кажа: «А што? Добрая ідэя!»

У загадкавай логіцы размяшчэння зорак, планет і сузор'яў нарэшце знаходзіцца месца для першага самастойнага канцэрта Лёхавага гурта «Blues Of The Misty Morning». І вось аграмадная афіша перад залай местачковага кіна-

тэатра вельмі сур’ёзна паведамляе, што акрамя мясцовых музыкаў у канцэрце прымае ўдзел яшчэ і запрошаны госць — легенда беларускага рока, гурт «Брама» (Лёхаў гурт на разагрэве, легенда — хэдлайнер).

Звярнуўшыся да знаёмага сталічнага прамоўтара Гулі Шлоймана, Лёха атрымлівае ў карыстанне камплект апаратуры, што называецца, — вам і не снілася: адзін з найлепшых па ўсёй рэспубліцы. Не параўнаць з гарой смецця, якое не так даўно давялося тэставаць на той жа самай сцэне з Ваванамі.

Апгрэйдзер тут таксама актыўна падключаецца і цалкам апраўдвае сэнс свайго другога імені. Яго мянушку можна папросту замяніць на больш зразумелае «Мятла». У значэнні прадмета, які выносіць вонкі смецце.

Так падаецца ў той момант музыкам і арганізатарам — што зараз яны сваімі дзеяннямі і сваёй творчасцю пакажуць, што час змяніўся. Што смецце ў выглядзе рудыментаў мінулых эпох і перажыткаў даўніны будзе выкінута назаўсёды.

## IX

Лёха з’яўляецца ў зале за пяць хвілін да пачатку канцэрта з вялізным тэатральным сафітам у руках. Няма часу абыходзіць вакол, праз грымёркі ды розныя службовыя ўваходы, таму ён горда ступае па чырвонай дарожцы паміж крэсламі са здзіўленымі гледачамі — ад цэнтральнага ўвахода прама да сцэны. Чамусьці яму падаецца (відаць ад вялікага хвалявання перад канцэртам), што толькі менавіта гэтага сафіта не хапае, каб належным чынам упрыгожыць сцэну і ў апошні момант расфарбаваць каляровымі промнямі артыстаў, якія вось-вось павінны сюды выйсці. Лёхава дэфіле з пакрытай пылам і павуціннем прыладай светлавога абсталявання ў нейкай ступені апынаецца сапраўдным элементам перформанса. Публіка заінтрыгавана.

Падключыўшы сафіт і накіраваўшы сноп каляровага святла на барабанную ўстаноўку пад вялікім белым экранам, стваральнік надыходзячага шоу задаволена аглядае кампазіцыйнае рашэнне ў аздабленні сцэны. Магчыма падсвядома ўяўляючы, а можа быць і не надта заўважыўшы, што шоу ўжо пачалося.

Лёхаў канцэртны касцюм амаль не пацярпеў — наш галоўны герой адзеты зусім не ў шырокія чорныя нагавіцы ды не ў бліскучы канцэртны пінжак з кацялком на галаве. Імідж рок-музыкі — гэта звычайныя джынсы ды чорная цішотка. З большага абтросшы пыл з адзення, Лёха тут жа бярэ гітару і аб’яўляе ў мікрафон, што, маўляў вось яна — доля музыканта — пакуль сам не зробіш, ніхто і не парупіцца.

Публіка недаўменна пераглядаецца, але з сентэнцыяй моўчкі пагаджаецца — што рабіць, шоу ёсць шоу. Выходзяць музыкі Лёхавага гурта і бадзёра ўдараюць па струнах ды бубнах. Першая кампазіцыя сыграна ўдала. На сцэне ў каляровых промнях з’яўляюцца невялікія дымавыя хвалі і крышачку пахне палёнай ізаляцыйнай стужкай. Але ніхто на гэта не звяртае ўвагі — пачына-

ецца другая кампазіцыя. Бліжэй да коды дым на сцэне адчуваецца ўжо больш істотна, а смурод ад падпаленай пластмасы спрабуе збіць з нармальнага ўспрымання рэчаіснасці.

Як толькі пачынаецца трэцяя кампазіцыя, наш прыўкрасны сафіт, відаць вырашыўшы да канца адыграць галоўную ролю ў гэтым перформансе, выдае гучны пляскач і моцную ўспышку, пасля чаго зала адразу ж паглыбляецца ў абсалютную цемру. Хтосьці з супрацоўнікаў кінатэатра, падсвечваючы запалкамі сабе пад ногі, бяжыць да рубільніка і... Шоу зноў працягваецца, шаноўнае спадарства! Праўда ўжо не ў каляровых промнях падступнага сафіта, а пры ўключаных звычайных лямпах сцэны.

Праграма аднаўляецца з новай сілай. Аўтарскія песні разбаўляюцца парай класічных блюзаў ды рок-н-ролаў, а напрыканцы гучыць рок-балада. Першы самастойны канцэрт адыграны! Музыкі «Blues Of The Misty Morning» пакідаюць сцэну. На іхняе месца выходзяць мэтры — гурт «Брама».

Месца за пультам займае іхні ўласны рэжысёр Лабус. А ўладальнік камплекта апаратуры і пратэжэ Гулі Шлоймана Віталя (па сумяшчальніцтву ён жа гукарэжысёр Лёхавага выступу), вызваліўшыся ад працы, вырашае выпіць чагосьці з моцных напояў. Што рабіць яму катэгарычна забараняецца з нагоды непрадказальных паводзінаў. У выніку Лёху даводзіцца лавіць Віталю ў самых нечаканых месцах кінатэатра, таму што той канчаткова губляе галаву ад недзе набытай і ўжытай вадкасці і з цяжкасцю разумее, дзе ўвогуле знаходзіцца.

Зала ў гэты час адрываецца пад музыку «Брамы»: людзі танчаць і каля сваіх месцаў і перад сцэнай. Публіка ўзрушана! Купка маладых дзяўчат у экстравагантных адзеннях танчыць прама перад вакалістам і разам з ім спявае, ведаючы словы амаль усіх песень. Здаецца, што сваёй энергіяй яны разам з музыкамі зараджаюць усю астатнюю залу. Больш за гадзіну «Брама» без перапынку выдае свае хіты. А пасля канцэрта народ яшчэ з хвілін сорак збірае аўтографы ва ўдзельнікаў.

Тут жа да Лёхі падыходзяць загадчык аддзела культуры Паvaroцін разам з дырэктарам Дома культуры Дамінжанкам і кажуць: «Канцэрт выдатны! А ці не зайграць табе і тваім сябрам на раённым мерапрыемстве, якое адбудзецца праз месяц на адкрытай пляцоўцы?!»

Гэта перамога! Нават кіраўнікі мясцовай сферы культуры ў захапленні ад канцэрта! Вы хацелі выдатны перадвыбарны канцэрт? Вось, атрымайце, калі ласка! Усё прайшло супер! Усё атрымалася! Эйфарыя!

Яна ж, у сэнсе эйфарыя, цягнецца з вечара пятніцы, калі адбыўся канцэрт, да сямі гадзін раніцы панядзелка, калі загадчыка аддзела культуры разам з дырэктарам Дома культуры тэрмінова выклікаюць у райвыканкам.

Дырэктара Дамінжанку звальняюць адразу, а загадчык Павароцін яшчэ пэўны час змагаецца за сваё працоўнае месца — пры сувязях, набытых за дзесяцігоддзі, не так проста «скалупнуць» яго з пасады. Аказваецца, на пятнічны канцэрт прыходзіла нейкая ідэалагічная грымза і выглядзела ў кагосьці ці то

з публікі, ці то з удзельнікаў падазроную сімволіку напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Магчыма, гэта была пікантная татушка ў адной з танцоўшчыц пад сцэнай, якая выпадкова адкрылася для непажаданых назіральнікаў? Ці стужка з падазронымі колерамі ў іншай дзяўчынкі на валасах? Уяўляеце, да чаго дайшоў прагрэс палітычнай думкі таго самага «афіцыйнага боку»— аказваецца, ёсць небяспечныя для народа колеры!

Карацей кажучы, ідэалагічная віжоўка (як пасля высветлілася — прозвішча яе было Дзяржынская і, што самае цікавае, мужа яе звалі Фелікс) выкрывае сапраўднае злачынства дзяржаўнага ўзроўню — рок-канцэрт у мястэчку Ранак-Туманны! Зразумела, што абсалютна выпадкова яна адразу пасля выбараў ідзе на павышэнне па службовай ідэалагічнай лесвіцы, а яе муж займае месца кіраўніка ў пэўных органах.

Ад такіх супадзенняў па-сапраўднаму гідка на душы. Таму што пацярпелыя ад гэтай гісторыі — і загадчык аддзела культуры, і яго калега — нармальныя, слушныя кіраўнікі, якія працавалі ўсё жыццё, дзясяткі гадоў, на сваіх месцах і досвед іхні пераацаніць немагчыма.

Перамены патрэбныя, нават неабходныя! Але абставіны з гэтымі пераменамі складаюцца не на карысць спецыялістам і проста добрым людзям.

Атрымліваецца, што незразумелы каламутны вецер прыносіць усё выкінутае смецце назад?

## X

З гэтым усё ж не хочацца мірыцца. Неяк не па-чалавечы ўсё складаецца. І вось з Санем (тым самым, што дапамагаў перавозіць гару металалома перад канцэртам з «Брамай»), са сваім сябрам і аднагрупнікам, які сядзіць зараз за стырном, Лёха едзе ў напрамку да вёскі Галаўлічы, дзе размяшчаецца выбарчы ўчастак № 13. Сёння ў краіне свята — дзень выбараў.

Яшчэ ўчора і пазаўчора, праз дапамогу Апгрэйдзера і Гулі Шлоймана, «Blues Of The Misty Morning» сыгралі наступныя два канцэрты, пасля незабыўнага канцэрта з «Брамай». З выдатным складам ужо іншых гасцей на адной сцэне — знакамітых і аўтарытэтных, нават міжнародна вядомых артыстаў: гуртоў «Elfs Come Look», «Вежа», «Bordeau Cotes de Castillon Lourd Blues» («Цяжкі Блюз ад Бардо Кот дэ Кастыльён»).

Канцэрт учорашні прайшоў проста на вышэйшым узроўні — у выдатнай канцэртнай зале абласнога цэнтра, дзе не было заўважана ніводнага пагона; пры наяўнасці дастатковай колькасці гледачоў, што пратанчылі ўвесь канцэрт перад сцэнай; з прадстаўнікамі прэсы і здымачнай групай, якія зафіксавалі і канцэрт і паслявыступовыя інтэрв'ю.

А вось пазаўчорашні канцэрт меўся правесціся на ўласным участку Лёхавага прыватнага дома за пяцьдзясят кіламетраў ад абласнога цэнтра на захад. У выніку гледачы хаваліся па кустах, а замест здымачнай групы, хроніку на службовую камеру здымаў судмедэксперт мясцовага аддзела.

Пасля выдатнага для гледачоў і нязручнага для ўладаў канцэрта разам з «Брамай», ніхто з афіцыйнага боку не дазволіў падчас перадвыбарчай кампаніі арганізаваць у межах раёна яшчэ адно такое сумнеўнае мерапрыемства, як рок-канцэрт. Таму і вырашылі самі пабудаваць сцэну і сваімі сіламі зладзіць выступленне. А што ж тут такога? Маем права у сябе дома рабіць, што пажадаем! Сцэна на Лёхавым двары атрымалася шыкоўная. Шырокая, высокая, накрытая на выпадак дажджу, абсталяваная панарамай і маніторамі ад Гулі Шлоймана і з абсалютна цвярозым Віталём за вялізным мікшэрскім пультам пад асобным навесам для гукарэжысёра.

Па дарозе ў Галаўлічы, Лёха з сумнай усмешкай узгадвае, як першым замест гледачоў прыязджае ўчастковы Маньякін на матацыкле з люлькай. Маўляў, давай збірайся, трэба з'ездзіць у райаддзел! З якой нагоды не тлумачыць, толькі паўтарае, што начальства выклікае. Кажа, там такое музычнае шоу — ты не ўяўляеш!

Лёха і сапраўды збіраецца, як законапаслухмяны грамадзянін. Але ў апошні момант нешта грукае ўсё ж у галаву: навошта і куды ён павінен ехаць? Участковаму Лёха так і гаворыць: выбачаюся, маўляў, давайце я заўтра пад'еду — забыўся, што трэба важныя справы дарабіць! А справы і сапраўды важныя, неабходна гасцей з Мінска сустракаць. Гуля Шлойман абы-каго не параіць — паважаныя артысты з хвіліны на хвіліну павінны прыехаць. Ды і мясцовыя гледачы вось-вось пачнуць падыходзіць.

Участковы Маньякін з'язджае раззлаваны. Праз пятнаццаць хвілін пасля яго ад'езду з'яўляецца намеснік па палітычнай частцы спадар Бадэн. Ён настойліва, але вельмі спакойна, просіць Лёху праехаць з ім разам. А Лёху зараз ужо прынцыпова нельга пагаджацца! Тым больш, што прыехала першая машына са сталічнымі музыкантамі ды з'явілася некалькі чалавек з першых мясцовых наведнікаў.

Пасля спакойнага ад'езду ўраўнаважанага Бадэна, у хуткім часе з'яўляецца разнерваваны начальнік раённага аддзела па прозвішчу Першамайскі (ці гэта ягоным іменем потым назвалі абласную ўстанову ці наадварот — ён сам узяў сабе прозвішча ад назвы тамтэйшага аддзела (кшталту, «як карабель назавеш...»), — пакуль яшчэ высвятляецца гісторыкамі). А неўзабаве вакол участка незаўважна матэрыялізуюцца і Маньякін, і Бадэн, і сусед Лёхі па дзяцінству Мойша Кронберг (які не так даўно атрымаў пагоны старэйшага лейтэнанта ды ўсімі сіламі імкнецца адзначыцца перад начальствам), і судмедэксперт, ды шмат яшчэ якіх «пагонаў». Машыны з музыкантамі пад'язджаюць адна за адной. Судмедэксперт усё фіксуе на камеру.

Першамайскі адкрыта кажа, што не дасць правесці канцэрт на Лёхавым участку. А каб разагнаць публіку — ён нібыта вымушаны зараз выклікаць АМАП (быццам бы падраздзяленне сядзіць у аўтобусе дзесьці побач і чакае толькі каманды на выезд). «Я сам сабе адарву пагон і скажу, што гэта вы мне адарвалі» — сумленны афіцэр раскрывае прафесійныя сакрэты дзеянняў сі-

лавых структураў у экстрэмальных умовах. Таямніцы яго прафесіі толькі раздражняюць патэнцыйную публіку. Натоўп, які складаюць у большасці жанчыны, пачынае сварыцца з афіцэрам, маўляў, чаму ён забараняе ў прыватным сектары, на ўласнай зямлі ўладальніка, правесці тое, што лічыць патрэбным гаспадар? Афіцэр спрабуе выкруціцца і нясе ахінею. Відаць, па яго думках, яна (ахінея) — апошні сродак на выратаванне. Але гэты сродак у дадзеным канкрэтным выпадку не надта і выратоўвае.

На ўчастку з'яўляецца спантанны ініцыятар Лёхавай бурнай дзейнасці — намеснік старшыні райвыканкама па прозвішчы Ленінскі. Той самы, які не так даўно прапанаваў Лёху паўдзельнічаць у перадвыбарнай кампаніі. Публіка і сталічныя госці з цікавасцю назіраюць за разгортваннем падзей.

На Лёхавым участку назбіралася нямалая колькасць тэхнікі. Чатыры машыны з мінскімі нумарамі побач са сцэнай. «Уазікі» розных колераў са спецнумарамі — ад зялёнага да жоўтага з палосамі па баках, як жукі, абляпляюць узгорак перад заездам на падворак. Асоба каўказскай нацыянальнасці па імені Мустафа, каларытны вусаты мужчына гадоў сарака пяці, прыганяе свой бус-шапік (даведаўшыся, што будзе шмат народу і можна будзе пагандляваць шашлыкамі), чым раз'юшвае людзей у пагонах самага ніжэйшага рангу. Яны не даюць беднаму гандляру нават блізка пад'ехаць да плоту, які агароджвае Лёхаў двор. Для пачатку прабіваюць Мустафу кола, а потым ледзь не за грудкі выцягваюць яго з кабіны і з пагрозамі пачынаюць тлумачыць, чаму яму нельга тут знаходзіцца. Паколькі гэта таксама службовая ахінея, Мустафа нічога не разумее, але вымушаны з'ехаць моцна пакрыўджаны і расстроены.

Ён не выпадкова патрапіў да Лёхавага дома. Гэтаму спрыяе цікавая перадгісторыя. Справа ў тым, што нешматлікая дыяспара каўказцаў, якая воляй лёсу сфармавалася ў мястэчку Ранак-Туманны, напярэдадні выбараў сама праяўляе ініцыятыву і нечакана запрашае вядомага ўжо нам персанажа па мянушцы Апгрэйдзер да сябе ў госці. Апгрэйдзер з'яўляецца каардынатарам каманды незалежных назіральнікаў ад розных арганізацый па ранак-туманаўскім раёне. Захоўваючы свае традыцыі — і патрыярхата, і абмеркавання агульных праблем грамадой, — каўказцы вызначаюцца, на якім баку яны хацелі б застацца. І бок гэты апынаецца бокам Апгрэйдзера.

Калі Апгрэйдзер прыязджае да месца сустрэчы, да крамы аднаго з землякоў Мустафы, унутры ўжо вызвалена месца пад вялізны стол, які ломіцца ад каўказскіх страваў і напояў. Дзверы тут жа зачыняюцца знутры, Апгрэйдзера садзяць на ганаровае месца побач з аксакалам. Аксакал паказвае рукой на маладога чалавека, які сядзіць непадалёк, дазваляючы яму сказаць тост. «Шьто я хацель бі сказат? Мі аказаліс далэко ат Родіна, далэко ат наша зэмля. Но наша втарая Родіна стала здэсь і эта зэмля нас прыняла, дала нам вазможьнаст жыць і работаць, лечыць нашi раны і учыць нашіх дэтей. Спасіба этай зэмле, спасіба людзям, каторые прынялі нас! Так выпем жэ за самастыйнаст Беларусі!»

Наступае кароткая паўза і раптам аксакал папраўляе выступоўцу: «Нэ самастыйнаст, а нэзалэжнаст...»

## XI

Пад’язджаючы да Галаўлічаў, Лёха ўспамінае яшчэ шмат эпізодаў тога незабыўнага дня, вартых Галівудскай экранізацыі. Калі Мустафу ўжо прагналі людзі ў пагонах, а эстафету спрэчкі з Першамайскім перахапляюць выкладчыцы музычнай школы (дзе Лёха працуе выкладчыкам гітары), раптам увесь праём Лёхавых варотаў займае вялізны чырвоны аўтамабіль і на двор, прама да сцэны, пад’язджае пажарны разлік у поўным складзе.

Можа гэта падалося б нечаканым і незразумелым у любой іншай краіне, але не ў той, дзе размяшчэнне на шахматнай дошцы ці стан планет на арбіце Сонца выклікае пачуццё страху ў маладых матуль. Такая нацыянальная асаблівасць — у гэтай, асобна ўзятай краіне, пажарнікі прыязджаюць, каб адмяняць масавыя мерапрыемствы. Прыкладаў хапае: фестываль чэшскага дакументальнага кіно, штогодні фестываль «Рок-каранацыя», канцэрты, спектаклі ды шматлікія іншыя мерапрыемствы ў сталіцы.

Але ў Ранку-Туманным схема не спрацоўвае — ці то занадта рана прыехалі, ці то туман апынаецца празмерна густым. А на самой справе выпадкова выяўляецца такі момант, як «чалавечы фактар». Які толькі пацвярджае сентэнцыю, што ўсё на свеце адбываецца не выпадкова: камандзірам пажарнага экіпажа — па супадзенні разам узятых зорачак на ўсіх пагонах, што зляцеліся на звон Лёхавай гітары, апынаецца яго былы вучань па музычнай школе.

Камандзір па-дзелавому абыходзіць сілавы кабель, што ляжыць у траве, правярае яго якасць. Потым падыходзіць да Лёхі і ціха кажа: «Уладзіміравіч, што яны ад Вас хочаць? Задзяўблі, тэлефануюць нашаму начальніку і даюць загад — маўляў, едзьце, адключыце электрычнасць. У вас усё ў парадку? Я і сам бачу, што ўсё ў парадку! Мы паехалі, таму што гэта не наша справа. А са сваім начальствам я сам разбяруся...»

Пажарнікі з'язджаюць. І гэта становіцца трывожным сігналам для Першамайскага разам з Ленінскім. Апошні падыходзіць да Лёхі і кажа: «Пракурор хоча з табой пагаварыць. Яго сюды запрасіць, ці сустрэнемся ў мяне ў кабінеце?»

Кабінет недалёка, у суседнім будынку. А пракурор Лёху ўзгадваецца ў просценькім савецкім трыко з булкамі на каленях. Ляжыць у ложку, на другім ярусе, з падручнікам па юрыспрудэнцыі ў руках. Ложак знаходзіцца ў інтэрнаце юрфака БДУ на колішняй вуліцы Машэрава. Лёха ў гасцях у свайго знаёмага Боба, які жыве разам з пракурорам у адным пакоі. З таго часу прайшло каля пятнаццаці гадоў.

У кабінеце намесніка, пракурор стараецца не глядзець Лёху ў вочы. Ён зачытвае папярэджанне па справе арганізацыі несанкцыянаванага масавага мерапрыемства. Намеснік старшыні побач спрабуе выглядаць зацікаўлена і бадзёра, але адразу відаць, што ён хавае трывогу і нервуецца. Калі праку-

рор кажа, што патрэбны два сведкі, каб пры іх зачытаць папярэджанне для Лёхі, намеснік хутка скача на калідор і тут жа, амаль за карак, прыцягвае двух супрацоўнікаў суседняга аддзела. Адзін з іх — Лёхаў сусед па агародзе — вылупіўшы вочы напалохана пераасэнсоўвае, як з яго асабіста (раз!), яго калегі па кабінеце (два!) і намесніка старшыні (тры!), імгненна зрабілі рэпрэсіўную «тройку».

Лёху таксама трывожна і неспакойна, ён таксама перажывае. Прынамсі, з той нагоды, ці зможа ён пакінуць гэты кабінет без затрымання? Але ўсё ўрэшце рэшт абыходзіцца — хутка вярнуўшыся на свой участак, музыкант сустракае сапраўдны прывітальны шквал ад тых, хто заставаўся ў яго дома. Сярод іх, зразумела, хапала і песімістычна настроеных, хто вельмі сумняваўся, што Лёху ўдасца пабачыць ў бліжэйшыя тыдні два.

А гасцей як шмат назбіралася! Да гаспадара адразу даходзяць чуткі, што Першамайскі пайшоў на кампраміс: на сцэне граць нельга, а ў хаце — калі ласка! Якраз тыя людзі, хто не пабаяўся застацца, набіваюцца ў хату, а музыкі лупяць у бубны!

Што тут адбываецца — падобна на сапраўдную вакханалію! У расчыненыя наросхрыст дзьверы заходзяць усе, хто жадае — у большасці, абсалютна незнаёмыя Лёху людзі. У зале іграюць музыкі, ды яшчэ як граюць! Перад імправізаванай сцэнай сядзяць дзеці, адразу за імі стаіць сцяна натоўпу.

Па ўсяму ўчастку звонку ўладкаваліся людзі — хто стаіць вакол імправізаваных столікаў з бярозавых чурачак, хто сядзіць кружком на траве побач з яблынямі ды слівамі. Яны ці ўжо былі на выступленнях, ці слухаюць праз расчыненыя вокны, ці яшчэ рыхтуюцца патрапіць унутр, на канцэрт. Людзі наліваюць сабе ў кілішкі і філіжанкі тое, што лічаць патрэбным, і што самае галоўнае — што не забаронена законам. Вось якія законапаслухмяныя і дысцыплінаваныя госці!

Перад лазняй утварылася альтэрнатыўная сцэна — там басіст «Bordeau Cotes de Castillon Lourd Blues» пад акампанемент баяна распачынае канцэрт у стылі гарадскога фальклора, шансона, прыпевак, піянерскіх блатных ды бог ведае яшчэ якіх песень. Народ, што вырваўся з аднаго канцэрта ў душным памяшканні, з задавальненнем удзельнічае ў другім — на свежым паветры, спяваючы разам з салістам.

У Ранку-Туманным яшчэ і праз шмат дзясяткаў гадоў узгадваюць, як тыя ці іншыя зоркі калісьці начавалі ў іх па хатах. А дзяўчаты вымушаны нават зараз адбівацца ад сваіх былых кавалераў, а цяпер ужо разважлівых і сталых мужоў, якія ўсё дапытваюцца, з кім гэта іхнія пасіі фатаграфаваліся з такімі мілымі ўсмешкамі? І галоўнае, калі паспелі?

## XII

Вось, нарэшце і дарожны знак з надпісам «Галаўлічы». Саня за стырном жартуе, маўляў, ці чакае іх хто-небудзь тут? Лёха павінен працаваць на вы-

барчым участку № 13 у якасці незалежнага назіральніка. Участак знаходзіцца ў Доме культуры, які шмат гадоў таму будаваўся пад кіраўніцтвам спадара Паварoціна.

Саня па старой памяці яму дапамагае. Сябры першы раз прыязджалі сюды на пачатку перадвыбарнага марафона, калі адкрылася датэрміновае галасаванне. Тады Лёха ўжо пазнаёміўся з камісіяй, яе старшынёй і намеснікам старшыні. На выбарчым участку № 13 было ўсё проста: сябры камісіі — жанчыны з калгаснай канторы — з бухгалтэрыі, з адзела кадраў, з прыёмнай, карацей тыя, хто піша, чытае і лічыць у адпаведнасці са сваёй непасрэднай працай; мужчыны кшталту галоўнага інжынера, галоўнага энергетыка — з тых, у чыім падначаленні знаходзяцца жанчыны, што ўмеюць уважліва чытаць, прыгожа пісаць і пералічваць усё, што неабходна, не ўдаваючыся ў кантэкст. Лёха не запомніў іхнія імёны, акрамя Тамары з калгаснай бухгалтэрыі. Старшыня камісіі — выкладчык працоўнага навучання мясцовай школы (па-простаму «трудавік» па прозвішчы Мураш), яго намесніца — выкладчык матэматыкі з той жа школы (па супадзенні жонка «трудавіка» і па мянушцы Мурашыха).

На пасаду старшыні выбарчай камісіі не патрэбныя рамантыкі, занадтыя інтэлектуалы, кшталту выкладчыка гісторыі з іхняй жа школы. Вось гэтаму неўтаймаванаму нешта ўвесь час патрэбна больш за іншых. То ён анулюе вынікі мясцовых выбараў, то ён крытычныя артыкулы піша і ўступае ў нейкія незразумелыя асацыяцыі журналістаў, то публічна не падтрымлівае афіцыйны бок у пэўных ініцыятывах кшталту рэферэндумаў.

Да яго якраз Лёха з Санем і накіроўваюцца перад тым, як патрапіць на выбарчы ўчастак. Васіль Авер'янавіч з радасцю прымае гасцей і нават накрывае стол — маўляў, паспеем да пачатку «кампаніі» (так Авер'янавіч называе непасрэдна сам дзень выбараў, які сёння зраніцы і наступіў). Лёха заручаецца абяцаннем свайго сталага таварыша дапамагчы ў справах складаных бюракратычных умоўнасцяў, калі такія ўзнікнуць. Забягаючы наперад — як у ваду глядзіць.

А вось і сам участак. Жанчыны з канторы стрымана вітаюцца і падазрона паглядаюць на Лёхаву вялікую торбу, што вісіць на ягоным плячы: кожны раз з ёй прыязджае — што там можа быць? Што ён там хавае? Фотаапарат? Відэакамеру? Дыктафон? Магнітафон? Ці ўсё разам? Мураш мітусіцца каля скрыні для выязнога галасавання. Хоць выглядае канструкцыя не надта цывільна — збітая з фанеры і пафарбаваная «нітрай», але апячатаная вельмі сур'ёзнай пломбай. Лёха вітаецца са старшынёй і просіць, каб яго ўзялі ў машыну, калі паедуць да выбаршчыкаў, якія будуць галасаваць на даму, адпаведна загадзя пададзеным заявам. Мураш косіцца на Лёхаву торбу і, хітра ўсміхаючыся, ківае галавой.

Не паспявае Лёха азірнуцца, як праз хвілін пятнаццаць-дваццаць высвятляецца, што старшыня камісіі незаўважна з'ехаў, прыхапіўшы сваю тумбу — то бок адну са скрыняў для датэрміновага галасавання. Другая скрыня паехала

з галоўным заатэхнікам калгаса і яго камандай па іншым маршруце. Калі Лёха нарэшце ўсведамляе, што яго банальна «кінулі», яму падаецца, што сябры камісіі (дакладней «сяброўкі») — тыя, што застаюцца на ўчастку, — перашэптваюцца і, паглядаючы ў яго бок, ціха пасмейваюцца. Назіральніку трэба адпавядаць свайму статусу, таму Лёха робіць выгляд, што ён нічога не заўважае і спакойна ідзе да выйсця.

Саня спіць у машыне і ўскоквае, як толькі грукае дзверца: «Куды ехаць?». «Па навакольных вёсках!» — Лёхаў голас узрушаны, і сам ён адчувае нейкае незразумелае хваляванне. Пагоня? За кім? Навошта? У якую гульню ён увязваецца? Каго ён збіраецца даганяць?

Узнімаючы аграмадны слуп пылу пасярод поля, старэнькі «Фальсваген» з кіроўцам і пасажырам амаль наўздагад знаходзіць купку перакошаных вясковых хат, зарослых каравымі перакручанымі дрэвамі недагледжаных садоў. На адзінай вуліцы першай вёскі пуста і знайсці хоць кагосьці, каб спытацца пра загадкава зніклую камісію, праблематычна. Нарэшце на вочы вандроўнікаў трапляецца стары, апрануты не па надвор'і цёпла (запыленыя кірзавыя боты, ватнік у плямах, пакамечаная шапка-вушанка), які павольна выходзіць з прыдарожных кустоў.

Лёха наіўна спадзяецца, што зараз хутка праясніць сітуацыю, спытаўшыся, ці не прыязджала машына з тумбай для галасавання? Атрымліваецца наадварот — становішча яшчэ больш заблытваецца, таму што сталы жыхар пачынае расказваць пра некалькі камісій. Лёха і Саня ўважліва слухаюць і ніяк не могуць зразумець логіку паважанага вяскоўца. Пакуль не пытаюцца, як даўно былі гэтыя камісіі? Высвятляецца, што першая камісія была на пачатку года і яшчэ дзве камісіі наведвалі вёску два ці тры гады таму. Пра тое, што зараз выбары, ён першы раз чуе, а яго нешматлікія суседзі і сваякі таксама не ведаюць ні пра выбарчую кампанію, ні пра арганізацыі, з ёй звязаныя.

Зніклая камісія праз нейкі час выпадкова знаходзіцца ў трэцяй па ліку вёсцы, якую наведваюць шукальнікі. Вёска больш-менш вялікая па колькасці насельніцтва, а дамы выглядаюць трывалымі і дагледжанымі. Сябры спыняюцца каля вясковай студні, каб набраць вады і раптам заўважаюць працэсію, што лянотна рушыць на пачатку вуліцы. Чамусьці здалёк яна нагадвае нейкі дзіўны хросны ход: наперадзе, як святар, рушыць кіраўнік, а за ім павольна цягнецца купка жанчын-верніц.

Заўважыўшы Саню і Лёху, жанчыны раптам перастаюць усміхацца і перагаворвацца паміж сабой, а кіраўнік распраўляе спіну, надзімае грудзі і рушыць прама на непажаданых гасцей, нібыта певень, які рыхтуецца да бойкі з супернікам. Лёха ветліва і далікатна, па справе пытаецца, ці можна яму далучыцца да камісіі? Чым абяззбройвае кампанію — магчыма, яны меркавалі, што назіральнік будзе зараз сварыцца — чаму, маўляў, без яго з'ехалі? Дарэчы, у хуткім часе высвятляецца, што ўзначальвае гэты спецатрад па зборы подпісаў Іван Рычардавіч, галоўны заатэхнік калгаса.

У кожнай хаце, куды заходзіць камісія, назіраюцца цалкам фармальныя дзеянні. То старая гаспадыня не можа знайсці свой пашпарт і галасаванне адбываецца без уліку яе дадзеных (маўляў, потым запішам). У наступнай хаце хтосьці спіць мярцвяцкім сном і за яго распісваюцца іншыя сваякі. Хтосьці з'ехаў у горад і за яго ўвогуле распісваюцца самі сябры камісіі. Лёха адзначае для сябе гэтыя хібы, але разумее, што калі складаць пратаколы, то рабіць гэта трэба было б на кожнага выбаршчыка. Хутчэй за ўсё, выглядала б тое, як дробны паклёп, і камісія не прыняла б такія кляўзы да разгляду.

Мабільнай сувязі ні ў кога няма, а неабходна ў прызначаны час па тэлефоне звязвацца з кіраўнікам раённай выбарчай камісіі і рабіць справаздачу — колькі людзей прагаласавала. На ўсю вёску два хатніх тэлефоны — адзін на самым ускрайку — да яго яшчэ вельмі далёка ісці. А другі побач, у наступнай хаце. І хоць па часе яшчэ крыху ранавата званіць, варта было б скарыстацца момантам.

Пасля адмашкі правадыра, жаночы атрад паслухмяна спыняецца перад хатай, расфарбаванай у жоўты колер. Жанчыны незаўважна ўсміхаюцца і перашэптваюцца. Разам з імі, дарэчы, тут апынулася і Тамара, адзіная маладая жанчына з камісіі, з якой Лёху давялося пазнаёміцца крыху бліжэй, чым з астатнімі. Іван Рычардавіч, амаль што баявым воклічам («А, х.. з ім!»), дае зразумець, што ён прымае валявое рашэнне: «Будзем званіць ад Пятроўны!» Рычардавіч асмялеў і не выглядае ўжо насцярожаным (бо адзіны чужынец у іхняй кампаніі — назіральнік — не суне нос куды не трэба, нічога не запісвае, лішніх пытанняў не задае, паводзіцца прыстойна ды і выглядае гэты інтэлігент, шчыра сказаць, неяк крыху разгублена).

Па ходзе руху нейкім незразумелым чынам адбываецца так, што адказны за збор подпісаў Іван Рычардавіч на вачах усёй камісіі пачынае ўсё больш хістацца з боку ў бок і спатыкацца аб нябачныя нікому купіны на дарозе... Мова яго запавольваецца, язык не слухаецца і ўвесь час даводзіцца перапытваць, што ён балбоча, якія ці сам сабе, ці камусьці іншаму аддае загады. Што на яго ўплывае незразумела — ці гэта астаткавы сіндром, ці спякота, альбо ён зараз, падчас руху штосьці ўжывае? Тога ніхто не бачыць: магчыма, у яго ў кішэні знаходзіцца нейкая пляшачка, а можа быць, яго цішком частуюць па хатах — гэта застаецца таямніцай.

## XIII

«Так! Прагаласавалі 26 чалавек!» — крычыць Іван Рычардавіч амаль што цвярозым голасам у слухаўку тэлефона пенсіянеркі Пятроўны з жоўтага вясковага дома. Лёха невядома для чаго пазначае гэтую лічбу сабе ў нататнік. Настрой ствараецца дзеяннямі. А дзеянні пакуль зусім запаволеныя — чарапашы рух уздоўж вясковых хат разам з выязной камісіяй і сустрэчы з выбаршчыкамі пад суправаджэнне вымучаных вясковых жартаў. Стан ляноты разам з нейкай далёкай трывогай.

У наступнай хаце пры размове сяброў камісіі выпадкова агучваецца яшчэ адна лічба: колькасць чалавек, якія павінны прагаласаваць — 42. Пакуль Іван Рычардавіч размаўляе з гаспадаром хаты, усе сябры камісіі стомлена чакаюць, калі іхні кіраўнік высвеліць нейкае важнае пытанне. Тамара трымае пачак бюлетэняў. Лёха падыходзіць, ветліва ўсміхаецца і кажа: «Прабачце, а можна мне пералічыць бюлетэні?» Тамара зачаравана глядзіць на Лёху і павольна працягвае яму пачак.

У гэты момант у пярэднім пакоі вясковай хаты, прама насупраць абразоў, прыкрытых пыльнымі рушнікамі, адбываецца цуд: Іван Рычардавіч у адно імгненне цверазее і пачынае за Лёхавай спінай рабіць натуральны магічны рытуал.

Іван Рычардавіч ашалела круціць пальцам каля скроні, з неверагоднай хуткасцю імітуе моцныя ўдары па сваёй галаве, умольна працягвае рукі да Тамары і ў роспачы матляе галавой, потым зноў пачынае энергічна круціць пальцам каля скроні і знакамі моліць Тамару забраць бюлетэні. Усё гэта адбываецца нібыта з выключаным гукам, пакуль незалежны назіральнік ад Хельсінскага камітэта па абароне правоў чалавека Аляксей Уладзіміравіч Барысевіч пералічвае бюлетэні. Яго постаць раптам становіцца ў вачах навакольных людзей злавеснай і падступнай. Асоба назіральніка нібыта набывае нейкую небяспечную для вясковых жыхароў значнасць, загадкавую лёсавызначальную сутнасць, але якая ў стане моцна напалохаць.

Бедная Тамара, вельмі стомленая доўгімі пераходамі ды пакутлівым папярэднім працэсам збору подпісаў, павольна пачынае здагадвацца, што па меркаванні Івана Рычардавіча, адбылася нейкая катастрофа. Але якая менавіта, яна не дужа разумее. І ад гэтага становішча яшчэ больш жахлівае. Твар жанчыны бялее, здольнасць рухацца раптам губляецца — яна стаіць нерухома, цела яе нібыта паралізаванае. Шырока адкрытымі вачыма яна глядзіць на Івана Рычардавіча і не можа варухнуць нават рукой.

Лёха, пералічыўшы бюлетэні, высвятляе, што чыстых бланкаў амаль што на паўсотні болей, чым заяваў ад выбаршчыкаў, якія з паважлівых прычынаў пажадалі галасаваць у сябе дома. Гэта вельмі сур'ёзнае парушэнне. Гэта падтасоўка і маніпуляцыі з дакументамі дзяржаўнай важнасці. Той выпадак, калі без усякага кантролю можна каму заўгодна запоўніць гэтыя дакументы любымі зручнымі дадзенымі і ўкінуць у скрыню, якая будзе адчынена сёння ўвечары, і яе змесціва змяшаецца з тысячай іншых бюлетэняў.

Сцэна поўнай цішыні і нерухомых постацяў магла быць цалкам тэатральнай, калі б усё гэта не адбывалася на самой справе. Лёха адчувае няёмкасць ад таго, што вымушаны парушыць шматзначную нямую сцэну, вартую лепшых тэатраў свету. Ён кладзе на край стала выпадкова рассакрэчаныя дакументы, якія ў адзін момант страцілі сваю стратэгічную моц і падаюцца зараз пачкам непатрэбнай нікому макулатуры. Назіральнік дзякуе за супрацу і выходзіць на вуліцу.

Ад адчування сваёй адзіноты, супрацьстаяння з усім светам, Лёху пачынае калаціць. Калі з усіх бакоў цябе разглядаюць, як нейкага шпега, здрадніка, падазронага тыпа, якому трэба больш за іншых. Калі ніхто не думае пра законнасць (ну, хоць бы ў якім выглядзе яна ж павінна быць?), пра канстытуцыйны парадак, які зараз падаецца пустым гукам, пра тое, што ў адных сваё меркаванне, у іншых другое. Трываць гэта вельмі цяжка. З хаты далятаюць першыя гукі: Іван Рычардавіч нягучна, але вельмі злосна лае Тамару, а ў адказ чутныя толькі хліпанні. Чым ёй дапамагчы? Нічым... Яна сама ні ў якім разе не пойдзе на кантакт пры сябрах камісіі ды пры аднавяскоўцах.

Адшукаўшы Саню, які мірна спіць у машыне, Лёха просіць завезці да Васіля Авер'янавіча ў Галаўлічы. Па прыездзе гасцей гаспадар без лішніх пытанняў ставіць на стол пляшку самаробнага моцнага напою, падсоўвае бліжэй чугунок толькі што зваранай бульбы. Падклаўшы ў талерку хатніх гуркоў і памідораў, наразае хлеба ды сала. Што здарылася, не пытаецца, пакуль не выпіваюць па першай. Лёху не «адпускае» — нейкая існасць нібыта сціскае грудзі, трывога пераходзіць у стан звычайнага, заўсёднага пачуцця, якое суправаджае паўсюль і не знікае ні на секунду.

Васіль Авер'янавіч дапамагае скласці пратакол, улічваючы ўсе бюракратычныя акалічнасці. Асноўны пункт парушэння пад нумарам 1 — наяўнасць у выязной камісіі неадпаведнай колькасці чыстых бланкаў для галасавання, кожны з якіх ўяўляе сабой найважнейшы дакумент строгай справаздачнасці. Бланкаў павінна быць роўна столькі, колькі пададзена заяваў для галасавання дома. У гэтым пытанні, як вядома, адказныя асобы праявілі такую вольнасць, што бюлетэняў хапіла б і на ўсю вёску па другім крузе.

У пунктах пратакола №2 і №3 пералічваюцца яшчэ некаторыя парушэнні: калі хто галасаваў без пашпарта, ці калі галасавалі за выбаршчыка іншыя людзі. Як дадатак для зафіксаванага асноўнага грубага парушэння, гэтыя пункты таксама набываюць важнае значэнне.

## XIV

Торба на плячы з часам сапраўды пачынае аказваць магічнае дзеянне. Што яна памалу, як магніт, прыцягвае невядомыя сілы — гэта факт. Лёха хвілін дзесяць-пятнаццаць стаіць недалёка ад выбарчага ўчастка. Сказаць па шчырасці, ён не ведае, што рабіць. З паўгадзіны таму ён заходзіў на ўчастак, без справы, проста пабачыць рэакцыю людзей. Відовішча, як і меркавалася, было псіхалагічна цяжкім.

На той момант, якраз вярнулася выязная камісія пад кіраўніцтвам Івана Рычардавіча. Яны нарэшце адолелі ўвесь шлях да канца вуліцы ў суседняй вёсцы, той самай, дзе Лёха пералічыў бюлетэні і пазней склаў пратакол. Але гэты шлях апынаецца цяжкім выпрабаваннем для сябраў камісіі і асабліва для Тамары.

Прычынай, прадказальна, становіцца абстынентны сіндром і дэструктыўна-арганічныя працэсы разам з псіхапаталагічнымі. Іншымі словамі, Іван Рычар-

давіч з пахмелля, ды ўвогуле маючы неўстойлівую псіхіку, дзякуючы любові да алкаголю, «выносіць мозг» усім сваім калегам. А Тамару ўганяе ў стан такой дэпрэсіі, што на яе шкада глядзець.

Як толькі змучаныя пілігрымы на чале з Іванам Рычардавічам пераступаюць парог выбарчага ўчастка, апошні, каму трэба і каму не трэба, распавядае пра падступнага назіральніка і няўважлівую супрацоўніцу. У збялелай, як палатно, Тамары ні арганізм, ні мозг ужо, напэўна, не ўстане трываць гэтыя здзекі. І як толькі на ўчастак заходзіць Лёха, з торбай цераз плячо, Тамара страчвае прытомнасць. Бедная жанчына павольна асядае і валіцца на падлогу прама пасярод пакоя.

Здарэнне адцягвае ўвагу усіх прысутных ад Лёхі. Жанчыны завіхаюцца вакол пацярпелай. «Хуткая дапамога» з'яўляецца аператыўна і забірае пакутніцу ў мясцовую лякарню. Іван Рычардавіч, праходзячы міма Лёхі, з нянавісцю трасе кулаком: «Ну, што? Дапрыгаўся? Ледзь на той свет не адправіў чалавека!»

Раптам на ўчастку звініць тэлефон і Мойша Кронберг, старшы лейтэнант, які прызваны забяспечваць парадак на ўчастку № 13, крычыць на ўвесь голас: «Аляксей Уладзіміравіч! Вас запрашаюць!» Лёху падаецца, што былы сусед, якога ён памятае з пялюшак, укладае нейкую нездаровую саркастычную шматзначнасць у свае словы. Але чаго толькі не напрыдумваеш падчас усяго, што адбываецца!

На сувязі старшыня выбарчай камісіі раёна: «Аляксей Уладзіміравіч! Што Вы сабе дазваляеце? Вы не ўпаўнаважаны так паступаць! Вы не мелі права пералічваць бюлетэні!..» Тэлефон знаходзіцца амаль на самым уваходзе на ўчастак. У слухаўцы траскатня і моцныя шумы. Вакол мітусня — медыцынскія супрацоўнікі, псіхічна неўраўнаважаны Іван Рычардавіч, расхваляваныя сябры камісіі, Мураш і Мурашыха, якія спадылба зыркаюць на Лёху, — усе ці то выпадкова, ці то незнарок піхаюць Лёху то пад локаць, то ў спіну, адначасова гамоняць, аб нечым перашэптваюцца, карацей, ствараюць нейкі неверагодны броўнаўскі рух.

Лёха павольна кладзе слухаўку, не кажучы ні слова ў адказ. Мойша нахабна ўсміхаецца. Ён зацягнуў свой стол на ўчастак і робіць выгляд, што зрабіў гэта, каб фліртаваць з жанчынамі з камісіі, пакуль на ўчастку няма наведнікаў. Насамрэч ён хітруе, прыкрываючыся паказной прастадушнасцю. Лёха робіць заўвагу старшаму лейтэнанту.

Стол прадстаўніка сілавых структур не павінен знаходзіцца на ўчастку, каб не ўтвараць псіхалагічны ціск на тых, хто мае жаданне прагаласаваць за кандыдата не ад дзейнай улады. Мойшава ўсмешка імгненна злятае і замест яе з'яўляецца крыўда. Такой глыбіні пакутлівую грымасу мала хто з таленавітых актораў можа стварыць. Ды з такой хуткасцю перамены эмоцыяў на твары! Гэта проста квінтэсенцыя болю ўсяго народа за тое, што да іхняга прадстаўніка паставіліся так несправядліва.

Лёха «не вядзецца» на акторскае мастацтва былога суседа, таму што ведае — той як заступіў тыдзень таму на ўчастак № 13, так і знаходзіцца тут бязвыездна. Служу Айчыне! Хаця, давайце без пафаса. Такая служба насамрэч з'яўляецца грубым парушэннем закона. Кожны дзень і кожную ноч павінны змяняцца ахоўнікі святога Грааля (які, па супадзенні, называецца «урнай»), па-простаму — фанернай тумбы, збітай цвікамі і апячатанай пластылінавай пломбай. А змяняе сам сябе на гэтым адказным пасту толькі адважны герой Мойша Кронберг. Колькі разоў аддзіралася задняя сценка Грааля, ды па якіх начах з ім варажылі зацікаўленыя асобы — нам нічога невядома ды і ці трэба нам тое ведаць?

Дык вось, пасля ўсяго гэтага гармідара Лёха выходзіць на вуліцу і проста стаіць, дыхаючы свежым паветрам. Узгадваючы апошнія падзеі, разважаючы пра іхнюю заканамернасць ці выпадковасць, ацэньваючы свае дзеянні. Не быць бы яму назіральнікам, каб не заўважыў наш герой іншага назіральніка. Які ўважліва назірае за назіральнікам (Фрыдрых Дзюрэнмат у дзеянні?). Хаця той, другі, і не хаваецца. Гэта старшыня калгаса Шчупакоў, які сапраўды выконвае функцыі назіральніка ад райвыканкама. Ён не падыходзіць сам да візаві, а замест сябе пасылае старшыню камісіі Мураша. Падбегшы, Мураш адразу прад'яўляе Лёху прэтэнзію: «Што ты тут сабе дазваляеш? Лезеш не ў свае справы?» Лёха, не чакаўшы такога наезда, адказвае, што першае прыйшло ў галаву: «Ты настаўнік? А ці думаеш пра дзяцей? Ты ж іх таксама падманваеш...»

Мураш чамусьці моцна палохаецца, выраз твару яго змяняецца і, не знайшоўшы, што адказаць, кіраўнік выбарчай камісіі бягом кідаецца назад, да «свайго» назіральніка. Шчупакоў прымае пасыльнага з напышлівым выглядам, гледзячы кудысьці ўбок. Выслухоўвае эмацыйны даклад Мураша, так і не паглядзеўшы на яго, адпускае «дакладчыка» і далей нерухома стаіць, моўчкі назіраючы за тым, што адбываецца вакол.

## XV

І вось Лёха ў роспачы стаіць каля вясковай дарогі, не ведаючы, што рабіць далей з гэтым пратаколам, які ніколі ў жыцці проста так не падпіша ні адзін з сябраў камісіі. Але ж бывае сітуацыя, што вось хтосьці знаходзіцца ў цяжкіх роздумах, прыгнечаны недаверам і непаразуменнем з боку, як падаецца, усіх навокал. Здараецца калі-небудзь, што чалавек гэты сумна ўглядаецца ў далягляд, нібыта чакае адкульсьці дапамогі. І нечакана за лініяй таго далягляду, спачатку амаль незаўважна, утвараецца тарнада з пылу прасёлачнай вясковай дарогі. А праз пяць хвілін — прама насупраць самотнага назіральніка (таго, хто назіраў за ходам падзей і ўпотай спадзяваўся на цуд), які стаіць на ўскрайку дарогі са сваёй торбай, што ўвайшла ўжо ў навакольныя легенды, — спыняецца новенькі мікрааўтобус, ззяючы нетутэйшай замежнай бялявасцю ў шэрасці мясцовых аблокаў пылу.

У Шчупакова акругляюцца вочы. Да апошняй секунды ён быў упэўнены, што ў яго «ўсё пад кантролем». А тут чалавек, асноўная праца якога — кіраваць, кантраляваць і перастрахоўвацца ад непрадугледжаных сітуацый, — раптам бачыць, як на яго вачах адбываецца нешта непрадказальнае, і ён нічога з гэтым не можа зрабіць. На шчасце, ён не бачыць Лёхавых вачэй — яны ў яго таксама ледзь не выскачылі з арбіт ад нечаканасці. Але з той нагоды, што стаіць назіральнік «незалежны» спінай да назіральніка «залежнага», усё выглядае так нібыта мікрааўтобус спыніўся ў прызначаным месцы і ў дакладны час — прама насупраць Лёхі. У «дамабільную» эпоху гэта выглядае сапраўды, як цуд.

Дзверы мякка адчыняюююцца і ў галаўлічскі пыл, як на марсіянскі грунт, асцярожна апускаецца выкшталцоны абутак у колькасці дзясятка пар. Адарваўшы погляд ад чыіхсьці прыгожых жаночых ножак, Лёха чытае на бэйджах, прышпіленых на грудзях адважных першаадкрывальнікаў Terra-Galaulichus, нечаканых валанцёраў добрай волі: «Kazakhstan», «Croatia», «Lithuania», «Russia», «Czech republic», «Poland», і пад назвай краіны дадатковыя подпісы — «незалежнае назіранне».

Апошнім на зямлю ступае маленькі лысы дзядок з надпісам на бэйджы: «USA». Побач з ім, стылёва апранутая, высокая дваццацігадовая брунетка. Лёха робіць крок наперад, вітае, як старых сяброў, кожнага госця, прадстаўляецца персанальна: «Аляксей Барысевіч, незалежны назіральнік ад Хельсінскага камітэта, РНБ».

Галаўлічскія госці нічаму не здзіўляюцца, наадварот, адзначаюць добрую арганізацыю, пытаюцца пра парушэнні. Лёха спяшаецца распавесці пра ўвесь набор зафіксаваных прэцэдэнтаў, нібыта хоча скінуць нарэшце цяжкі груз са сваіх плеч. У нейкі момант наш герой з палёгкай разумее, што хоць як, хоць у вусным выглядзе, але інфармацыя становіцца галоснай.

Яны даходзяць да прыступак будынка, дзе ўсё яшчэ стаіць разгублены Шчупакоў. У Лёхі ёсць жаданне пазнаёміць прадстаўніка афіцыйнага назірання з гасцямі, але ў апошні момант яго думкі хтосьці перапыняе пытаннем. Лёха адхіляецца і праводзіць гасцей у фае перад памяшканнем выбарчага ўчастка. Шчупакоў застаецца недзе ззаду. Навіна пра таямнічую групу міжнародных назіральнікаў, спецыяльна выкліканую Барысевічам, невядома якім чынам імгненна разносіцца па наваколлі.

Апошняе, што бачыць Лёха, перад тым, як «яго» каманда пераступае парог з Граалем стацыянарным, гэта як мажны Мойша Кронберг, амаль бягом, па хуткаму абхапіўшы свой службовы стол разам з нейкімі паперчынамі на ім, прэ казённую мэблю з памяшкання на калідор.

Назіральнікі засяроджаныя кожны на сваёй справе — хто нешта запісвае, хто перагаворваецца з калегамі, хто разглядае памяшканне, скрыню, людзей. Лёха стараецца быць неяк у плыні іхняй цікавасці, але на яго ўсе ўжо забыліся, засяродзіўшыся на сваіх справах.

Амерыканец, прыкладна сямідзесяцігадовага ўзросту, вылучаецца сярод трыццаці-саракагадовых калегаў. Імпазантная перакладчыца нешта тлумачыць яму прама ў вуха. Лёха, падумаўшы пра тое, што ён ніколі ў жыцці не меў стасункаў з амерыканцамі, падыходзіць да божага дзьмухаўца з Нью-Ёрка і загаворвае на той мове, якую лічыць ангельскай. Стары доўга пераварвае пачутае, потым глядзіць на перакладчыцу. Прыгожая дзяўчына хавае ўсмешку і ласкава прапануе Лёху: «Калі хочаце, гаварыце на роднай мове, а я буду перакладаць». Раптам дзядуля, штосьці ўзгадаўшы, пытаецца пра нумар участка, на які яны прыехалі. Лёха разумее пытанне і адказвае: «13». Амерыканец, расклаўшы Лёхаў адказ па складах, паўтарае загадкавае слова. Перакладчыца ўжо не хавае добрай усмешкі, а ў нейкі момант і ўвогуле ледзь стрымліваючы смех, робіць Лёху паўторную прапанову — давайце, маўляў, я дапамагу. Лёха пагаджаецца, і нумар участка фіксуецца ў аналах сусветнай гісторыі ў фанетычным варыянце прыгажуні-перакладчыцы.

## XVI

Старшыню камісіі Мураша згубіла тое, што ён занадта пільна прыслухоўваецца да дыялогаў. Напрыклад, калі ўзяць размовы серба з казашкай, альбо полькі з літоўцам — усе яны гавораць на рускай мове, хоць і з моцным акцэнтам. Там, дзе не дачуў ці не зусім зразумеў Мураш, уяўленне яго дамалёўвае такія дэталі, што тыя, каму пазней дакладае старшыня змест падслуханых перамоваў, круцяць пальцам каля скроні — маўляў, Мураш, ты што вярзеш? А ў выпадку Лёхавага практыкавання з амерыканцам на тэму лічбы 13, Мурашу даводзіцца перакладаць з ангельскай. Аднак тут ёсць адзін нюанс — з замежных моваў спадар старшыня вывучаў толькі нямецкую. Калісьці ў школе. Таму можна назваць гэты няпросты працэс «цяжкасцямі перакладу», калі сыходзіць з таго, колькі важнага пачута пра шпіянаж і падрыўную дзейнасць супраць дзяржавы.

Лёха адчувае спінным мозгам, што ўзровень злавеснасці і падступнасці яго асобы ў вачах напалоханых сябраў камісіі істотна падвышаецца. Ён марудзіць і ніяк не можа адысці ці то ад амерыканца, які нічога не разумее, што тут адбываецца, ці то ад яго прывабнай спадарожніцы, якую Лёха павесяліў показкай пра інтэрв'ю з высокім чыноўнікам на блізкую ёй тэму лінгвістыкі:

— Скажыце, а Вы на колькіх мовах размаўляеце?

— На пяцірох.

— Гэта якія?

— Руская пісьменна, руская вусна, беларуская пісьменна, беларуская вусна і ангельская.

— А на ангельскай можаце штосьці сказаць?

— Хандэ хох!

— Дык гэта ж нямецкая!

— Ну, тады на шасцірох...

Перакладчыца смяецца, можа быць, не столькі ад грубаватай і дурной показкі, колькі ад таго, што ёй падабаюцца Лёхавы завуаляваныя заляцанні. Зразумела, што збоку — для сумленнага мясцовага электарата тое выглядае, як мінімум, здзекам, а то і сапраўднай здрадніцкай змовай супраць «чэсных» людзей — ну, пра што можна жартаваць з такімі падазронымі замежнымі тыпамі?

Але далей цягнуць нельга, Лёха рэзка ўстае з крэсла, кажа перакладчыцы, што яны яшчэ абавязкова ўбачацца, ціснe руку зачараванаму амерыканцу і, развярнуўшыся, адразу падыходзіць да стала старшыні. Ён знімае з пляча сваю торбу. Так! Тую самую падазроную торбу, якая сваім выглядам непакоіць шмат каго з прысутных. Дастае адтуль пратакол і кладзе перад старшынёй: «Распішыцеся, калі ласка».

Пасля няпростых перакладаў з ангельскай, Мурашу падаецца, што на яго ўтаропіліся ўсе гэтыя сербскія, казахскія, літоўскія ды іншыя набрыдні, якіх, зразумела, толькі што падбухторыў злосны назіральнік Барысевіч (адкуль яго ліха прынесла?). Асабліва ўглядаецца гэты смарчок-амерыкос — па выглядзе самы сапраўдны агент ФБР,і якога Барысевіч асабліва нацкаваў — назірайце, маўляў, пільна, як павядзе сябе старшыня? Ці прызнае памылкі ў працы камісіі? Ці пойдзе па цывілізаваным шляху? І вось даводзіцца падпісаць пратакол. Пад націскам, так сказаць, варожых сіл.

Насамрэч ні каманда назіральнікаў, ні амерыканец, ні яго абаяльная перакладчыца не маюць уяўлення, куды і навошта накіроўваецца зараз Лёха, і ўсе спакойна працягваюць займацца сваімі справамі. Але ж, атрымаўшы подпіс ад старшыні, нахабны Барысевіч падсоўвае пратакол яшчэ і намесніку, дакладней намесніцы. Жонка Мураша сядзіць ні жывая, ні мёртвая — збялела ад страху, і рука яе не падымаецца падпісаць сабе прысуд у страшным дакуменце. «Падпісывай ужо...» — з выглядам асуджанага выдаўлівае з сябе Мураш.

Лёха на ўсякі выпадак падыходзіць яшчэ да шэраговага сябра камісіі, маладой жанчыны і, здаецца, сваячкі Тамары (якая ў дадзены момант па-ранейшаму знаходзіцца ў лякарні) і просіць паставіць трэці подпіс. Сваячка не прымушае сябе доўга чакаць і ставіць подпіс лёгка, нават з нейкай нервовай весялосцю: маўляў, паміраць, дык з музыкай! А што з мяне ўзяць, калі сам старшыня ды яго намесніца падпісалі?!

Назіральнік Барысевіч рушыць да выйсця нібыта ў запаволенай здымцы. Такі, насамрэч, стан вельмі стомленага чалавека — цела, як ватнае, у горле перасохла, некалькі метраў да расчыненых дзвярэй падаюцца бясконцымі кіламетрамі. Усё, прадназначэнне назіральніка выканана. Не верыцца, што ён можа так лёгка адсюль сысці. Падсвядома чакае нейкага падвоха. Чамусьці здаецца, што ў калідоры, за дзьвярыма ўчастка, на яго наваляцца безаблічныя цені і паспрабуюць вырваць аркуш паперы, што Лёха яшчэ трымае ў руках. Але там сядзіць за сваім сталом толькі Лёхаў былы сусед з далёкага дзяцінства Мойша Кронберг.

Наш герой здагадваецца аб сіле гэтага дакумента, хоць пакуль і не ведае дакладна, што пратакол аб парушэнні, які завераны не абы-кім, а старшынёй, намеснікам ды яшчэ адным сябрам камісіі, аўтаматычна анулюе любыя вынікі выбарчай кампаніі ва ўсёй краіне. Каб растлумачыць для сябе ўсе юрыдычныя нюансы, Лёха збіраецца зайсці да Васіля Авер'янавіча, тога самага выкладчыка гісторыі з той самай школы, дзе вучыць дзяцей сумленна працаваць выкладчык працоўнага навучання па прозвішчы Мураш.

Перад тым, як пераступіць парог і пакрочыць у светлую будучыню, Лёха кладзе пратакол. У ТУЮ. САМУЮ. ТОРБУ. Якая ў свядомасці некаторай часткі насельніцтва, прыпісанага да Галаўлічскага выбарчага ўчастка, за гэты непросты і неверагодны дзень ператварылася з падазронага прадмета ў сапраўдны сімвал антыўладнай змовы.

Гэта шчасце, што на стомленага чалавека, які павольна выйшаў з будынку, дзе размяшчаецца выбарчы ўчастак № 13, ніхто не нападае. Шчупакоў з суворым і строгім выглядам, як стаяў на сваім пасту, на ганку Дома культуры, так і працягвае стаяць. Лёха, здаецца, хоча зрабіць яму нейкі прывітальны знак, але Шчупакоў ні на што не рэагуе. Два назіральнікі на двух квадратных метрах зямлі разыходзяцца як чужынцы-караблі ў далечы штармавога акіяна — змучаныя і выматаныя бурамі апошніх падзей.

Толькі, калі Лёха пачынае аддаляцца, Шчупакоў утаропλівае погляд яму ў спіну. Дакладней, не ў саму спіну, а ў торбу, што боўтаецца за спінай. Так супала, што ляжаць у ёй Лёхаў пашпарт, нататнік з асадкай ды легендарны галаўлічскі пратакол. Усё.

## Замест эпілога

Калісьці маладая журналістка Віялета піша незабыўныя радкі пра падманутага кандыдата ў прэзідэнты — падобнага на «Боінг», які нясе на сабе нью-ёркскія вежы-блізняты. На наступны дзень, пасля абвяшчэння афіцыйным бокам яго імя ў якасці прэзідэнта, вежы абрынаюцца. Такое супадзенне. Але праз некаторы час, прыкладна, напярэдадні наступных выбараў, у той жа цэнтральнай газеце, дзе працуе Віялета, выходзіць артыкул за яе подпісам — пра туманныя перспектывы і пэўную бесперспектыўнасць айчыннага шоу-бізнэса.

З сарказмам, які ўласцівы зорцы афіцыйнай гонза-журналістыкі, Віялета з'едліва іранізуе над верагоднасцю (лепей сказаць — неверагоднасцю) прыезда ў краіну сучасных рок-зорак. А ў якасці фантастычнага і нерэальнага прыкладу, журналістка прыводзіць канцэрты Элтана Джона і Стынга ў якой-небудзь зале краіны.

Лёха з вялікай цікавасцю чытае артыкул разам са сваёй сяброўкай Лізай, якая, па супадзенні, фанацее менавіта ад гэтых двух артыстаў. Іхні прыезд выглядае сапраўды нерэальнай справай. Канцэртамі такога ўзроўню на той момант займаецца толькі Гуля Шлойман, але «падцягнуць» Стынга і Элтана Джона нават ён не ў стане.

Мінае кароткі час, і сталіца рэспублікі зіхаціць афішамі: на дзень народзінаў Лёхі амаль выпадкова прыязджае Элтан Джон, а на дзень народзінаў Лізы па дзіўным супадзенні звальваецца падарунак у выглядзе Стынга. Так супадае яшчэ, што Гуля Шлойман — такія складаюцца акалічнасці — сядае за краты. Абвінавачванне неверагоднае: пазычыў грошы на арганізацыю канцэрта і не хоча аддаваць. Шэсць год. Ад званка да званка (шэптам у зале суда: сваяку адной уплывовай асобы не хацеў саступіць дарогу. А той хацеў займацца такім самым бізнэсам, як Гуля. Ну і прапанавалі падумаць. Маўляў, ты пакуль заканспектуй свае лекцыі па менеджменту і мастацтву арганізацыі канцэртнай дзейнасці, якія раней чытаў ва ўніверы, а мы тут за цябе папрацуем).

Яшчэ здарылася так, што вакзал «Усход-Захад», дзе Лёха калісьці шукаў «Доўгую дарогу дадому», зачыняюць. А праспект Машэрава, дзе ў свой час пракурор зубрыў юрыспрудэнцыю, пераймяноўваюць у праспект Пераможцаў. Паколькі такую банальную і безаблічную назву цяжка запомніць, у народзе пачынаюць называць гэту вуліцу, як праспект Пераможцаў Машэрава. Адной з прычын узнікнення народнага тапоніма становіцца той факт, што дачка Пятра Міронавіча здымае сваю кандыдатуру ў наступнай перадвыбарнай кампаніі, дзе ўдзельнічае (хто б мог падумаць?) зноў кандыдат, якога злавесны «афіцыйны бок» у які раз падмануў.

Адважна пажарнік, ён жа былы Лёхаў вучань, незалежна ад вынікаў перадвыбарнай кампаніі ў хуткім часе ідзе на павышэнне і працягвае службу кіраўніком абласнога ўзроўню. Яму шанцуе, таму што праходзіць не так шмат часу пасля сустрэчы на Лёхавым участку — такія ўтвараюцца варункі — і ў мястэчку Ранак-Туманны ўрачыста адзначаецца Дзень пажарніка. Калектыў мясцовага Дома культуры (дзе працягвае працаваць спадар Дамінжанка, але ўжо не ў якасці дырэктара) ладзіць прыстойны канцэрт. З узнагародамі, грашовымі прэміямі і ўручэннямі грамат лепшым пажарнікам. У гэтую ж ноч здараецца пажар, і памяшканне аддзела культуры і па сумяшчальніцтву — Дом культуры, цалкам згарае. Загадчыкам аддзела пакуль яшчэ служыць спадар Паварофін. Але пасля пажара ўжо — нядоўга.

Дом культуры ў Галаўлічах, дзе размяшчаўся выбарчы ўчастак № 13, у хуткім часе пачынае развальвацца. У аварыйным стане яго зачыняюць, а потым і ўвогуле зносяць. Такі ж лёс спасцігае яшчэ пару Дамоў культуры па Ранак-Туманаўскай выбарчай акрузе менавіта ў той жа час.

Начальнік мясцовага аддзела па прозвішчу Першамайскі ідзе на павышэнне ў прамой залежнасці ад вынікаў перадвыбарнай кампаніі і ўзначальвае Першамайскі аддзел у абласным цэнтры. За ім адпраўляецца Мойша Кронберг — «за отличную службу на благо Родины». Кудысьці на павышэнне ідзе спадарыня Дзяржынская, а яе муж Фелікс займае месца Першамайскага.

Лёха працуе ў сталіцы, паехаўшы туды шукаць шчасце са сваёй незабыўнай торбай. Калі набыў сабе модны заплечнік, у старую торбу склаў розныя кабелі, старыя мікрафоны, выкарыстаныя струны ды іншы хлам і пакінуў у

сябра ў гаражы. Так супадаюць акалічнасці, што ў гараж забіраюцца злодзеі, крадуць нейкія запасныя часткі, а пабачыўшы Лёхаву торбу, вытрасаюць яе змесціва на падлогу, складаюць туды накрадзенае і ўцякаюць. Іх у хуткім часе вылічваюць і знаходзяць скрадзеныя рэчы. Торба фігуруе ў судзе, як «рэчавы доказ» і ўрэшце рэшт назаўсёды застаецца недзе ў сховішчах невядома якіх судова-медыцынскіх экспертаў.

Судмедэксперт Ранак-Туманаўскага аддзела дорыць Лёху відэакасету са здымкамі падзей на яго двары напярэдадні колішніх выбараў. Яна пылілася доўгі час на паліцах архіва, таму што калісьці «не пошла в производство в связи с закрытием дела за недостаточностью улик».

Тамара з Галаўлічаў болей не прымае ўдзел ні ў якіх выбарах. Калегі ставяцца да яе пазіцыі спагадліва і ніколі больш не прапаноўваюць падобных авантур.

Прыгожую перакладчыцу амерыканскага назіральніка адлічваюць з чацвёртага курса Лінгвістычнага ўніверсітэта на першай жа сесіі пасля выбараў. Па праграме дапамогі студэнтам яна з'язджае ў Польшчу і заканчвае навучанне ва ўніверсітэце на поўначы братняй краіны, атрымаўшы дыплом еўрапейскага ўзору.

Апгрэйдзера бесперапынна затрымліваюць ці напярэдадні, альбо цягам усемагчымых кампаній. Падчас наступнай, перадвыбарнай, яго два тыдні трымаюць у сталіцы і прывозяць у Ранак-Туманны за дзень да кульмінацыі. Самае дзіўнае тое, што выпускаюць без усякіх пытанняў. Дом Апгрэйдзера насупраць — перайсці дарогу. Каля перахода стаяць трое — яны вельмі нагадваюць каўказцаў, а адзін з іх дакладна калісьці сядзеў за багатым каўказскім сталом падчас мінулай кампаніі. Калі Апгрэйдзер раўняецца з імі, той знаёмы валіцца на зямлю і пачынае енчыць. Тут жа выскокваюць людзі ў форме і зачыняюць Апгрэйдзера на два тыдні за хуліганскія дзеянні ў адносінах да грамадзяніна іншай рэспублікі. Двое сведкаў усё, што патрэбна пацвярджаюць у судзе на карысць «пацярпелага».

Так склалася, што Аляксей Барысевіч, як прадстаўнік Хельсінскага камітэта, разам са сваім калегам Васілём Авер'янавічам, сябрам незалежнай асацыяцыі журналістаў, позна ўвечары прысутнічаюць на падліку галасоў на ўчастку № 13 па Ранак-Туманаўскай выбарчай акрузе. Пры падліку ўсё супадае ідэальна — да адзінага бюлетэня. Ніякіх парушэнняў, ніякіх падтасовак. Мойша Кронберг падміргвае Мурашу, маўляў, усё чыста — не падкапаешся.

Авер'янавіч пасля працэсу запрашае Лёху да сябе. Яны моўчкі сядзяць на цёмнай верандзе пры свечцы. Святло не ўключаецца, каб не замінаць адпачываць гаспадыні. Выпіўшы па першай, яны толькі выдаюць кароткія каментары, кшталту: «Эх!», «Так яго растак!», «Нічога!», «Паглядзім яшчэ!» Раптам расчыняюцца дзверы і ў цьмяным праёме застывае маўклівая мажная постаць на фоне начнога неба. «Хто тут?» — строга пытаецца Авер'янавіч. Замест адказу цёмная фігура падсоўваецца бліжэй, ставіць на стол бутэльку

гарэлкі і голасам Шчупакова адказвае: «Хачу з вамі выпіць. Вы прайгралі! Але ж як вы прыгожа і прафесійна працавалі! Вы проста малайцы!» Ад нечаканасці Лёха і Авер'янавіч доўга глядзяць адзін на аднаго. Шчупакоў тым часам адкаркоўвае бутэльку, разлівае вадкасць у тры шклянкі, чокаецца са сваімі былымі супернікамі, першым выпівае да дна і знікае там, адкуль з'явіўся.

Так здараецца, што праз шмат гадоў Васіль Авер'янавіч ў Галаўлічах, ва ўласнай хаце ўключае тэлевізар. А Лёха ў той жа момант у сталіцы, зайшоўшы ў салон бытавой тэхнікі, аказваецца перад уключаным вадка-крысталічным вялізным плоскім маніторам.

Канал, у адпаведнасці з нейкай патаемнай логікай, апынаецца адзін і той жа — першы дзяржаўны. І вось, пампезны вядоўца, які ў сваім чорным капялюшы нагадвае сапраўднага лаўтара, абвяшчае спіс самых шчаслівых людзей краіны — тых, хто рызыкнуў набыць латарэйныя білеты і... зрабіў правільны выбар!

У краіне, якая крыху запаволена ў сваім руху, блытаецца ў сапраўдных і несапраўдных рэаліях, Лёха ўжо даўно нічаму не здзіўляецца. Але тэлеэкран часам робіць са сваімі гледачамі неверагоднае — і наш герой аж прыадкрывае рот ад здзіўлення: першым у спісе «шчасліўцаў» вядоўца называе дырэктара Галаўлічскай сярэдняй школы з нейкім занадта знаёмым прозвішчам — Мураш! І самае цікавае, што нумар яго латарэйнага квітка пачынаецца з трох сямёрак...

Аб'ектыў камеры пераязджае на залу, на гледачоў, якія ў захапленні пляскаюць у ладкі. Камера набліжае першую асобу ў бліжэйшым шэрагу і ёй аказваецца абаяльная прадавачка латарэек у чорна-белым капялюшыку.

За ёй б'е нерухомую левую далонь — з размаху правай — вялікі мажны чалавек, якога Лёха не адразу пазнае ў цывільным. Але калі мужчына паварочваецца ў анфас і задаволена ўглядаецца прама ў камеру, Лёха адразу ўспамінае міліцыянта, які калісьці паведаміў яму, што «ў нас усё пад кантролем».

Далей сядзяць дзве прадавачкі кніг з фае былога аўтавакзала «Усход-Захад» — Галя і Валя. Як толькі яны бачаць сябе на вялікім студыйным маніторы, адразу паварочваюцца да камеры і з усмешкамі да вушэй актыўна махаюць рукамі. Побач з імі, відаць абсалютна выпадкова, апынаюцца дзве госці з бліжняга замежжа — яны махаюць свежым выпускам цэнтральнай газеты з пакамечаным партрэтам і прамаўляюць нейкую фразу. Калі б не гучная студыйная музыка, то можна было дакладна разабраць «У нас в Смоленске его обожают!»

З усёй аўдыторыі істотна вылучаецца група падтрымкі з Галаўлічаў: Іван Рычардавіч нервовымі рухамі стварае адмысловую ауру і ніяк не можа зразумець, у які бок махаць, каб перадаць прывітанне землякам. Побач з ім сядзіць Мурашыха ды іншыя сябры былой (і заўсёднай) камісіі, акрамя Тамары. А замыкаюць дэлегацыю ніхто іншыя як колішні кіраўнік калгаса Шчупакоў разам з былым намеснікам старшыні Ранак-Туманаўскага райвыканкама па прозві-

шчы Ленінскі. Які, дарэчы, згодна з законам аб выпадковых абставінах, быў у свой час дырэктарам Галаўлічскай школы.

Усе весела ўсміхаюцца і дружна пляскаюць у ладкі. Здаецца, камера памылкова крутанулася і захоплівае службовую зону. Але аператар не адводзіць аб'ектыў — там, на неасветленай пражэктарамі тэрыторыі за кулісамі знаходзіцца нейкая жаночая постаць, як падаецца, апранутая ў занадта бутафорскія адзенні. Яна, не хаваючыся, паліць цыгарэту. Адразу ўзнікаюць пытанні: дзе пажарнікі пры такім вялікім скапленні людзей? Дзе адказныя за тэхніку бяспекі падчас санкцыянаванага масавага мерапрыемства?

Камера «наязджае» і дае буйны план. Бутафорская ўніформа апынаецца калекцыяй нармалёвых цыганскіх спадніц, а жанчына — той самай цыганкай з пачатку нашай гісторыі. Яна адкульсьці, з неверагоднай спаднічнай прасторы, дастае смартфон апошняй мадэлі, корпаецца ў ім і раптам у Лёхі звоніць яго старэнькі «Nokia»: «Касацік, ты выбачай! У жыцці складаецца па-living — тут як карта ляжа. Усё будзе добра, табе ж казалі. Вядома, з Гулем Шлойманам перабор атрымаўся. Але ён крыху сам вінаваты — не адразу зразумеў, з кім мае справы. А калі зразумеў, ужо было позна.

Дарэчы, тэлевізар гэты — сапраўдны падман, нічога добрага. Як і латарэі ды казіно розныя. А газеты... Што з гэтымі газетамі рабіць? Трэба, хаця б, умець чытаць... Ведаеш, там побач з табой, аркушык адзін — ты пачытай, будзе не лішнім...

А ў гульні ты не гуляеш, малайчына. Ты справу робіш. Вялікую справу...»

Відэашэраг перарываецца, нешта коратка шыпіць, потым на экране мільгаюць каляровыя ліхтары, пачынае дубасіць нейкая манатонная тэхна-кампазіцыя. Лёха, трымаючы мабільны тэлефон у руцэ, азіраецца — нікога ў салоне бытавой тэхнікі, акрамя яго, няма. Супрацоўнікі кудысьці зніклі, чутныя толькі далёкія галасы са службовых памяшканняў.

Ён, адзіны наведнік, пераводзіць позірк на падстаўку пад тэлевізарам. Там ляжыць свежы нумар галоўнай газеты краіны. Разгарнуўшы, Лёха трапляе адразу, куды трэба: на ўсю паласу дыскусія Віялеты з калегам-журналістам на тэму «Ці актуальныя яшчэ традыцыйныя сродкі масавай інфармацыі ў выглядзе тэлебачання і друкаванай прэсы?»

«Не!» — цвёрда падводзіць вынікі спрэчкі Віялета.

Як толькі Лёха дачытвае да гэтай шматзначнай фразы, газета ў ягоных руках рассыпаецца ў пыл. Тэлевізар жа, рэзка перарваўшы цырымонію ўручэння выйгрышаў у латарэі, пачынае паказваць нешта дзіўнае (ведаеце, як у экстрэмальнай сітуацыі — «перад вачыма пралятае ўсё жыццё»): чорнабелыя кадры плаката на вясковым будынку з надпісам «Выбары-94», потым абрынаюцца вежы-блізняты.

Нібыта ў наступным інфармацыйным блоку раптам хаатычна ўзнікаюць Стынг, Элтан Джон, Гуля Шлойман. Потым трэці блок — Апгрэйдзер на руках выносіць параненага акрываўленага кандыдата ў прэзідэнты з дымавой заве-

сы і тут жа загаловак артыкула «Я выдеру глаза любому, кто мне скажет, что я не люблю...» з подпісам «Віялета».

Тэлевізар нечакана хлюпае і аплывае на крышку стала расплаўленай пластмасай.

**P.S.**

Дарагія тата і мама! Спрабую звязацца з вамі праз WhatsAPP, а копіі паведамлення рассылаю ва ўсе сеткі, якімі вы можаце карыстацца. Спадзяюся, што вы ўжо авалодалі новымі тэхналогіямі мэсэджа. Доўга зараз пісаць не прынята, таму адразу спасылка на відэа:

httрs:// et cetera... «Сёння ноччу адбыліся грандыёзныя па сваіх маштабах драматычныя падзеі. Людзі, якія зраніцы апынуліся побач з былымі будынкамі сталічных Дома друку і Тэлецэнтра, убачылі толькі руіны. Чалавечых ахвяраў пакуль не зафіксавана.

Такая ж сітуацыя і з абласнымі ўстановамі падобнага профілю. Напярэдадні наступных выбараў гэты інцыдэнт, які не мае аналагаў, разглядаецца як катастрофа дзяржаўнага і, нават, сусветнага маштабу. Для распаўсюду неабходных звестак і дадзеных, звязаных з перадвыбарнай праграмай, тэрмінова ствараюцца спецыяльныя інфармацыйныя пункты.

Там, у выглядзе гуманітарнай дапамогі, бясплатна раздаюцца смартфоны і планшэты. Амаль круглыя суткі працуюць валанцёры, якія праводзяць бесперапынныя трэнінгі для пенсіянераў, асобаў без сталага месца жыхарства, залежных ад алкаголю і наркатычных сродкаў, дзяцей-сіротаў, якія на час выбараў дасягнуць паўналецця, грамадзян адбываючых пакаранне ў месцах пазбаўлення волі, інвалідаў, салдатаў, афіцэраў і прапаршчыкаў, міліцыянтаў і пажарнікаў, а таксама для вясковага насельніцтва і супрацоўнікаў сельскай гаспадаркі ды іншых слаёў грамадства.

Усё гэта робіцца беза ўсякага прымусу. Але ж, будзьце ўважлівымі, пастарайцеся не пазбягаць абавязковай рэгістрацыі — мы павінны адказваць за ўведзеныя намі будынкі ў нашым мінулым і ў нашай будучыні! Будзем на сувязі!

Заўсёды з вамі — Віялета!»

Карцінку накрываюць цітры. Гучыць музыка адначасова з надпісам «Саундтрэк стваралі»:

— «Bordeau Cotes de Castillon Lourd Blues»

— «Elfs Come Look»

— «Brama»

— «Vezha»

— «Blues Of The Misty Morning»

— Nickelback

— Elton John

— Sting

Апошняя фраза, павольна праплываючы, з радасцю паведамляе:

«Усе імёны і персанажы з'яўляюцца выдуманымі, любыя супадзенні — выпадковыя...»



# Яраслаў Скідан

украінскі паэт. Аўтар кніг паэзіі «Заўтра будзе» (2007 г), «На раздарожжы» (2011 г.). Лаўрэат Усеўкраінскага літаратурна-мастацкага фестывалю «Фокус» (2010 г.). Сябра Нацыянальнай спілкі пісьменнікаў Украіны з 2013 года. Нарадзіўся ў 1988 годзе ў Харкаве. Жыве ў Харкаве.

# Сізіфаў камень

***

Я прыйду да рэчкі на спатканне,
на сімфонію начных лясоў.
Хтосьці папракне, што я паганец
са старога роду вешчуноў,

Што прыйшоў на зорах заклінаці,
зарачанскі вуду ці мальфар...
Я ж сяджу, заглыблены ў санаты,
партытуру спісваючы з хмар.

Грае лес, а рэчка ціш кунежыць
ды чакае музы-варажбы...
Дзесьці тут і узнікаюць вершы
з шчэ нікім не знойдзенай журбы.

***

*Душа чужая — цёмная, як лес...*
Ліна Кастэнка

Душа чужая — цёмная, як лес...
Душа чужая — чорная, як сажа...
А хтось хіба ў сваю ужо залез?..
Хай мне раскажа...

Душа чужая — тысячы балот,
якую чэрці дбайліва вартуюць...
Сваю б спачатку перайсці ўброд,
а то чужую...

Душа чужая — дзе б яе ні стрэў.
Яе не возьмеш голымі рукамі.
Каб яшчэ ведаць — дзе яна жыве —
ў якім суставе?..

Душа чужая — іншаму табу.
Да іншага ў душу не лезь ніколі.
Дай, Госпадзі, бяздушнаму рабу
душу зняволіць...

## Самапазнанне

У галаве маёй птахі звіваюць гнёзды,
ад таго — нібы пер'ямі абрастаю,
ад таго — нібы дыхаецца з палёгкай
і я ўвесь — як птушыная зграя.

У маім сэрцы вяшчуюць дрэвы,
ад таго — нібы сам я раблюся прарокам,
ад таго — нібы буйна квітнею
і адчуваю — як лісце набрыньвае сокам.

Трапяткімі пальцамі дакранаюся да паддашка
так асцярожна — нібы падлётак,
ад таго — па целе мурашкі,
ад таго — так хочацца лётаць.

***

Да новай кнігарні,
да кніжных паліцаў,
ўсё йдуць маладзіцы
гожыя з твару,
не сябе паказаць,
не прываблівацъ хлопцаў,
а ў навюткай абгортцы
кніжку прыдбаць,
каб прыйшоўшы дадому,
залезці пад коўдру і
чытыць, і
чытаць, і
чытаць...

***

Каб толькі я умеў пісаць лісты,
то напісаў бы іх напэўна аж мільён
і адпусціў за ветрам наўздагон
да скрынкі сэрца мілага. Ляці!

Каб толькі я умеў пісаць лісты,
то напісаў бы радасцю на белым
пра квет вясновы, што ў душы і целе,
каб іх знайшла і прачытала ты.

Каб толькі я умеў пісаць лісты...
Ды я не ўмею тых лістоў пісаць.
Адну цябе умею я кахаць —
мяне кахаць так навучыла ты!..

***

Твая забабоннасць такая ж самая,
як цела апошняга Далай-ламы...
А я ж, ты знаеш, мая каханая,
хаджу да храма.
І я не веру ў тваю нірвану
ані на грама,
бо я ж, ты знаеш, мая каханая,
хаджу да храма.
А я ж у храме Хрысту Ісусу
маліцца буду.
Калі захочаш, то памалюся
і за твайго Буду.
А ты маліся свайму святому,
як веры многа...
Калі ж сустрэнемся з Невядомым,
спытаем Бога...

***

Скажы мне, браце,
дзе розум браць нам,
бо сіла, бачыш, пакуль што ёсць...

Адкрый нам, Ойча,
на праўду вочы,
бо вырастае з падману злосць.

Ой, мама, мама,
Што будзе з намі?
Што будзе з намі?
Прашу, не плач.

Усё пагана,
як снег растане.
Трымайся, сыне!
Прабач...

## Тралейбусу

Калі б тралейбус
умеў размаўляць,
ён змог расказаць бы
нямала гісторый,
вясёлых і сумных,
пра долю й нядолю,
пра змовы й размовы,
пра стрэчы й растанні,
і хоць ён не мае
ні рота, ні вока,
але адчувае
усё, што навокал.
А колькі ўсяго
за жыццё перабачыў,
аб чым не раскажаш
і не перайначыш.
Тралейбус, мой дружа,
ты — волат на колах,
ты — тайна сусвету,
патойбочжыццё.
А ўсё, што ты маеш —
напятыя рогі,
крывыя дарогі
і людзі,
і людзі,
і людзі
штодня...

## Бярозы

У цені між сосен высокіх
бярозы стаяць даўгакосыя,
падпёршы галінамі бокі,
як дзеўкі крыху нецвярозыя...
Да траў распусцілі косы,
бы ладзяць наўмысна козні,
ды толькі ніхто не просіць
за грошы, задарма возьме...
Заўчасна іх дні змарнелі,
хоць блізка не бачна восені,

о як бы яны хацелі
на свет нарадзіцца соснамі,
каб дыхаць вольна й няскорана,
а не хавацца ў лісці,
бо цяжка, на жаль, белакорым
у свеце пражыць смалістым...

## Сізіфаў камень

Я бягу наперад,
узіраючыся ў захмарнасць,
забываючы нават
азірацца навокал,
выпрабоўваючы жыццё
на сізіфаў камень,
ператвараючыся
сам у той камень цяжкі.

Наперад, наперад,
ды няма ні канца, ні краю,
толькі вецер —
а за ім паспрабуй паспець...

Я за ветрам бягу
і сябе на шматкі разрываю,
каб туды,
па-за сонца,
хоць попелам
даляцець.

***

Захутаная ў лахманы самоты,
блукала смерць у пошуках вайны,
ішла туды, дзе радасць поўніць соты,
каб пакараць таго, хто без віны...
Зямля гарэла пад яе нагамі,
вятроў калючых чулася выццё.
Вайна прыйшла.
І смерць прыйшла
за намі.
І мы пайшлі абараняць жыццё.

**Пераклаў з украінскай мовы Эдуард Акулін.**



# Васіль Дранько-Майсюк

драматург, рэжысёр, акцёр, эсэіст. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Працаваў у беларускіх тэатрах (РТБД, ТЮГ). Жыў у Маскве, дзе выкладаў акцёрскае майстэрства ды іграў у тэатры «Снарк». Зараз працуе літаратурным рэдактарам у часопісе «Вясёлка». На сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя М. Горкага ідзе яго п'еса «Пясняр», прысвечаная Уладзіміру Мулявіну. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

# Начныя страхі Цішкі Гартнага

Цішку Гартнаму, як пісьменніку, не пашанцавала.

Так, безумоўна, можна сказаць амаль пра любога беларускага літаратара 20-га стагоддзя, асабліва пра тых, хто жыў падчас сталінскіх рэпрэсій, але ж «не шанцаванне» Гартнага мае сваю адметнасць.

Герой нашага артыкула быў адным з самых папулярных айчынных творцаў у 20-я гады.

Яго выдавалі, як нікога.

І гэта не дзіва, бо менавіта ён у той час узначальваў Дзяржвыдавецтва БССР і Цэнтральны архіў БССР, працаваў намеснікам наркама асветы і старшынёй Галоўмастацтва БССР, з'яўляўся членам прэзідыума Інбелкульта і навуковым сакратаром камісіі па вывучэнні рэвалюцыйнага руху на Беларусі, рэдагаваў часопіс «Полымя», з'яўляўся пастаянным аўтарам самай масавай газеты «Савецкая Беларусь».

Пра Цішку Гартнага пісалі хваласпеўныя артыкулы і рэцэнзіі, праводзілі яго творчыя вечары як ў Менску, так і ў Маскве, афіцыйна ён лічыўся першым пралетарскім паэтам і празаікам на Беларусі.

Менавіта з такога гледзішча і аналізавалася яго творчасць.

Безумоўна, меў Цішка Гартны і ваяўнічых праціўнікаў.

Сябры літаратурнай суполкі «Узвышша», напрыклад, адкрытым тэкстам пісалі, што наш герой ніякі не пісьменнік, а створанае ім не мае мастацкай якасці.

Заўсёдна-строгі Максім Гарэцкі гэтаксама з пракурорскай цвёрдасцю зазначаў, што чытаць прозу Гартнага вялікая пакута.

Бяздумна-ліслівая апалагетыка адных і нігілістычнае адмаўленне іншых прывялі да таго, што да сённяшняга часу няма ў нашым літаратуразнаўстве выразнай аб'ектыўнай ацэнкі творчасці Цішкі Гартнага. Яго сапраўдны, праўдзівы літаратурны партрэт схаваўся, губляўся, быў амаль непазнавальна акарыкатураны такімі фармулёўкамі: «Ён выступаў палымяным прапагандыстам пралетарскага інтэрнацыяналізму. /.../ Цішка Гартны быў актыўным культурным дзеячом і прапагандыстам новай, сацыялістычнай культуры» (А. Клачко. Цішка Гартны. Выбраныя апавяданні. 1962).

Але пры ўважлівым чытанні яго твораў разумееш, што і ў прозе, і ў паэзіі, і ў публіцыстыцы гэты чалавек стварыў нямала адметнага.

Так, да рэвалюцыі ў яго былі «нашаніўскія ўплывы» і нават цэлая нізка творча-несамастойных вершаў, дзе капіраваўся стыль Максіма Багдановіча. Хапала плакатна-рытарычных твораў, за якія Цішку Гартнага і залічылі ў пралетарскія пісьменнікі.

Але ж было шмат чаго іншага.

Здзіўляльна-нечаканага, творча адметнага.

Нават сярод вонкава аднамерных вершаў-заклікаў, кшталту «Дружна з ахвотай, / Гэй, за работу, /Брацця, скарэй!» (з верша «Дружна з ахвотай...»), трапляюцца і такія вобразна-цікавыя рэчы: «Адвячорак. Змрок рассеяўся, / Згасла полымя зары. / Гэй, ліхтаршчык, дзе ты дзеўся? / Йдзі запальваць ліхтары. /.../ Цемры рада ўсё ліхое: / Совы, ведзьмы, кажаны. / Нам святло давай святое, / Каб не цешыліся яны» (з верша «Ліхтаршчык»).

Відавочна, Цішка Гартны сам адчуваў сябе такім вось «ліхтаршчыкам», які сваёй культурніцкай дзейнасцю асвятляе дарогу для цёмных, панурых і творча-інертных беларусаў.

Яго паэзія падкрэслена рознапланавая.

Кожны можа знайсці ў ёй нешта блізкае сабе.

Тыя, каго раздражняе беларуская восень, хто з-за нашага істэрычна-гнілога клімату падпарадкаваны смутнагляднай настраёвай мінорнасці, адчуюць праўдзівае хараство верша «Восеннае»: «Мне кажуць: нудзіць лес згалелы, / І вецер песняю сумлівай / Над нівай шэрай, амярцвелай / Жуду пяе над соннай нівай; / Гракі крычаць, як б’юць у труны / Цвікі, каб ўздзець на доннік века. / Жалейка лье нястрымным сумам, / І плача тым жа сумам рэха».

Так, тут ёсць чыста коласаўская дарэвалюцыйная «плаксівасць», гучыць жалейка, пазычаная ў Янкі Купалы, але ж гэтыя «гракі», чый крык, пісьменнік параўнаў з ударамі па цвіках, якія заганяюцца ў труну, гэта ўжо арыгінальны Цішка Гартны. Гэта менавіта яго нечакана-вострая метафара, якая ператварае напісанае ў сапраўдную паэзію.

Яго класічныя «Песні гарбара» будуць блізкія тым, хто не любіць хадзіць на штодзённую абавязковую работу, адчуве, як яна забірае сілы, энергію: «Сагнуўшысь, я ля вярстака стаю — / Скуру ўвесь дзень, без спачынку я гну, / Я скуру ўсё гну, / Нядолю кляну / І песню пяю. / Дзёгаць і лой мае рукі раз’елі, / Шчокі ў гразі і духоце счарнелі, / Ружа завяла, / Шчасце прапала — / Скура забрала...»

Шмат у каго з нас (асабліва тых, хто робяць на дзяржаву) засохла ружа натхнення, калі пачынаючы працу з радасцю ды імпэтам, паступова разумеем, што яна нікому на самай справе не патрэбна, творчага росту начальства не заўважае і радуе цябе адно дробязнымі прыдзіркамі, пазбаўленнямі прэмій, штрафамі ды накідваннем новых абавязкаў.

Ёсць у Цішкі Гартнага і вершы падкрэслена-танцавальныя, дзе галоўнае не палітычна-значная тэма, сацыяльная накіраванасць ці нейкая іншая глыбокая звышзадача, а пануе харэаграфічная радасць, такая ж бяздумна-вясёлая, як любімы Эдгарам Дэга і Тулуз-Латрэкам Кан-кан: «...І шнуруюць скокам ёмкім /Німфы-ведзьмы, феі-панны — / На граніцу, / Да крыніцы, / На гулянне, / Як загляне / Маладзік...» (з верша «Каля бору сонца ходзіць»).

Маё параўнанне гэтага твора з вясёлымі танцамі ў стылі кан-кан невыпадковае, бо і сам Цішка Гартны быў вялікім прыхільнікам падобнай харэаграфіі, пра што з вялікім захапленнем пісаў у «Савецкай Беларусі», калі дзяліўся ўражаннямі ад сваіх вандровак па Заходняй Еўропе.

Акрамя вершаў актыўных паводле сваёй пластыкі, рытмікі, зместу і сюжэту, ёсць у паэта і творы выразна-элегічныя, як музыка Дюбюсі альбо Маснэ.

Цішка Гартны вельмі любіў той дзівосны час, калі сыходзіць дзень, набліжаецца вечар, але змрок на вуліцы пакуль не апускаецца, яшчэ дзве, тры, мо нават, дзесяць хвілін, вечаровае сонца цалуе сваімі промнямі камяніцы Менску. Назіраць за гэтым, быць у салодкай дзесяціхвіліннай бяздзейнасці — асалода для паэта. У такі час нараджаліся падобныя радкі: «Люблю сачыць, як дзень пагодлівы канае: / І шэрасць лёгкая над горадам шумлівым / Памерна ў вуліцы глыбокія спадае, / А над мурамі вісне дымам сівым. / Паветра ціхае паволі рэдне, стыне, / Выразней рэха гулкае ўтуруе; / Гудок фабрычны свіст зацяжны строма кіне, / Й працоўны натаўп рэзва, шумна зашнуруе...» (з верша «Адвячоркам»).

І вось, пакуль гэты натоўп «рэзва» не «зашнураваў», іншымі словамі, пакуль ты ізноў не акунуўся ў звычна-шалёны працоўны рытм, калі трэба адначасова напісаць злабадзённы артыкул з крытыкай наравістых «Узвышаўцаў», скласці некалькі прабальшавіцкіх рыфмаванак, дарабіць першы раздзел эпапеі «Сокі цаліны», пакуль яшчэ ў тваёй душы пранізлівым будзільнікам не празвінеў званочак: «Ану, за работу!», можна аддацца кароткай адвячоркавай радасці бяздзеяння.

У сваёй прозе Цішка Гартны здзіўляе іншым. Героі яго твораў жывуць не развагай, а эмоцыяй. Яны падпарадкаваны адно толькі імпульсам, часам далёкімі ад здаровай логікі, і ў нечым таму блізкімі паводзінам персанажаў са стужак любімага ў Цішкі Гартнага рэжысёра Фрыца Ланга.

Ні ў воднага тагачаснага беларускага літаратара падобнага (у такой вострай, выразнай форме) я не заўважаў.

У апавяданні «Лайдак» хлопчык пастушок Янка ўцёк да мамы ад свайго гаспадара: «...вельмі ўжо там з мяне здзекаваліся: не кармілі зусім, білі, папіхалі, спаць не давалі...»

Хлопчык жаліцца маме, тая не верыць.

З'яўляецца аканом Сідар, не злы, жартаўлівы і добразычлівы чалавек, які забірае хлопчыка назад.

Маніць Янка ці кажа праўду?

Пісьменнік не дае адназначнага адказу.

Ды гэта не так і важна. Істотнае іншае: маці не паверыла сыну, не накарміўшы адпраўляе з аканомам назад да пана.

Гэтага Янка перажыць не мог. І наступны раз Сідар з'яўляецца да яго мамы са страшнай навіной: «Твой Янка-сь... утапіўся-а... Вунь у возеры яго целца... Ідзём узяць. Учора вынялі з сажалкі... Толькі і знайшлі, што ўгледзелі недаплецены кошык на беразе...»

Героі Цішкі Гартнага з імгненнай безразважнасцю, у самы, здаецца, непадыходзячы момант, мяняюць, ламаюць, калечаць ды іншымі спосабамі перайначваюць сваё жыццё.

Янка, не перажыўшы таго, што адзіны родны яму чалавек не паверыў, накіраваўся ў лепшы для сябе «той» свет.

Гераіня апавядання «Дойдзем, сынок», праўда не з такой кардынальнасцю, але не з меньшм імпэтам паддаецца імпульсу ўцёкаў.

Яна гэтаксама збягае са сваёй страшнай рэчаіснасці, дзе пануе ноч, прывідныя белапалякі ды розныя іншыя страхі, і накіроўваецца ў фантомную «лепшую» будучыню.

Працэс прыняцця такога рашэння пададзены пісьменнікам з экспрэсіяй, тоеснай лепшым кінематарафічным творам згаданага ўжо Фрыца Ланга альбо Фрыдрыха Вільгельма Мурнаў. «Яна, Маланка, у хаце, сядзіць пры стале і, аддаўшыся ўсёю ўвагаю, піша ліст да мілага мужа, Нічыпара, які ваюе на фронце з панамі. /.../ Маланка ўздрыгвае, як асінавы ліст у дзікі парыў ветру... Звіняць у вокнах шыбы... Разам устаюць усе страхі панскіх гвалтаў, аб якіх пісаў Нічыпар. /.../ Яна азіраецца ў акно і бачыць агромністы промень, усё неба ў агні. «Не, я не застануся дома, не! Не дамся на глум панам. Уцяку, уцяку з мілым Міхалкам [сынам]. Уцяку!...» Яна паведамляе бацькам сваёй рашэнне і следам хапаецца за дзіця, /.../ кідаецца з хаты ў цемру ночы...»

З якім адчайным імпэтам Янка кідаўся ў цемру вазёрнай глыбіні, гэтак жа і гераіня апавядання ляціць у начную бездань, каб уратавацца як ад сапраўдных, так і ўяўных страхаў.

Усё тое апісанае, што дзеецца вакол Маланкі, што прымушае яе пакінуць родную хату, выяўлена пісьменнікам так, як быццам адбываецца не на самай справе, а толькі ў надламаным уяўленні жанчыны.

Героі Цішкі Гартнага псіхічна падатлівыя і больш вераць фантазіям, прывідным страхам, чым рэальнасці.

Тэма ўцёкаў, раптоўных, хаатычна-бязмэтных скразная ў Гартнага.

Фінал яго праграмнага апавядання «Трэскі на хвалях» гэтаксама завяршаецца тым, што галоўны герой, пакінуты ўсімі, варожы новаму савецкаму ладу, не вытрымлівае і ўцякае «як нацкованы воўк /.../ у цемнату вуліцы».

Героі пісьменніка ўцякаюць менавіта ў цемру, у глухую ноч, калі найбольш страшна, калі страхі апаноўваюць табой і трымаюць тваё кволае цела ў сваіх мёртвых абдымках, як ніколі.

Хлопчыкі, дарослыя мужчыны, жанчыны, юнакі лятуць з такой сілай, як быццам хочуць сваімі рухамі разагнаць тую цемру, якая іх апанавала, прырасла і не дае магчымасці ўбачыць сонечную рэчаіснасць.

Цішка Гартны жыў у той час, калі амаль кожны (і, безумоўна, ён сам) марыў аб тым, каб гэтая менавіта сонечная, абавязкова яркая, праўдзіва-шчаслівая рэчаіснасць як мага хутчэй наступіла. Беларусы для яго ўяўляліся людзьмі з надзетымі на іх, кажучы метафарычна, па самыя вушы начнымі каўпакамі. Беларусы не здагадваюцца пра гэта і бядуюць, што вечная цемень іх акружае, зняць жа свае галаўныя ўборы яны не здагадваюцца.

Цішку Гартнаму балела з-за падобнай нацыянальнай нездагадлівасці.

Таму і складаў вершы пра «ліхтаршчыка», які павінен прагнаць ноч з яе ўяўнымі кажанамі.

Таму і паказваў у апавяданнях усю абсурднасць падобных страхаў, раздражняўся пакорлівасці перад уласнымі хваравітымі імпульсамі, неабдумананервовымі ўчынкамі, якія адзінае вядуць нас у нябыт.

Цішка Гартны здзіўляўся, чаму яго суайчыннікі самі, дабравольна, без аніякай прынукі, гінуць, знікаюць, падаюць у прорву нябыта.

Ён, прыхільнік берлінскага ладу жыцця, дзе ўсё мусіць падпарадкоўвацца правілам і дысцыпліне, дзе розум пераважае над пачуццямі, вельмі хацеў, каб і беларусы пераняці гэтае быццам бы такое няхітрае правіла.

У 1936 годзе Цішку Гартнага арыштоўваюць.

Дапытваюць, катуюць, прымушаюць падпісаць неабходнае, даводзяць да вар'яцтва.

За кратамі, аўтар «Сокаў цаліны» самператвараецца ў псіхічна-няўстойлівага, надарванага героя са сваёй прозы.

Пра гэта надзвычай вобразна і псіхалагічна трапна напісаў Масей Сяднёў у аўтабіяграфічным творы «Раман Корзюк»: «Ён падлазіў пад стол, прыкаваны да сьцяны, думаў, што схаваецца, і яго не павядуць на расстрэл... Калі яму дзяжурны падаваў хлеб, ён адмаўляўся, ня браў, казаў: «Ежце самі... Мяне ўжо ня будзе...» А то прасіў купіць яму беларускую газэту, каб пабачыць, што пра яго там пішуць. Ці сапраўды яго расстраляюць? Лез на вакно, да зораў. Уцякаў з камэры. Зьдзіраў пазногці, лезучы да вакна. Дзяжурныя сьмяяліся, абыякава глядзелі на дзівакаватага вязьня. Але прыйшоў аднойчы на дзяжурства той, што называў яго «сватам». Адчыніў дзьверы, хацеў нешта сказаць «свату», як «сват», ударыўшы пад рукі, выскачыў на карыдор. Пабег на круг, ухапіўся за рычагі і пачаў адчыняць імі камэры. (Было такое ўладжаньне ў «амэрыканцы», пры дапамозе якога дзверы ў камэрах аўтаматычна адчыняліся і зачыняліся.) Наскочыла болей дзяжурных... Схапілі... Пацягнулі ў больніцу...»

Магчыма ў гэтыя імгненні Цішка Гартны зразумеў — ніякай сонечнай рэчаіснасці няма.

Гэта казка, міф, выдумка наіўных савецкіх літаратараў (і яго самога), а вось заўсёдна-моташная ноч — праўдзівая рэальнасць, ад якой беларусаў ніякі пісьменнік-рамантык не пазбавіць.

Прынамсі ў бліжэйшы час.

А таму раптоўныя ўцёкі на злом галавы, рызыкоўныя палёты на самае дно сваіх начных страхаў без вяртання назад, працягнуцца і надалей.



# Алег Трусаў

**гісторык, археолаг, палітык, в.а. абавязкі рэктара Нацыянальнага ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча. Кандыдат гістарычных навук. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў ТБМ імя Францішка Скарыны. Аўтар больш як 150 навуковых публікацый, сярод якіх некалькі манаграфій. Як археолаг і гісторык архітэктуры займаецца вывучэннем манументальнага дойлідства XI—XVIII стст. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў Мсціславе на Магілёўшчыне. Жыве ў Мінску.**

# «Працуй пільна — і будзе, як у Вільні»...

***Пра ўдзел у прыняцці ў якасці дзяржаўных сімвалаў Беларусі — бел-чырвона-белага сцяга і герба Пагоня, пра заснаванне Гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, пра кіраўніцтва ТБМ імя Францішка Скарыны, а таксама стварэнне першага Нацыянальнага ўніверсітэта і яшчэ пра шмат чаго іншага — наша гутарка з вядомым гісторыкам, археолагам, палітыкам і грамадскім дзеячам Алегам Трусавым.***

**Эдуард Акулін:** — *Спадар Алег, зважаючы на тое, што сёлетні год абвешчаны «Годам малой радзімы», распавядзіце, калі ласка, з якіх мясцін вы родам? Хто вашыя бацькі па адукацыі? Колькі вас было ў сям'і?*

**Алег Трусаў:** — Я нарадзіўся ў старажытным беларускім горадзе Мсціславе 7 жніўня 1954 года. На жаль, з 4,5 гадоў жыў без бацькоў, бо яны разышліся і раз'ехаліся ў розныя бакі. Мяне пакінулі ў бабулі, якая яшчэ працавала, таму мяне выхоўвала прабабуля (яна, дарэчы, пражыла 100 гадоў).

Мае бацькі — дзеці апошняй вайны. Бацька з вёскі Пігілінка Хараўскага раёна Валагодскай вобласці здолеў скончыць 10 класаў, бо вайна да яго вёскі не дайшла. Маці трапіла ў эвакуацыю, некалькі ваенных гадоў не вучылася і таму скончыла толькі 7 класаў, а потым працавала ўсё жыццё ў дзіцячым садку на розных пасадах. У сям'і я адзін, а ў бацькі была другая даволі вялікая сям'я, але кантактаў з бацькам у мяне ніколі не было і я нават яго не памятаю. Бабуля скончыла Белпедтэхнікум і была спачатку настаўніцай, потым выхавацелькай у доме глуханямых дзяцей, а напрыканцы — бібліятэкаркай у раённай Мсціслаўскай бібліятэцы.

**Э.А.** — *У якой школе вы вучыліся? Ваш любімы прадмет... Хто з настаўнікаў найбольш паўплываў на фарміраванне вашага светапогляду?*

**А.Т.** — Вучыўся я ў розных школах. Маёй першай настаўніцай была маці Міхася Ткачова — Дамініка Сямёнаўна Казлоўская. Я любіў вучыцца і скончыў школу з залатым медалём. З любімых прадметаў магу назваць хімію, фізіку, матэматыку і біялогію. Вялікую ролю ў маім жыцці адыгралі: настаўніца беларускай мовы і літаратуры Саўчанка Клаўдзія Цярэнцьеўна, настаўніца фізікі спн. Курчэўская і настаўнік гісторыі, мой класны кіраўнік, франтавік Нікіцін Юры Захаравіч.

**Э.А.** — *На якой мове размаўлялі вашы сямейнікі? У якім узросце вы ўсвядомілі сябе беларусам?*

**А.Т.** — Мае сямейнікі размаўлялі мовай слоўніка Івана Насовіча, на мсціслаўскай гаворцы беларускай мовы, асабліва прабабуля, што ведала сотні прымавак і штодня імі карысталася. Бабуля старалася размаўляць па-руску,

але гэта была збольшага трасянка. Я не чуў ад яе, напрыклад, такіх слоў як «свекла» ці той жа «лук». Гэта былі буракі і цыбуля. Маці, якую я бачыў раз на год, калі яна прыязджала ў Мсціслаў на пару тыдняў падчас адпачынку, гаварыла на Кобрынскай трасянцы, бо жыла і працавала ў Кобрыне і часам ужывала польскія словы, бо ўсім казала, што яна полька. Праўда, бацькі ў яе беларусы, а нарадзілася яна ў Чалябінску і ў метрыках яе запісалі рускай. Полькай жа яна лічыла сябе, бо паходзіла з беларускай мсціслаўскай шляхты, і дзявочае яе прозвішча было Мяжэвіч (дарэчы, пасля таго, як яны з бацькам разышліся, яна вярнула сабе гэтае прозвішча). А я ж застаўся Трусавым, як бацька.

Калі ў 16 год я атрымаў пашпарт, то ганарыўся тым, што ў ім мяне запісалі рускім, бо рускіх у маім класе было толькі некалькі чалавек, большасць — беларусы і адзін мой добры сябра — яўрэй.

Беларуская свядомасць пачала прыходзіць да мяне ў студэнцкія гады, калі я вучыўся на гістфаку і сябраваў з хлопцамі, якія не хавалі сваёй беларускасці. Напрыклад, Алесь Міткавец ці Уладзя Арлоў.

Значна дапамог мне зразумець, хто я ёсць, і мой выкладчык гісторыі Беларусі ва ўніверсітэце Лаўрэн Абэцэдарскі, які аднойчы назваў мяне «недасекам» (недасекі — гэта жыхары Мсціслава, якія выжылі ўлетку 1654 г. падчас

*З Ігарам Чарняўскім*



штурму горада маскоўскімі войскамі). Канчаткова я стаў беларусам ужо на працы ў беларускай рэстаўрацыі, дзе было шмат беларускіх патрыётаў, напрыклад, мой начальнік Сяргей Друшчыц, сваяк Васіля Друшчыца, вядомага гісторыка, рэпрэсаванага ў 30-я гады XX ст.

**Э.А.** — *Вы прадстаўнік пасляваеннага пакалення... Чым запомніліся першыя гады дзяцінства?*

**А.Т.** — Першыя гады дзяцінства былі няпростыя, бо жылі мы з бабуляй бедна, на яе пенсію. Аліменты бацька гадамі не плаціў, а калі яны і былі, то гэта было некалькі рублёў, бо бацька працаваў у калгасе. З боку маці дапамогі таксама практычна не было. Нас ратаваў вялікі сад і агарод. Мы трымалі курэй, трусоў, парсючка і нават казу. Былі часы, калі мусілі стаяць у доўгіх чэргах па хлеб, які давалі адзін бохан у адны рукі.

**Э.А.** — *У свой час вы закончылі гістфак БДУ. Хто або што вызначыла выбар будучай прафесіі? З кім вы разам вучыліся і сябравалі ў студэнцкія гады?*

**А.Т.** — На выбар маёй прафесіі «археолаг» паўплывала экскурсія на раскопкі ў другім ці трэцім класе. Тыя раскопкі на Мсціслаўскім замчышчы праводзіў маскоўскі археолаг Леанід Аляксееў, з якім я потым пазнаёміўся і быў у вельмі добрых, прыязных стасунках доўгія гады.

Сяброў у БДУ у мяне было шмат, тым больш, што я быў старастам групы. Дарэчы, з майго курса выйшла шмат навукоўцаў, дактароў і кандыдатаў гістарычных навук. У мяне былі вельмі добрыя выкладчыкі, напрыклад: Эдуард Загарульскі, Міхаіл Піліпенка, Валянцін Рабцэвіч, Анатоль Міхайлаў і інш.

**Э.А.** — *Калі вы сустрэліся са сваёй будучай жонкай? Гэта было каханне з першага погляду? Ці раздзяляе вашая абранніца вашыя жыццёвыя погляды?*

**А.Т.** — З маёй будучай жонкай, журналісткай па адукацыі, мы жылі ў адным інтэрнаце на вуліцы Свярдлова, каля вакзала. Пазнаёміліся на Навагодняй ялінцы, калі сустракалі новы 1973 год. Спачатку сябравалі, потым прыйшло каханне, і ў лютым 1975 года ў палескай вёсцы Жытновічы пад Пінскам справілі сапраўднае вяселле, якое доўжылася некалькі дзён. Мая Алена мае погляды на жыццё падзяляе і заўжды мяне падтрымлівае, нават у самых няпростых паваротах лёсу. Яна нават была дэлегатам на першым з'ездзе БНФ у Вільні.

**Э.А.** — *Колькі ў вас дзяцей? Ці размаўляюць яны па-беларуску дома і на працы? Ці звязаны іх жыццёвы лёс з беларускай культурай?*

**А.Т.** — У мяне адна дачушка Надзея і адна ўнучка Алёнка. Вядома, што беларускую мову яны добра ведаюць і размаўляюць са мною толькі па-беларуску, дачка таксама працуе ў беларускамоўнай культурнай сферы. Дарэчы, дачка скончыла Коласаўскі беларускамоўны ліцэй, а ўнучка 8 класаў беларускамоўнай гімназіі. Дачка мае дзве вышэйшыя адукацыі «культуролаг» і «бібліятэкар». Доўгі час працавала ў музеі, а зараз у дзіцячай бібліятэцы. Унучка паступіла ў ліцэй у Серабранцы на філалагічнае аддзяленне. Яна добра ведае англійскую мову і гісторыю.

**Э.А.** — *Месца вашай першай працы.Чаму заміж кабінетнай руціны вы аддавалі перавагу археалагічным экспедыцыям, палявой рамантыцы?*

**А.Т.** — За сваё жыццё я змяніў толькі тры месцы працы. У 1976 годзе па размеркаванні стаў археолагам у спецыяльных навуковых вытворчых рэстаўрацыйных майстэрнях Міністэрства культуры БССР, дзе стварыў аддзел археалогіі.

Потым працаваў намеснікам старшыні камісіі ВС Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны (1992-1995 гг.) і з 1995 — дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.



*На археалагічных раскопках*

**Э.А.** — *Многія з вашых сяброў-пакаленнікаў паспелі «ўступіць» у шэрагі КПСС, атрымаць камсамольскія прэміі... Праўда, зараз аб гэтых фактах сваіх біяграфій яны не надта любяць згадваць... Якімі былі вашыя стасункі з тагачаснымі палітычнымі арганізацыямі?*

**А.Т.** — Будучы студэнтам я не імкнуўся да палітыкі, мяне цікавіла толькі археалогія. Але як толькі прыйшоў на працу і стаў на камсамольскі ўлік, нечакана быў абраны сакратаром камсамольскай арганізацыі. Тады ў Савецкім раёне Мінска праз камсамол далучыўся да цікавых моладзевых ініцыятыў. Напрыклад, браў удзел у стварэнні знакамітай кавярні «Сузор'е», дзе ў музычных паўзах паказваў слайды знакамітых помнікаў беларускай архітэктуры.

Наша арганізацыя стала адной з лепшых у раёне, і мы пачалі рабіць выязныя акцыі па захаванні помнікаў архітэктуры ў розных мясцінах Беларусі. Напрыклад, мы змаглі выратаваць ад знішчэння славуты касцёл Св. Андрэя ў Слоніме. Таму ў 1978 г. мне прапанавалі ўступіць у шэрагі КПСС. Я параіўся з Зянонам Пазняком, і ён сказаў, што трэба браць прыклад з камуністаў Польшчы і асабліва Літвы, якія не разбураюць, а аднаўляюць сваю гістарычную спадчыну. Я пагадзіўся і неўзабаве стаў сакратаром партыйнай арганізацыі беларускіх рэстаўратараў, дзе было ад 40 да 50 чалавек.

На гэтай пасадзе, дарэчы, грамадскай, я быў каля 9 гадоў. Мы здолелі шмат зрабіць, і я не шкадую, што меў партыйны білет.

Дарэчы, я быў адзіным сакратаром партарганізацыі КПБ, які 19 кастрычніка 1988 года быў абраны ў аргкамітэт па стварэнні БНФ. А з 35 асобаў сяброў аргкамітэта камуністамі было больш за палову.

Пакінуў я шэрагі КПСС летам 1990 года, калі стала зразумела, што гэта партыя рэфармавацца не можа і яе гістарычны час скончыўся. Дарэчы, гэта да канца 1990 года зрабіла і большасць чальцоў маёй партарганізацыі. У тым жа 1990 годзе я ўвайшоў у аргкамітэт па стварэнні Грамады (БСДП), а 3 сакавіка 1991 года наша партыя ўжо была зарэгістравана. Сяброўства ў гэтай партыі я маю і зараз.

**Э.А.** — *Вы аўтар больш 150 публікацый, некалькіх кніг па гісторыі Беларусі. Што змусіла вас заняцца грамадска-палітычнай дзейнасцю?*

**А.Т.** — Мая грамадска-палітычная дзейнасць у сённяшнім разуменні гэтага слова пачалася 19 кастрычніка 1988 года — 30 год назад — і доўжыцца па сённяшні дзень. Далучыў мяне да яе мой зямляк і старэйшы сябра Міхась Ткачоў.

**Э.А.** — *Хацелася б вярнуцца ў гады вашай дэпутацкай працы ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь у 1990-1996 гадах... Якая падзея гэтых часоў стала самай яркай у вашым жыцці?*

**А.Т.** — Самая яркая старонка ў маёй дэпутацкай дзейнасці — гэта прыняцце ў якасці дзяржаўных сімвалаў бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня». Мне давялося кіраваць гэтым працэсам.

**Э.А.** — *А якая — самай змрочнай?*

**А.Т.** — Самая змрочная старонка — гэта збіццё бандытамі ў чорных масках мяне і маіх сяброў у будынку парламента падчас галадоўкі ўвесну 1995 года і той страх у вачах большасці дэпутатаў, які я бачыў пасля гэтай ганебнай падзеі.

*Галадоўка пратэсту ў Вярхоўным савеце БССР*



**Э.А.** — *Вы з'яўляліся намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета па адукацыі і культуры... Што ўдалося вам зрабіць для беларускай культуры, займаючы гэтую высокую пасаду?*

**А.Т.** — На пасадзе намесніка старшыні камісіі ВС я здолеў шмат зрабіць і ў першую чаргу — гэта шэрэг новых законаў, прычым першым з іх быў закон «Аб культуры», дарэчы, першы такі закон на тэрыторыі СССР, бо быў прыняты ў 1991 годзе.

**Э.А.** — *Ці выступалі вы ў той час з ініцыятывай стварэння першага Нацыянальнага ўніверсітэта? Што перашкодзіла ажыццяўленню гэтага праекта тады?*

**А.Т.** — У тыя часы мы выконвалі закон аб мовах у Беларусі, у адпаведнасці з якім за 10 год усе нашыя ўніверсітэты былі павінны перайсці на беларускую мову. Вядома, у першую чаргу, гэта павінен быў быць БДУ. Што гэтаму перашкодзіла? Сумна вядомы рэферэндум 1995 года.

**Э.А.** — *Амаль 20 гадоў вы ачольвалі ТБМ імя Францішка Скарыны... Якое з дасягненняў арганізацыі за час свайго кіраўніцтва лічыце найбольш значным?*

**А.Т.** — Галоўнае дасягненне на пасадзе Старшыні ТБМ у тым, што мы здолелі не толькі захаваць гэтую арганізацыю з офісам у цэнтры Мінска, але і зрабіць яе ўплывовай структурай у краіне. Пра гэта сведчыць абранне Алены Анісім у шэрагі дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў.

**Э.А.** — *У адным са сваіх інтэрв'ю вы заявілі, што з'яўляецеся прыхільнікам дзвюх формаў існавання беларускай мовы: тарашкевіцы і наркамаўкі... Аднак найбольшыя папрокі ў ваш бок чуюцца з-за вашага заклiку да беларусаў у выпадку чаго «лупіць на трасянцы»... Вы не памянялі сваю пазіцыю на гэты конт?*

*З Вінцуком Вячоркам у Курапатах*





*З Сяргеем Гілевічам і Уладзімірам Арловым падчас адкрыцця падрыхтоўчых курсаў Нацыянальнага ўніверсітэта*

**А.Т.** — Дарэчы, выраз «Лупіце на трасянцы!» прыдумаў не я, а спадар Панкавец, калі друкаваў маё інтэрв'ю. Але мне ён падабаецца, бо трасянка сведчыць пра тое, што беларуская мова, хоць і кволая, але жывая і можа аднавіцца пры спрыяльных абставінах.

**Э.А.** — *Чаму толькі на 27 годзе пасля абвяшчэння Незалежнасці вы вярнуліся да ідэі аб стварэнні нацыянальнага ўніверсітэта?*

**А.Т.** — Ідэя стварэння Нацыянальнага беларускамоўнага ўніверсітэта была выказана 20 год назад прафесарам Хадыкам. За гэтую ідэю сябры ТБМ сабралі 55 тысяч подпісаў грамадзян Беларусі. Але ўлады нічога не зрабілі, і мы былі вымушаны стварыць прыватны ўніверсітэт.

**Э.А.** — *Я лічу вельмі сімвалічным, што нацыянальны ўніверсітэт носіць імя Ніла Гілевіча. Ці былі нейкія іншыя варыянты назвы навучальнай установы? Як паставіліся дзяржаўныя клеркі да намеру надаць універсітэту імя Народнага паэта Беларусі?*

**А.Т.** — Улады адкінулі шмат прапанаваных назваў. Сярод іх была і спроба надаць нашаму ўніверсітэту імя Францішка Багушэвіча. Чыноўнікі запатрабавалі пісьмовы дазвол нашчадкаў Багушэвіча, завераны натарыусам. І тут Алена Анісім звяртаецца да адзінага сына Ніла Гілевіча і праз дзень прыносіць яго згоду, афармленую юрыдычна. Так і адбылася рэгістрацыя ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча.

**Э.А.** — *Якія самыя цяжкія праблемы ўзніклі на першым этапе працы па заснаванні ўніверсітэта?*

**А.Т.** — Самыя цяжкія праблемы на першым этапе: гэта адсутнасць фінансавых сродкаў і апатыя грамадства, бо на словах усе «за», а на справе — «хто ў лес, а хто па дровы».

**Э.А.** — *Што вы чакалі і чаго не чакалі з боку грамадскасці ў стаўленні да ідэі стварэння нацыянальнага ўніверсітэта?*

**А.Т.** — З боку грамадскасці мы чакалі больш канкрэтнага ўдзелу ў нашай справе, а не чакалі «аглабельнай» крытыкі з боку некаторых выпускнікоў ЕГУ.

**Э.А.** — *Ці не апасаецеся вы, што выпускнікі будучага ўнівесітэта папоўняць шэрагі палітэмігрантаў, як гэта нярэдка было з навучэнцамі Ліцэя імя Якуба Коласа і студэнтамі ЕГУ? Што, на вашу думку, можа перашкодзіць працэсу «інтэлектуальнай уцечкі» з культурнага і навуковага поля Беларусі?*

**А.Т.** — Палітэмігранты былі і будуць, і гэта не залежыць ад нашага ўніверсітэта, пакуль не зменіцца палітычная сітуацыя ў краіне. Іншая справа, калі нашыя студэнты будуць патрыётамі, то яны будуць працаваць для Беларусі ў любой кропцы свету. Перашкодзіць працэсу «інтэлектуальнай уцечкі мазгоў» можа толькі самасвядомасць нашых студэнтаў. Калі мазгі думаюць па-беларуску, месца іх знаходжання не мае вялікай розніцы. Наадварот, прыцягненне вялікіх інвестыцый у Беларусь могуць арганізаваць толькі беларускамоўныя і гістарычна свядомыя дыяспары.

**Э.А.** — *Справа, за якую вы ўзяліся, патрабуе каласальных духоўных і арганізацыйных высілкаў. Каго, акрамя сябе, вы можаце назваць з каманды стваралальнікаў нацыянальнага ўніверсітэта?*

**А.Т.** — Каманда ствральнікаў універсітэта налічвае зараз некалькі дзясяткаў чалавек. Сярод іх можна назваць Алену Анісім, Уладзіміра Коласа, Паўла Церашковіча, Яўгена і Эліну Кажарскіх, Юлію Бажок, Лявона Баршчэўскага...

*З амбасадарам Швецыі Стэфанам Эрыксанам*





*З Аленай Анісім на юбілейнай вечарыне Эдуарда Акуліна, 2013 г.*

**Э.А.** — *З вераня гэтага года пачалі працу падрыхтоўчыя курсы будучай навучальнай установы. Ці шмат жадаючых запісалася ў спіс вашых слухачоў? Куды звяртацца тым, хто яшчэ не чуў пра новую ВНУ?*

**А.Т.** — Першыя заняткі на падрыхтоўчых курсах пачаліся з майстар-класа Уладзіміра Арлова 24 верасня. Зараз на курсы запісалася больш за 50 чалавек. Ужо працуюць групы па вывучэнні беларускай і польскай моваў, фізікі і матэматыкі. Ідзе фармаванне груп па вывучэнні англійскай і нямецкай моваў і гісторыі Беларусі.

Тыя, хто хочуць запісацца на курсы, могуць атрымаць неабходную інфармацыю на сайце ўніверсітэта http://nhu.by і ТБМ https://tbm-mova.by ці напісаць на пошту ўніверсітэта nhuniversitet@gmail.com, а таксама ў загадчыцы курсаў сп. Эліны Кажарскай па тэлефоне +37533-90-23-708.

**Э.А.** — *Спадар Алег, хто вы па сваёй натуры — аптыміст ці песіміст? Што надае вам веры ў тое, што мы аднойчы дачакаемся «залацістага, яснага дня» для роднай Беларусі? Што для гэта неабходна зрабіць?*

**А.Т.** — Па натуры я асцярожны аптыміст. Сілы мне надае вера ў Бога і гістарычны лёс Беларусі. Што для гэтага зрабіць? Дзейнічаць штодня ў адпаведнасці з нашай прымаўкай «Працуй пільна — і будзе, як у Вільні».

**Э.А.** — *Дзякуй вялікі, спадар Алег, за гутарку! І дай вам Бог ажыццявіць усё, што задумана...*



# Яўген Мартыновіч

празаік. Друкаваўся ў часопісах «Дзеяслоў», «Маладосць», «Вожык», «Вясёлка», тыднёвіку «ЛіМ» а таксама ў калектыўных зборніках «Кахаць і верыць», «Мой дзень пачынаецца» і «100 словаў». Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# На пачатку...

У апошні час нешта сапсаваліся мае адносіны з Літаратурай!

А чаго ты хацеў, колькі ўжо можна мурыжыць яе: гаротную дзяўчынку? Ужо сем гадоў сустракаешся (як быццам ужо павінна было скласціся нешта сур'-ёзнае), а вось да заручын неяк справы не дайшлі! Не зрабіў прапановы рукі і сэрца, не падараваў пярсцёнка. Напэўна — пакрыўдзілася на мяне... А можа ўжо і каханне астыла. Цяжка нешта адказаць.

А калі сур'ёзна... Зайздрошчу па-беламу пачаткоўцам! Іх палкаму каханню да Літаратуры і бяссонным начам, праведзеным у яе абдымках! Яны яшчэ не скаваны ў сваёй творчасці ланцугамі правілаў і законаў. Яны ствараюць тое, што патрабуе не розум, а душа з сэрцам. І, часам, у іх атрымоўваецца нешта даволі яскравае і арыгінальнае. Пачатковец не задумваецца (а часам нават і не ведае гэтага змыленага слова: «графаманія») над тым, што ў яго напрыканцы атрымаецца, і каму гэтае будзе патрэбна. Творчасць у самым чыстым выглядзе! Чыстая, не засмечаная навамоднымі «напрамкамі і кірункамі». Трэба ўсім нам, хто хоць трошкі звязаны з Літаратурай і Словам, падзякаваць гэтаму часу.

Іншая справа з тымі, чые дэбюты засталіся далёка за плячыма; хто пераступіў тую рысу, калі яшчэ можна было называць сябе «маладым пісьменнікам» і накіраваўся ў напрамку, дзе ўжо няма зніжак на твой узрост, дзе кожная твая памылка раўназначна паразе і нават смерці... Не менш.

Здараецца, прыпамінаеш той настрой, які быў пры напісанні першага твора, тую магію, якая адбывалася ў час яго напісання... І не верыш таму, што гэта было менавіта з табою! Здараюцца хвіліны, калі апаноўвае той настрой і зараз. І ты пішаш без аглядкі, як быццам лепшаму сябру, які абавязкова адгукнецца на твой твор добрым словам падтрымкі, які нават, калі і пакрытыкуе, то напрыканцы скажа: «Усё ў цябе атрымаецца! Гэта тваё».

Але ў асноўным, калі пішу без «таго настрою», звычайна левая рука бязлітасна хапаецца за правую! Маўляў: «Ты сур'ёзна? І каму гэта ўсё патрэбна?». Часта гэтыя пытаннечкі спынялі нават самыя шчырыя і смелыя задумы, не даючы напоўніцу ім разгарнуцца. Бясконцы сабатаж самога сябе. Як жа ён надакучыў!

Але здараюцца і перамогі. Не часта, але яны ёсць. Калі прыходзіць нешта такое... адно маленечкае слова, простае, сапраўднае слова. Калі яно падкочвае да горла, і ты не маеш больш сілаў трымаць яго ўнутры. Яно нараджае іншыя словы. Мабыць ужо не такія значныя і чыстыя... Але ты не можаш іх стрымаць. І зноў вырастаюць крылы. І нішто цябе не здолее спыніць! Але такіх момантаў становіцца значна менш.

Для кожнага твора ў мяне ёсць свой сшытак, свая асадка, ці пэндзлік. Яны раўнівыя. Два творы рэдка калі ўжываюцца ў адным сшытку. Таму амаль пры кожнай магчымасці я набываю некалькі вучнёўскіх сшыткаў на 12 лістоў

у клетку. Спрабаваў пісаць у сшытках больш вялікіх памераў (А4), але там увогуле атрымліваецца нейкі «бедлам». Малыя сшыткі для мяне па-за канкурэнцыяй. Яны пазбаўляюць страху і адказнасці пісаць «прыгожанька». Яны ператвараюцца ў маленькія лабараторыі, у якіх я пачуваю сабе Гаспадаром, а не пужлівай істотай; дзе ты не баішся нешта разбіць, ці сапсаваць, як быццам знаходзішся ў гасцях у ангельскай каралевы. Яны ствараюць тую мяжу, за якой магчыма хоць на нейкі момант пазбавіцца адказнасці! Той адказнасці, дзе ты павінен за кожны крок адчытвацца. Але іншая справа, калі гэтае «крэмзанне» пераплаўляецца ў чыставы варыянт, канчатковы. Там ты ўжо павінен адказваць напоўніцу за свой твор. Інакш, лепш не ўвязвацца ў гэтую гульню.

Раней я заўсёды прачынаўся з трывогай і нейкай спустошанасцю... Трывогай за тое, што не здолею больш нічога напісаць, стварыць. І я не веру, хто кажа, што атрымлівае задавальненне ад напісання твора. Ён (нават самы маленькі твор) высмактвае ўсе сілы і нервы, трымае ў напружанні, пазбаўляе волі і часу. Ты не належыш самому сабе, і кожная казюрка здаецца вышэйшай за цябе! Не веру, хто гаворыць, што атрымлівае ад гэтага задавальненне!

Але ты, не гледзячы на ўсе балючыя абставіны, пераадольваеш сябе, сваю зляноту, тысячы побытавых спраў, дрэннае (добрае) надвор'е, кепскае здароўе, каб зноў адчуць тое першае, самае чыстае пачуццё, з якім ты напісаў свой першы сапраўдны твор.

# Пяць малюнкаў з жыцця маленькага чалавека

*(Штрыхі)*

## 1

Маленькі чалавек прыходзіць у гэты свет...

Нярэдка ў дзяцінстве дарослыя як быццам «выключаюцца» з твайго жыцця і перастаюць цябе разумець і чуць. Ты — «маленькі чалавечак», які мала што разумее ў іх такім цяжкім і асэнсаваным жыцці. На іх «вісіць» так шмат самых розных абавязкаў і спраў, што гэта адбіваецца нават на іх хадзе (з кожным годам іх спіны ўсё больш і больш гнуцца ад «невыноснага цяжару быцця» і няйздзейсненых мараў). А тут яшчэ трэба нешта адказваць гэтаму маленькаму чалавечку.

«Потым, не перашкаджай!..»

«Не задавай дурных пытанняў!..»

«Як жа ты надакучыў!..»

«Няма на цябе больш моцы!..»

«Ідзі лепш спытай у бабулі!..»

«Ты яшчэ гэтага не разумееш!..»

«Так добрыя дзеці сябе не паводзяць!»...

(можаце самі працягнуць гэты спіс).

І маленькі чалавечак становіцца яшчэ меньшым, сціскаецца ў незаўважную кропку, каб нават ніхто і не ведаў, што такі ўвогуле ёсць на гэтай зямлі.

Спачатку маленькі чалавечак пратэстуе.

«Ну як жа так! Я ёсць! Чуеце, я ёсць!»

І прыцягвае ўвагу ўсімі магчымымі сродкамі: тупаценнем, «незразумелымі» капрызамі і крыкам, а потым самым апошнім аргументам — слязьмі.

Але і гэты «аргумент» з часам перастае дзейнічаць, ператвараючыся ў штодзённы звыклы фон, які перашкаджае толькі суседзям.

«Ну нічога, паплача і перастане».

«Хутка перарасце».

«Гэта ў яго (яе) — патрэбнае падкрэсліць — такі ўзрост. Што вы хочаце — крызіс (3-х-7-мі-12-ці... гадоў)»

І на гэтым супакойваюцца. Навошта турбавацца? Накормлены, адзеты, абуты! Што яму (ёй) яшчэ трэба? Гэта ж усяго толькі маленькі чалавечак, які і сам не ведае, чаго ён хоча.

І маленькі чалавечак мірыцца са сваім «маленькім» становішчам.

Хлюпае носам. І супакойваецца.

***

Як высветлілася пазней, у дарослым жыцці цябе слухаюць яшчэ менш.

## 2

Маленькі чалавечак робіць першыя крокі...

Яго аддаюць спачатку ў дзіцячы садок, а потым у школу. Там ведаюць, што і як рабіць. Перш-наперш трэба надаць гэтаму чалавечку «форму» (пажадана аднолькавую для ўсіх), уціснуць яго ў «патрэбныя рамкі»: пасадзіць на 11 гадоў за парту (каб ведаў сваё месца) і растлумачыць, што можна рабіць, а што нельга (таго, што нельга — значна больш), тое ж самае з правамі і абавязкамі...

***

Для мяне асабіста, школа стала самым вялікім выпрабаваннем у жыцці.

Ты не належыш сабе. І «сціскваешся» яшчэ больш.

Правілы тут простыя: калі ты ўсё разумееш з першага разу, калі не высоўваешся і не задаеш нязручных пытанняў, калі своечасова выконваеш, не спрачаючыся, усе патрабаванні, калі ты паслухмяны і лагодны, як «белая авечка», то ўсё ў цябе будзе добра. А калі не... О, лепш нават не пачынаць...

Вядома, што не ўсё было так дрэнна ў школе. Былі і добрыя моманты: вандроўкі, сяброўствы, першае каханне і апошні месяц вучобы — май (дзякуй

школе за гэтыя адзінаццаць выратавальных «маяў»). Напэўна — самых казачных і цудоўных месяцаў за ўсе школьныя гады.

Памятаю, як у школе ўсе надзеі ўскладаліся на апошнюю чвэрць... Яна (чвэрць), як быццам, давала шанец выправіць усе свае «грахі», якія назбіраліся за вучэбны год, каб са спакойным сумленнем пайсці на летнія вакацыі.

Але якая там вучоба, калі на двары май?!

Якое сумленне, калі сонечныя промні і хмельны пах вясны гнаў нас з гэтых прапахлых мокрай анучай і крэйдай класаў на вуліцу, на волю!

І я ні кроплі не шкадую, што нешта там не «выправіў», ці не «ачысціў» сваё сумленне перад настаўнікамі і бацькамі.

Не шкадую! Бо гэта былі дні, напоўненыя хоць нейкім сэнсам...

Але ўсё гэта было па-за сценамі школы.

Школа! Маё «сярэднявечча», мой боль і агіда.

Напэўна, знойдзецца шмат людзей, якія з цеплынёй будуць успамінаць свае школьныя гады. Але я да іх ліку не належу. На вялікі жаль.

## 3

Маленькі чалавек шукае...

А потым надыходзіць момант, калі хочацца атрымаць хоць якія-небудзь адказы. Маленькі чалавек шукае іх паўсюль, спачатку не пужаючыся вынікаў гэтых пошукаў, той праўды, якая хаваецца за гэтымі пытаннямі. Але з часам, гэтая праўда пачынае ціснуць маленькага чалавека, палохаць яго сваёй бязлітаснасцю і непрагляднай безданню, у якую страшна зазіраць нават самым смелым і адчайным...

***

Паступленне ва ўніверсітэт — напэўна гэта быў адзін з шчаслівейшых момантаў у маім жыцці! Гэта было сапраўдным выратаваннем і глытком свежага паветра.

З той воляй, якая абрынулася на галаву ў першыя месяцы вучобы, я нават не ведаў што рабіць. Ні табе бясконцых хатніх заданняў і штотыднёвых «самастойных», ні чвэрцяў з іх экстрымальным выпраўленнем адзнак і кілаграмамі спаленых нерваў, ні «школьных зорак», якім усё на свеце даравалася. Тут былі ўсе роўныя (так бачылася)...

Воля! Яна ўзрушыла мяне. Мне хацелася нешта ствараць! Пакуль яшчэ дакладна не ведаў што, але была ўпэўненасць — за што б ты не ўзяўся, усё б у цябе атрымалася! І гэтае пачуццё надавала сілы.

Упершыню я адчуў, што за нешта адказваю самастойна, што нешта ад мяне залежыць! Што тваё слова мае нейкую вагу. І для гэтага трэба вучыцца размаўляць! Гэта, як потым высветлілася, цэлая навука.

Ну што тут можна сказаць? Гэта было файнае адчуванне.

З'явіліся новыя сябры, з якімі мы сабралі свой рок-гурт і неўзабаве пачалі выступаць.

«Творчасць-воля-здзяйсненне мараў» — было нашым дэвізам на працягу ўсёй вучобы ва ўніверсітэце.

Мы рэпетавалі да ачмурэння, выступалі на самых розных пляцоўках, шмат чыталі (у асноўным — Керуака, Букоўскі, ды Хэма з Рэмаркам), пісалі нейкія шызойдныя тэксты і цешыліся сваёй «геніяльнасцю» і іншымі не надта «фармальнымі» напоямі! Мы кахалі... І шчыра верылі, што гэта ўзаемна і назаўжды!

Напэўна, у гэты перыяд здарыліся нейкія «добраякасныя» пераўтварэнні ў душы, нейкае асэнсаванне сябе і іншых у гэтым свеце. Спроба нешта зразумець. І, здавалася, што нешта зразумелі.

Так здавалася...

## 4

Маленькі чалавек знаходзіць...

Першыя заробленыя грошы! Ніколі не забуду іх паху. Зараз нават і не згадаю, на што я іх патраціў. Напэўна — на нейкую лухту, на якую зараз нават і не паглядзеў бы.

Вядома, у студэнцкія гады былі нейкія «падпрацоўкі» на піва і струны, але гэта ўсё было не тое.

Вось яно — дарослае жыццё. Абавязкі, адказнасць, бясконцы выбар шляхоў развіцця і яшчэ раз — АД-КАЗ-НАСЦЬ! Шмат хто з маіх аднагодкаў расчараваўся ў выбары прафесіі. Не вытрываў. Жыццё скінула ўсіх нас з «ружовых нябёсаў» юнацтва.

Спачатку і я быў агаломшаны. Бо нават паловай таго, чаму нас навучылі, мне не давялося пакарыстацца (а другая палова была забытая).

У дарослага жыцця зусім іншыя законы і правілы. Усяму прыйшлося вучыцца нанава, развівацца, не стаяць (сядзець) на адным месцы.

Але я знайшоў «рэцэпт» (не надта арыгінальны), каб канчаткова не звар'яцець ад гэтай навалы. Усё проста — не трэба чакаць узнагароды за сваю справу, а рабіць яе самааддана і шчыра, і тады ўсё атрымаецца. Інакш, трэба сыходзіць. Навошта тады марнаваць свой час на непатрэбнае твайму сэрцу і розуму?

Я застаўся.

## 5

Маленькі чалавек прачынаецца...

У мяне ёсць дачка. Мой гонар і маё суцяшэнне.

Мы з жонкай намагаемся з усіх сіл зразумець гэтага маленькага (а зараз ужо такога вялікага:) чатырохгадовага чалавека. Мы размаўляем, прыдумваем розныя гульні, разам чытаем вершы з казкамі і глядзім мультфільмы, робім памылкі, але вучымся разам выпраўляць іх. І слухаем-слухаем-слухаем адзін аднаго, стараемся знайсці агульную мову ў нашай невялічкай «дзяржаве» пад назвай Сям'я.

Як жа я люблю моманты, калі дачка прачынаецца! Нават, калі яна запозна лягла (шмат уражанняў пераржытых за дзень адцягнулі сон). Прачынаюцца спачатку ногі, а за імі пальчыкі на руках, а потым вочы (лып-лып з прасоння). Вусны складваюцца ва ўсмешку:

«Тата, а куды мы сёння пойдзем? У нас сёння выхадны?»

Я супакойваю яе. Кажу, што сёння не трэба ісці ў дзіцячы садок. На хвіліну яна зноў заплюшчвае свае вялікія вільготныя вочы, але я ведаю — яна ўжо прачнулася.

Я чую яе роўнае лёгкае дыханне. І радуюся, што сёння не трэба нікуды спяшацца. Што гэты дзень належыць толькі нам. Што сёння мы належым толькі адзін аднаму. А астатняе — неістотна.

# Мора

## 1

У апошні час мяне пакінулі сны.

Сон... Мая мара і маё адзінае сапраўднае жаданне, якое пераследвае мяне на працягу апошніх гадоў. Навошта кудысьці бегчы і нечага жадаць, калі можна проста забыцца пад цёплай коўдрай і працягваць бачыць бірузова-аксамітныя сны? І пры гэтым жадаць толькі аднаго: каб на цябе забыўся ўвесь белы Свет, і каб нехта не распужаў тваіх сноў. Толькі і ўсяго! Няўжо я так шмат патрабую ад Сусвету?

Ты жадаеш гэтага забыцця, ты прагнеш яго ўсёй душой, каб аднойчы прачнуцца і больш нікуды не ісці, не бачыць і не чуць гэтыя звыклыя рэчы і бясконцыя мітуслівыя дзеянні, не прыносіць у ахвяру свой каштоўны час, якога і так адведзена няшмат. Нават па самых аптымістычных прагнозах (100 гадоў!), чалавек жыве да непрыстойнасці мала. Што гэта ў параўнанні... Ды з тымі ж секвоямі, якія могуць пражыць амаль два тысячагоддзі? Таму так не хочацца марнаваць свой час на бясконцую пагоню за бруднымі паперкамі, якія (як жа смешна) ператвараюць цябе ў ГАСПАДАРА ЖЫЦЦЯ! Глупства адным словам.

І толькі ў снах, толькі ў марах ты знаходзіш тую выратавальную раўнавагу, якой так не хапала табе ў паўсядзённым жыцці. Але ты яе страціў, як і мноства іншых важных рэчаў.

***

Мяне пакінулі сны...

У лепшым выпадку я проста аўтаматычна засынаю, і гэтак жа аўтаматычна прачынаюся. У горшым — варочаюся без сну напрацягу ўсёй ночы і пералічваю авечак са шматтысячных статкаў.

Мой дзень пачынаецца звычайна, як амаль ва ўсіх людзей, якім пашчасціла пачынаць сваю працу з 9.00 раніцы: душ-кава-(як варыянт — гарбата) —апрананне-крос-да-аўтобуса-тралейбуса-метро і праца (звычайна з 9.00 — 17.00). Дзень за днём адно і тое ж. Але я не пра тое...

Раней мне снілася шмат сноў. Але маімі любімымі былі сны пра мора. Не памятаю, калі я ўпершыню ўбачыў гэтыя сны. Напэўна, у гадоў сем, а можа, і раней. Але тады я не бачыў мора ўжывую. Толькі па тэлевізары, ці ў кіно.

Ува сне я ўдыхаў водар мора, такі свежы і гаючы, што немагчыма было ім надыхацца. Я ўдыхаў яго салёна-ёдзісты пах і ўсміхаўся. Калі прачынаўся, мне здавалася, што я адчуваю на языку прысмак солі. Напэўна, мне проста так здавалася.

Калі я ўпершыню ўбачыў мора, я адразу пазнаў яго (яно было такое ж, як і ў маім сне) і быў зачараваны, як можа толькі можа быць зачараваны дзіцёнак, упершыню ўбачыўшы цуд. А гэта была сапраўды цудоўна! Мора было прыўкрасна ў сваім велічным блакітна-зялёным спакоі. Хвалі нястомна накотвалі на бераг («бу-у-ух») і мякка вярталіся назад («ш-ш-ш»)... Яно жыло сваім паўнавартасным жыццём, і дазваляла жыць нам разам з ім.

Я стаў бачыць мора ў снах яшчэ часцей. І калі мы вярталіся дамоў у Мінск, я плакаў, што нам прыйшлося развітвацца з ім. Але бацькі абяцалі, што праз год мы зноў вернемся сюды. І я чакаў... Я ўмеў чакаць. Гэта было маім шчасцем і выратаваннем.

Але зараз да мяне перасталі прыходзіць сны. Я спецыяльна пераглядаю, перад тым як легчы ў ложак, фотаздымкі са свайго дзяцінства, спрабую выклікаць у памяці ўспаміны, але нічога не атрымліваецца. Я па-ранейшаму не бачу сноў. Магчыма, я проста пасталеў.

## 2

Бессань...

«Я ўжо і не памятаю, з-за чаго мы пачалі спрачацца, адкуль узялася гэтая злосць і непаразуменне?»

У такія моманты вельмі цяжка вяртацца назад і паспрабаваць нешта змяніць, прызнаць сваю памылку. Але ўсё адбываецца наадварот. Ты думаеш, як яшчэ больш балюча зачапіць свайго роднага і любімага чалавека. Успамінаеш усе крыўды і грахі, нават тыя, з якімі ўжо даўно разабраліся. А прычын, такіх вось успамінаў і крыўд, пры жаданні можна назбіраць колькі заўгодна.

«Брудны посуд! Ну што гэта за прычына?»

А тут ужо і не істотна. Брудны посуд, ці падлога, перапоўненая сметніца ці раскіданыя рэчы — гэта ўжо проста апошнія міліметры кнота, якія засталіся да выбуху! І гэты выбух «нечакана» здараецца. А што было перад гэтым: праблемы на працы, незадаволенасць уласным лёсам, жыццём, надвор'ем.... Ды проста хто-небудзь у краме нахаміў, ці ў аўтобусе патаптаўся па нагах! Але гэта ўжо нікога не хвалюе. ВЫБУХНУЛА. Маленечкія аскепачкі скласліся ў патрэбную карціну пад назвай: «Крызіс адносінаў, частка...» (збіліся з ліку, якая там частка).

І калі напружанне ўзрастае для новага выбуху, то лепшае, што можна зрабіць — выйсці на свежае паветра.

«Удых-выдых....удых-выдых.... Удых-выдых... Усё, спыніся! Не бяжы! Не трэба! Успомні, як усё пачыналася. Ды стой ты, не бяжыі! Фуу-у-у... Спыніся. Успомні сябе «таго» і яе «тую».

Няўжо думалі пра такое? Няўжо марылі пра такое? Што нейкая драбяза можа выклікаць такіх агідных пачвар у выглядзе істэрык, лаянкі, непрыемных брудных слоў...

Калі б паказалі тым пяшчотным закаханым рамантыкам (якімі мы некалі былі), што з намі здарыцца праз некалькі год, мы б збеглі на край Свету (напрыклад, у Індыю), каб толькі не здарылася з намі такой бяды. Каб толькі б не здарылася...»

І ты крочыш. Крочыш без мэты і жаданняў. Проста, каб змарнаваць час. Але гэта самападман. Гэтая хадзьба па коле. Крок за крокам, крок за крокам. Гэтакая імітацыя руху ніадкуль у нікуды..

«Трэба нешта мяняць... Трэба нешта мяняць. Гэта дакладна».

***

...Мора працягвае сваю нястомную працу... Бясконцыя хвалі накотваюць на бераг («бу-у-ух») і мякка вяртаюцца назад («ш-ш-ш»)... накотваюць і вяртаюцца...

***

Яна растварылася ў ім (як соль у вадзе), яго жаданнях, а потым і ў яго праблемах. Што яна магла? Выратавальнае каханне, якое калісьці грэла іх сэрцы, астыла. А што засталося? А што засталося...

«Ён змяніўся. Як жа ён змяніўся. З кожным днём усё больш і больш...

А што я... Што я магу зрабіць? Ён стаміўся. І я стамілася. Але хоць бы адно ласкавае слова... (усхліп).

Жанчынам патрэбны ласкавыя словы і абдымкі! Як жа ён не разумее.

Мой бедны... Як жа мне не хапае абдымкаў... Не разумее...

Я не хачу яго даймаць. Не хачуператварацца ў напаўзвар'яцелую сляззлівую сцерву, якой ён мяне бачыць. Але што я магу зрабіць, калі ён мяне не бачыць...

Калі мы перасталі чуць адзін аднаго? Ніхто не адкажа... Ды ўжо і не патрэбны гэтыя адказы. Гэта проста словы. Проста словы... (усхліп).

І гэтыя недарэчныя зачэпкі і сваркі... Як жа ўсё надакучыла... Як жа гэта ўсё дробязна і брудна... Як усё надакучыла!

Мы ператварыліся ў мяшкі з цвікамі, якія тырчаць з усіх бакоў і раняць адзін аднаго пры дакрананні. Мы нават не спрабуем нешта змяніць у сабе! Мы — мяшкі з цвікамі...

Што з намі стала?

Спыніся. Успомні сябе «тую» і таго «яго»? Няўжо думалі пра такое? У каго мы ператварыліся?

Не... Больш не магу трываць. Нам трэба пагаварыць.

Нам проста... гаварыць...»

**3**

Званок.

— Пачакай... Нічога не кажы! Я ўзяў два білеты! Два білеты да мора. Разумееш. Мы стаміліся... Нам ужо даўно трэба было так зрабіць. Нам трэба ўбачыць мора! Разумееш. Мы проста стаміліся ад усяго гэтага тлуму. Ты згодна? Пачакай, не кажы. Дай я скажу першым. Я памятаю цябе. Чуеш?! Я памятаю, якая ты была. І ты застаешся такой жа. Прабач мяне. Ты зможаш? А? Пачакай. Я памятаю, якая ты была... Я ўзяў два білеты да мора! Чуеш? Два білеты...

— Вяртайся хутчэй дадому... Я так цябе кахаю. Ты прабач мяне. Мы, як малыя дзеці... заблукалі ў лесе. Як малыя дзеці...

Больш я нічога не пачуў. Я бег з усіх ног дамоў і мне было лёгка на сэрцы. Я спыняўся на некалькі хвілін адпачыць. Бачыў над галавой высока-высока зоркі. Я зноў бег. Бег і разумеў, што ўсё будзе добра. Што Сусвет на нашым баку, і мы здолеем вытрываць... Мы здолеем.

***

Мора...

Яго хвалі так пяшчотна кранаюць нашы ногі.

Мы схаваліся ад усіх на Свеце.

Мы глядзім наперад і бачым, як мора і неба ператвараюцца ў адно цэлае, сціраючы ўсялякія межы. Мы глядзім на гэту прыгажосць, і нашы сэрцы напаўняюцца адчуваннем неверагоднай пяшчоты...

Цяпер не трэба нікуды спяшацца. Наперадзе яшчэ шмат гадоў, якія мы паспрабуем пражыць як належыць... І я не баюся гэтага. Я перастаў баяцца...

Мы перасталі баяцца!

Больш няма часу на гэта.

***

Упершыню за шмат гадоў, я ўбачыў сон.

# Яе больш няма...

Чацвер 14 верасня 2017 года стаў апошнім зямным днём маёй маці.

Яна напрацягу амаль двух з паловай гадоў змагалася з цяжкім анкалагічным захворваннем лімфасістэмы: лімфомай Ходжкіна на IV стадыі (такі несуцяшальны прысуд вынеслі дактары). Маці да апошняга верыла, што пераможа. У гэтую перамогу маці верыла ўсім сэрцам (і мы таксама верылі!), бо перамагаць было дзеля каго: унукаў і дзяцей (тым, каму яна падарыла жыццё), дзеля мужа... Яна вельмі хацела жыць. І яна жыве ў кожным з нас. І мы ўсе ўдзячны ёй за гэты падарунак...

***

Пачатак лета, 2015 год.

Пасля доўгіх і шматлікіх пакутлівых біапсій і аналізаў, маёй маці паставілі дыягназ: «Лімфома Ходжкіна» (злаякасная паталогія лімфавузлоў). Пасля такога прысуду дактароў маці доўга не магла прыйсці ў сябе. Проста не давала веры такой страшнай навіне...

«Ну як жа так? Толькі не ў нашай сям'і. Гіпертанія, сэрца, астма! Але ж гэта, як ва ўсіх!». А тут адразу — анкалогія, некалькі курсаў хіміятэрапіі. І як жыць далей? Ад адных толькі слоў: «Бараўляны» і «Анкадыспансэр на «Акадэміі навук»» нават абсалютна здаровы чалавек адчувае нейкі холад пад сэрцам. А калі ты сапраўды захварэў? Уявіць немагчыма, што творыцца ў душы чалавека, пасля гэтых слоў: «На жаль, прагноз несуцяшальны. У вас...».

Я не буду казаць, што мама сустрэла гэтую навіну, як у фільмах, дзе герой мужна прымае такія непрыемныя павароты лёсу са словамі: «Я буду змагацца да апошняга! Я накаўцірую гэты рак! Ён у мяне яшчэ паскача!». Маміны першыя словы, якія я пачуў у слухаўцы былі: «Ну, вось і ўсё...» А далей плач. Горкі, несуцешны плач... Мне так захацелася ў гэты момант прытуліць маму... і не адпускаць.

Мы хутка сустрэліся. Я спрабаваў, як мог, яе суцешыць. Але якія тут могуць быць словы суцяшэння, калі здарылася такая бяда? Я таксама не вытрымаў... Гэта ж мама. Мая родная мама! Якая несправядлівасць, чорт падзяры!!!

***

А потым пачаліся курсы «хіміятэрапіі» (а пасля дні чакання і назірання за зьмяненнямі). Праз кожныя два тыдні трэба было па-новаму ўліваць у вены гэтую атруту! Як у жахлівым сне.

Спачатку лячэнне ніяк не адбівалася на знешнасці маці. Ды і фізічна пераносіла «хімію» мама даволі добра. Але пасля трэцяй, пачалі выпадаць валасы, а скура рабіцца шэрай. Маці ад усяго гэтага вельмі пакутавала...

«Што падумаюць людзі?» — гэта было яе заўсёднае пытанне...

«Якая розніца, што яны там падумаюць! Галоўнае, каб ты засталася жывая!»—супакойваў яе я.

Усе мы так яе супакойвалі. І суцяшалі, гаворачы, што яна добра выглядае. Што люстэркі падманваюць і паказваюць тое, што ты хочаш бачыць... тое, што ты не хочаш бачыць... Маці на некаторы час суцяшалася. Але потым паўтаралася зноў і зноў. «Я ж бачу, што ўсё дрэнна. Колер твару нейкі зямлісты стаў, як у нябожчыцы! Так, хутка... ужо хутка... Дзякуй Богу, вас з Сашам (маім братам) выгадавала. Можна ўжо і ...»

Камяк падкотваў да горла. І суцяшаць прыходзілася з яшчэ большай перакананасцю.

«Жэнь, ты ведаеш, колькі хворых маладых сядзіць на прыём да анколага?.. Такія маладыя, прыгожыя... дзяўчаты, хлопцы.

Я ўжо пажыла сваё. Як жа шкада вось гэтых, каму яшчэ жыць да жыць!»

Маці моцна перажывала нават за чужых ёй людзей. Нават плакала... І гэтыя слёзы былі не «па сабе», а за тых, хто сядзіць пад дзвярыма і чакае...

І мы кожны дзень паўтаралі Маці, што жыць яшчэ ёсць дзеля каго і чаго... Што яшчэ наперадзе так шмат цеплыні і светлых дзён. Што ўсе мы так моцна любім... І будзем разам!

***

Што застаецца родным чалавека, які цяжка хварэе? Аскепкі маленькіх суцяшэнняў...

Маці трошкі палепшала — радасць!

«Падымуцца» ў крыві лейкацыты з трамбацытамі — радасць!

Чысты спінны і костны мозг — радасць!

І шмат такіх «радасцяў» назбіралася за два з паловай гады мамінай барацьбы.

Але самая вялікая радасць для чалавека з такой хваробай — рэмісія. Матулінай рэмісіі хапіла на паўгады. І гэта былі самыя незабыўныя паўгады не толькі ў матуліным, але і ў нашым жыцці! Вера, што ты, калі моцна захочаш, то пераможаш рак нават на самых апошніх стадыях! Што ў цябе ёсць твой самы «прыхаваны» і важны апошні шанец, які ты бярог на такія вось выпадкі! І маці была ўдзячна гэтым «чыстым» дням, якія яна шчодра дарыла на́м — сваім родным і сябрам!..

***

Праз два гады.

Я заўсёды баяўся, што пасярод ночы патэлефануе тата і скажа: «Маці памерла».

Патэлефанаваў брат у дзве гадзіны дня і сказаў: «Жэня... усё... Маці памерла. Трымайся».

У чым адрозненне? Першае — быў сон.

Другое — рэальнасць.

Маці памерла! Так будзёна для астатніх... І так цяжка для цябе...

Яе больш няма.

***

16 верасня, 7:00 раніцы.

Пакуль не астыў боль, цяжка казаць што-небудзь аб'ектыўнае пра маці. Усе словы пераблыталіся і на нейкі момант страцілі свой сэнс. Але зараз толькі вось гэтыя нататкі даюць хоць нейкае ратаванне ад безвыходнасці болю...

Яна была звычайнай і незвычайнай адначасова. Яна была сяброўкай, жонкай, маці, дачкой... (Усё гэта не тое!!!).

Яна проста БЫЛА! А цяпер яе няма. І што з гэтым рабіць, я не ведаю.

Цяжка ўявіць, што маці перажыла ў апошнюю сваю хвіліну перад тым, як яе вочы заплюшчыліся назаўсёды... Немагчыма. Застаецца спадзяванне, што гэты апошні момант не быў пакутлівым.

Праз паўгадзіны я з працы прыбег да мамы. Я дакрануўся да яе рук. Яны яшчэ былі цёплымі... Цяпло пакідала яе паступова, і я не верыў, што гэта яе

апошняе цяпло, якое мне застаецца адчуць. Адчуць і ўвабраць яго вуснамі і шчокамі, адчуць яго мокрымі ад несупынных слёз вейкамі. Не хочацца ўзгадваць, колькі было праліта іх, гэтых слёз па маме...

***

14 снежня.

...І яны працягваюць ліцца...

Прайшло ўжо тры месяцы, як не стала матулі. Здаецца — ужо пачынаеш звыкацца з гэтай думкай: што ўжо яна больш ніколі не патэлефануе табе, не прыйдзе пасядзець з «любімай унучанькай»... Але здараюцца хвіліны, калі адчуваеш, што гэты «званок» павінен здарыцца. І чакаеш яго... І хочацца закрычаць: «Маці не знікла!» Таму што я амаль фізічна адчуваю ва ўсім Яе: у рэчах (забраў з Ракава яе неразгаданую крыжаванку, сшыткі з яе рознымі запісамі: рэцэптаў, анекдотаў, афарызмаў, вершаў для ўнучкі; яе любімую хустачку), яе падарунках, з якімі гуляецца дачка і часам пытае мяне: «Тата,а калі прыйдзе бабуля-Натуля?»...

Зрабіў яе фотаздымак і паставіў разам з іконай.

Цяпер маці глядзіць на нас. Цяпер маці глядзіць на нас...

***

Мама, пасля твайго сыходу, шмат чаго пачаў разумець — твае заўвагі, якія выклікалі ў нас з братам адваротную рэакцыю, рабіліся не дзеля таго, каб пакрыўдзіць нас (цяпер я ведаю, ты не хацела гэтага!), а для таго, каб мы былі трошкі лепшымі. Зараз я згодны амаль з усім, што ты казала. І як бы дорага я аддаў, каб зноў пачуць твой голас, хаця б на хвіліну... Але хатні тэлефон амаль сціх. Больш няма каму па ім тэлефанаваць, няма каму шчыра запытацца пра твае справы (толькі табе і было па-сапраўднаму цікава маё жыццё і гэтыя ідыёцкія справы). Засталіся будні і тупы боль, які абвастраецца ў самыя нечаканыя моманты...

Успамінаю, калі апошні раз вёз матулю дадому і яна казала: «Як жа добра вось так проста ехаць куды-небудзь. Без мэты. Проста ехаць».

Выбачай нас за ўсё, мама.

***

Калі-небудзь я навучуся пісаць! І тады, я абавязкова напішу пра цябе, як ты таго заслугоўваеш. Я абавязкова напішу пра ўсе светлыя дні, якія ты падарыла ўсім нам. Дзякуй табе за ўсё.

**P.s.** У гэты ж дзень, 14 верасня, у майго брата Сашы нарадзіўся сын.



# Алена Масцерава

паэтка. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка. Друкавалася ў «Верасні». Нарадзілася ў 1983 годзе ў вёсцы Лагаза на Лагойшчыне. Жыве ў Лагойску.

# Азбука вёскі Лагазы

***Месца нараджэння для чалавека — святое. Родная краіна, родная вёска, родны дом. Гэтыя словы выклікаюць самыя глыбокія пачуцці, абуджаюць самыя светлыя ўспаміны, бо тут выхоўвалася, сталела душа.***

***Мая душа належыць Лагазе — месцу, дзе нарадзілася і вырасла, дзе жывуць і працуюць бацькі. Складаю свае ўспаміны, эмоцыі, вобразы маленства ў азбуку, каб расказаць пра родны куточак, каб пакінуць у памяці назаўсёды. Літары алфавіта дапамагаюць паслядоўна раскрыць самыя розныя праявы жыцця...***

**А** — асоба. Вясковы летапіс багаты на імёны таленавітых настаўнікаў, выкладчыкаў, спартсменаў. Але самай знакамітай асобай, напэўна, можна назваць звычайную працаўніцу калгаса Надзею Куніцкую. Гісторыя трактарысткі, вядомай у свой час на ўсю краіну, вельмі ўразіла мяне ў дзяцінстве. Здавалася, што гэта пра гераіню фільма ідзе гаворка, а не пра жанчыну з суседняй вёскі Селішча.

Вядома, што падчас вайны яна ўдзельнічала ў партызанскім руху, з 1944 года працавала ў калгасе імя Жданава, пазней была трактарысткай Лагойскай МТС, апрацоўвала палеткі саўгаса «Лагаза». У 1971 годзе атрымала званне Героя Сацыялістычнай Працы. Сам Пётр Машэраў асабіста ўручыў ёй трактар, выпушчаны мільённым па ліку на Мінскім трактарным заводзе.

У маім дзіцячым уяўленні Надзея Іванаўна паўставала гераічнай жанчынай-волатам, накшталт былінных герояў, пакуль на фотаздымку не ўбачыла сціплую вяскоўку са звычайнай хударлявай постаццю, са спакойным, добразычлівым позіркам. Яна амаль да 80 гадоў працягвала працаваць на ўласным трактары!

**Б** — бібліятэка. З гэтай установай культуры звязаны самыя светлыя моманты вясковага жыцця. Зімовымі вечарамі, калі спраў было не так шмат, мы з сябрамі прыходзілі ў бібліятэку і выбіралі сабе выданні па душы. Я захаплялася жыццёвымі прыгодамі дзяўчынкі Ганькі з кніг Алены Васілевіч, грунтоўнымі артыкуламі Алеся Каўруса пра родную мову, з задавальненнем чытала часопіс «Вожык». Заўсёды нешта цікавае дапамагалі знайсці бібліятэкары, якія стваралі ў маленькім вясковым доміку з цаглянай грубкай казачны дух кніжнага царства. Мудрымі, добрымі феямі выглядалі ў ім Ліна Красуцкая і Тамара Ліхтаровіч.

Да сёння памятаю спрэчку з сябрамі наконт таго, які слон большы па памерах: афрыканскі ці індыйскі. Я прайграла яе і за гэта чытала на публіцы байку Кандрата Крапівы «Дыпламаваны баран». Вядома, што чытанне адбывалася ў бібліятэцы, бо дзе яшчэ можна было знайсці энцыклапедыю пра жывёл і патрэбны мастацкі тэкст? Інтэрнэту ў нас не было.

Вельмі сумна, што зараз толькі ў лічаных вёсках Лагойшчыны засталіся бібліятэкі. Лагазе не пашанцавала: будынак ёсць, а кніг у ім няма. Шкада. На духоўнасці нельга эканоміць.

**В** — возера. Вясковае жыццё не такое цікавае, калі ў ім няма месца забавам у вадзе. А мне з аднагодкамі пашанцавала, бо ў дзяцінстве мы купаліся на двух вадаёмах — Цэнтральным і Лагазінскім.

Першы знаходзіцца ў самой вёсцы, можна сказаць, у цэнтры, таму і мае адпаведную назву. У ім плавалі, лавілі рыбу, любілі сядзець на вярбе са скручаным ствалом. Крэпкія і пругкія галіны дрэва, на якое мы ўзбіраліся, звісалі прама над вадой.

Падчас моцных ліўняў, калі ўзровень вады падымаўся да крытычнай адзнакі, дамба не вытрымлівала, разбуралася, і вада з возера выцякала далей, па цячэнні ракі Лагазінкі. Колькі ж рыбы тады здабывалі са дна спушчанага возера! А нам, дзецям, пасля гэтага страшна было хадзіць праз мост: здавалася, яшчэ крыху — і магутная водная плынь выб'е яго з-пад ног!

Дарэчы, зараз, як запэўніваюць мясцовыя рыбакі, у Цэнтральным водзяцца шчупакі і ракі.

Другое, Лагазінскае (ці Кузеўскае) возера, як іскра, блішчыць летам: яго водблескі бачны нават тады, калі з боку Гайны ўязджаеш у вёску. Зараз яно не такое дагледжанае і чыстае, на беразе вісіць таблічка з забаронай на купанне. У дзяцінстве ж мы маглі прыйсці сюды ў любы час, часцей за ўсё пад вечар, калі вада добра нагрэлася, буракі ці бульба на полі ўжо праполаты, сена высушана і звезена ў паветку. Коўдра на траве, скокі з дамбы, падводныя крыніцы, якія студзяць ногі сваёй прахалодай у цёплай таўшчыні возера, — пра адпачынак на моры ніхто з нас і не думаў, і так было добра і весела.

А вада з чысцюткай крынічкі, што б'е ў цяні дрэў побач з возерам, і цяпер прыемна наталяе смагу, мае свой, невыказны словамі, смак і водар.

**Г** — Гілевіч. Ніл. Упершыню той факт, што мама вялікага Паэта не даехала ў лагойскую бальніцу і нарадзіла свайго сына ў Лагазе, я пачула на творчай сустрэчы з ім у студэнцкай аўдыторыі педагагічнага ўніверсітэта. Потым чытала аб гэтым факце ў нарысах-успамінах творцы. І цяпер кожны раз з асаблівым пачуццём захаплення, любові, гонару спыняюся каля магілы невядомага чырвонаармейца ля дарогі: менавіта тут калісьці пачуўся першы крык будучага народнага паэта, вершы якога «Цуд стварыўся — я праспаў...», «Край мой беларускі, край...» яшчэ ў школьныя часы абудзілі ў маім сэрцы любоў да роднай мовы і літаратуры.

Увогуле, нешматлікія сустрэчы з Нілам Сымонавічам сёння магу назваць знакавымі для свайго жыцця, бо кожная з іх дадавала веры і ўпэўненасці, вучыла нечаму важнаму. Сустрэчы з ім — у аўдыторыі, класе, актавай зале — былі сапраўднымі ўрокамі Чалавечнасці.

Аднак адзін урок, самы важны і балючы, я атрымала ўжо тады, калі сэрца Паэта перастала біцца. Яшчэ за год-два да сумнай даты я дамаўлялася з Ні-

лам Сымонавічам на гутарку для раённай газеты, але нейкія абставіны ўсё перашкаджалі, і я заспакойвала сябе: што ж, не цяпер, дык потым, яшчэ паспею. Не паспела. «Гаварыце з чалавекам, покуль ён між вас, жывы...»

**Д** — далягляд. Якія ў Лагазе даляглядры! З узгорка на ўзгорак, з гары на гару. У маленстве я любіла праводзіць вольны час на пагорку з соснамі — адтуль можна было агледзець усю вёску. Улетку тут расцвітаў духмяны чабор. Разам з сасновым водарам і салодкім пахам вялізнай ліпы, што і цяпер расце побач з соснамі, чабор супакойваў, выклікаў прыемную млявасць, калі нічога не хацелася, апрача таго, як сядзець тут у сонечны дзень і захапляцца дзівоснымі краявідамі!

Дарэчы, і сёння непадалёк ад соснӑў ляжыць валун. Ён вельмі шырокі і гладкі, улетку добра награваецца на сонцы, на яго можна залезці з нагамі, як на печку, і чытаць, пісаць або проста марыць амаль да самага вечара, калі камень-асілак пачынае астываць, аддаючы паветру назбіранае за дзень цяпло...

**Ж** — жыта і валошкі. Гэта для рупліўцаў нівы васількі — пустазелле, а для дзяцей, рамантыкаў, паэтаў — сімвал шчасця, творчасці і крыніца летуценняў. Вялізныя букеты з кветкамі колеру неба я ледзь не штодзень прыносіла дадому. Калі дзяўчынкай заходзіла ў жыта, то ўяўляла сябе казачнай князёўнай, летняй багіняй, уладаркай сонца і ветру — так дзіўна, чароўна, захапляльна стаяць на ўскрайку жытнёвага мора і адчуваць знітаванасць з роднай зямлёй, прыродай, небам!

Памятаю, як на экзамен па беларускай літаратуры часоў Сярэднявечча наша студэнцкая група падарыла выкладчыку Сяргею Гараніну букет з валошак. А назбіраны ён быў... менавіта ў Лагазе!

**З** — зіма, біятлон, лыжы. Лагазінскім дзецям на працягу некалькіх пакаленняў шанцуе, бо яны маюць магчымасць займацца ў спартыўнай школе. Мала хто з жыхароў нашай вёскі ў маленстве не ездзіў на лыжах: снежныя зімы, узгоркавы ландшафт, а галоўнае, таленавітыя трэнеры заўсёды спрыялі папулярнасці біятлону ў Лагазе. Гэта традыцыя працягваецца ў вёсцы і зараз дзякуючы трэнеру Аляксандру Храмаву.

А ўвогуле, сучасным дзецям, і маім у тым ліку, цяжка ўявіць, як гэта так: памяняць час, праведзены ў смартфоне, на катанне на санках ці лыжах з высокай заснежанай горкі, прычым не толькі днём, але і цьмяным зімовым вечарам! А мы калісьці цэлай вуліцай ішлі на высокую гару і пры ззянні месяца і зорак зляталі вясёлым шумным поездам уніз. На лыжах я каталася так сабе, таму вельмі захаплялася начнымі лыжнікамі, якія смела з'язджалі з самай вышыні, не баючыся трамплінаў і снежных заносаў, не бачных у цемры.

**І** — індык. Дзіўная асацыяцыя? Але ж у наш час дзеці часцей за ўсё бачаць хатніх птушак толькі на малюнках, у інтэрнэце ці ў заапарку. І хто з іх сёння можа пахваліцца, што пасвіў гусей, качак, ці збіраў у куратніку яйкі ў кошык, ці жартаўліва «сварыўся» з індыкамі? У дарослым узросце гэтага не зробіш, а малымі мы так забаўляліся: паўтаралі гукі незвычайных птушак, пасля чаго

яны імгненна рэагавалі і гучна, быццам незадаволена, пачыналі кулдыкаць. Смеху было! Цяпер гэтыя гукі дзіцяці паўторыць хіба што віртуальны коцік на электронных прыладах.

**К** — клуб. Прыкра было пачуць нядаўна, што клуб у Лагазе больш не дзейнічае. Значыць, няма для каго, напрошваецца выснова. Але ж не! Моладзі ў вёсцы хапае. Як і ёсць жаданне праводзіць вольны час культурна і весела. Толькі матэрыяльных магчымасцяў адрамантаваць будынак клуба, на жаль, не знаходзіцца. Як заўсёды, адказ адзін: няма грошай, немэтазгодна...

Мне і маім аднагодкам, значыць, яшчэ пашанцавала: па выхадных мы хадзілі на дыскатэку, на святы ладзілі канцэрты, удзельнічалі ў святкаванні Купалля, Калядаў, калі на вуліцы збіралася і гуляла ўся вёска. А ў канцы 90-х гадоў мы нават ставілі на сцэне «Паўлінку»!

Сённяшняя моладзь, выходзіць, павінна забаўляць сябе сама...

**Л** — Лясок-пясок. Ён знаходзіцца за Цэнтральным возерам на ўзгорку. З яго можна разглядаць вёску з розных бакоў, а можна назіраць за размераным жыццём лесу. Вясной тут зацвітаюць першацветы, летам на сонцы грэюцца яшчаркі, увосень кружыцца ў вальсе featureнакаляровае лісце, а ўзімку дрэвы апранаюць беласнежныя ўборы.

Лясок-пясок асацыіруецца з хаткай бабы Волі. Татава хросная жыла якраз каля чароўнага ляску. У яе нізенькім маленькім драўляным доміку заўсёды было вельмі ўтульна: прыязна патрэсквалі дровы ў печцы, ціха гаварыла на сцяне праваднoе радыё, загадкава цікалі ходзікі, а на высокім металічным ложку бялелася гара мяккіх падушак. Калі я з бацькамі прыходзіла ў госці да бабы Волі, то ў хаце, акрамя пячнога духу, панаваў пах смажаных яек і скварак.

У двары бабы Волі расла вялізная вішня. Каб сабраць з яе ягады, даводзілася лезці высока на дрэва. У яго галінах маглі заблудзіцца суседскія пчолы, адбівацца ад якіх было няпроста.

У невялічкім агародчыку ля хаты чырванелі смачныя буйныя парэчкі, якія баба Воля называла «пярэчкамі». Яе мова была скрозь перасыпана жартамі, прымаўкамі, а калі яна заставалася «за няньку» са мной і маімі малымі братамі, то весяліла нас рознымі забаўлянкамі, спявала калыханкі. Шкада, што ў дзяцінстве ніколі не ўзнікала думка запісаць хоць нешта з гэтага моўнага багацця. Цяпер засталіся толькі рэшткі ўспамінаў.

**М** — метэарыт. Была вельмі ўражана, калі даведалася, што вёска Лагаза знаходзіцца ў радыусе падзення метэарыта. Зорная рана на целе Зямлі, ці Лагойская астраблема, бачна толькі з касмічнага спадарожніка. А знайшлі яе паўстагоддзя таму геолагі, вывучаючы састаў глебы і знайшоўшы рэчывы незямнога паходжання. Пазней вучоныя падлічылі, што каменны метэарыт дыяметрам каля 700 м упаў на зямлю прыкладна 40 мільёнаў гадоў назад. Атрымаўся выбух, у 10 тысяч разоў магутнейшы за выбух атамнай бомбы, і ўтварылася глыбокая варонка, краі якой потым зрэзаў ляднік і якую хаваюць ад вока сучасніка ледніковыя адкладанні. Але незвычайны кантрасны рэльеф

на тэрыторыі паўночна-заходняй Лагойшчыны застаўся. Як і меркаванні пра тое, што на поўдзень ад нашага куточка пачыналася мора...

**Н** — настаўнік. Для мяне гэта слова азначае пашану, гонар, справядлівасць. Педагогам быў мой прадзед, у школе працуюць тата, мама і муж, ды і сама з дыпломам педагагічнага ўніверсітэта. Ведаючы з маленства гэту прафесію «знутры», разумеючы, як цяжка даецца настаўніцкі хлеб, нізка схіляю галаву перад людзьмі, якія, нягледзячы на несправядліва нізкія заробкі, на пастаянныя рэформы і павелічэнне рознага віду нагрузак, застаюцца вернымі свайму прызванню і працягваюць даваць веды вучням, дапамагаюць бацькам выхоўваць дзяцей годнымі людзьмі. Так, у сучаснай школе трапляюцца розныя людзі. Ды і раней усякае магло быць. Аднак у маёй памяці толькі мудрыя, шчырыя, добрыя (хоць часам вельмі строгія) настаўнікі, якім усё жыццё буду дзякаваць.

**П** — поле. Гэта слова для мяне як дзіцяці вёскі мае шмат колераў, пахаў і нават тэмпературных адчуванняў.

Вясной зямля мокрая, чорная, халодная ад снегу, з палону якога толькі вызвалілася, і на полі прабіваюцца першыя парасткі. Зялёнай надзеяй яны прарастаюць у душы, што прагне цяпла і сонца. Летам былая кволая рунь становіцца трывалай і залатой, яна спакойна прадаўжае свой шлях да стала чалавека, на які трапляе ў выглядзе духмянага хлеба.

А вось і поле з буракамі. Рысы тут падзелены паміж вяскоўцамі, і караняплоды трэба палоць, прарэджваць, выбіраць. Гэтыя работы выконвалі сем'ямі, нават малыя дзеці ў полі корпаліся. Усе стараліся, бо працэнт ад ураджаю кармавых буракоў ішоў гаспадарам, якія кармілі імі сваіх кароў.

А яшчэ поле — гэта духмянасць і цеплыня сена. Калгасныя трактары касілі выдзеленыя ўчасткі, і зноў-такі цэлыя сем'і выходзілі дапамагаць зялёнай траве станавіцца сухім духмяным сенам. Трэба было паспець нарыхтаваць яго ў пагодныя дні, таму пара сенакосу ў вёсцы лічылася, літаральна, самай гарачай.

Поле — гэта і радоўка, адначасова складаная і вельмі цікавая справа! Яшчэ з вечара мама рыхтавала нам ежу, неабходнае адзенне. І вось раніцай, калі сонца толькі-толькі ўзыходзіла і так хацелася яшчэ хоць трошкі паспаць, даводзілася браць у рукі дубец, выганяць сваю карову і весці на выган, дзе збіраўся ўвесь статак (былі часы, калі ў ім налічвалася аж 120 галоў, і гэта толькі ў адной частцы вёскі!). Спачатку жывёлы маглі штурхацца, заварочваць куды не трэба, а праз якія паўгадзіны ўсе дружна елі траву. Трэба было толькі сачыць, каб не стаялі на пустым месцы, таму перыядычна кароў пераганялі з адной зялёнай лацінкі на другую.

Трава паступова абсыхала, па наваколлі разлівалася сонечнае праменне, пачынала саграваецца паветра. Тут і мама падыходзіла са сняданнем. Рабілася нашмат весялей.

Апоўдні каровы, наеўшыся, схадзіўшы на вадапой, ляніва клаліся на бок і жавалі жвачку. І ў пастушкоў развязваліся рукі. Можна было зайсці ў бліжэйшы лясок паглядзець суніц, пашукаць грыбоў. Можна было пазагараць ці нават

падрамаць. Я ў гэтыя хвіліны вельмі любіла чытаць кнігі з заплечнай торбы, рабіць запісы ў дзённіку і ... спява-а-аць! Смела спяваць, гучна, бо ў полі цябе чуюць і бачаць толькі каровы ды жаўранкі.

Уся гэта рамантыка псавалася, калі ў статку з'яўлялася непаслухмяная ўцякачка, якая так і імкнулася збегчы дадому ці завярнуць у бліжэйшы баршчавік (пасля яго малако нясмачнае і кепска пахне). Даводзілася стаяць і пільнаваць. І ніякага чытання ці ляжання на траве!

А яшчэ бывалі мокрыя радоўкі, калі спачатку, здавалася, нічога не казала пра непагадзь. Нават раніца ззяла сонцам і ясным небам. Але з кожнай хвілінай наверсе ўсё хмурнела, цямнела — і раптоўна пачыналася навальніца. Сярод чыстага поля, дзе нікуды не схаваешся, біла маланка, грымеў пярун, і каровы стаялі пад сцяной дажджу. Мякка кажучы, было страшнавата. Калі ж лівень крыху сціхаў, рагуль акуратна, каб не спудзіліся, паварочвалі ў бок дому. Спрэс мокрыя, пастухі і каровы павольна рушылі да сваіх хат і хлявоў, дзе можна было сагрэцца і набрацца сіл, каб працягваць пасьбу далей. Часамі маруда-дождж не сціхаў да самага вечара, і даводзілася пасвіць пад парасонамі, сушыць шкарпэткі на вогнішчы і грэцца каля яго.

*Цёмны хлеў.*
*Старая карова.*
*Цёплыя струмені малака.*
*Цурчанне жыцця.*

Увесь космас гэтых радкоў можа адчуць толькі той, хто хоць аднойчы браў у рукі даёнку, садзіўся на ўслончык і даіў карову...

**Р** — рунь. Такую назву мае не толькі маладое жыта, але і літаратурнае аб'яднанне пры Лагойскай цэнтральнай бібліятэцы. З яго дзейнасцю я пазнаёмілася ў сёмым класе, калі настаўніца беларускай мовы адправіла мяне на Злёт юных паэтаў у Лагойск. Там школьнікаў з усяго раёна слухалі прадстаўнікі літаб'яднання, паэты Мікола Захаранка і Мікола Ляшчун. Па выніках пасяджэння надрукавалі літаратурную старонку ў раённай газеце «Родны край», дзе ўпершыню быў змешчаны верш «Мая Беларусь», які я напісала ў сваёй вёсцы незадоўга да злёту.

З таго часу я часта ездзіла на сустрэчы «Руні», дзе была магчымасць павучыцца паэтычнаму майстэрству ў вопытных настаўнікаў, паслухаць розных цікавых творцаў, пачытаць уласныя творы. Літаб'яднанне дзейнічае і сёння.

**С** — Смалярскі лес. Сюды, як і ў суседнія Лісіныя Лагі, мы з бацькамі хадзілі па апенькі. Называецца так хутчэй за ўсё таму, што раней з сосен, якія ў ім пераважна растуць, здабывалі смалу.

А ўвогуле, у Лагазе шмат цікавых тапонімаў. Частка іх звязана з прозвішчамі людзей: узгорак Юзэфоўшчына, гара Корзунава, лес Чахоўскі, поле Машэраўшчына. Апошняе назвалі так пасля прыезду ў вёску Пятра Машэрава.

Гарадзіцкі, Гаенскі, Родзеўскі лясы сваёй назвай падказваюць, у напрамку якіх вёсак яны знаходзяцца. А Роўнае поле адлюстроўвае ландшафтныя асаблівасці, як і Равок, Рачышчына, Дзірванкі.

Міфалагічныя ўяўленні абуджае Піліпаўка — поле, якое знаходзіцца паміж вёскамі Лагаза і Кузевічы. На думку мясцовых жыхароў, яно мае такую назву таму, што на Піліпаўку (час каляднага посту) там збіраюцца ваўкі. Але цалкам верагодная і версія, паводле якой поле належала чалавеку па імені Піліп.

**Ц** — царква. Невядома, ці будавалася калі ў Лагазе царква, але аднойчы давялося пачуць наступную легенду.

Было гэта вельмі-вельмі даўно. На беразе ракі стаяла невялікая вёска. Жылі ў ёй добрыя, працавітыя людзі, якія займаліся земляробствам і жывёлагадоўляй. Яны ўмелі добра адпачыць пасля цяжкай працы, не забывалі і пра Бога. На ахвяраванні вяскоўцаў была збудавана царква. Людзі вельмі ганарыліся прыгожым храмам, які стаяў на пагорку, шчыра маліліся ў ім.

Аднойчы здарылася бяда. Напалі на наш край злыя ворагі. Хто гэта быў, цяжка сказаць дакладна: за доўгую гісторыю на нашай зямлі пабывалі розныя захопнікі. Мужчыны пайшлі ваяваць, а ў вёсцы засталіся толькі жанчыны, старыя і дзеці. Яны штодня наведвалі царкву і маліліся за свабоду роднага краю, за сваіх змагароў.

Хутка чужынцы дайшлі да вёскі, і жыхары схаваліся ад іх у царкве. Калі ворагі пачалі біць у дзверы храма, вяскоўцы зразумелі, што літасці нікому не будзе, таму сталі горача маліцца, просячы ў Бога паратунку. І адбыўся цуд: храм з усімі вернікамі знік пад зямлёй на вачах раз'юшаных ворагаў.

...Вайна не цягнулася вечна, і чужынцаў выгналі з нашай зямлі. Вярнуліся абаронцы ў вёску, а там ніхто іх не сустрэў. Мужчыны не ўбачылі ні сваёй прыгожай царквы, ні любімых бацькоў, жонак і дзяцей. Падняліся на гару, дзе быў храм, і горка заплакалі.

Раптам яны пачулі царкоўны звон, што гучаў пад нагамі. Сэрцам адчулі, што тут адбылося. Перад вачыма ўсіх вяроў паўстала карціна трагічных падзей.

Пагаравалі мужчыны, аднак вырашылі застацца ў роднай вёсцы. Яны аднавілі ўсё, акрамя царквы...

Хоць прайшло нямала гадоў, але кожны, хто ўзыходзіць на месца былога храма, чуе царкоўны звон з-пад зямлі...

**Ш** — школа. Гэта заняткі для пачатковых класаў, якія ў Лагазе пачалі праводзіць у 1931 годзе. Гэта цагляны будынак, узведзены ў 1961 годзе, рэканструяваны праз 20 гадоў, урокі ў якім вядуцца і сёння. Гэта невялікі дамок, у якім на працягу не аднаго дзесяцігоддзя вясковыя дзеці вучыліся іграць на баяне. Гэта настаўнікі, мясцовыя і прыезджыя, якія шчыра дзяліліся і дзеляцца са сваімі вучнямі ведамі, вопытам, дабрынёй. Гэта дом ведаў і сяброўства для дзяцей і дарослых. Гэта душа вёскі.

Паэт з Янушкавіч Аляксандр Рагачоў выказаў у адным з вершаў наступную думку: калі ў вёсках зачыняюць школы, то быццам зачыняюць душы. Спадзяюся, гэтага ніколі не здарыцца ў Лагазе — вёсцы, дзе выхоўвалася і сталела мая душа, дзе быў напісаны першы верш і сустрэтае першае каханне, дзе жыла, расла і была шчаслівая...Я!!!



# Кастусь Калючы

празаік. Скончыў Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт. Друкаваўся ў «Літаратурнай Беларусі». Нарадзіўся ў 1982 годзе ў Полацку. Жыве ў Наваполацку.

# Непашчы

*Прысвячаецца Аляксандру і Раісе Калітухам*

— Паедзем? — спытаў я маму і сястру, гледзячы з машыны на дарогу. Гэта быў звычайны беларускі вясковы гасцінец без пакрыцця, які ўвесну і ўвосень ператвараўся ў непраходную стужку зямлі, знявечаную сельскагаспадарчымі машынамі. Але зараз дарога выглядала крыху іначай — за час зімняга спачыну яе раны нібыта загаіліся, і перад намі ляжала некранутая паверхня з тонкага лёду і снегу. Пачуўшы не зусім упэўнена агучаны дазвол (знайшоў, пра што спытаць у жанчын), я вырашыў, што наш старэнькі форд яшчэ варты, каб на яго разлічваць.

Рухавік роў нібы незадаволены ўключанай другой перадачай, але спраўна дапамагаў аўто ўгрызацца ў напаўзамёрзлыя калюжыны. З кожным рэзкім рухам стырна шматкі гліны разляталіся ва ўсе бакі. На палове шляху мне здалося, што я пашкадую аб сваёй самаўпэўненасці, але праз метраў трыста паверхня стала цвярдзейшай, і машыну ўжо не кідала так моцна. Пачыналася вёска Непашчы.

— Давай спынемся на хвіліну, — прапанавала сястра. Можно было б не казаць — мы заўсёды спыняліся ля сядзібы Калітухаў.

Невялікая хата ля дарогі вітала адлюстраваннем у вокнах яшчэ нібыта сарамлівага, а таму негарачага вясновага сонца. Нічога не змянілася навакол. Самотна стаяць лазня, гаспадарчыя пабудовы. Зямля чакае плуга.

Уздоўж дарогі, што вядзе з суседняй вёскі Корсакава, — шэраг яблыняў. Яны ўжо вялікія і штогод бескарысліва засыпаюць узбочыну сваім ураджаем. Дзядзька Саша неяк сказаў жартам: «Як мяне не будзе, мо хто ўспомніць, што жыў тут дурань адзін, што насадзіў столькі яблыняў»...

Побач з вёскай — могілкі. За апошнія гады амаль усе насельнікі навакольных вёсак знайшлі тут апошні спачын. Непашчанскія могілкі прымаюць нябожчыкаў і дагэтуль — нават з горада.

На магілах яшчэ ляжыць снег. Дзе-нідзе ў пратлалінах відаць леташняе восеньскае лісце. Маці кажа, трэба будзе прыбраць наступным разам, бо пакуль рана.

Велічэзныя бярозы і сосны па-ранейшаму ахоўваюць цішыню месца...

***

Паводле кнігі «Памяць. Ушацкі раён», вёскі Непашчы 1-я і Непашчы 2-я не існавалі ўжо ў 2003 годзе. Насуперак афіцыйнай версіі аб неіснаванні сям'я Калітухаў стала жыла ў вёсцы і вяла даволі вялікую гаспадарку да 2012 года. Прыязджалі дзеці і ўнукі, завітвалі сваякі. Калі адышоў у лепшы свет гаспадар, цётка Рая мусіла з'ехаць да сваёй дачкі ў горад.

Штолета я частуюся яблыкам з дрэўца, што расце акурат перад ганкам. З яе яблыкі самыя салодкія.

# Сэрца горада

*Ахвярую Антосю Лёвіну*

Гісторыя не адарыла Наваполацк такім паняццем як цэнтр. Тое, што натуральна для іншых, нельга ўжываць датычна гіганта беларускай нафтахіміі. Не скажаш «сустрэнемся ў цэнтры», бо маецца толькі «вуліца без канца» — Моладзевая, ну і яшчэ плошча, якая ні геаграфічна, ні культурна не ёсць яго цэнтральнай часткай.

Акрамя Моладзевай горад разразае напалам вуліца Калініна, і разам яны ўтвараюць сваім перасячэннем самае вялікае наваполацкае перакрыжаванне. Гэта і ёсць цэнтр — адкуль бы ты не рухаўся, куды б не кіраваў, пешкі ці за стырном, бадай, у большасці выпадкаў твой шлях закране Моладзевую-Калініна.

Назіраючы за рухам на гэтым перакрыжаванні, можна бачыць актыўнасць горада: ці ён ужо прачнуўся і спяшаецца на працу, ці гэта выходны дзень і ўсе ляніва сядзяць па хатах, ці гэта гадзіна-пік, ці сёння нейкі марафон альбо Дзень горада. Не выходзячы з дому, магчыма вызначыць надвор'е па вопратцы мінакоў і дахах аўто. Нават настрой, самаадчуванне і жаданні. Хвалі машын і людзей сыходзяцца тут і разыходзяцца ў розных напрамках. Гэткае сэрца горада...

Была ці то позняя вясна, ці то ранняя восень, але, як яно заўжды ў нас бывае, спякота нагадвала лета. Нішто так моцна не выштурхоўвае людзей на вуліцу з хаты, як пагодныя выходныя. Таты ганарліва катаюць вазкі з сваімі нашчадкамі. Малыя рассякаюць паветра веласіпедамі...

У атачэнні машыны ДАІ і «хуткай» з боку Калініна паварочваў на Моладзевую нейкі хросны ход. Невялікая колькасць удзельнікаў падказвала, што гэта вернікі не самай прадстаўнічай у краіне канфесіі. Сціпла апранутыя і нават, як здавалася, дужа сумныя для такога прыгожага дня.

Працэсія рушыла далей. Я, жонка і наша дачка ішлі ў супрацьлеглы бок. Адна жанчына з боку натоўпу, апярэдзіўшы нас на колькі крокаў, перайшла з дарогі на ходнік перад светлафорам і раптам павалілася долу. Да яе імгненна падбеглі тыя, хто быў побач. Жанчына была сталага ўзросту. Страціць прытомнасць такім людзям у спёку не здаецца чымсьці ненатуральным. Мужчына выклікаў «хуткую», іншая спадарыня дапамагла сабраць рэчы. Але я ніяк не мог намацаць пульс, і мне падалося, што адсутнічала дыханне. Неўзабаве на твары жанчыны пачаў сінець трохкутнік паміж носам і ротам... У гэты момант я адчуў тое, што могуць адчуваць тыя, хто хоць аднойчы губляў чалавека літаральна на сваіх руках. Не ведаючы, як дзейнічаць, я пачаў рабіць штучнае дыханне...

Жанчына апрытомнела акурат у той момант, калі «хуткая» спынілася побач з намі на ходніку. Болей ад нас нічога не залежала.

Хвіліну мы з сям'ёй ішлі моўчкі. «Ты ведаеш, што ты зараз зрабіў?» — нарэшце сказала жонка. Я нічога ёй не адказаў. Павярнуўшыся назад, я заўважыў, што «хуткая» яшчэ стаяла. Я быў упэўнены, што ўсё будзе добра.

Горад працягваў сваё жыццё.

# Тры пакаленні

Мама заўсёды скардзілася на тое, што мой бацька ніколі не вазіў яе на сваю радзіму — Шуміліна. «Што за сакрэты там у цябе?» — пыталася яна. Бацька ніколі не адказваў, часам жартаваў, часцей маўчаў. Што да мяне, дык я трапіў туды першы раз ужо дарослым, калі сур'ёзна захварэў дзядзька Барыс. Другі раз — калі яго не стала. Тады на чыгуначным вакзале бацька сказаў мне, што ў жыцці такія падзеі здарацца яшчэ неаднойчы, і трэба быць моцным.

Больш з бацькам мы там не былі. Яго малая радзіма для мяне была заўсёды гэткай terra incognita, як і падзеі з жыцця маіх сваякоў і продкаў па бацькоўскай лініі.

Дома ў кардонавай тэчцы захоўваюцца фотаздымкі. Самыя старыя — пачатку XX стагоддзя, часу маладосці маіх прадзеда Фёдара і прабабулі Марыі. Некаторыя маюць такую якасць, што цяжка паверыць, што яны былі зробленыя сто гадоў таму.

Бацька распавядаў крыху пра продкаў. Скласці дэталёвы радавод і занатаваць усю вядомую інфармацыю я не паспеў... Нікога са старэйшых пакаленняў больш не засталося.

Прыйшлося пачынаць, абапіраючыся на тое, што памятаў з бацькавых аповядаў. Найбольшай таямніцай былі апошнія гады прадзеда. Звароты ў архівы нічога не далі. Нацыянальны архіў — звестак няма. Архіў КДБ — інфармацыі не маецца. Кніга «Памяць» увогуле яго не згадвае, нібыта не было чалавека.

Надзея знайсці якія кольвек дакументы марнее, і раптам —добрая навіна. Віцебскі архіў паведамляе, што ў дакументах аддзела Народнай адукацыі маюцца асабістыя справы 1919-1920-х гадоў. А крыху пазней Шумілінскі краязнаўчы музей высылае мне бацькавы ўспаміны за 1985 год...

Еду ў Віцебск. Дакументаў няшмат, але я гартаю іх не адну гадзіну. Прагледзеў кожны радок. Потым мне робяць копіі самых цікавых дакументаў, і я, не на жарт усхваляваны, пакідаю горад.

Па дарозе дадому на пачатку Шуміліна зварочваю з трасы ўправа. Праз некалькі сотняў метраў спыняюся. Могілкі. Я добра памятаю, што мне патрэбна знайсці дзве вялікія бярозы. Заблукаўшы, толькі з трэцяй спробы знаходжу месца. З партрэтаў пазіраюць бацькавы мама і бабуля. Адразу відаць, што да іх ніхто не прыходзіў гадоў дзесяць...

У галаве пачынаюць круціцца — не, не ўспаміны, а тыя драбніцы гісторыі, што сталі часткай мяне. Я прыгадваю прадзеда Фёдара, што ў гады вайны за

дапамогу партызанам і падпольшчыкам быў зацкаваны сабакамі ў двары СД (месца пахавання яго так і не знайшлі). Думаю пра прабабулю Марыю, што даведалася аб гэтым праз больш чым трыццаць гадоў і не магла ў гэта паверыць. Успамінаю іх сына Мікалая, якому зламаў жыццё НКВД, пасадзіўшы яго за краты за палітычны анекдот. Праз колькі год Мікалай прапаў без вестак на фронце. Думаю аб бабулі Валянціне (бацькавай маці), што выгадавала траіх дзяцей без мужа, якога таксама забрала пекла другой сусветнай. Сама яна загінула ў аўтамабільнай аварыі...

Спакваля я адчуваю ўвесь боль трох пакаленняў. І раптам разумею бацьку, які пакінуў родны кут — месца, пазначанае шнарамі гісторыі. Пакінуў, але не забыў...

***

Праз некалькі тыдняў на магілах бабулі і прабабулі з'яўляюцца кветкі, помнікі ачышчаны ад моху, навокал насыпаны жоўты пясочак.

Мы з сястрой наведваем іх цяпер прынамсі раз на год.

# Героі

Аўтамабільны парадокс: адцягваць увагу кіроўцы ад дарогі можа ... сама дарога. Еду па гарадской вуліцы. Тое, што зімой было схавана пад ільдом і снегам, зараз пазірае на цябе бессаромна і нахабна. Чорныя дзіры ў дарожным пакрыцці караюць усіх, хто не паспявае зрабіць перад імі рэзкіх перуэтаў. Вуліца, што мае імя героя, нараджае эмоцыі і думкі, ніяк не звязаныя з добрай памяццю і ўдзячнасцю нашчадкаў.

Мне заўсёды здавалася, што некаторыя вуліцы Полацка названыя не ў гонар знакамітых людзей, а каб ім за штосьці адпомсціць. Ёсць пэўнае каліва цынізму ў тых, хто надае мікраraёну, які штовесну патанае ў брудзе, імя дзяўчыны, што загінула падчас вайны ад рук нямецкіх карнікаў. Хто ведае, дзе знаходзіцца і як выглядае вуліца, што носіць імя лётчыка, які ўратаваў дзясяткі сірот на сваім самалёце і ў апошнім палёце згарэў жыўцом? Можна не ўзгадваць, у якім стане знаходзяцца вуліцы двух найвялікшых беларускіх песняроў. Мінулыя пакаленні палачан былі больш літасцівымі да герояў і не хавалі рэчаіснасць пад прыгожымі шыльдамі: Заканаўная, Канаўная, Гарбузоўская, Свіны завулак. А калі не хацелася напружваць глузды — пасавала і Безыменная...

Павярнуўшы ўглыб полацкай ускраіны, бачу хлапчука гадоў двух-трох. Ён стаіць адзін на тратуары ў незразумелай (хатняй?) вопратцы і, крыху памарудзіўшы, крочыць акурат на праезную частку мне насустрач... Разам са мной спыняецца з супрацьлеглага боку яшчэ адзін кіроўца. Абодва выходзім і, шукаючы позіркамі бацькоў малога, спяшаемся да юнага вандроўніка.

Бяру на рукі хлапчука. Неўзабаве з'яўляецца нейкая жанчына і пасля нашых натуральных пытанняў пачынае лямантаваць. З поўных шкадобы слоў стано-

віцца вядома, што бацькі сышлі ў пошуках выпіўкі і пакінулі малога з бабуляй. Праз хвіліну на рагу абшарпанага цаглянага будынка заўважаем старую. Яна не ідзе, яна спрабуе рухацца, абапіраючыся на кульбу, бо ад старасці і хваробаў ужо амаль не трымаюць ногі...

Суседка просіць пазваніць або напісаць куды, каб не загубіць дзіця. Пакідаю сваю візітоўку з нумарам мабільнага, каб паведамілі, калі будзе патрэбны сведка. Хлапчук, седзячы на руках і ўзрадаваны незвычайнай увагай да яго, пачынае штосьці распавядаць на толькі яму зразумелай мове. Перадаем малога суседзям, якія вяртаюць яго дадому.

— Дзякуй, што спыніліся, — кажа мне другі кіроўца. Крыху здзіўлены словамі, я паціскаю працягнутую мне руку, і мы раз'язджаемся па сваіх справах.

Праз свае справы і, як гэта заўжды бывае, праз звычайную ляноту я нікуды так і не пазваніў...

Раз-пораз я еду той самай вуліцай і міжволі паглядаю ў бок двухпавярховай спаруды (як там толькі могуць жыць людзі?). Малога я болей не бачыў. Ці хачу я яго ўбачыць? А калі ўбачу, што тады? Я не ведаю...



# Алена Масла

**пісьменніца, журналіст. Аўтарка кніг казак: «Каляды з хроснай», «Таямніца закінутай хаты», «Першая Прыгажуня» і інш. Заснавальніца і арганізатар праектаў «Літаратурная Масленіца», «Мілашоўска-Мілашаўскія чытанні», арт-студыі «Казка». Нарадзілася ў 1967 годзе ў вёсцы Мілашова на Мёршчыне. Жыве ў Мінску.**

# «Сонны» дзённік

*Я вяла «Сонны» дзённік» са школы. Тры тоўстыя агульныя сшыткі, густа спісаныя, былі нібыта бартавыя дзённікі касмічнага карабля, на якім я штоноч выпраўлялася ў падарожжы. Касмічны карабель мой не хітрай канструкцыі — выглядаў то як звычайны ложак, то як канапа, а сон стаўся не проста начным адпачынкам — другой рэальнасцю, іншым вымярэннем, у якое мне быў дазволены ўваход.*

*Гэта былі вандроўкі блізкія, звыклыя — і далёкія, настолькі далёкія, што ў сне станавілася страшна ад разумення, што яшчэ імгненне — і дарогі назад не знойдзецца. Аднойчы так я бегла па зорах, як па markt rознакаляровых мячыках, у адкрытым космасе; аднойчы, завіхураная ў нейкі паветраны калідор, дапяла да касмічных чорных дзюрак... Страшна было да жудасці! Але ж і захапляльна, і працягу чакаеш-не дачакаешся! Бывала, і працягі сніліся — як серыялы, з ночы ў ноч. Бывала, за адну ноч столькі пабачыш-перажывеш, што ні адзін серыял не дакажа... Я перачытвала свае дзённікі і шкадавала толькі пра адно: як бы ні стараўся, перадаць перажытае і ўбачанае ў сне поўнай мерай не магчыма; яшчэ было шкада, што я не мастак...*

*А пасля аднойчы, развітваючыся з пэўным адрэзкам свайго жыцця і адсякаючы яго, я засела паліць паперы. Лісты, чарнавікі... А найбольш мне не дагадзілі мае «Сонныя» дзённікі»: каб не пашкадаваць, кінула агню адразу ўсе сшыткі... Вогнішча прагна глытала іх: здавалася, не жарынкі, а зоркі з маіх сноў сягалі ў цёмнае неба... Калі ж адумалася, ад занатовак пра далёкія галактыкі і палёты засталіся чорныя агаркі лістоў, якія жаласліва шапацелі пад жарснымі подыхамі аціхлага і стомленага кастрышча.*

*Выпадкова зберaглося некалькі лісткоў, выдраных з аднаго са спаленых сшыткаў. Пасля з'явіліся новыя занатоўкі — мой касмічны карабель па-ранейшаму возіць мяне дзе захоча. І вельмі часта бывае, што менавіта ў сне прыходзяць падказкі і адказы на пытанні, з якімі складана разабрацца ў жыцці рэальным.*

## 18. 03. 1989

Усе соннікі — лухта. Толькі сам чалавек можа вызначыць, што б «гэты» сон значыў. У сне чалавек праяўляецца як у экстрэмальнай сітуацыі, бо падсвядомасць ставіць перад табой задачу і падказвае выйсце — закладзенае дзесьці там, глыбока-глыбока і, можа, у жыцці яшчэ не выявілася — а тут праявіцца і прымусіць задумацца...

Можа, да сноў варта ставіцца як да іспытаў — каб нешта зразумець найперш у сабе самім. Бо ўсе Сусветы — у табе самім, і чалавек такі, як на карцінах Сальвадора Далі — складаецца з мноства скрыначак, і чаго толькі ў тых скрыначках не прыхавана: і добрага, і кепскага.

***

Сню аднойчы: у краме з сяброўкай намерыліся нейкія рэчы прыгожыя скрасці ды вынесці. А я не пра тое думаю, што нягожа так рабіць, а пераймаюся, каб людзі не ўбачылі.

Добра ўразіў мяне гэты сон. Што гэта — усё дазволена, абы шыта-крыта было? А жыць сумленна можна толькі тады, калі жывеш у згодзе са сваім Сумленнем, а не круціш галавой на бакі — што людзі скажуць...

***

Заходжу я ў нейкую абсерваторыю, дзе людзей ператвараюць у зоркі і выпраўляюць у розныя галактыкі. Дзяўчына прыгожая сядзіць пры стале і вядзе ўлік тым, хто становіцца зоркамі. Адчынена вакно, і нібыта гэтае вакно — у Космас, у Сусвет... Падыходзіць да вакна Ларыса, сяброўка, і лёгка, не задумваючыся, крочыць у невядомасць...

Я зайздрошчу ёй, бо ў мяне не стае рашучасці — я думаю, як жа маё знікненне бацькі перажывуць? Дзяўчына пра нешта пытае ў мяне, называе лічбы, праводзіць вылічэнні і ўрэшце абвяшчае назву галактыкі, дзе я мушу стаць зоркай. Мне страшна. Я прашу паказаць месца на небе, дзе буду жыць. Дзяўчына не задаволена маёй нерашучасцю, але падводзіць да вакна.

Пачалося самае цудоўнае, і цуд не толькі ў тым, што я бачу, але менавіта ў тым, што ў сне я адчувала Сусвет, чула яго маўчанне... Праплыла перада мной галактыка як згустак зорнага туману; потым — з закінутымі дамамі, з пустымі аканіцамі высачэзных дамоў і было зразумела, што гэта загубленая цывілізацыя. Потым — у трэцяй галактыцы — з'явіліся людзі, як на гравюрах 16 стагоддзя. Так цяжка было чамусьці бачыць іх — не такія яны, як мы, так не хацелася з Зямлі ісці да іх...

Перарвалася відовішча тым, што ў абсерваторыі з'явіўся сябра і абвясціў, што мне пашчасціла — я хоць зоркай буду, а яго ў іншую галактыку сантэхнікам выпраўляюць, каналізацыю рамантаваць...

***

*І за гэты час яшчэ адзін сон, на які не хачу забыцца, таму занатую.*

Я не ведаю, супраць каго і чаго было паўстанне. Але мноства людзей на конях, у даспехах спешыліся на пагорку над нашым возерам у Мілашове. Калышуцца харугвы, на людзях — белае адзенне з чырвонымі палосамі па краях. Наперадзе — найпрыгажэйшы ад усіх і я ведаю, што гэта — Хрыстос (магчыма, з Караткевічаўскага «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», чамусьці думалася, што адтуль).

Войска стаіць над абрывам, унізе — вада. А дзень летні — казка! У жніўні такія дні бываюць: спякотныя, ціхія — толькі конікі стракочуць. І смуга ў паветры вэлюмам калышацца.

Мне даручаюць быць птушкай-вестуном. Абвесціць людзям нешта важнае і глянуць, ці няма дзе непрыяцеля... Я часта лётаю ў сне, але то ўцякаючы ад некага, то дэманструючы сваё ўменне перад іншымі. І амаль заўжды палёту перашкаджаюць правады высакавольтных ліній, я асцерагаюся зачапіць іх і пакутую праз гэта, бо яны досыць нізка вісяць над зямлёй.

А тут здарыўся цуд, і быў толькі вольны палёт — без уцёкаў, выхваленняў і правадоў. І нават у сне я памятала, што ніколі не ўзнімалася так высока — смуга, стаўшы ўжо там, на вышыні, аблокамі, нават зямлю засланяла... Было так вольна, лёгка, столькі любові і замілавання ў сэрцы — не перадаць словамі. А тады быў момант, калі я адумалася — так заглыбілася ўвысь, што не знайду дарогі назад! Ох, якім жахам сцяла душу — у жыцці такога не перажывала ні разу.

...А паўстанне нашае скончылася тым, што з Хрыстом хаваліся ад пераследу, уцякалі на матацыкле.

## 1996. Пажар

Сню — уся Зямля ў агні. Гараць дамы, музеі, бібліятэкі. І сярод гэтага сусветнага пажару бягуць людзі. Вольныя, лёгкія, бягуць не таму, што ім страшна — яны не баяцца агню. Бягуць да сваёй, толькі ім вядомай, мэты, не зважаючы на пажар.

Я разумею, што гэта — душы. Чую голас: «Усё на Зямлі можна знішчыць. Усё! Апроч душы чалавечай.»

## Студзень 1996. «Досыць уцякаць»

Мяне пераследуе нехта вялізны, жудасны. Я бягу штосілы, каб уцячы ад яго, схавацца — а ён гіганцкімі крокамі скача след у след, і ратавацца ад яго пераследу не магчыма.

За ім па зямлі паўзе гнілая вада, густа замешаная на сапрэлых водарасцях. Яна плыве, залiваючы ўсё на сваім шляху. Там, дзе толькі стаяў лес, красавалі кветкі, блішчэла возера — утвараецца балота.

Перад сабой, на пагорку, бачу шацёр. Разумею, што ў ім можна стаіцца. Высільваюся, падскокваю — і ўжо не бягу, а пералятаю да шатра.

У сярэдзіне ўтульна. Кострышча, абкладзенае камянямі. Чыгун з гарачымі зёлкамі. Калматая скура пад нагамі.

Сцішваюся, бо чую над шатром цяжкое дыханне таго вялізнага, што гналася за мной. Яно коратка ўцягвае паветра і доўга выдыхае яго: «Хх-хооооооо!» Вынюхвае, шнарыць вакол. Але — з палёгкай адзначаю я — падобна, што ні шатра, ні мяне не бачыць.

Імгненне кароткай радасці, а пасля становіцца яшчэ страшней, чым падчас бегу. Бо бяздзейнасць пад націскам гэтага доўгага бесперастаннага дыхання здольны давесці да вар'яцтва.

Робіцца нясцерпна. Падхопліваюся і расхінаю завесу шатра. «Досыць уцякаць!» — чую магутны голас, і гэта надае мне рашучасці. Раблю крок наперад.

Нябачны войкае, квокча, нібы атрымаў па галаве, дыханне яго слабее і аціхае зусім. Брудная жыжа, якая плыла за ім след у след, згортваецца ў кропку і знікае. Перад вачыма — зіхоткі лёд, якім пакрыта ўся зямная паверхня і які імкліва ператвараецца ў чысцюткія ручаі.

«Досыць уцякаць!» — чую я зноў.

## Люты 1998. «Нікога не бойся»

Ноч. Я сяджу на разорах у полі. Ветрана. Хмары па небе лятуць шалёным лётам. Кроны дрэваў, як падатлівую траву, хіліць на адзін бок, і галіны сцеляцца паралельна зямлі. Але — ціша. Такая ціша, што мне думаецца — я ў адкрытым космасе. Насамрэч я — перад шафай з адчыненымі дзверцамі: яна стаіць сярод узаранага поля. Акуратна, па палічках, у ёй раскладзены качаны капусты. Хтосьці, нейкія кіраўнікі, будуць інспектаваць маю працу, ацэньваць яе менавіта па тым, як я адбірала капусту.

Я ведаю, што ў полі былі качаны, якія камісіі спадабаліся б бясспрэчна — правільна круглыя, тугія і зялёныя. А я павыбірала тыя, што ўпадабала за незвычайнасць — з рознакаляровымі лістамі, са шкляной храпкай, а вось яшчэ адзін, паточаны — але ж дзюрачкі на ім складаюць адмысловы ўзор.

Сяджу, чакаю прысуду. Нібыта разумею ўжо, што трэба было гэтыя, незвычайныя, прыхаваць у другім шэрагу, а наперад іх выкласці звыклы стандарт. «Вышлюць цяпер на край свету», — думаецца мне, і на душы маркотна-маркотна. У полі не засталося ні качанчыка, каб замяніць абраныя мной. Толькі разоры.

Вецер аціх. Выглянуў месяц. Ён свеціць неяк дзіўна — не рассейваючы святло, а ў адну кропку. Кропка гэта расце, набліжаецца — і я бачу высокага старога з доўгімі белымі валасамі і барадой, з аголеным торсам, у шырокіх чорных нагавіцах ніжэй кален. У яго строгі выраз твару, вочы строгія. Але я яго зусім не баюся — не тое, што камісіі, якая марудзіць і ўсё не ідзе.

Стары падыходзіць да шафы, бярэ ў рукі і ўважліва аглядае кожны качан. Ухвальна ківае: «Абіраеш не дзеля камісіі. Дзеля праўды. Нікога не бойся».

## Ліпень 2010. «Дабрахоць на катаргу не вяртаюцца!»

Толькі адшумела залева. Хмары сплываюць, падзяліўшы наваколле на дзве часткі. Адна — залітая сонцам, шматколерная, бо пасля дажджу на кожнай красцы грае вясёлка. Да таго ж, тут рапсавае поле. Яго яркая жаўцізна яшчэ дадае святла — і так хораша, што хочацца ў скокі пусціцца.

На другой палавіне атрамантавыя хмары паўзуць нізка, ледзь не кранаючыся збажыны. Там яшчэ бушуе навальніца, круціць вецер і ляскаюць перуны.

Стаю на сцежцы, якая акурат у мяне пад нагамі раздвойваецца. Адна вядзе да залітага сонцам рапсавага поля, другая — пад цяжкія чорныя хмары.

Чую ўмольнае: «Дабрахоць на катаргу не вяртаюцца!»

Але ж там, дзе сонца, і так усё хораша. Можа, патрэба ўва мне якраз там, дзе цёмна?

Я абіраю сцежку, якая вядзе за навальніцай.

## 02. 06. 2013. Разам

...Трэба ісці на важны сход, дзе вырашаецца лёс нейкага князя. Я прыхільніца гэтага князя, як і большасць людзей, якія жывуць у маёй краіне. Шмат хто выпраўляецца ў дарогу, на сход. Рушу і я.

Шлях наш ляжыць праз падземныя лабірынты. Чаго там толькі няма! Багата прыбраныя пакоі, прычым гэта — нібы дэманстрацыя стыляў розных эпох. Рэнесансу, ампіру, мадэрну — да хайтэку.

Абапал умоўнай «дарогі» ў лабірынце насыпана каштоўных камянёў. Мне так карціць выкалупаць хоць адзін — яны ляжаць нібыта ў застылых рэках з кісельнымі берагамі. Але — не, думаю. Колькі ўжо ў казках панапісана пра розныя спакуслівыя штучкі, не буду я кранаць гэтых каштоўных камянёў.

Між тым, па лабірынце мяне нясе нібыта ветрам. Цяга такая, што займае дух. Я апынаюся ў вялікай зале. Яна поўная людзей, сучасна апранутых. Гэта тыя, хто выправіўся падтрымаць князя. Раптам яны пачынаюць смяяцца з мяне і тыцкаць пальцамі ў мой бок. Маўляў, таксама прэцца, а хто яна такая!

Я маўчу, не адказваю на насмешкі. Мне трэба прыслухоўвацца да ўнутранага голасу, які падкажа, калі належыць рухацца далей.

Тым часам усе адкрываюць шматлікія дзверы ўздоўж калідора. Я бачу, што ва ўсіх пакоях на падлозе — дарагія дываны, на сталах — кандэлябры са свечкамі, а на сценах — крутыя плазменныя тэлевізары.

Усе пачынаюць разыходзіцца па абраных пакоях, і толькі я маруджу — нейкія капялюшыкі прымяраю. Раптам адчуваю штуршок, разварочваюся і іду да дзвярэй, якія да гэтай пары не бачыў ніхто.

У пакоі — ніякіх прыкрас. Толькі калярова-змрочны туман і хісткія цені. Мне страшна. Але я набіраю паветра ў грудзі і раблю крок наперад. Мяне імгненна падхоплівае віхура і нясе сярод густога туману, сярод ценяў, дотыкі якіх я выразна адчуваю.

«Ратуй, Божа, ратуй, Божа, ратуй, Божа!» — як заведзеная паўтараю я — і паперадзе ўсіх апынаюся ля падножжа гары, на якой ідзе бітва.

Гара ж, як я разумею, бачная не ўсім. Яна нібыта ў Лошыцы, і вакол нават будаўнічыя работы вядуцца. Паўсюль капачы, рабочыя... Але гэта — у рэальным жыцці. А я ў паралельнай рэчаіснасці, якой рабочым не відаць, і гара тут нейкая проста сівая.

Князя схапілі нелюдзі і трымаюць, занёсшы над ім кінжал... Тыя, што ўнізе — рабочыя, гараджане — раптам пачынаюць бачыць тое, што адбываецца

на гары і стаяць, задраўшы галовы ўгору, назіраюць... Наўкол ўсё пачынае рухацца, аджываць, нехта крычыць: «Пачакайце! Яна паспела!..»

Князя адпускаюць, але гэта часова — я павінна канчаткова адбіць яго ў нелюдзяў, змагацца за яго.

Перш, чым біцца, я гляджу ўніз, да падножжа гары. Людзей там і так не шмат, але і яны пачынаюць разбрыдацца куды каторы. Я крычу ім: «Людзі! Вы куды? Без вас жа не будзе нічога! Трэба быць РАЗАМ!»

Нібыта гэтае РАЗАМ і ёсць галоўнае, ключавое слова, і пасля яго прамаўлення адбываецца перамога, а мяне зрывае ветрам з гэтай ужо гары і нясе некуды далей. Мне ўжо не страшна, мне — вольна.

...Раптам на гары з'яўляецца Андрэй Федарэнка, апрануты ў багаты шаўковы халат, з цюрбаном на галаве, у кожнай руцэ — па шаблі. Ён пачынае круціць шаблямі ў паветры так, што нелюдзі разбягаюцца хто куды, і на гары становіцца чыста і ціха.

...А я — паляцела!

Сон ёсць сон ...

## Ліпень 2013

Сню, нібыта вялікай сяброўскай грамадой мы жывем далёка ад свету, які называюць цывілізаваным. Сярод непралазнага пушчанскага лесу — вялікая сонечная паляна, на якой не проста наша жытло, а сама паляна і ёсць — наша жытло. У нас няма галоўных і падначаленых, мы ўсе на гэтай залітай залатым святлом паляне — роўныя. І адзенне на ўсіх — белае, пералівістае, нібы з перламутру. Яно акумулюе сонечнае святло, якое нас і жывіць. Тут няма патрэбаў ні ў чым, таму і грошай — няма. І кожны мае магчымасць займацца выключна тым, што любіць: на паляне малююць, спяваюць, пішуць. Турбот у звыклым сэнсе — ніякіх!

І раптам мы даведваемся, што для аднаго з нас белае адзенне — толькі прыкрыццё. Што пад ім хаваўся зайздроснік, які стаў здраднікам і выдаў нас нейкім страшыдлам. Мы ведаем, што страшыдлаў шмат, што адужаць іх — няма нават шанцу. Але яны ідуць на нас, і раптам усе жыхары паляны аказваюцца ў шаломах, кальчугах, з мячамі і шчытамі ў руках. Мы мусім абараняцца! У мяне меч — двуручны, цяжкі-цяжкі.

Я бачу страшыдлаў. Яны ростам з хвоі, таўстыя, колеру балотнай твані, з вырачанымі вачыма, усе ў бародаўках. Яны бяззбройныя, але навошта ім тая зброя — яны проста ідуць на нас і рагочуць, і лёгка пераломваюць пальцамі дрэвы. Яны ступаюць — і нехта апынаецца пад іхнімі нагамі-слупамі расціснутым. Зброя ў нашых руках выглядае проста насмешкай.

Я бачу, што засталася на паляне адна, сам-насам са страшыдламі, якія нават не зважаюць на мяне, не глядзяць у мой бок — а проста ідуць і дратуюць паляну. Але я падымаю меч і замахваюся на аднаго. Меч цяжкі-цяжкі для

мяне, а страшыдла хукнула — і я разам са зброяй падаю на зямлю. Ляжу ніц, а яны ідуць, пераступаючы цераз мяне, жудасна рагочуць і кладуць кароўскія ляпёшкі проста на мяне...

Ад жудасці я вось-вось сканаю. Я толькі паўтараю: «Госпадзі, Госпадзі, Госпадзі!»

...І раптам вакол цішэе і навалач знікае з паляны, знікае з далягляду.

Я падымаюся з-пад наваленых імі куч, атрасаюся — і бачу, што адзенне на мне па-ранейшаму зіхотка-белае.

## Чэрвень 2011. Дзісенская, 13

### *Гара*

На ўездзе ў мястэчка — гара. Як сказалі б аўтамабілісты — з зацяжным спускам. Альбо з крутым пад'ёмам. Гэта ў залежнасці ад таго, трэба ў мястэчка трапіць ці выехаць з яго. Урэшце, усё адно — пакуль тут не паклалі асфальт і гару не падраўнялі, у дождж ці галалёд нечага было і думаць ні спусціцца па ёй, ні падабрацца пад яе. Каму «шчасціла» ехаць у непагадзь, кідалі транспарт на подступах да гары ды пускаліся шукаць ратунку. Зімой — да аўтобуснай, дзе напагатове быў пясок у скрыні і дзяжурнае вядро. Падсыпалі гару — каб было не так слізка. У залеву ішлі па хатах — прасіць, каб які гаспадар выручыў дошкамі: падкласці пад калёсы, калі машына загразала.

Зараз не разабраць — галалёд на гары, ці яна размоклая ад дажджу. Тут адначасова нібыта зіма — але нібыта і восень. У машыне — мы з сястрой, малыя, і тата з мамай. Ехалі на госці да бабы з дзедам за семдзясят кіламетраў ад сваёй хаты, і вось — наш першы на вёску «Жыгуль», у якім мы з нечуванымі камфортам і хуткасцю дабіраемся да Лужкоў, пасуе перад гарой і спыняецца, не давёзшы нас з які кіламетр да пункта прызначэння. З нас памочнікі слабыя, і тата выпраўляецца ў мястэчка, шукаць мужыкоў, каб падпіхнулі машыну: ёсць і такі спосаб гару адужаць. Мы застаемся чакаць у «Жыгулі».

Аднак — дзіўна! Ракі тут раней не было. Я добра памятаю — яна дарогі не перараразала: пакручастая Мнюта цячэ сваім шляхам, не замінаючы руху машын, хадзе людзей, статку.

Але ж нешта змянілася ад той пары, пакуль я не была ў Лужках.

Гара абрынулася, адкрыўшы сваё нутро з чырвонай гліны, нібы тлумачыла кожнаму, чаму ў дождж яна становіцца такой сама слізкай, як і ў галалёд. А на зямлі, нібы пасля землятрусу, адбыўся раскол і ўтварыўся глыбокі яр, да краёў напоўнены вадой.

Але ж мне трэба, мусова трэба ў Лужкі! Мяне туды нібыта вяроўкаю цягнуць. Я не магу чакаць, калі адновяцца шляхі-дарогі, таму без роздуму скачу ў ваду. Яна імклівая, як бывае ў горных рэках, і каламутна-чырвоная.

Побач са мной апынаецца шмат людзей. Яны не плывуць — іх проста нясе цячэннем. «Ты, галоўнае, не тузайся і не крычы, — кажа, праплываючы побач,

мая бабуля Алена. — Наглытаешся вады, аціжалееш — пойдзеш на дно. А так — вынесе». Я аддаюся плыні — і раптам апынаюся на аўтастанцыі.

Маленькая я, што толькі вірыла разам з іншымі ў вадавароце — у белых гольфіках і з вялікімі бантамі ў косах — сядае ў аўтобус і махае мне букетам гладыёлусаў.

## *Свята*

Я стаяла б і глядзела дзяўчынцы ўслед, але ж і так ужо прамарудзіла час. У Лужках вялікае свята, поўна народу з усяго свету. Мастакі, артысты, журналісты і пісьменнікі. Пісьменнікаў — найбольш. «А, — здагадваюся я, — гэта сюды перанеслі свята пісьменства. А мяне прызначылі распарадзіцелем...» Што ж, лагічна, бо ў маленстве ўсе сцежкі тут вытаптаныя і каму, як не мне, ведаць, як найлепш зладзіць свята.

Каля аўтастанцыі царква. Насупраць — школа. Праўда, у ёй даўно ўжо не вучацца, перабраліся ў новую, на другім канцы мястэчка. Але хіба параўнаеш пабудову, уторкнутую сярод чыстага поля, з гэтым дыхтоўным будынкам у засені высокіх таполяў... Я ведаю, што таполі спілавалі, і замест іх на ўездзе ў мястэчка цяпер раскашуе быльнёг. Сярод яго — з размахам распачаты і на паўдарозе кінуты, бо не хапіла грошай давесці да ладу — фантан. Усё, што паспелі зрабіць — выкапалі пад яго яміну і з бетону выштукавалі кола-бардзюр. Каб не разбуралася, яго захінулі некалькімі радамі тоўстага цалафану і ўвязалі вяроўкамі. Але ад часу падраўся цалафан, і вецер забаўляецца, тузаючы шапяткія лахманы і вызваляючы з іх абдымкаў бетоннае кола.

Я памятаю, што недзе там, у іншым жыцці, таполяў даўно няма, і няма прахалоднага ценю, які дарылі іх шаты ў спякотныя дні. Але тут, на свяце, усё як трэба — і таполі на месцы, і ў будынку школы ўсе як адна цэлыя шыбы. Гэта радуе: «Выдатна, пасля набажэнства павяду гасцей на выступ да вучняў».

Толькі я так падумала, усчалася тапалёвая завея.

— Ды што гэта! — узвышаю я голас, бо шаноўныя госці пачынаюць чыхаць, кашляць і сморкацца ў насовачкі. — Цяпер на тапаліны пух не сезон!

— Тут сезон тады, калі таполям надумаецца! — кажа касірка з аўтобуснай і падае мне з вакна расклад мерапрыемстваў. — Ты, галоўнае, не забудзься людзей накарміць. Хочаш, я іх у сталоўку завяду?

Сталоўка — праз парк. Пакуль я разважаю, ці варта касірку браць у памочніцы, яна ператварыцца ў казу з каралямі на шыі.

## *Каза*

Каза выходзіць на двор, замыкае дзверы ў аўтобусную і пачынае раздаваць усім, хто таўчэцца на пляцы, кветкі з кошыка.

Кошык нейкі бяздонны — кветкі ў ім не закачваюцца і дзівяць разнастайнасцю. Валошкі, нарцысы, сланечнік, лотаць, калючыя дзяды... Госці прымаюць

кветкі і пачынаюць спрачацца, хто першым пабачыў казу і каму належыць яе апісаць. Даходзіць ледзь не да бойкі! Але вось каза гучна мэкае — і кветкі ў руках гасцей ператвараюцца ў лебяду, а яна сама, трасучы хвастом і матляючы галавой, кідаецца на недалёкі выпас. «Якое дурное стварэнне, — думаю я, — добра, што не даверыла ёй людзей карміць».

Я толькі крутанулася бегчы ў сталоўку да кухарак, як працяла: «ПРАЗ 10 ХВІЛІН НАРАДА!» Без гэтай нарады нельга гасцей ні ў царкву пускаць, ні ў школу на выступ. І карміць іх пакуль не належыць.

Я памятаю, што нарада — у самым канцы вуліцы Дзісенскай. Доўгая, праз усё мястэчка, вуліца. Але калі бегчы што ёсць духу — паспею.

Процьме гасцей, якія таўкуцца вакол, тузаюць за рукі, хапаюць за падол, я падаю знак — як штуршок — і яны нібы забываюцца на мяне.

## *Вуліца*

Я пускаюся бегчы сцежкай, якая шнуруецца ўздоўж дарогі. Правільна, думаецца мне, што да свята садралі з брукаванкі шэрую світу асфальта — такую ж бязлікую, як паўсюль. Дзісенская — вуліца старая, камяні яе брукаванкі — нібыта іерогліфы.

У дзяцінстве думалася, што дарогай па нашай вуліцы ходзіць шмат шчаслівых людзей, бо да паняцця «шчаслівы» акурат дапасоўваўся колер пяшчотнаружовых, нібы пацалаваных сонцам на досвітку, камянёў — яны ў брукаванцы пераважалі. Шэрыя, звычайныя, мяне мала займалі. А былі яшчэ смалянача́рныя, са слюдзяным бляскам. Яны раз-пораз перабівалі ружова-шэрае палатно, удзень — адлюстроўваючы сонца, уначы — збіраючы месяцовае святло. Штораз, ідучы па Дзісенскай, я старалася ступіць на іх, нібы менавіта яны хавалі ў сабе неразгаданыя таямніцы і меліся падзяліцца імі з самым настойлівым хадаком. Зараз жа я спяшаюся, бягу прамой сцежкай — скакаць па камянях, як зайцу, мне не выпадае.

Прабягаю паўз хату, ля якой расце разложыстая вішня. Калісьці наш дзед набыў у гаспадыні ягад з гэтага дрэва і прынёс дамоў — сабраных са свайго на араву з дваццаці унукаў, якія з'ехаліся ў дзедавай хаце на лета, не хапіла. А малыя сёстры падумалі, што дзед адкупіў дрэва назаўжды, і наступным годам пайшлі рваць ягады. Вылецела сварыцца на іх гаспадыня, а малыя даводзілі, што дзед за ўсё заплаціў... Вось, глядзіць цяпер на мяне тая самая гаспадыня вішні з вакна і ківае пальцам: «Ягад не руш!»

Мне некалі займацца абы-чым.

Мінаю хату Мяцелічыхі — швачкі, якая шыла гадамі, але заказчыцы яе не кідалі. Бо крой і шво ў Мяцелічыхі былі як з Парыжу, і таму ў чаргу да яе нават сталічным модніцам было не дабіцца.

— Зайдзіся, — кліча мяне Мяцелічыха, седзячы ў двары за машынкай. — Твая мамка як дзеўкай была, прынесла адрэз у гарохі. Давай модную кофтачку пашыю!

Я адмоўна кручу галавой — якія зараз кофтачкі — і вітаюся з бабай Стасяй з суседняга двара. У цёмнай плюшавай фуфайцы, доўгай спадніцы, вылянялай хустцы баба, падобная да Ягі, сагнуўшыся ў тры пагібелі і падпёршыся кійком, стаіць ля сваіх веснічак. Хоць і не добра так пра памерлых, але я не люблю яе. Калі не прыедзеш да дзеда, яна вечна таўчэцца ў нашай хаце, нібыта сваіх спраў няма. Нашай бабе прысесці некалі, а гэта пасялушнічае. І пахваліць яна ўмее так, што адчуваеш сябе дурань дурнем.

«Глянь ты, — штораз кажа яна нам з сястрой пры сустрэчы, — як ваша мамка выправілася — каралева! А была ж ніякенькая — недарослая, крываногая...»

«Сама ты крываногая!» — паспяваю падумаць я, і баба Стася, задраўшы спадніцу і дэманструючы ногі колам, клыпае да хлявоў.

Мне становіцца шкада яе — усё ж на тым свеце яна ўжо не пераменіцца. І я кідаю схопленую на хаду грудку зямлі ёй у двор. Кранаючыся травы, зямля перакідваецца ў браткі.

## *Студня*

А вось леваруч хата Таўкачыхі і студня каля яе. Студні я баялася, бо дашак над ёй быў збудаваны ледзь не на зямлі. Варта было крыху нахіліцца, падацца ўперад — і скулішся, бо цымбравіна нізка — дзіцяці ледзь да калена дастае. Аднойчы, калі я рашылася зачэрпнуць вады — ад страху перад цёмнай безданню ўпусціла вядро. Дзед пасля даўжэзнай жардзінай з кручком на канцы доўга цягаў па дну, каб дастаць яго.

Я і цяпер не наважуся да студні наблізіцца. Але на лаўцы ля яе сядзіць старая Таўкачыха. Хустка збілася, з-пад яе тырчаць касмылі сівых валасоў.

— Што, і ў сваю хату не зайдзешся? — дзівіцца Таўкачыха. — Гэта ж Дзісенская, 13, ваш дом. Калі ў студню нырнуць — ні хвілінкі не страціш, — абяцае мне яна.

Я памятаю, што ў старасці Таўкачыха звар'яцела, але менавіта праз гэта слухаюся яе. «У яе іншая свядомасць, — думаю я. — Яна і пра тое, што я спяшаюся, аднекуль ведае. Дык чаму б ёй тут усе хады-выхады не знаць?» Тым больш, што трапіць у дом, які нядаўна пабурылі і на яго месцы пабудавалі новы, сучасны, мне хочацца нясцерпна.

Таўкачыха ківае пальцам, і мяне цягне да студні як магнітам. Праз дарогу ад хаты бабы Стасі да студні я не пераходжу, не перабягаю — мяне ўзнімае невысока па-над зямлёй тая сіла, якая сыходзіць ад пальца Таўкачыхі, і я перасоўваюся, не зрабіўшы ні крока. Раз — і апынаюся ля адчыненага вечка.

Таўкачыха садзіць мяне ў вядро і павольна апускае на дно. Звініць ланцуг, рыпіць ручка — і гэтыя гукі рэхам рассыпаюцца ў сярэдзіне студні: яна пустая.

Я апынаюся ў дзедавай хаце.

## *Люстэрка*

Колькі тут людзей — не прабіцца. Людзьмі поўная прыхожка — так завецца пакой, у які трапляеш з сенцаў, ён вядзе ў залу і спальню. Усе апранутыя ў цёмнае адзенне, у жанчын на галовах чорныя хусткі.

«Нехта памёр, — думаю я. — Тут часта паміраюць».

Я праточваюся паміж людзей і заходжу ў залу. Бачу нябожчыцу ў доўгай брунатай сукенцы. На нагах у яе — чорныя туфлі з квадратнымі насамі і бліскучымі спражкамі. Я пачынаю пільна ўглядацца ў гэтыя спражкі, кратаю іх, заўважаю звязаныя бінтом ногі... «Ах, — згадваю я, — гэта ж наша цётка Лёдзя памерла. Пахаванне, з якога я памятаю сябе ў Лужках».

Я аглядаю ўсіх, хто сядзіць пры нябожчыцы. Бачу душы памерлых раней — і Валодзі, і Стася, і зусім маленечкай дзяўчынкі — яна магла быць старэйшай у сям'і, але пражыла ўсяго некалькі месяцаў...

«А вось гэта, — перашэптваюцца яны паміж сабой, паказваючы на суседнюю лаўку, дзе ківаюцца самотныя цені, — далёкія сваякі, якія жывуць на Поўначы, не паспяваюць прыехаць, каб адвітацца з Лёдзяй, але адбілі тэлеграму, што «душой з вамі...»

Раптам памерлыя заўважаюць мяне, ветла ўсміхаюцца, уздыхаюць нібыта з палёгкай — і сплываюць праз вялікае люстэрка, што вісіць над круглым сталом.

«Дык вось што гэта за люстэрка! — апякае мяне згадка. — Шлях на той свет!»

Я баюся люстэрка. Калі мы прыязджаем у Лужкі, мяне звычайна кладуць спаць на канапе ў зале, дзе яно вісіць. Я хаваюся пад коўдру з галавой, але мне выдае, што люстэрка цікуе за мной, толькі і чакае, каб я вытаркнула руку ці нагу... Яго вялікае палатно, апраўленае ў чорную раму, заўжды нібы зацягнутае туманам — мый не мый. У правым верхнім куце люстэрка выгравіравана кветка лілеі. Уначы яе пялёсткі ператвараюцца ў шчупальцы і цягнуцца да канапы, дзе, скруціўшыся абаранкам і стаіўшы дух, я адчайна стараюся заснуць.

«Не забыцца дзеду сказаць, няхай збудзе», — зларадна думаю я, бо цяпер маю доказ, што люстэрка гэтае — адна з прычын, чаму раз-пораз у нашай хаце збіраюцца апранутыя ў жалобу людзі... Пакуль жа я хапаю са стала абрус — на падлогу падаюць малітоўнікі, распяцце, ваза з цукеркамі для ўспявак... Дзіўна, што люстэрка забыліся завесіць — я накідваю на яго абрус.

## *Дзед*

Зараз жа ў хаце мяняецца ўсё, знікаюць усе, і застаецца толькі спакой звычайнага палудня. Дзед адпачывае ў спальні на ложку — адна рука выцягнута ўздоўж цела, другая ўскладзена на сэрца. Раз-пораз ён пахрапвае — нібыта кажа каню «тпру...» Гэта сон на некалькі хвілін, бо разлежвацца доўга не выпадае. Дзед нават боты не зняў — ляжыць, звесіўшы ногі. Ён высокі, з сівым

«вожыкам» на галаве, нос з гарбінкай... На ім — нязменныя галіфэ і кашуля ў кратачку. З-пад яе выбіваецца беласнежная палоска споднягa.

Дзед спіць на ложку, але ён усюды, куды ні глянь. Вось ён у кампаніі заезджых людзей пры стале — ніколі не было, каб у гэтай хаце адмовілі ў начлезе падарожнаму. І зараз нехта трафіўся, едзе на кірмаш — дзед ў кілішкі налівае гарэлку, частуе... Вось пускае суседзяў на тэлевізар: ён першым на Дзісенскай набыў гэты цуд тэхнікі. Дзед і на панадворку — нясе з пуні ў хлеў вялізнае бярэмя сена. Усё ў гаспадарцы ўпарадкавана ім, спраўлена, дагледжана, і таму ён тут як усюдыісны дух.

Я не рашаюся трывожыць дзедаў сон, на дыбачках мінаю спальню... Але цікаўнасць мацнейшая за мяне, і я пытаю шэптам: «Дзед! А ты Драздовіча ведаў?»

«Язэпку? — дзед расплюшчвае вочы. — Чаму ж не — ведаў! Што ж ты не пыталася, пакуль я жывы быў?»

## *Баба*

Дзед знікае. Я адчыняю дзверы на кухню, дзе баба Лена пячэ бліны. Яна не чуе, як я зайшлася. Яна наогул недачувае. Я думаю, што глухата — як зыгарадка ад мітусні свету, як сыход у манастыр, дзе бабуля ўвесь час сам-насам з Богам. Моліцца яна бесперастанна, што б ні рабіла. То бязгучна варушыць вуснамі, то ціхая мелодыя яе малебных спеваў урыўкамі прабіваецца вонкі. Трэба добра ўзвысіць голас, каб баба Лена пачула цябе. Яна толькі ўздрыгне ад нечаканасці, і адразу ўскіне вочы.

Бабуля невысокага росту, русявыя валасы сабраныя ў вузел і павязаныя хусткай. На ёй — зялёная сукенка ў дробныя кветачкі, падвязаная фартухом.

— Прыехала? — пытае яна ў мяне, і бабуліны вочы ззяюць, як дзве зоркі.

Яны заўжды такія — ціхай усмешкай нібы падфарбавана самае донца, а праз вочы ліецца святло тых вышынь, дзе бабулю заспелі ў час малітвы.

Я не магу згадаць, каб яна ўгневалася, закрычала ці выказала незадаволенасць тым, што яе тузаюць. Ускіне вочы, перапытае, недачуўшы: «Як?». Адкажа — і зноў заглыбляецца ў малітвы.

У бабулі шмат унукаў, важдацца з кожным не выпадае, але мы ведаем, што такое бабуліна любоў. Ні цукеркі, ні машынкі ды лялькі, якіх нам бабуля ніколі не дарыла, а вось гэта святло, якое лілося з яе вачэй, сталася падарункам назаўжды — таму што было сведчаннем падарожніка, які бачыў хараство іншых зямель і шчодра дзяліўся з іншымі сваімі ведамі...

Бабуля напякла вялізную гару бліноў — такая сям'я, пад сорак чалавек за стол зараз сядзе! Ажно печ стамілася прымаць у сваё жэрала патэльню, а бабуля — не. Яна радая: сваім жа есці строіць. Здымае фартух, выцірае аб яго рукі і вядзе мяне да шафы.

Шафа дарагая, з ляшчыны, дзверы з інкрустацыяй — дзед аднойчы ёй, сваёй Алёнцы, з кірмаша прывёз. Заграпічная! Тут — увесь няхітры бабулін

скарб. Стосы ільняных абрусаў, прасцінаў, наўлечкі, коўдры — гэтага трэба каб шмат было, у хаце ўвесь час людзі, то свае, то чужыя: бабуля мяняе пасцель кожнаму. З шуфляды яна выцягвае ружовую камбінацыю — шоўкавую, з карункамі.

— Глянь, што Янак прывёз, — кажа яна і плача.

Плача бабуля, я ведаю, з радасці. Янак — малодшы сын, адзінаццатае яе дзіця, з першага заробку набыў падарунак маці.

Доўга і ўнікліва бабуля глядзіць на мяне.

— Чула, ты хварэеш шмат, — кажа яна. — Лётаеш, як на злом галавы. Нявольна так.

Я хачу запярэчыць, што я ж мушу, што работу рабіць трэба. Во і зараз — такое свята мне правесці даручана.

Але бабуля наперад ведае ўсё, што я маюся сказаць. «Ат, пустое!» — нібыта чую яе звыклы прыгавор на нікчэмныя размовы. Але яна з любасцю і пяшчотай глядзіць на мяне. Папярэджвае:

— Дзед люстэрка яшчэ не збыў, глядзі, асцерагайся!

Я хачу абняць бабулю, пацалаваць — а яна пачынае аддаляцца, таяць — знікла.

## *Яблычная віхура*

Я астаюся ў пустой кухні, на якой, бачна па ўсім, даўно ўжо ніхто не бываў. Жахаюся ад думкі, колькі часу я тут прабавіла. Няма ўжо ні дзеда, ні бабы. Хата засталася адна. Каб па начах не лазілі чужынцы, яе здалі кватарантам.

Кватаранты неахайныя. Хлявы стаяць пустыя, а курэй яны трымаюць у хаце. Куры загадзілі ўсё чыста — і старэнькую канапу, і крэслы, і партрэты ў цяжкіх рамах. Нездарма пры жыцці дзед кватарантаў не браў. «Лепш барану ў хаце паставіць, чым кватаранта пусціць», — казаў. Не памыляўся! Я хапаю курэй за крылы, выкідаю праз вокны і дзверы на вуліцу, вадой з вядра плёхаю на сцены, вокны, падлогу — нібыта крыху чысцее.

Выскокваю на ганак сама. Як хораша, што панадворак пакуль не папсаваны. Ён доўгі, вузкі, з двума палісаднікамі. У адным, невялікім — кветкавае ўладарства. Флоксы, астры, вяргіні, а найбольш браткоў. Бабуля вельмі любіць браткі. Вышэйшыя кветкі падбіраюцца пад самыя вокны, заглядваюць у хату, таксама абураюцца цяперашнімі парадкамі, шэпчуць: «Пры Алёнцы такога не было»...

У другім палісадніку заўсёды паўзмрок, бо ён — у цені суседскай хаты. Тут холадна нават у спякотны дзень. У гэтым палісадніку — склеп і наша асабістая студня. З яе чэрпаюць ваду толькі дзеля гаспадарчых патрэб. Чаму — я ніколі не пытала. Можа, у той, ля Таўкачыхі, вада смачнейшая?

Толькі я згадваю Таўкачыху — налятае вецер. У палісадніку растуць яблыні — ён страсае з іх яблыкі, круціць у паветры, не дае апасць долу. Яблычная

віхура мацнее, мяне ажно калоціць: забылася на ўсё, варона, і цяпер не ведаю, дзе і як знайсці ход назад!

Мне вусцішна, я захлынаюся крыкам — і раптам тое самае вядро, што даставіла ў дзедаву хату, падхоплівае мяне і выкідвае ля хаты Таўкачыхі.

## *Чыстая вада*

Я разумею, што ўсё адбылося, як абяцала мне гэтая старая — час на вуліцы цячэ інакш, чым у тым, па-за студняй, свеце, і ў мяне ўсё яшчэ ёсць шанец трапіць на нараду.

Змянілася надвор'е: насунуліся навальнічныя хмары, чуваць грымоты. Штосілы я кідаюся бегчы. Ужо не зважаю на людзей, якія выбеглі са сваіх хат вітаць мяне. Тут мае сяброўкі, іх бацькі, суседскія хлопцы, з якімі ў маленстве не маглі падзяліць вуліцу... Мне не да іх. Сэрца ледзь не лопаецца ад хуткага бегу... Я мінаю велічны касцёл — яго аправілі, адрамантавалі дах. Хораша, бо шмат гадоў служыў гаражом для трактароў... Чую, як са званіцы даносіцца-ляціць да мяне голас: «Асцерагайся! Дзед не збыў люстэрка!»

Мне становіцца млосна. Да месца, дзе адбываецца нарада, засталося мінуць усяго дзьве хаты — а ў мяне перахоплівае дых, зусім не рухаюцца ногі. Я стаю, як укапаная, хапаю губой паветра — не дыхаецца. Адчуваю, што зараз сканаю...

Навальнічныя хмары апускаюцца ўсё ніжэй, яны ўжо гатовы зглынуць мяне, зжэрці, панесці насустрач маланкам, утапіць у грымотах... ажно раптам я разумею, што гэта за грымоты. Гэта крычаць там, на НАРАДЗЕ. Здагадка працінае мяне: у канцы Дзісенскай, дзе яна адбываецца і куды (ужо відавочна) спазнілася я — магільнік!

Галасы тых, хто крычыць, мацнеюць, хмары апускаюцца ўсё ніжэй, з іх пачынаюць сыпацца людзі, якіх я пакінула ля аўтастанцыі. Яны бязладна гамоняць, абураюцца маімі паводзінамі, сціскаюць у кола. І каза тут — мэкае так, нібыта яе ваўкі дзяруць.

Я аглядаю сябе і бачу, што на мне — бабулін фартух. Але ж ён — увесь у крыві! Я зрываю яго, кідаю на зямлю і са словамі: «Ды пайшло ўсё!..» — разварочваюся і крочу ў процілеглы ад магільніка бок.

...Раптам я апынаюся на беразе шырокай ракі. Вада ў ёй да таго чыстая, што бачны кожны каменьчык, кожная травінка на дне. Дзень яркі, сонечны, але ў вадзе адлюстроўваецца не сонца, а месяц — таму вада ў серабрыстай лусцы. Супраць плыні, на водмелі, ляціць на веласіпедзе мая малая дачушка і заліваецца-смяецца.

Я стараюся ад яе не адстаць — плыву ўздоўж берага, блытаючыся ў водарасцях, чапляючы нагамі і жыватом дно, але пакрысе выбіваючыся на большую — чыстую — ваду.



Дар'я Раманенка. «Нечаканы прылёт».




# Уладзімір Сіўчыкаў

**пісьменнік, мастак, выдавец. Аўтар кнігі апавяданняў і п'ес «Гульня ў тастамант» (1992 г.), кніг прозы: «Лісты да брата» (1998 г.), «Бювар» (2009 г.), «Уладзевы гісторыі» (2015 г.), кнігі паэзіі «Высакосны год» (2004 г.). Укладальнік (разам з А. Марачкіным) і адзін з аўтараў альбомаў «Жодзінцы. Жывапіс. Графіка. Мастацкае слова» (2008 г.), «Рыцары Пагоні і Арла (2010 г.) і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.**

# «...Як і мы даруем вінаватым перад намі...»

*З нізкі «Уладзевы гісторыі»*

## Біблійнае прозвішча

Меў Уладзя даўняга прыяцеля, археолага з біблійным прозвішчам Іоў. Так яно трансфармавалася ў Беларусі з колішняга заходнееўрапейскага Job: продкі Алегавы паходзілі аднекуль з-пад Страсбурга, з нямецка-французскага памежжа.

Неяк па Алегавай просьбе выкупіў Уладзя ў «Кнігарні пісьменніка» навуковы рарытэт дзесяцігадовай даўніны — тэматычны слоўнік «Раслінны свет», што ўключаў выбраныя з розных крыніц рэгіянальныя беларускія народныя назвы розных раслін, а таксама лексіку, звязаную з іх характарыстыкай і жыццядзейнасцю.

Адвёз Алег той том свайму знаёмцу-філолагу ажно ў Славакію.

Брацiславец быў проста шчаслівы, бо кніга тая, складзеная беларускімі руплiўцамі-філолагамі, — гатовы матэрыял на палову ягонай кандыдацкай дысертацыі!

Але славацкі сувенір, пляшку слівовіцы, якую перадаў для Уладзі ўдзячны навуковец-славянін, «немец»-пасярэднік нясе ўжо больш за паўгода!

Спасылаецца Алег на празмерную занятасць, на што Уладзю раз-пораз карціць адказаць: «А я вось гультай, ні халеры не раблю і маю проста процьму вольнага часу!»

*30 снежня 2010 г.*

## «Шануй бацьку твайго...»

На гастролі ў Балгарыю Купалаўскі тэатр вазіў і «Трыбунал» Андрэя Макаёнка.

Спектакль там праваліўся, пацярпеў поўнае фіяска.

Балгарскія гледачы аніяк не маглі ўцяміць, як гэта мажліва — пасадзіць у мех свайго бацьку і мужа дый судзіць яго за калабарацыянізм, за нібыта супрацу з гітлераўскімі акупантамі!

Паводле іх уяўлення і менталітэту не маюць аніякага права дзеці судзіць і асуджаць таго, хто даў ім жыццё, таго, хто выгадаваў і выхаваў!

А Уладзю непрыемным адкрыццём было, што зусім не чужы яму чалавек, аказваецца, не адгукнуўся на покліч свайго бацькі, калі той ляжаў на смяротным ложы, калі хацеў развітацца і пакінуць яму не толькі духоўную спадчыну.

*7 сакавіка 2013 г.*

## Прэзідэнцкая заўвага

На дыпламатычным прыёме ў сталічным гатэлі «Crowne Plaza», які ладзіла амбасада Рэспублікі Польшча, славацкі амбасадар Мар'ян Сэрватка шматзначна і дакорліва паківаў аднаму з гасцей, калі агледзеў у ягонай руцэ келіх з белым вінам:

— Вось ваш калега і цёзка спажывае правільны гатунак віна! А вас, шаноўны Уладзімір, здаецца, зусім нядаўна, на ўкраінскім прыёме ў Рамана Бяссмертнага ў Оперным тэатры я з калегамі прыняў у клуб аматараў чырвонага віна. Як прэзідэнт клуба на першым разе дарую вам, што парушаеце статут, і раблю адно толькі заўвагу. Але наступным разам мушу далажыць і нашаму дуаену...

— Выбачаюся, спадар прэзідэнт, — Уладзя падтрымаў жартаўлівы тон дыпламата і, каб перавесці гутарку на іншае, папрасіў: — Патлумачце, калі ласка, мне, філолагу, дакладнае значэнне слова «дуаен».

— Паходзіць яно ад французскага doyen і літаральна значыць «старшыня, старэйшына». Гэта фактычна глава дыпламатычнага корпуса, найстарэйшы па дыпламатычным класе і па часе акрэдытацыі ў дадзенай краіне дыпламатычны прадстаўнік. У Беларусі сёння за дуаена амбасадар Сербскай Рэспублікі Срэчка Джукіч, бо даўней за ўсіх атрымаў агрэман — папярэднюю згоду на ягонае прызначэнне.

— Адзін з «ветэранаў», чуў я, — амбасадар Чэшскай Рэспублікі, вялікі аматар ды знаўца мастацтва Іржы Карас.

— Так. Вось ён, як віцэ-прэзідэнт, статут нашага клуба аніколі не парушае. Не раз прызнаваўся мне, што любіць вечарамі працаваць з дзелавымі паперамі і са сваімі рукапісамі з фужэрам мараўскага сухога віна. Чырвонага, натуральна.

— Помню, як гады два таму перадаў ён у наш ПЭН-цэнтр ліст ад Вацлава Гавела, у якім той падзякваў, што абралі яго ганаровым сябрам нашае творча-праваабарончае суполкі.

— Чэхі — гэта нашыя браты. Мы абсалютна спакойна разумеемся, калі гаворым адно з адным на родных мовах. Я і яго запрасіў на прэзентацыю нашай нацыянальнай кухні ў рэстаране «Мясны смак», што ў пасёлку Сокал. За шэф-повара там славак, таму не праміньце! Вам таксама днямі прыйдзе і афіцыйнае запрашэнне.

— Дзякуй вялікі! Прыйду абавязкова.

— Дарэчы, адзін мой калега, лівійскі амбасадар Абдалах Алмахраві, ветліва адмовіўся, адхіліў неасцярожную прапанову прыйсці на дэгустацыю і стаць сябрам нашага клуба.

— Мусібыць, таму, што паводле Карану не ўжывае спіртнога?

— Мабыць, так.

— Але ж мог бы прыйсці, а піць, скажам, сокі альбо мінералку...

— Затое даслаў ён мне, нібыта арабскі шэйх, цэлую калекцыю вінаў у шыкоўным асартыменце. Я ўжо агледзеў — ёсць там і грузінскія, і чылійскія, і

партугальскія, і французскія, і іспанскія, і аргенцінскія, і паўднёваафрыканскія, і нават швейцарскія! Ну, і, зразумела, усе яны — чырвоныя, усе можна будзе прадэгуставаць і зацаніць!

*10 жніўня 2013 г.*

## Мізантроп

Празаік, аўтар трылогіі Вячаслаў А. не раз паблажліва казаў пра сваіх калег-літаратараў:

— Ну дык які ж ён пісьменнік?! Ён жа рамана не напісаў!

«І праўда, — думалася мімаволі ягоным суразмоўцам, — не напісаў рамана наш Міхась Стральцоў, не напісала японка Сэй-Сёнагон, не напісаў рускі Антон Чэхаў... Якія ж яны пасля гэтага пісьменнікі? І што ўжо казаць пра паэтаў, эсэістаў, драматургаў!»

*1 лістапада 2013 г.*

## Надламаны

Яшчэ за савецкім часам празаік Іван П. завёў каханку, знайшоў з ёю дзіця, аднак ні жаніцца, ні прызнаваць немаўля не схацеў.

Ну дык тая і папомсцілася яму. Завабіла аднаго вечара да сябе дахаты, падпаіла як след дый зацягнула ў ложак, залашчыла, замілавала. Той і распусціў хвост, што паўлін. А ў п'янога, вядома ж, галава не ведае, што язык апаведае. Дый хваліцца — не касіць, рука не забаліць.

Стаў Іван распавядаць, што такі ён таленавіты дый працавіты, што каб жыў на капіталістычным Захадзе, дык напэўна быў бы са сваіх раманаў даляравым мільянерам.

А помслівая каханка ўзяла дый запісала тыя словы на магнітафон, а потым і аднесла ў Камітэт дзяржбяспекі разам з пісьмовым даносам пра амаралку.

Выклікалі камітэтчыкі велешаноўнага празаіка на цвярозую размову і сталі дапытвацца, чаму не шануе ён сацыялістычную айчыну і чаго не дадаюць яму родная дзяржава з камуністычнай партыяй. Пацікавіліся, няўжо мала яму рэгулярных публікацый у тоўстых часопісах, шчодрых ганарараў за выданні і перавыданні ў мінскіх і маскоўскіх выдавецтвах, бясплатных пуцёвак у прыморскія дамы творчасці і адпачынку, паездак у складзе творчых брыгад не толькі ад Балтыкі да Курылаў, але і ў далёкае замежжа...

Уратавалі небараку хіба што заступніцтва калегаў — ліст старшыні пісьменніцкай суполкі, станоўчая характарыстыка парторга дый хадайніцтва намесніка старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі.

Але так настрашылі выбітнага празаіка, што пасля таго ён нібыта надламіўся, зрабіўся ціхмяны, як вада ў лужыне.

А сябры па пісьменніцкім цэху ўпотайкі бегалі ў кнігарню «Светач» паглядзець здалёк на жорсткую і падступную прадавачку, што колісь была Івану П. за каханку.

*23 лютага 2014 г.*

## Уважлівая прычына

Аднаго разу старшыня творчай суполкі Барыс С. амаль што на паўгадзіны прыпазніўся на штотыднёвую планёрку, якая рэгулярна праводзілася апоўдні па панядзелках.

На нямыя запытальныя позіркі калегаў і падначаленых ён адказаў:

— Ды вось, толькі выйшаў са свайго пад'езда, як сустрэў суседа па двары, нашага чальца Уладзіміра С.. Неўзаметкі загаварыліся, але абмяркоўвалі не сямейныя і не пабытовыя рэчы, а праблемы, наўпрост звязаныя з нашым Саюзам. Таму выбачаюся, што спазніўся, але прашу лічыць прычыну за ўважлівую...

Ад таго дня, варта было шаноўнаму старшыні прыйсці пазней за дамоўлены ці абяцаны час, як падначаленыя нязлосна, але крыху паблажліва пакеплівалі ў яго за спінаю: — А-а, ўсё зразумела! Зноў сустрэў свайго суседа па двары Уладзіміра С. дый загаварыўся па надзённых пытаннях!

*22 красавіка 2015 г.*

## Грыгерыя

Нярэдка праходзіў Уладзя з галоўнага сталічнага праспекта ў свой двор аркаю, што пры «белсаюздрукаўскай» краме № 3 непадалёк аўтобуснага прыпынку «Дом друку».

Не зважаў раней, а аднаго зімняга дня прыпыніўся, прачытаў, а потым і занатаваў двухрадкоўе, напісанае на бруднавата-бэзавай сцяне чорным маркёрам:

Каляны з аленямі швэдар.

Хутчэй бы ўжо ліпень!

Відавочна было — паэт у душы той маладзён, што пакінуў паэтычнае графіці, відавочна, што знаецца ён з усходняй паэзіяй ды ведае пра паэтыку іспанскага пісьменніка Рамона Гомеса дэ ла Сэрны.

*14 лютага 2016 г.*

## «Партызаны, партызаны...»

У адной творчай суполцы ёсць завядзёнка — штогод праводзіць у сакавіку і ў кастрычніку шахматныя турніры. Проста выдатна, што сябры і калегі могуць памерыцца інтэлектам і спрактыкаванасцю ў старажытнай гульні, якую адмыслоўцы нярэдка ставяць паміж спортам і мастацтвам.

Ды вось жа бяда — у суполцы налічваецца ледзь не паўтысячы чальцоў, а ўдзел у турніры бяруць... блізу дзясятка. Астатнія дазнаюцца і пра сам турнір, і пра ягоныя вынікі на Фэйсбуку альбо на сайце тае суполкі, любуюцца групавымі фотаздымкамі ўдзельнікаў і пераможцаў, якія з года ў год, падобна, тыя самыя: уганараваны спартовым разрадам Вольф Р. ды майстравітыя Васіль Ж. з Іванам К. Не ў крыўдзе нават Андрэй Х., які, бывае, атрымлівае «дзіцячы» мат ад свайго цёзкі Андрэя Ф.

Што датычыцца жаночага турніру, дык там і ўвогуле беспрэцэдэнтная, пацешная сітуацыя. Выйграе адну партыю Людміла П.-Х. у Валянціны В., і чарговы дыплом пераможцы спаборніцтва ёй забяспечаны! Няўжо толькі дзве кабеты адрозніваюць ладдзю ад слана, умеюць хадзіць канём ды ведаюць, як перасоўваць пешак?

Падобна, што кулуарна, без абвестак, па-партызанску будзе доўжыцца гэтая традыцыя, хаця, мажліва, Алесь У. і Барыс П., загартаваныя ў рэдакцыйных баталіях за клятчастаю дошкай, ці хтосьці іншы і не супраць быў бы памерыцца сіламі з заўсёднікамі міжсабойчыка?

Натуральна, можна казаць, што ў суполкі няма вялікай залы і іншых мажлівасцей праводзіць спаборніцтва з вялікай колькасцю гульцоў. Але пра тое, што патэнцыйныя ўдзельнікі ёсць і што іх нямала, сведчыць хаця б грунтоўнае даследаванне прафесара Алеся Бельскага пра шахматы і шахматыстаў у беларускае літаратуры.

*30 кастрычніка 2016 г.*

## Хто каму вінен?

Літаратуразнаўцу, тэкстолага і перакладчыка Міхася Кеньку на вандроўку падгаварыў, а потым ласкава пацвердзіў сваё запрашэнне па тэлефоне і праз Фэйсбук дырэктар музея-сядзібы «Пружанскі палацык» Юры Зялевіч.

На замову выдаўцоў спадар Кенька перагледзеў, «асвяжыў» свой пераклад аднаго з самых беларусацэнтрычных твораў Юзафа Ігнацага Крашэўскага (1812—1887) — гістарычнай аповесці «Кароль у Нясвіжы. 1784». Твор выйшаў у серыі «Мая беларуская кніга» і сярод іншых кніг серыі не раз быў прадстаўлены на прэзентацыях у сталіцы.

А тут прыспела важкая нагода — 130-я ўгодкі з дня адыходу пісьменніка ў лепшы свет, каб пагаварыць і пра аповесць у музеі-сядзібе, дзе была запланаваная прэзентацыя перакладаў твораў Юзафа Ігнацага Крашэўскага — празаіка, філосафа, публіцыста, гісторыка, мастака, кампазітара, грамадскага дзеяча.

Крашэўскі быў узгадаваны на Пружаншчыне, у маёнтку Доўгае, а вучыўся ў Свіслацкай гімназіі і ў Віленскім універсітэце. Творчая спадчына яго не можа не ўражваць: яго пяру належаць больш за 600 (!) тамоў, прычым ледзь не палова з іх — раманы, аповесці, навуковыя працы па гісторыі, філасофіі, літаратуразнаўстве...

Прыехаў спадар Кенька зараней, а таму паспеў прагуляцца па алеях у парку пейзажнага тыпу, дзе пераважаюць ясень, дуб і граб, а таксама агледзець аранжарэю. У ёй і ў цяпліцах калісьці расло больш за сто найменняў кветак і шэсцьдзясят найменняў дрэваў ды кустоў, у асноўным экзатычных — агаў, апельсінаў, камелій, лімонаў, міртаў, пальмаў ... Этнограф Міхал Федароўскі ў свой час пісаў: «На ўсю Літву была вядома аранжарэя Швыйкоўскіх. Падобнай ёй не мелі і Радзівілы».

Ведаў спадар Кенька, што «Пружанскі палацык» — помнік сядзібна-паркавай архітэктуры неарэнесансу, адзіны такога тыпу, адноўлены ў Беларусі. Пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай пружанская сядзіба перайшла ва ўласнасць Румянцавых, і ўяўляла сабою даволі вялікі гаспадарчы комплекс. За новымі гаспадарамі, Швыйкоўскімі, займела яна абсалютна адрозны ад планаў пачатку XIX стагоддзя выгляд. Маршалак Валенці Швыйкоўскі збудаваў у маёнтку і бровар з цагельняй. Пры ім сядзіба набыла стан, блізкі да сённяшняга, аўтарам праекта сядзібы ў стылі «венецыянскага палацца» лічыцца дойлід італьянскага паходжання Францішак Марыя Ланцы. Ансамбль сядзібы ўлучае мураваны дом, які складаецца з дзвюх груп двухпавярховых аб'ёмаў, аб'яднаных аднапавярховым корпусам, і два флігелі.

Напрыканцы мінулага стагоддзя ў сядзібе размясціўся мясцовы краязнаўчы музей.

Да пачатку імпрэзы паспеў спадар Кенька вывесіць у парадную зале постары ды плакаты «500-годнасць», прысвечаныя слаўнаму юбілею беларускага кнігадруку, раскласці кнігі ды іншыя падарункі музейшчыкам.

«Пружанскі палацык» папраўдзе быў рады вітаць усіх, хто прыйшоў на сустрэчу з творчасцю слыннага творцы-«шматстаночніка», а распачаў імпрэзу струнны калектыў выкладчыц Дзіцячай школы мастацтваў імя Рыгора Шырмы «Аркі» пад кіраўніцтвам Вольгі Барысюк.

У музейнай зале сабралася шмат людзей, якія ведаюць і цікавяцца творчасцю Крашэўскага — тытана XIX стагоддзя, а яго ўплыў на грамадска-культурнае і навуковае жыццё тагачаснай Еўропы цяжка пераацаніць. Чалавека гэтага можна паставіць у адзін шэраг з такімі знакамітымі асобамі беларускай гісторыі і культуры як браты Тышкевічы, Адам Кіркор, Ян Чачот...

Пяць гадоў таму ў сувязі з 200-гадовым юбілеем тут ладзілася шмат разнастайных мерапрыемстваў, прысвечаных славутай асобе. Нягледзячы на тое, што сёлета такой маштабнасці няма, тым не менш, даследчыцкая праца і збор матэрыялаў працягваюцца.

Значную дапамогу пружанцам яшчэ ў 2003 годзе аказаў польскі музей Ю. І. Крашэўскага ў Раманаве па ініцыятыве яго тагачаснага дырэктара Ганны Чабадзінскай-Пшыбыслаўскай. Ён перадаў «Палацыку» больш за 130 копій фотаздымкаў і дакументаў, малюнкаў і палотнаў. З таго часу колькасць прадметаў, якія захоўваюцца ў «Пружанскім палацыку», значна ўзрасла. Але расповед аб шматграннасці Крашэўскага чалавека, які шмат гадоў займаецца даследаваннем яго спадчыны, ганаровага госця імпрэзы Ганны Чабадзінскай-Пшыбыслаўскай, слухалі з непрыхаванай цікавасцю і павагай: да сённяшняга дня творы Крашэўскага не страцілі сваёй папулярнасці і стала перавыдаюцца па-польску.

У апошнія гады з'явіўся шэраг перакладаў твораў класіка на беларускую мову. На пытанні: «У чым жа сакрэт папулярнасці Крашэўскага? Што прываблівае нас да яго твораў сёння?» пастараўся адказаць кандыдат філалагічных

навук Міхась Кенька. У ягоным творчым даробку і чатыры перакладзеныя аповесці Крашэўскага, але найпадрабязней спыніўся ён на перавыдадзенай — «Кароль у Нясвіжы. 1784». У ёй расказваецца пра паездку на сейм у Гародню ў 1784 годзе апошняга караля Рэчы Паспалітай і вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Падчас падарожжа ён спыняўся і ў Нясвіжскім палацы наймагутнейшага магната Караля II Станіслава Радзівіла, знакамітага Пане Каханку, які наладзіў Панятоўскаму неверагодна пышны і ўрачысты, феерычны і фантасмагарычны прыём.

Спадар Міхась адзначыў таксама, што да перастварэнняў твораў Крашэўскага няраз звяртаўся і ўраджэнец пружанскай зямлі Васіль Сёмуха, з якім творча спаборнічаў, а перакладчыцкі талент якога цэніць вельмі высока. Напошку свайго выступу 70-гадовы юбіляр, вядомы і як складальнік зборнікаў анекдотаў, атрымаў прэзент ад дырэктара музея і пажартаваў: «Дата мая даволі важкая, а таму святкаваць яе можна цэлы год!»

У 2012 годзе выйшла паэма Крашэўскага «Вёска», пераклад якой на родную мову зрабіў паэт Мікола Папека, які жыве і працуе непадалёк, у вёсцы Лінова. Ён гэтаксама падзяліўся вопытам судакранання з творчай спадчынай свайго вялікага земляка, адзначыў яе ўплыў на Янку Купалу і на Уладзіміра Караткевіча.

Удзел у імпрэзе бралі і скрозь рускамоўныя, пра што шкадаваў спадар Кенька, госці з Брэста.

Даследчыца і журналістка Руслана Гусева выступала як аўтарка чатырох кніг, прысвечаных Крашэўскаму.

Кандыдат педагагічных навук, прафесар Марыя Жыгалава, чамусьці гаварыла пераважна пра Юзафава брата, Каэтана Крашэўскага.

Паэтка Любоў Красеўская не адмаўляла імавернасці хай сабе і далёкага сваяцтва з амаль што цёзкам па прозвішчы, але мімаволі задаваўся сталічны госць пытаннем, ці дадаюць хоць што-небудзь рускай альбо беларускай літаратурам яе паэтычныя ўзнаўленні на рускую мову?

На заканчэнне госці — слухачы і выступоўцы — агледзелі музейную экспазіцыю: кветкавую залу, паляўнічы кабінет і пакой трафеяў, этнаграфічны куток, залу друкаваных выданняў XIX—пачатку XX стагоддзяў, а таксама Res Sacrae — выставу твораў сакральнага прызначэння Пружаншчыны з найстарэйшым экспанатам музея — унікальным абразам XVI стагоддзя «Таемная вячэра».

Але, мабыць, найболей затрымаліся яны ў зале, прысвечанай братам Крашэўскім. Сярод самых цікавых экспанатаў пабачылі прыжыццёвыя выданні кніг Ю. І. Крашэўскага — «Сакрэт пана Чурылы» (Варшава, 1877 год) і «Стах з Конар» (Кракаў, 1879 год), два арыгінальныя памятныя медалі ў гонар 50-годдзя літаратурнай творчасці Крашэўскага 1879 года.

Пачэснае, выгоднае месца на сцяне заняў новастворaны барэльеф Ю. І. Крашэўскага разца 85-гадовага юбіляра, славутага мэтра Івана Міско, з таніраванага гіпсу.

— Праўда, у першапачатковым, цнатліва-белым варыянце, які ўдалося пабачыць яшчэ ў майстэрні скульптара, барэльеф падабаўся куды мне болей, — зазначыў спадар Кенька.

— На жаль, на бронзавы варыянт у музея грошай не хапіла! — нібыта апраўдваўся Юры Зялевіч. — Самі ведаеце, культура ў нас фінансуецца па рэштккавым прынцыпе...

— Вось колькі ведаю гэтых музейшчыкаў, а яны ўсё плачуцца, што бедна жывуць! — напаўжартам, але ўсё ж забасіў Мікола Папека. — Шаноўны Юрась, дарагі наш дырэктар, ды ты проста балюеш тут, раскашуеш нібыта заможны магнат! Кінь наўкола вокам — маеш вялізны старадаўні палац, шыкоўны парк з аранжарэяй і цяпліцамі. У штаце ў цябе з тузін супрацоўнікаў, якія цалкам падпарадкоўваюцца табе. Коннага экіпажу для ўрачыстых выездаў не маеш, але і кіроўца з аўтобусам, хай сабе і старэнькім, — таксама някепска! У сваім палацы можаш і навуковую дзейнасць весці, і экскурсіі прымаць, і гасцінныя вечарыны, на якіх гараць свечкі і грае струнны квартэт, ладзіць.

— Падазраю, што і гэта нездарма — госці ж не з пустымі рукамі прыязджаюць! Сёння музейныя фонды папоўніліся і салідная аўтаманаграфіяй, якую перадаў праз мяне Іван Міско, — падхапіў Папекаў тон спадар Кенька. — Гэта нагадвае мне сітуацыю, калі ў перабудовачныя часы ў нашым пісьменніцкім саюзе адкрылася вакансія бухгалтаркі. Мая жонка ўгаворвала суседку, Святлану Рыбаковіч, а тая ўсё сумнявалася ці ісці. «Дурніца ты, што тут раздумваць? — казалі ёй. — Прыкінь, што лепей: слухаць, як мацюкаюцца майстры ды прарабы ў тваім будаўнічым трэсце за кальцавой аўтастрадаю або хадзіць у цэнтры сталіцы па мармуровых лесвіцах Дома літаратара дый здароўкацца з прыстойнымі людзьмі-творцамі?»

— Тут яшчэ трэба паразважаць, хто каму вінен. Як на добры лад, Юрась, дык не дзяржава табе, а ты дзяржаве за гэткае, эдэмскае жыццё яшчэ і даплочваць павінен! — заявіў Мікола Папека.

— Ну, усё, здаюся! Радзівілаўскага балю сёння не абяцаю, але абед у гарадской кавярні ўжо замоўлены! — падхапіў жартоўны тон і гаспадар. — Графік наш вельмі напружаны, але хацелася б паболей увагі і часу аддаць яшчэ адной пружанскай славутасці — касцёлу Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Гэты цудоўны храм быў пабудаваны ў 1883 годзе, а знакаміты і тым, што ў ім служыў у сане святара Казімір Свёнтак — будучы кардынал, першы ў найноўшай беларускай гісторыі.

— А пасля, — прапанаваў брэсцкі пісьменнік і перакладчык Яўген Бяласін, — адмыслова з'ездзім за паўдзясятка кіламетраў на ростані, дзе пры паваротцы, што вядзе ў Доўгае. Сфатаграфуемся там на памяць каля гранітнага памятнага знака з надпісам:

«Славутаму земляку
Юзэфу Ігнацы Крашэўскаму
28.07.1812—19.03.1887

Пісьменніку, мастаку, гісторыку,

выхадцу з маёнтка Доўгае».

— Ну, а развітаемся, мабыць, на чыгуначнай станцыі з фацэтнай назваю Аранчыцы, — зноў перахапіў ініцыятыву Мікола Папека. — Я, праўда, як ліновец, стаўлюся да назвы той вельмі раўніва, бо раней станцыя звалася Лінова. Але ў зале-пачакальні, калі не захочуць у кавярні, мужчыны змогуць пасмакаваць майго фірмовага, моцнага свойскага напою...

— Няйнакш «папекаўкі»?! — усклікнуў Яўген Бяласін.

— А хай сабе і так! А кабеты прадэгустуюць медавуху, прыгатаваную мною ўласнаручна на, зноў жа, свойскім, гатунку кшталту «ізабелы», вінаградзе і на мёдзе! Больш за тое, госці атрымаюць ад мяне, паэта-пчаляра, заснавальніка і фундатара знакамітай Мядовай прэміі для літаратараў Брэстчыны, важкія прэзенты — слоікі-паўлітровікі з плёнам руплівіц з маёй пасекі.

*17 сакавіка 2017 г.*

## Гастралёры

Не паспела Крыстына К. прагаварыць з сяброўкаю, што добра было б схадзіць увечары ў тэатр ці на канцэрт, як пазванілі ёй і прапанавалі два дармовыя квіткі на джазавую вечарыну ў філармоніі.

Афішы перад Вялікай канцэртнай залаю прадстаўлялі польскую спявачку Агу Зарыян як выбітную джазавую вакалістку, уладальніцу харызматычнага голасу з выключным сцэнічным тэмпераментам, разам з якой на менскую сцэну выйдуць выдатныя музыкі «EUROPEN JAZZ TRIO».

У філарманічным фае сярод іншых перастрэла Крыстына і свайго колішняга выкладчыка ў Гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа, паэта Андрэя Х..

— Надоўга, Крыстына Уладзіміраўна, да нас у Менск з Варшавы? — ветліва пацікавіўся той.

— Ды не, на некалькі дзён. Прыехалі заўчора на фестываль, што адбудзецца на возеры Сялява...

Былы выкладчык адно толькі паблажліва, з разуменнем паківаў у адказ:

— Ага, ведаем мы вашы фестывалі ды семінары на свежым паветры 25 сакавіка. На ўчорашні канцэрт, што праходзіў на галоўным сталічным праспекце, таксама паспелі? Мабыць, ацанілі шыкоўныя інструменты і новыя касцюмы гастралёраў-«касманаўтаў», кажуць, з Магілёва? Добра, што прыезд ваш у Менск не зацягнуўся на пару тыдняў пасля Дня Волі, як гэта нярэдка бывае... Але хіба не лагічна было б паслухаць польскі феномен джазавага вакалу ў Варшаве?

— Я спадзяюся, што Ага Зарыян будзе асабліва старацца на гастролях, каб дагадзіць, спадабацца менскім меламанам.

— Гэта праўда, не магу не пагадзіцца. Я гэтаксама, калі выступаю на паэтычных імпрэзах перад замежнай аўдыторыяй, стараюся выкладацца на ўсе сто адсоткаў, а то і болей!

*26 сакавіка 2017 г.*

## «Дабрыдзень!»

Крый Божа нават на досвітку павітацца з лысагорцам Анатолем К. словамі «Добрае раніцы!»

Складальнік беларускага, польскага і рускага буквароў, якія вытрымалі ажно дваццаць тры перавыданні, за што варта было б занесці ягонае імя ў Кнігу рэкордаў Гінэса, тут жа неадменна і катэгарычна паправіць: «Няма ў нашае мове такога вітання! Ёсць толькі форма «Добры дзень!». Бо беларус-руплівец як толькі падымецца, дык адразу ж бярэцца за працу, няма яму часу раскатурхвацца! Згодны я са складальнікамі руска-беларускіх размоўнікаў і іншых моўных дапаможнікаў, якія падаюць адпаведнікам рускаму «Доброе утро!» нашае «Добры дзень!»

Бывае, калі гаспадар Анатоль у асабліва добрым гуморы, дык і показку агучыць: «Падняўся беларус куды раней за сонейка, паспеў з цёмнага рана намахацца касою, калі пачуў, як з вёскі данёсся бадзёры голас радыёдыктара: «С добрым утром, дорогие товарищи!» Усміхнуўся беларус у свае пшанічныя вусы дый кажа: «Вось, бач ты, нарэшце і маскалікі прачнуліся!»

Тым больш настойліва гаспадар Анатоль праводзіць сваю думку пра нашае адметнае ранішняе вітанне падчас 400-гадовага юбілею нацыянальнага буквара, які ўпершыню пабачыў свет у 1618 годзе, у друкарні Віленскага Свята-Духавага праваслаўнага брацтва, што працавала ў мястэчку Еўе. На жаль, выйшаў той буквар ананімным і, не выключана, быў плёнам калектыўнай працы. Затое менавіта беларусы падарылі славянскаму свету не толькі слаўную культурна-асветніцкую з'яву, але і само слова «буквар».

*16 красавіка 2018 г., Лысая Гара*

## «...Як і мы даруем вінаватым перад намі»

Аўтар дэтэктыўных і гістарычных раманаў і аповесцяў Кастусь Тарасаў дараваў доўг кніганошу Алесю Дудару, калі дазнаўся, што ў Светлагорску злодзеі залезлі ў кватэру Алесевага партнёра, калегі-кнігараспаўсюдніка. Кватэра ў таго была і за склад, але злодзеяў, найхутчэй, нехта спалохаў, а таму паспелі яны вынесьці толькі адзін кніжны пачак.

Пакунак той быў з кнігамі Кастуся Тарасава, з дэтэктывам «Залатая Горка», што зваўся так паводле наймення адной са сталічных вуліц. Залатых гор светлагорскія злодзеі з таго пачка, напэўна ж, не займелі, але празаіку прыемна было лічыць, што паквапіліся яны менавіта на кнігі яго аўтарства, што гэткім своеасаблівым чынам аддалі належнае менавіта яго пісьменніцкаму таленту.

*13 траўня 2018 г.*



# Эдуард Дубянецкі

паэт, эсэіст, крытык, гісторык, культуролаг. Кандыдат гістарычных навук. Аўтар кніг паэзіі: «Душы маёй нясконачаны палёт» (2011 г.) і «Покліч самотнага неба» (2013 г.), энцыклапедычных даведнікаў і навучальных дапаможнікаў па гісторыі, культуралогіі і беларусазнаўству, а таксама серыі навукова-папулярных выданняў пра асветнікаў Беларусі. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

# Знікненне паэтычнага мастацтва

***Якім было разуменне і грамадскае прызначэнне паэзіі ў мінулым? Які шлях прайшла сусветная літаратура з часоў антычнасці да нашых дзён? Ці страчваем мы зараз паэтычнае мастацтва, ці паступова яно знікае? А калі так, то як такое магло стацца і якія прычыны гэтай незвычайнай страты? Ці можа літаратура ўваскрэснуць у сённяшнім мітусліва-меркантыльным свеце?***

***Зараз і паспрабуем знайсці адказы на гэтыя няпростыя пытанні. А спачатку зробім кароткі экскурс у гісторыю літаратуры, а затым глянем крытычным вокам на сучасны стан айчыннай і замежнай паэзіі.***

У далёкім мінулым літаратура — найперш паэзія — выконвала ледзь не сакральныя функцыі, а паэт успрымаўся як пасланнік багоў, іх вястун. З часоў антычнасці паэзія па сваім прызначэнні павінна была спрыяць духоўнаму ўзвышэнню чалавека, задавальненню яго этычных і эстэтычных патрэб. Так, выбітны старажытнагрэчаскі філосаф Платон, які і сам пісаў таленавітыя вершы, лічыў, што паэт — гэта «тлумачальнік волі багоў» ды «істота лёгкая, крылатая і святая». У дадзеным кантэксце варта згадаць і такі паказальны антычны тэрмін, як «катарсіс», што азначае працэс ачышчэння чалавечай душы з дапамогай мастацтва. У старажытным Рыме паэтаў лічылі прарокамі, вешчунамі, празорцамі. Невыпадкова старажытнарымскі паэт Гарацый у сваёй кнізе пад назвай «Навука паэзіі» выказваў думку, што паэту ніколі не даруюць пасрэдных радкоў «ні людзі, ні багі, ні кнігарні». А яшчэ ён спрабаваў пераканаць сваіх чытачоў у тым, што «мудрасць — вось сапраўдных вершаў выток і іх пачатак» і што «вершы, наша душэўная асалода, ад дасканаласці на крок адступіўшы, бяздарнымі будуць».

У эпоху сярэднявечча мастак разглядаўся як адмысловы аловак у руках усемагутнага Бога, якім ён піша вершы, паэмы, раманы, малюе карціны. У тыя часы філосафы і пісьменнікі ўспрымаліся як адораныя Богам людзі з «боскай іскрай» у душы і сэрцы. Пазней, пачынаючы з эпохі Рэнесансу, хутка пачаў адбывацца працэс дэсакралізацыі паэзіі, пазбаўлення яе ад ранейшага моцнага ўплыву рэлігіі і міфалогіі. У выніку гэтай трансфармацыі паэты пачалі ўспрымацца як звычайныя зямныя людзі, якія маюць большы ці меншы творчы дар. Прычым тады лічылася, што гэты адмысловы дар даецца чалавеку не Богам, а самой прыродай, што яскрава засведчылі наступныя радкі з трактата французскага пісьменніка Нікаля Буало «Паэтычнае мастацтва» (1674): «Прырода шчодрая, як клапатлівая маці, // Умее кожнаму адметны талент даць».

На працягу Новага часу (17—пачатак 20 ст.) роля і месца паэзіі і стаўленне да яе ў грамадстве неаднаразова мяняліся, нагадваючы своеасаблівую сінусоіду. Калі ў эпоху Асветніцтва пад уплывам шырокага распаўсюджання ідэй вальнадумства і рацыяналістычнага спасціжэння свету паэзія адышла на другі план і саступіла дарогу філасофіі і навуцы, то ў перыяд панавання раман-

тызму (канец 18 — першая палова 19 ст.) яна «нарадзіла» нямала геніяльных паэтаў, ізноў выйшла ў авангард мастацкай культуры і звярнула пільную ўвагу на багаты духоўны свет моцнай асобы. А затым, калі ў другой палове 19 ст., на змену рамантызму прыйшлі рэалізм і натуралізм, паэзія спачатку саступіла прыярытэтнае становішча прозе, але са з'яўленнем сімвалізму ў канцы 19 ст. яна пачала імкліва аднаўляць страчаныя пазіцыі. Менавіта тады на авансцэну выйшлі выбітныя паэты, якія ў сваёй мастацкай практыцы абапіраліся найперш на творчае ўяўленне, інтуіцыю, містычныя перажыванні.

Аднак, бадай, самы кардынальны пераварот у галіне прыгожага пісьменства адбыўся ў наступным, 20 стагоддзі. Ужо ў яго пачатку амаль ва ўсіх відах культуры набыў істотнае паскарэнне працэс суб'ектывізацыі мастацтва, калі на першы план пачало выходзіць своеасаблівае творчае свавольства мастака, яго неадольнае жаданне як мага паўней і глыбей выказаць свае пачуцці, эмоцыі, жаданні, свядомыя імпульсы, (не)прыхаваныя фантазіі і мары. Адлюстраваннем гэтай тэндэнцыі стала ўзнікненне на розных кантынентах свету цэлага шэрагу новых мастацкіх плыняў (неарамантызм, футурызм, экспрэсіянізм, сюррэалізм, акмеізм, герметызм, дадаізм, ультраізм і інш.), кожную з якіх прадстаўлялі самабытныя асобы вялікага таленту. У той перыяд многія мастакі слова былі настолькі магутнымі і велічнымі творчымі фігурамі, што да іх добра пасуе думка Марціна Ідэна, героя аднайменнага рамана Джэка Лондана (дарэчы, яскравага прадстаўніка неарамантызму) аб тым, што знакамітыя пісьменнікі — гэта загартаваныя ў баях гіганты, «супраць якіх нікому не выстаяць».

Мяркую, што менавіта ў пачатку 20 ст. і ў наступныя некалькі дзесяцігоддзяў сусветнае мастацтва дасягнула свайго апошняга творчага піка (апагею). Прычым гэты пік меў месца практычна ва ўсіх відах мастацтва (акрамя хіба кінамастацтва, якое рабіла першыя крокі), але найперш у літаратуры, музыцы і выяўленчым мастацтве. А пазней, дзесьці з другой паловы 20 ст., пачаўся, на жаль, паступовы працэс своеасаблівага прабуксоўвання, заняпаду і здрабнення мастацтва — у тым ліку і паэзіі. Зразумела, што ў творчасці найлепшых паэтаў былі заўважныя дасягненні, але яны ўжо звычайна не выклікалі такога захаплення і ледзь не абагаўлення творцаў, як тое нярэдка мела месца ў мінулыя стагоддзі.

На маю думку, калі з часоў антычнасці ажно амаль да сярэдзіны 20 ст. для сусветнага мастацтва быў уласцівы пераважна *вертыкальны* кірунак, то з другой яго паловы найбольшае распаўсюджанне займеў ужо *гарызнатальны* кірунак. Што тут маецца на ўвазе? А тое, што калі са старадаўніх часоў мастацтва, так бы мовіць, глядзела пераважна *ўверх* (на неба, на Бога, на анёлаў, міфалагічных асоб і істот) і спрабавала «ўкараняць» духоўныя каштоўнасці, то ў Найноўшы час (асабліва ў другой палове 20 ст.) яно ўсё больш і больш пачало глядзець *уніз* — на зямлю, на сябе, на звычайных людзей, на фабрыкі й заводы, аўтобусы, трамваі і да т.п. Пра своеасаблівае зніжэнне планкі мастацкага погляду сведчыла і відавочнае змяншэнне ўвагі творцаў да рэлігійных матываў і вобразаў, чаму непасрэдным чынам «спрыяла» павелічэнне сярод пісьменнікаў колькасці агностыкаў і нават атэістаў. У выніку падобных зрухаў

мастацтва няўхільна страчвала свае ранейшыя прыгажосць, узнёсласць, (бога) натхнёнасць і містычнасць, і адпаведна рабілася больш павярхоўным, прымітыўным і рацыяналістычным. Інакш кажучы, у акрэслены перыяд мастацтва у сэнсе сваіх творчых патэнцый паступова пачало згасаць і нават знікаць, што, безумоўна, адбілася і на стане тагачаснага паэтычнага слова.

Яшчэ ў пачатку 20 ст. вядомы расійскі культуролаг і літаратуразнаўца Уладзімір Вейдле напісаў кнігу пад красамоўнай назвай «Паміранне мастацтва. Развагі аб лёсе літаратурнай і мастацкай творчасці» (1937). У ёй ён адзначаў, што сучаснае мастацтва цалкам згубіла свой стыль і моцна дэградавала ў духоўных адносінах і ў своеасаблівай чалавечнасці. А яшчэ У. Вейдле лічыў адной з галоўных заганаў мастацтва 20 ст. страту ім «жывой цэласнасці», без якой немагчыма ўявіць сапраўднага мастацкага твора. І напраўду, сёння многія творы з'яўляюцца нейкімі фрагментарнымі, нязграбна-хаатычнымі, са свядома ці неўсвядомлена парушанай цэласнасцю — да таго ж яшчэ і амаль поўнасцю пазбаўленымі жывога пачуцця, шчырых, глыбокіх і трапяткіх эмоцый. Усё гэта, безумоўна, у лепшым выпадку значна змяншае і эмацыянальнае, і інтэлектуальнае ўздзеянне мастацкіх твораў на спажывальнікаў культурных каштоўнасцей, а ў горшым — увогуле адварочвае людзей ад такога неахайнага мастацтва, адбіваючы ахвоту хоць штосьці чытаць, слухаць, глядзець.

У адрозненне ад канца 19 — першай паловы 20 ст., сёння ў сусветнай і айчыннай паэзіі відавочна дамінуе, так бы мовіць, аднастайная другаснасць — у тым сэнсе, што ўжо не з'яўляецца прынцыпова новых відаў і формаў верша, а напісанае ў рэчышчы традыцыйнай рыфмаванай ці мадэрнісцкай нерыфмаванай паэзіі выглядае найчасцей другасным у параўнанні з лепшымі творамі айчынных і замежных паэтаў-класікаў мінулага стагоддзя. Так, у беларускім паэтычным дыскурсе колькасная перавага па-ранейшаму застаецца за вершамі рыфмаванымі, традыцыйнымі па строфіцы і рытміцы, а ў замежным — наадварот, бо там амаль усе творцы яшчэ ў другой палове 20 ст. канчаткова адмовіліся ад традыцыйнай рыфмы і строфікі і цалкам перайшлі на свабодны верш (верлібр), у якім, на жаль, практычна нічога ўжо і не засталося ад сапраўднага паэтычнага мастацтва. І сумна, што сённяшнія маладыя беларускія паэты-мадэрністы ў большасці пайшлі ўслед за сваімі кумірамі і «выдаюць на-гара» мноства аднатыпнай паэтычнай прадукцыі неглыбокага (часцей сцёбнага) зместу і пераважна эпігонскага характару. Да таго ж, асобныя творы сённяшніх модных паэтаў і празаікаў маюць відавочныя прыкметы безгустоўнасці, бессэнсоўнасці, а часам нават і нейкага вычварэнства. Тады як у свой час Міхась Стральцоў слушна казаў, што высокае мастацтва ніколі «не бывае ні бессэнсоўным, ні вычварным у светлым вобразе сваім».

Зараз, на жаль, ужо практычна нідзе не ідуць размовы і дыскусіі пра паэтычнае майстэрства, пра якасць мастацкіх твораў, пра недахопы вершаў розных паэтаў. Нейкія лакальныя спрэчкі рэдка калі выходзяць за межы віртуальнай прасторы і адбываюцца пераважна ў сацыяльных сетках — найперш у Фэйсбуку. Тады як рэальных публічных дыскусій з удзелам усіх зацікаўле-

ных бакоў (у тым ліку і з розных творчых саюзаў) не назіраецца зусім, і гэта, безумоўна, аказвае відавочны адмоўны ўплыў на ўвесь характар і дынаміку літаратурнага працэсу, бо не дазваляе, з аднаго боку, вызначыць «болевыя кропкі» і недахопы ў развіцці айчыннай літаратуры, а з другога, зафіксаваць адпаведныя творчыя дасягненні і ўдачы, узнагародзіць сапраўды лепшых з лепшых, дакладна вызначыўшы пры гэтым крытэрыі якаснага мастацкага прадукта. Затое актыўна ідзе (сама)піяр з боку многіх даволі пасрэдных творцаў і іх непрыхаванае самаўзвялічванне ў межах пэўных груповак і тусовак. Нават калі ўручаюцца нейкія прэміі, выдаюцца творчыя стыпендыі і камандзіроўкі, то практычна ніколі не гаворыцца пра крытэрыі вызначэння лепшых твор(ц)аў, пра рэальныя мастацкія заслугі тых ці іншых пісьменнікаў. Таму ўсе пытанні з вызначэннем пераможцаў, размеркаваннем прэмій вырашаюцца кулуарна, без аніякага грамадскага абмеркавання і публічных дыскусій, што само па сабе стварае глебу для ўсялякіх злоўжыванняў і адмоўных чутак, плётак.

Пры гэтым свой прамы ці апасродкаваны ўклад у працэс відавочнай сёння (сама)дыскрэдытацыі літаратуры ў цэлым, і паэзіі ў прыватнасці, уносяць, на вялікі жаль, і многія літаратуразнаўцы разам з літкрытыкамі, абавязкам якіх з даўніх часоў павінна быць найперш падтрыманне і абарона найбольш таленавітых аўтараў, папулярызацыя высокамастацкіх твораў — прычым незалежна ад таго, вядомы творца ці пакуль не, належыць ён да якіх творчых суполак ці не, з «правільнага» ён Саюза пісьменнікаў ці з «няправільнага». Але ж гэтыя спецыялісты цяпер у значнай ступені страцілі свой былы прафесіяналізм і па сутнасці скаціліся да абслугоўвання інтарэсаў пэўных літаратурных груповак-тусовак. У той жа час творцы, якія маюць бясспрэчны талент і працуюць сумленна, пазбаўлены доступу да вышэйназваных грантаў, стыпендый, прэмій, творчых камандзіровак, паколькі не ўваходзяць у лік адпаведных «тусоўшчыкаў-піяргеніяў». У выніку атрымліваецца адмысловае замкнёнае кола, у якім пастаянна «варацца» адныя і тыя ж асобы, і прабіцца ў якое з боку практычна ніхто не можа. Самаўхваленне людзей з гэтага кола непазбежна вядзе да іх няўхільнай творчай дэградацыі, а недаацэнка і непрызнанне людзей па-за межамі кола найчасцей прыводзіць у лепшым выпадку да паступовага аслаблення іхняга творчага імпэту, а ў горшым — увогуле да іх «развітвання» з літаратурай і пераходам у абсалютна іншую сферу дзейнасці.

А яшчэ сёння паскараецца працэс халтурызацыі мастацтва, які становіцца ўсё больш відавочным ды заўважна паскараецца. І сапраўды, складваецца ўражанне, што сённяшнія творцы часцяком недапрацоўваць/недашліфоўваюць свае творы — а гэта значыць, яны папросту халтураць, зусім мала працуюць над сваімі опусамі (для іх напісаць верш, як кажуць, што «папіросу скурыць»), кіруючыся пры гэтым прынцыпам накшталт «пойдзе і так». У выніку можна з поўным правам казаць, што найчасцей мы маем справу з халтурнымі вершамі, халтурнымі раманамі, халтурнымі апавяданнямі і аповесцямі, халтурнымі п'есамі і да т.п. Прычым гэты працэс халтурызацыі досыць небяспечны не толькі самім фактам прадастаўлення публіцы (чытачам-слухачам-гледачам)

яўна нізкаякаснага мастацкага прадукта, але і феноменам своеасаблівага эмацыянальнага заражэння, калі іншыя творцы таксама імкнуцца пераймаць адпаведныя кепскія звычкі сваіх увішных калег-халтуршчыкаў.

Акрамя вышэйсказанага, у цяперашніх варунках таксама, на вялікі жаль, набірае абароты і працэс няўхільнай фэйкізацыі мастацтва, што праяўляецца ў першую чаргу ў прыкметным павелічэнні колькасці разнастайных мастацкіх фэйкаў (падробак), якія выдаюцца нібыта якасныя творы. Літаратурныя фэйкі — гэта такія творы, якія для публікі выдаюцца зусім не за тое, чым яны на самай справе з'яўляюцца. Напрыклад, калі за раман выдаецца нешта такое, што па аб'ёму больш падобнае да аповесці, а па кампазіцыі і зместу таксама не мае нічога агульнага з раманным жанрам. Альбо, скажам, калі за паэтычны твор выдаецца штосьці такое, што не мае ніякіх тыповых прыкмет верша (ні рыфмы, ні рытму, ні адпаведнай вобразнасці ды эмацыйнасці) і ў выніку часта не выклікае амаль ніякай зваротнай рэакцыі — напрыклад, суперажывання (эмпатыі).

Такім чынам, атрымліваецца, што сусветная літаратура зараз па сутнасці перастала выконваць свае былыя функцыі духоўнага ўзвышэння і «падцягвання» чалавека ў інтэлектуальным плане. А калі казаць больш строга, то ў сваёй былой іпастасі сур'ёзнай, мудрай і натхнёнай асобы яна папросту знікла, перастала існаваць. І цяпер яна існуе пераважна ў іпастасях зусім несур'ёзных — найчасцей у выглядзе перасмешніка, паяца, задзіры, вадэвільнага (ці балаганнага) персанажа. І гэтыя малапрыемныя персанажы на працягу ўжо досыць доўгага часу па-ранейшаму працягваюць хахміць, сцябацца, весяліць-забаўляць людзей, не даючы ім ніякага інтэлектуальнага ці духоўнага падсілкоўвання. Думаецца, што зараз мы знаходзімся, мажліва, ужо на самым дне акіяна мастацтва. І ці выплывем мы калісьці адтуль, невядома, але тут мнгогае будзе залежаць ад сённяшняга маладога пакалення, ад здольнасці яго прадстаўнікоў авалодваць паэтычным майстэрствам і засвойваць лепшыя традыцыі айчыннага і замежнага прыгожага пісьменства.

А на заканчэнне, відаць, будзе дарэчным нагадаць выказанае прыблізна стагоддзе таму назад меркаванне Максіма Багдановіча аб тым, што наколькі нашы дні багатыя паэтамі, настолькі ж яны бедныя паэзіяй. Як бачна, словы нашага класіка аказаліся цалкам прарочымі, і зараз паэтаў і паэтак у Беларусі і ў свеце вельмі шмат, аднак паэзіі ў іх творах зазвычай вельмі мала, калі яна ўвогуле там ёсць. А калі ж казаць па самым высокім і строгім рахунку, то сапраўднай паэзіі ў яе класічным разуменні ў сучасны перыяд, бадай, сапраўды практычна няма, паколькі адсутнічаюць геніяльныя Майстры, якія выдатна валодаюць усімі прыёмамі паэтычнага мастацтва, ведаюць усе яго сакрэты і маюць тонкія каналы сувязі з Богам і Сусветам. Аднак жа давайце не будзем кідацца ў адчай, нягледзячы на ўсе шматлікія неспрыяльныя моманты. А будзем усё ж такі спадзявацца, што ў будучым на змену былым буйным майстрам мастацкага слова абавязкова прыйдуць новыя яркія творцы, якія дапамогуць усім нам разам моцна адштурхнуцца ад дна вышэйназванага «акіяна» і ўрэшце выплыць на яго залітую сонцам прыгажосці, чалавечнасці і мудрасці паверхню.



# Сяргей Чыгрын

паэт, гісторык, краязнавец, журналіст. Напісаў і выдаў дзясяткі гісторыка-краязнаўчых і літаратуразнаўчых кніг. У тым ліку: «Слонімскія падмуркі», «Такі іх лёс», «Па слядах Купалы і Коласа», «Беларуская Беласточчына», «Хочацца дахаты», «Іншых шляхоў не было», «На радзіме Ігната Дварчаніна» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

# Трагічнае каханне Гальяша Леўчыка

Кажуць, што каханне застаўляе Зямлю круціцца, а геніяў тварыць. За кожным вялікім і невялікім пісьменнікам заўсёды стаіць і стаяла каханая жанчына. Але, на жаль, не кожны раз каханыя жанчыны прыносілі шчасце літаратарам, хаця творчыя людзі іх натхнёна кахалі, шанавалі і любілі. Да такіх пісьменнікаў з трагічным каханнем належыць і беларускі паэт, калекцыянер, мастак, музыкант, грамадскі дзеяч Гальяш Леўчык (Ілья Ляўковіч, 1880 —1944).

Гальяш Леўчык быў родам са Слоніма. З 1908 года пачаў друкавацца ў газеце «Наша ніва». А ў 1912 годзе ў Вільні выйшаў яго першы паэтычны зборнік «Чыжык беларускі». Да 100-годдзя пісьменніка ў Мінску быў выдадзены яго невялікі зборнік твораў «Доля і хлеб» (Мінск, 1980).

У Слоніме Гальяш Леўчык меў невялікую хатку на вуліцы 3-га траўня. Да яго ў горад над Шчарай прыязджалі многія беларускія дзеячы. Гасцявалі ў яго хатцы мастак Язэп Драздовіч, фалькларыст і кампазітар Антон Грыневіч, пісьменнік Міхась Лынькоў, святар Адам Станкевіч і нават заязджаў Янка Купала.

Меў адпакаёвую кватэру паэт і ў Варшаве. Дарэчы, у Варшаву ён трапіў у 1904 годзе. Там уладкаваўся на працу чарцёжнікам у гарадскі магістрат і наведваў лекцыі ў школе мастацтваў. За гэты час Леўчык знаходзіць у Варшаве шмат беларусаў, знаёміцца з імі, арганізоўвае сустрэчы, ладзіць вечарыны.

Самым дарагім госцем у Варшаве для яго была пісьменніца, лексікограф, публіцыстка, перакладчыца, асветніца і грамадская дзяячка Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая, 1892—1991). Упершыню ў Варшаву Людвіка прыехала восенню 1913 года на курсы. Але перш чым трапіць туды, яна моцна перажывала, што там няма знаёмых. І пра гэта распавядала Вацлаву Ластоўскаму. Тады спадар Вацлаў даслаў ёй адрас Гальяша Леўчыка. Адначасова ён напісаў Леўчыку, што ў Варшаву прыедзе прыгожая і таленавітая дзяўчына, і каб той яе шчыра прыняў. Але Зосьцы Верас Гальяша не прыйшлося шукаць, бо ён сам да яе завітаў і ў хуткім часе пазнаёміў яе з многімі беларусамі Варшавы.

Пра першае спатканне з Гальяшом Леўчыкам Зоська Верас прыгадвае так: «Першая сустрэча была даволі арыгінальная і смешная. Гальяш Леўчык убег шпарка, не прывітаўся, не зарэкамендаваўся... Яго першыя словы былі: «Гэта я Вас маю «ратаваць»? Ха-ха-ха! Такі маю загад з Вільні. Бег як мага!»[1].

Прыгожая Людвіка глядзела на Гальяша здзіўлена. Перад ёй стаяў чалавек невысокага росту, незвычайна рухавы, з шапкай кучаравых валасоў, з вясёлымі невялікімі вачыма. «Нарэшце, заўважыўшы маё здзіўленне, ён спаважнеў. «Выбачайце, — кажа, — я нават не зарэкамендаваўся — Гальяш Леўчык, па прозвішчу Ляўковіч. Толькі што атрымаў ліст з рэдакцыі «Нашай нівы». Так

[1] Літаратура і мастацтва, 30 верасня 1977 года.

трагічна апісалі Вашае самотнае існаванне, тым больш самотнае, што паміж тысячамі людзей, што я сапраўды бег як на ратунак...», — прыгадвае далей Зоська Верас.[2]



*Гальш Леўчык*

На курсах у Варшаве Зоська Верас знаходзілася дзесяць месяцаў. І вельмі часта сустракалася і праводзіла час з Гальяшом Леўчыкам. Яны наведвалі розныя выставы, ездзілі ў Крулікарню, пазнаёміў ён яе з многімі беларусамі Варшавы, наведалі Міхала Федароўскага, аўтара «Люду беларускага», які сустрэў іх вельмі ветліва. Зоська Верас бывала і ў яго ў невялікай аднапакаёвай кватэры на вуліцы Леапальдыны, 35-32. Гасціў Гальяш і ў Зоські вечарамі, дзе яны бясконца размаўлялі і прыгадвалі ўсіх тых, каго ведалі. На той час Гальяшу Леўчыку было 33 гады, а Зосьцы Верас — 22. Магчыма тады Гальяш Леўчык прызнаўся ў сваіх пачуццях да Зоські Верас. Але Зоська Верас яму далікатна адмовіла. А магчыма — былі іншыя прычыны...

Чаму я так упэўнена пра гэта пішу, бо пацвярджэннем гэтаму з'яўляюцца «Мэмуары. Стагодзьдзе ў рэтраспэкце» Яна Пятроўскага, якія выйшлі з друку ў горадзе Гэйнсвіл (ЗША, 1988). Адзін з артыкулаў «Мэмуараў» прысвечаны Гальяшу Леўчыку. Ян Пятроўскі прыгадвае 1931 год: «Увайшоўшы ў яго кватэру на сцяне на левым баку я заўважыў каляровую большых памераў фатаграфію, а на ёй маладую пару. Хлапец з фатаграфіі — гэта Ляўковіч. Але маладая дзяўчына — нікога сабою мне не прыпамінала... Я запытаў у яго: «Прыгожая пара... хто яна?». Ляўковіч нічога не адказаў, а твар, як мне здалося, спаважнеў з прычыны, праўдападобна, пытаннем выкліканых рэмінісцэнцыяў перажытага мінулых дзён, адышоўшых у вечнасць... Мне здалося, што я закрануў нешта, што з'яўляецца інтымнасцю з жыцця гаспадара дому... Аднак праз доўгія гады я заставаўся пад уражаннем, што паміж ім і прыгожай дзяўчынаю на фатаграфіі мусіла быць тое, што прынята называць любоўю. І гэта, праўдападобна была любоў, якая ніколі не ўвянчалася шчасцем...».[3]

Далей Ян Пятроўскі ўдакладняе, што пасля, амаль праз паўстагоддзе, ён аднойчы разгарнуў газету «Літаратура і мастацтва» ад 30 верасня 1977 года і

---

[2] Тамсама. С.15.

[3] Пятроўскі Ян. Мэмуары. Стагодзьдзе ў рэтраспэкце. Гэйнсвіл, 1988.С.158-159.

ўбачыў там Гальяша Леўчыка і дзяўчыну «прыгожае падабенства якое бачыў я калісьці на фатаграфіі, што знаходзілася ў памяшканні Ляўковіча».[4]

Гартаю падшыўку тыднёвіка «Літаратура і мастацтва», пра які згадвае Ян Пятроўскі, і знаходжу ўспамін Зоські Верас «Сустрэчы з Гальяшом Леўчыкам». На гэтай старонцы таксама апублікаваны і два фотаздымкі — Зоські Верас і Гальяша Леўчыка. Значыць, у варшаўскай кватэры паэта Ян Пятроўскі ўбачыў іх агульны фотаздымак. Хутчэй за ўсё яны сфатаграфаваліся разам у Варшаве ў 1914 годзе. Альбо гэта быў вядомы здымак, на якім адлюстраваны Рамуальд Зямкевіч, Гальяш Леўчык і Зоська Верас. Але крайні Зямкевіч быў проста выразаны са здымка і на сцяне вісеў партрэт Гальяша і Зоські. Асобнага фотаздымка Леўчыка з Верас я ніколі не бачыў.

Напачатку ліпеня 1914 года Зоська Верас пакінула Варшаву. Яна пачала ліставацца з Гальяшом Леўчыкам. Першы ліст Зоська Верас атрымала ад яго 1 жніўня 1914 года. У ім Гальяш пытаўся, ці прыедзе яна ў Слонім? Бо ён таксама планаваў быць у Слоніме і хацеў там з ёю спаткацца. А ў пісьме ад 13 студзеня 1915 года пытаўся: «Ці вы прыедзеце яшчэ калісь у Варшаву, ці не? На дадатковыя курсы...».[5]

У траўні 1915 года Зоська Верас на Сёмуху запрашала Гальяша наведаць яе і яе маці. А 7 траўня 1915 года Гальяш Леўчык адказаў: «Вельмі дзякую вам і маме вашай сардэчна за запросіны мяне да вас на Сёмуху! Але што ж — жаль, што не магу скарыстаць, бо і мая хворая сястра будзе тут праз свята...».[6]

Сустракалася з Гальшом Леўчыкам Зоська Верас яшчэ два разы ў Вільні. Вясной 1923 года і ў 1926 годзе. Першы раз яна ўбачыла Гальяша ў кнігарні на Завальнай, 7. «Але як жа ён змяніўся, як пастарэў! Ані следу даўнейшага гумару, вочы прыгаслі, поўна сівых валасоў. Матэрыяльнае становішча было вельмі цяжкае. Працы не меў...»[7] — успамінала Зоська Верас.

У гэты час Зоська Верас ужо была замужам за грамадска-палітычным дзеячам, якога расстралялі бальшавікі, Фабіянам Шантырам (1887—1920) і ад якога ў яе нарадзіўся сын Антон.

Пасля трагічнай смерці мужа Фабіяна Зоська Верас знаёміцца з журналістам, рэдактарам і перакладчыкам Антонам Войцікам (1898 —1948). У 1923 годзе ў лясным масіве на Панарскіх узгорках пад Вільняй разам з Антонам яны пабудавалі прасторную хатку з галінак дрэў, абмазаных глінай так, як гэта рабілася некалі на Украіне. У 1926 годзе Зоська Верас выходзіць замуж за Антона Войціка, маладыя павянчаліся ў Віленскім Касцёле Святога Мікалая...

Можа я памыляюся, але мне здаецца, што тады ў Варшаве, калі ў Зоські Верас яшчэ нікога не было, калі быў вольны Гальяш Леўчык, магла б нарадзіцца цудоўная беларуская сям'я. Ды і жыць было дзе — кватэра ў Варшаве і хат-

[4] Тамсама. С.159.

[5] Гальяш Леўчык. Доля і хлеб. Мн., 1980. С.116.

[6] Тамсама. С.120.

[7] Літаратура і мастацтва, 30 верасня 1977 года.


*Зоська Верас*

ка ў Слоніме. Але лёс распарадзіўся інакш, і ён не дужа радаваў Людвіку Сівіцкую і быў трагічным для Гальяша Ляўковіча. Да самай смерці Зоська Верас добра і шчыра прыгадвала Гальяша Леўчыка. Яна казала, што ён быў «вельмі таварыскі, спагадлівы, услужлівы, гатовы кожнаму дапамагчы, увайсці ў палажэнне».[8] Ён быў знаёмы з маці і дзедам Зоські Верас: «Мама і дзед вельмі хвалілі Г. Леўчыка. Ён як даведаўся, што яны ў Варшаве, часта прыходзіў адведаць хворага, а нават замяняў на пару гадзін маму, каб яна магла пахадзіць, дыхнуць свежым паветрам і адпачыць».[9]

У 1986 годзе разам з настаўнікамі Слонімшчыны я наведаў Вільню і гасцяваў у хатцы Зоські Верас. У адным невялікім пакойчыку на кніжнай паліцы стаяў вялікі партрэт Гальяша Леўчыка мастака Алега Аблажэя. Зоська Верас папрасіла зняць з паліцы партрэт, узяла яго ў рукі і сказала, што гэты партрэт яна хоча падараваць Слоніму. Мы з радасцю і шчырай падзякай прынялі гэты падарунак ад старэйшай беларускай пісьменніцы. Цяпер ён знаходзіцца ў Слонімскай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа...

Ілья Ляўковіч меў шмат сяброў. Яны прыязджалі не толькі ў Слонім і Варшаву, але і часта пісалі пісьмы, дасылалі кнігі, паштоўкі, часопісы. А вось сяброўкі, сапраўднай гаспадыні ў доме ў яго доўгі час так і не было. І аднойчы ў 1932 годзе ён прачытаў у газеце «Кур'ер Кракаўскі» аб'яву, дзе 30-гадовая жанчына з Ваўкавыска, якая піша апавяданні, хоча выйсці замуж. Гальяш Леўчык «клюнуў» на гэтую аб'яву і напісаў жанчыне ліст. Пачалася перапіска, а праз пэўны час яны спаткаліся. Жанчына аказалася прыгожай і вельмі спадабалася слонімскаму паэту. Праўда, яна была даволі лёгкіх паводзін і любіла жыць раскошна. І гэта Гальяша Леўчыка трохі насцярожвала. Ён нават заехаў у Дзярэчын да свайго сябра метадыста і публіцыста Яна Пятроўскага, які тады там жыў, каб пагутарыць пра сваю будучую жонку. Той яго шчыра прасіў, каб не жаніўся на польскай дзяўчыне з Ваўкавыска: «Быў гэта год 1933, на весну Ляўковіч на мае запросіны прыехаў да мяне ў Дзярэчын. Тут у даўжэйшай гутарцы са мною выражаў ён сумнеў, ці павінен ён браць сабе за жонку дзяўчыну, паводзіны якое ён тады ахарактарызаваў, што найменей, як анармальныя.

[8] Зоська Верас. Я помню ўсё. Гародня- Wroclaw. 2013. С.28.

[9] Тамсама. С.29.

Выслухаўшы ягоныя доўгія і сумныя выказванні, я раіў яму, каб ён парваў з дзяўчынаю, якая мела добрых трыццаць і некалькі гадоў. Далей ад гэтага я не мог пайсці, звяртаючы яго ўвагу, што апошняе слова належыць усё ж яму. У асноўным ён пагаджаўся са мною, але тут жа дадаваў, што ён шкадуе і ўсё ж спадзяецца знайсці помач у ёй. Ягоная аргументацыя болей мяне дзівіла, чымся пераконвала. Уся гутарка скончылася між намі тым, што гэта рэч паважная і вырашэнне знаходзіцца ў ягоных руках...».[10]

Але Гальяш не паслухаў сябра, і праз пэўны час слонімскі паэт і польская дзяўчына Зося ўзялі шлюб.

Вельмі цяжка жылося Гальяшу Леўчыку з Зосяй Ляўковіч. Яна яго не кахала і не берагла, а жыла, як хацела сама. Ян Пятроўскі меў рацыю. Ён прыгадваў, што Зося ў Варшаве «мела шмат знаёмых людзей, якія часта наведвалі Ляўковічаў у іхняй кватэры і тэрарызавалі яго, пра што Гальяш неаднаразова казаў мне. Ён, Ляўковіч, чуўся абкружаны варожымі людзьмі для сябе. І гэта было асноўнаю прычынаю, чаму Ляўковіч гэтак часта выязджаў, адносна на доўгі час у Слонім, дзе шукаў для сябе адпачынку».[11]

Усе зберажэнні Гальяша Леўчыка жанчына праз некаторы час поўнасцю расходавала. Яна выдумляла розныя прычыны, куды пайшлі фінансы, прыпісвала сабе хваробы, штрафы, а Гальяш ёй даваў грошы, дапамагаў. Гальяша Леўчыка яна не тое што не кахала, а і не паважала, як беларуса, як мужчыну.



*Зося Леўчык*

Падчас Другой сусветнай вайны Гальяш Леўчык знаходзіўся ў Слоніме, а Зося Ляўковіч — у аднапакаёвай кватэры ў Варшаве. Разам быць яны доўга не маглі, бо сварыліся. Тады слонімец уцякаў у родны горад, ці туды ехала полька-жонка ад яго. Ды і з фінансамі ў Леўчыка былі вялікія праблемы.

Знаходзячыся падчас вайны ў Варшаве, Зося Ляўковіч прадала кватэру Гальяша Леўчыка палякам ці, магчыма, на нейкіх іншых умовах падаравала яе. Прадала, бо была ўпэўнена, што Леўчык загінуў. Ян Пятроўскі ўспамінае:

[10] Пятроўскі Ян. Мэмуары. Стагодзьдзе ў рэтраспэкце. Гэйнсвіл, 1988.С.158-159. С.160.

[11] Тамсама. С.167-168.

«Ляўковічыха дзейнічае. Ляўковіча няма. Ён загінуў. Пасля яго праўнаю кватаранткаю становіцца жонка Ляўковіча. Яна «прадае» кватэру. Гаспадар дому, магчыма, ёсць добрым польскім патрыётам. Усё тое ў кватэры, чым гаспадар кватэры жыў, выкідаюць на сметнік, альбо аддаюць у адну з варшаўскіх бібліятэк...».[12] Ёсць мажлівасць, што ўсё сабранае Леўчыкам у варшаўскай кватэры, забрала Акцыя каталіцкая ў Варшаве.

Але Гальяш Леўчык не памёр, не загінуў, як думала Зося. Ён са Слоніма дабраўся да Варшавы і прыйшоў у сваю кватэру. Але ў ёй ужо жыла іншая сям'я, якая, нібыта, нічога не ведала пра папярэдніх кватэрантаў. Так знакаміты беларус застаўся без кватэры і без каштоўных беларускіх архіваў.

А што Зося Ляўкевіч? Яна вярнулася ў Слонім. Гальяша там не было.За ёй пачала актыўна сачыць нямецкая паліцыя, якой не падабаліся яе частыя выезды ў Варшаву. Паліцыя ўзяла ў яе распіску пра тое, што яна больш не будзе пакідаць межы Слоніма. Але Зося спрабавала зноў выехаць у Варшаву. Яе хутка арыштавалі, і ў камеру паліцыя падаслала правакатаршу, якой жанчына расказала, што яна захоўвае ў падушцы польскі сцяг з вышытым арлом. У хатцы на вуліцы 3-га траўня ў Слоніме немцы, сапраўды, знайшлі сцяг і незадоўга пасля гэтага ў 1942 годзе яе расстралялі на Пятралевіцкай гары каля Слоніма.

У 1944 годзе не стала і Гальяша Леўчыка. Ён загінуў ці памёр ад голаду ў трагічныя дні Варшаўскага паўстання.

---

[12] Тамсама. С.168.



# Яна Будовіч

паэтка, крытык, парадыст. Аўтар кнігі паэзіі «Дуэль паглядаў» (2002 г.). Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Месца моцы

***Міхал Бараноўскі. «VOLUMEN.1». Кнігазбор. «Пункт адліку». Мінск, 2016.***

Як шмат твораў мастацтва прысвечана каханым! І зусім няшмат знойдзецца творцаў, тым больш сярод моладзі, якія ахвяруюць вершы альбо цэлыя кнігі бацькам. Асабліва пакуль тыя жывыя... «Бацькам сваім прысвячаю...», — чытаем пад вокладкай зборніка паэзіі Міхала Бараноўскага «VOLUMEN.1», што пабачыў свет у выдавецтве «Кнігазбор» (Мінск, 2016) у падсерыі «Пункт адліку».

*Матчына, матчына, матчына.*
*Бацькава, бацькава, бацькава.*
*Гэта зямля ніколі не будзе тваёй...*

Аўтарскі эпіграф вызначае лейтматыў, асноўны сэнсавы стрыжань, на які «нанізаны» вершы. Зямля — матчына, бацькава — і ёсць для аўтара ***месца моцы***. А раней так называлі пэўную тэрыторыю, якой уласцівыя нейкія містычныя, духоўныя асаблівасці, дзе сканцэнтравана магутная энергетыка. У старажытнасці там прыносілі ахвяры баствам, будавалі алтары, капішчы. Паспрабуем трапіць разам з аўтарам у ягонае месца моцы... Што мы там бачым? Традыцыйная беларуская вёска з яе спрадвечнымі архетыпамі (але паэзія М. Бараноўскага не мае нічога агульнага з плынню 1980-х, калі ідылічна пісаць пра вёску лічылася модным, і вырасла цэлае пакаленне паэтаў, якія рыфмавалі «вёскі-палоскі», а горад малявалі як асяродак сусветнага зла, пры гэтым зрабіўшы ўсё магчымае, каб вырвацца з вёскі і «зачапіцца» за горад): *млын, рака (чорная), агонь, агмень, вогнішча, полымя, камень, хлеб, палын, дрыгва, твань, крыжы пад небам, жураўліны клёкат*... Спакваля паглыбляемся ў нашу ментальнасць, як у дрыгву, апускаемся ўсё ніжай і ніжай. Аўтар, як гіпнатызёр, заварожвае, пагружае чытача ў трансавы стан:

*На чорнай рацэ стаіць млын,*
*Што меле палын,*
*Каля яго —*
*Агонь,*
*А ў тым агні пякуць хлеб палыновы,*
*Бо стары хлеб летась пагніў...*

Даверліва ступаючы след у след — усё тут знаёмае, блізкае, звыклае для традыцыйнай свядомасці, чытач паспеў «расслабіцца»... і тут раптам... Як на цябе выліваюць цэбар ледзяной вады, што адразу працверажае, не дае шанцу застацца ў зоне камфорту:

*Вось табе! —*
*Колькі яшчэ трэба?*
*Нізка вершаў спатоліць смагу?*
*А нам усё — толькі скарэй бы,*
*А што далей — без розніцы:*
*Кольт ці магнум.*

Але чаго дзівавацца, калі ў нас — гены нашых вынішчаных продкаў, якіх пад корань касілі шматгадовыя войны, а потым і рэпрэсіі... Падмацаваныя даносамі сваіх жа «добразычліўцаў» (згадваецца народная мудрасць пра саміх сябе: якая найвялікшая радасць для беларуса — калі ў суседа карова здохне)... Але ж галоўная наша ўласцівасць — адраджацца з нічога, як тая птушка-Фенікс, паўставаць з попелу... (да месца працытаваць мексіканскую прымаўку: *нас пахавалі, але не ведалі, што мы — насенне...*)

У «месцы моцы» далёка не ўсё бясхмарна і ідэальна. Сведчаннем таму і распаўсюджаныя ў зборніку вострыя сацыяльныя матывы:

*У пошуках ежы знікла цэлае пакаленне...*
*А лядоўня, як заўсёды, зачынена на абед...*
*Счарсцвеў хлеб...*
*і, збіраючы крошкі, поўзалі на каленях...*
*Мае тварышкі... па ложку і барацьбе...*

Але і тут не без нечаканасці, — у завяршэнні верша аўтар здзіўляе:

*Аўрабор скруціўся вужом пад ганкам...*

Не можа быць выпадковым гэты адзін з самых старажытных сімвалаў: змяя, якая кусае сябе за хвост. (Тут, можа, лагічней было б сказаць: вуж скруціўся аўраборам, бо як можа скруціцца ўжо скручанае паводле свайго вызначэнняі). У старажытнашумерскіх міфах аўраборам называлі міфічную існасць. Знак гэты сустракаецца ў культуры ўсіх без вынятку народаў свету, а след яго паходжання губляецца напачатку першых цывілізацый. Сімвалізуе бясконцасць, цыклічнасць быцця: змену дня і ночы, паравін году, месяцовых фаз, а таксама цыклічнасць жыцця і смерці... Што ж ён сімвалізуе ў вершы М. Бараноўскага? Беспрасветнасць? Невырашальнасць праблем, спрадвечную неўладкаванасць?.. Ці тое, што беларус жыве, толькі калі (і таму што) выжывае, штодзень змагаецца за кавалак хлеба?

Яшчэ адна страфа, істотная для разумення творчасці М. Бараноўскага і яго светаадчування:

*А людзі ў роспачы гоняць галопам коней:*
*Ніводнай хвіліны*
*На роздум і ўспаміны...*
*Тут толькі нябожчык можа застацца спакойным*
*Ды Колас на плошчы свайго азімага імені.*

Як трапна і тонка лірычны герой адчувае пульсацыю і шалёны рытм часу!.. А таксама атмасферу месца. А яшчэ ён вельмі патрабавальны і адчувальны да слова — таму часам любіць вытанчаныя слоўныя «падачы»:(як тут: *«Колас на плошчы свайго азімага імені»*). (Падобны прыклад і ў назве зборніка: *Volumen.1* — нібыта адсылка да музыкі — на дысках (ці як раней было на касетах) часта значыцца: vol.1, vol.2 — то бок частка 1, частка 2 і гэтак далей. Насамрэч «volumen» з лацінскай мовы перакладаецца як скрутак — і, дарэчы, у кнізе шмат біблейскіх алюзій і адсылак да Бібліі, а, як вядома, некаторыя біблейскія тэксты знаходзілі менавіта ў скрутках...)

А ў ніжэйпрыведзеным творы сканцэнтравана адчуванне аўтарам нашага менталітэту, квінтэсенцыя нашага нацыянальнага характару. Мала таго — аўтар, знаходзячыся адначасова і ўнутры карцінкі, і звонку яе, уздымаецца над сітуацыяй, яго свядамасць пашыраецца і ён пачынае бачыць больш, чым просты «чалавек з натоўпу»: высокі пафас ператвараецца ў поўныя горычы кпіны:

*У пакой зайшоў незнаёмы,*
*Спыніўся і тупнуў нагой:*
*«З вас людзей мне зрабіць дапамогуць*
*Толькі вада і агонь!*
*З гэтай хвіліны мы рушым наперад,*
*Бо я не цярплю пустаты!»*
*На грудзях яго ззялі «Зорка Венера»*
*і ордэн «Красной звезды».*

Не верыш, што гэта сцёб дзеля сцёбу, альбо аўтарскі прыём шакаваць чытача. Не верыш, што гэта здзек з нечага... слабейшага, нехлямяжага... — занадта моцна аўтар «замяшаны» на тутэйшай гліне і дажджах. Хутчэй ён кпіць з навязанага нам вобраза забітага і цёмнага мужыка, які сядзе на цвік і скажа, што так і трэба, і будзе чакаць, што нехта прыйдзе і выведзе яго да шчаслівага жыцця...

*і птушкі мусяць ляцець на поўдзень,*
*Па белай крыві разганяючы ртуць.*
*Але я застаюся,*
*Я застаюся тут. —*

Кажа лірычны герой, бо менавіта тут — месца моцы. І нягледзячы на холад і беспрытульнасць, няўпэўненасць і ў *будучыні*, і ў *мінулым* толькі тут можна адчуваць сябе жывым. І ў гэтым няма нічога гераічнага ці патрыятычнага (як для птушак няма геройства ў тым, што яны лётаюць, і патрыятызму ў тым, што на лета яны вяртаюцца ў родныя пенаты) — нармальная чалавечая патрэба, як і іншыя. Месца моцы набірае сваю сілу спакваля, яно жывіцца нашымі марамі, ідэямі, урэшце рэшт, любоўю. Але і наўзамен падсілкоўвае сваіх «донараў» — таму яны «донарамі» і не з'яўляюцца, тут хутчэй з'ява сімбіёзу вышэйшага парадку. Таму яно, месца моцы, і не адпусціць сваіх герояў:

*Сябры,*
*Калі праз цела маё*
*Пацягнуцца кветкі да неба*
*і раптам мінак выпадковы пацікавіцца,*
*Хто тут і што,*
*Адказвайце:*
*«Беларусь...»*

І — дзякуй перадусім бацькам, што яны нарадзілі нас. Тут, дзе:

*Жывое прагне жывога,*
*Але пакуль вагітная айчына кавалкам шкла*
*Разарве сабе ўлонне,*
*Мы ў яе палоне, мы ў яе палоне...*

І гэты палон будзе вечным, вечным... Пакуль адчуваем боль — існуем...



# Анатоль Трафімчык

літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.

# Цёплыя колеры слоў...

***Пінчук Я. Фарбы душы. Мінск: Галіяфы, 2017. 84 с.***

Назва кнігі Яніны Пінчук насцярожыла. Названую нематэрыяльную субстанцыю настолькі «заездзілі» паэты!

*Ну колькі можна пра душу,*
*Ну колькі можнаі —*

Усклікнуў быў адзін з іх яшчэ не за памяццю гэтай аўтаркі. Але тут жа заўважыў:

*Ніяк душу*
*Не затушу,*
*Не пагашу*
*Агонь трывожны.*

Не пужае (асабліва паэтак) і небяспечная аманімія слова «душа» ў родным склоне, паводле чаго ўзнікае яшчэ адно значэнне — асфіксіі. Наўрад ці эстэтычныя прыярытэты любога з творцаў (калі ён, вядома, не мае тытул *маркіза*) уключаюць у сябе такія схільнасці.

Так што *«души прекрасные порывы»* працягваюць прарывацца і ў наш век, які паспеў перажыць нават постмадэрнізм. Увачавідкі адбываецца вяртанне да традыцыі. Творчая моладзь усё часцей хоцькі-няхоцькі кіруецца класікай. Такім чынам ствараецца пэўны мэйнстрым. У ім не кожнага чутно. *Але хто мае вушы, каб чуць, няхай чуе.*

Зрэшты, такое літаратурнае «біяполе» (пр)адчувалі многія. Успомнім яшчэ аднаго, дастаткова пазнавальнага, каб яго імя прамаўляць услых:

*Я говорю с тобой, и не моя вина,*
*если не слышно. Сумма дней, намозолив*
*человеку глаза, так же влияет на*
*связки. Мой голос глух, но, думаю, не назойлив.*

Тое ж маглі б сказаць і сучаснікі. У тым ліку аўтарка разглядаемага зборнічка вершаў, ужо вядомая некаторым чытачам сваім кніжным выданнем прозы («Горад мрой», 2016).

Галоўнае тут, відавочна, не гучнасць ці — тым больш — назойлівасць. А, прабачце, далей скажацца з дапамогай той жа класікі, суцяшэнне, надзея. «У таго, хто бярэ ў рукі пяро, надзея ёсць таксама. О, паэт да таго ж бывае яшчэ крыху забабонным. Наіўны, ён хоча перамагчы сапраўднасць, ён хоча верыць: я засцярогся ад бяды — бо сказаў».

Такая ж наіўнасць, «і штосьці дагэтуль нязнанае, і штосьці даўно знаёмае» завершавана ў радках Я. Пінчук, якая паўстае як лірык:

*...Амаль распранутая,*
*Адкрытая для натхнення,*
*Для новых уражанняў...* (с. 8)

Яе творы сапраўды выглядаюць безабароннымі ад прэпарыравання. Ці то вытанчанага эстэта. Ці то беспардоннага сноба. Для паэткі нібыта ўсё проста. Напрыклад: «Прыгрэла сонейка», — і адразу з'яўляецца вынік, —

*Пупышкі вершаў*
*Паўсюдна,*
*Куды ні зірні.*
*Растуць радкоў*
*Танюткія галінкі,*
*і аповед-дрэва*
*Мне проста ў сэрца*
*Запускае карані.* (с. 17)

Чым не яшчэ адна *«исчерпывающая картина весны»?* Чым не паралель з вобразнасцю раўнютка стогадовай даўнасці:

*Весна, я с улицы, где тополь удивлён,*
*Где даль пугается, где дом упасть боится,*
*Где воздух синь, как узелок с бельём*
*У выписавшегося из больницы.*

*Где вечер пуст, как прерванный рассказ,*
*Оставленный звездой без продолженья*
*К недоуменью тысяч шумных глаз,*
*Бездонных и лишённых выраженья.*

Шматлікія супастаўленні, тут прыведзеныя, як можна падумаць, якраз і з'яўляюцца сведчаннем схільнасці Я. Пінчук да постмадэрнізму. Аднак яна сама кажа, што гэта — «скарбы, міжволі мной сабраныя» (с. 10). Прычым — у беларускіх паэтаў, якім — назваю — і адрасаваны верш. Адчуваецца, што тая ж вобразнасць у паэткі ўзгадаваная на родных літаратурных палетках. Прывядзём колькі, на наш погляд, удалых ці — як мінімум — цікавых прыкладаў:

*...і ртуць дрыжыць на павучыных кроснах.* (с. 23)
*Ўздыхае сонна ў лужынах вада...* (с.67)
*і столь — нібыта аркуш*
*для думак ранішніх.* (с. 71)
*Хочацца да вясны*
*Прыкінуцца валуном.* (с. 73)

Разам з тым тут прасочваецца яшчэ адна школа — мастакоўская. Гэта адчуваецца ўжо само па сабе: пры чытанні ўзнікаюць жывыя карціны. Падмацоўваецца такое адчуванне-меркаванне яўнымі і прыхаванымі адсылкамі да прадстаўнікоў ці з'яў выяўленчага мастацтва:

*Тут зіма паўсюль старажытная,*
*Быццам Брэйгелевы палотны...* (с.57)
*Будзем з табой філасофстваваць,*
*Абмяркоўваць нашу адметнасць...*

*А потым за рукі возьмемся*
*і скокнем у беспрадметнасць.* (с.56)

Апошняя цытата ў звязку з абазначаным у самым пачатку верша локусам («Мы будзем бадзяцца па Віцебску...») з'яўляецца канчатковым цвікам ва ўзвядзенне мосціка да Шагала.

Зрэшты, Я. Пінчук не хаваецца як мастачка. Пра гэта яна гаворыць ужо размяшчэннем асабістай карціны на вокладцы. Дый на вершах імкненне да пэндзля сказваецца. Вось мы бачым «пейзаж» (назва верша з малой літары), а вось — «Васількі», «Майскі дзень», «Лістападаўскі шлях»... і паўсюль — колеры, колеры...

*А яшчэ — шмат кветак (як і на карціне-вокладцы):*
*Вось гэта — рамантыкі бэз,*
*А гэта — шыпшына самоты,*
*А там вунь — кахання ружа,*
*А побач — лілія цноты;*
*А вось анемона журбы,*
*Півоніі славалюбства...* (с. 18)

Не дзіўна, што такая кветкавасць адразу кідаецца ў вочы крытыкам — і яны пачынаюць свой водгук з гэтага: «Першае ўражанне — лагодна-кветкавае (мо, таму што летам чытаю?) Другое: невялічкая кніжыца на добрай бялюткай паперы з чымсьці — і чамусьці я перакананая ў гэтым — менскімі вершамі».

Яшчэ ў адным вершы кветкі становяцца метафарай беларускай мовы:

*...укленчыўшы,*
*успамінаеш*
*гэты водар*
*забытых імёнаў.* (с. 21)

З аднаго боку, тут гаворыцца пра амнезію чалавека гарадскога, які прызабыў пра прыроднае хараство. Але з іншага — падтэкставага — ідзецца пра беспамяцтва экалагічнае, гістарычнае, моўнае. Таму і ўкленчванне тут набывае яшчэ адзін сэнс — малітоўны: маўляў, ***не забывайце ж*** *мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі*.

Разам з тым паэтка не збіраецца пазбаўляцца статуса месціча. Відавочна, ёй у горадзе збольшага ўтульна. Прыкметнае імкненне ў яе да ўрбаністычных пейзажаў. Пачынаючы з М. Багдановіча гэты выраз для беларускай літаратуры не з'яўляецца аксюмаронам (пейзаж, нагадаем, гэта жанр выяўленчага мастацтва, у якім асноўным прадметам выяўлення з'яўляецца прырода). Таму, з прычыны ўсталяванай традыцыі, тут лёгка пачувацца і лірыкам-неафітам.

Таксама відавочным з'яўляецца схільнасць вершаў Я. Пінчук да імпрэсіянізму. Яна выхоплівае імгненні, падгледжаныя ў часе і прасторы, — і паэтычна пераплаўляе: сярод будзённасці бачыць узвышанае ці, па крайняй меры, пэўны вобраз:

*Людзі ў тунэлі спяшаюцца,*
*Цякуць, як грунтовыя воды...* (с. 20)
*выбухнула лістота*
*і расквяціла шэрасць (*с.48)

Да такога светаўспрымання паэтку нешта штурхае (што натуральна). У такім стане яна сама сабе не належыць — і «здаецца прыгожым / Гэтым восеньскім днём / Літаральна ўсё» (с.45).

Разам з тым імпрэсіянізацыя часам заходзіць настолькі далёка, што, напэўна, ніхто, апроч самой аўтаркі, не можа ўлавіць сэнсы ці адчуць эстэтыку. У такіх выпадках пасля прачытання верша ўзнікае нейкі вакуум (гл., напрыклад, «Праўдзі мяне, восень-сястра...» — с. 31, «Чырвонаармейская» — с. 40-41, «Танга ля ратушы» — с. 43-44 і інш.). Прычым тыя вершы могуць падарыць і вобразныя залацінкі. Але цэласна творамі не ўспрымаюцца. Іншым разам здаецца, што паэтка прымяняе знарочыстую цьмянасць. У сувязі з гэтым яна сама сябе нават не разумее: «Хто мне скажа, навошта гэта...» (с. 51).

Ёсць і адваротны бок медаля. Часам вершы Я. Пінчук грашаць спрошчанасцю і банальнасцямі. Напрыклад, паэтка абыгрывае вядомы антынамічны штамп, які ў выкананні Я. Пінчук выглядае наступны чынам: «салодкі хлеб Еўропы» versus сапраўднае існаванне тут, на радзіме («магу... БЫЦЬ — толькі Тут» — с. 27). Ці пераймае нашаніўскія матывы, да таго ж тоесным голасам, што сёння гучыць ужо нават і трывіяльна:

*З народам хачу быць еднай,*
*і разам імкнуцца да мар —*
*Не трэба мне мора раскошы,*
*Мне мілы родны гушчар.* (с. 29)

Аднак не варта крытыцы на падобных слабых месцах зацыклівацца. Яны даволі тыповыя для многіх творцаў, і не заўсёды нават на пачатку літаратурнага шляху.

Асобную ўвагу варта ўдзяліць некаторым элементам архітэктонікі вершаваных твораў Я. Пінчук. Паэтка сама падштурхоўвае да гэтага, кажучы ў першых жа радках кнігі:

*Цяпер вось сяджу ізноў*
*і ўпарта шукаю рыфмы...* (с. 7)

На жаль, сугучныя клаўзулы даводзіцца часам шукаць і чытачу. Найперш таму, што рыфмоўка большасці вершаў (верлібраў у разлік не бяром) зводзіцца да схемы АБВБ. Уражанне такое, што пошук рыфмаў аўтарцы даецца вельмі складана. Бо нават наяўныя пары сугуччаў значнай сваёй часткай характарызуюцца вучнёўствам. Возьмем дзеля прыкладу толькі адзін верш, прычым канцэптуальны для творчага credo паэткі — «Вера ў прыгажосць» (с. 22). Вось такія нас чакаюць клаўзулы ў «пунктах Б»:

прайшоў — шоу (гэта рыфма яшчэ хай сабе),
карункі — малюнкаў (банальна і недакладна),

воўк — шоўк (вось каб «шоўк» з «прайшоў» зарыфмаваць!),

прыгажосць — злосць (што тут казаць пра тое, што гэтыя паняцці не сугучныя),

век — чалавек (але і гэта лепей, чым «век — снег» — с. 74).

Схему з дзвюма рыфмамі ў катрэне — АБАБ — увогуле маюць адно два вершы з кнігі: «Заводскі раён» і «Першы снег». Аднак у першым паэзіі мы не знойдзем — так, дробная (да таго ж зусім чужая *непралетарскай* рэцэпцыі) думка: «Тут жыве проста процьма ўспамінаў» (с. 38). Другі — нашмат лепшы: перадае настрой, транслюе вобразы, хоць і не без некаторых «але».

Шмат у выданні вершаў, прызначаных для альбомнага фармату. У іх аўтарка расказвае пра звыклыя рэчы (гл. вышэй пра «Заводскі раён), пра сяброўскія кантакты («Масква»), пра свае банальныя думкі («Малітва», «Даруй мне, Мінск, калі ласка...»). Паэтычных фарбаў тут практычна не знойдзем (што глядзіцца дысанансам з назвай кнігі). А яны ж у паэткі ёсць! Думаецца, іх не варта шкадаваць нават для альбомнай лірыкі.

Мы не заклікаем, *каб слова падносіла цэглу*, маўляў, *вершы ў альбом і другія напішуць*. Якраз наадварот. Дзякуючы паэтычнаму бачанню будзённасць ззяе колерамі, кветкамі, праменіцца водарамі, ахутваецца душэўнасцю. Інакш *заплача песня наша*. Тым болей калі гэта песня будзённая і штодзённая. *Фарбы душы* не зашкодзяць.

Падагульняючы сказанае, можна выразіць упэўненасць, што ў выпадку Я. Пінчук песня не заплача, мова наша не пакінецца, фарбы не страцяць сваёй насычанасці, а словы данясуць да чытача свае цёплыя колеры. Хаця б таму, што выразна адчуваецца, як паэтка ўвесь час задаецца пытаннем:

*Спадзяюся, ніхто не крыўдуе —*
*Бо кранаю ж я нечыя сэрцы?* (с. 60)

Пагодзімся з ёю. *Дабро і надзея тут накрэслілі свой круг*.



# Алесь Бяляцкі

літаратуразнаўца, празаік, крытык, эсэіст.
Аўтар кніг: «Літаратура і нацыя» (1991 г.), «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера» (2006 г.), «Асвечаныя Беларушчынай» (2013 г.), «Іртутнае срэбра жыцця» (2014 г.), «Халоднае крыло Радзімы» (2014 г.), «Бой з сабой» (2016 г.) і інш. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў мястэчку Вяртсіля Сартавальскага раёна ў Карэліі. Жыве ў Мінску.

# Новае неба Адама Глобуса

***Глобус Адам. «Новае неба». Мінск: Галіяфы, 2010 г.***

Можа, разоў з пяць браўся я напісаць пра апошнюю кнігу прозы Адама Глобуса «Сказы» і пяць разоў казаў сабе: не. Пісаць пра яго не буду. З розных прычынаў. Не так даўно прачытаў у «Звяздзе» ягоныя нататкі пра Міхаіла Савіцкага ды іншых беларускіх мастакоў і зразумеў, што ў майстэрстве даводзіць іншых людзей да шалу Адам Глобус дасягнуў віртуознасці. Ну нашто пра яго пісаць, калі столькі людзей яго ціха ненавідзяць? Затым у «Сказах» ужо прачытаў, як ён піша пра маю сяброўку, і зноў вырашыў — не, не буду пісаць! Праз нейкі час іншая мая сяброўка напісала, што ён яе мэтанакіравана знішчае ў фэйсбуку, і яна была вымушаная выдаліць сваю старонку з інтэрнэта. Я суцешыў яе і прывёў некалькі важкіх аргументаў, чаму ён так робіць, а для сябе яшчэ раз вырашыў — не, нішто не прымусіць мяне напісаць хоць што-небудзь пра Адама Глобуса.

А потым я адгарнуў вокладку зборніка выбраных вершаў Адама Глобуса «Новае неба», які мне даслала сюды, у калонію, трэцяя мая сяброўка, і прачытаў у аўтографе: «На добры ўспамін пра часы нашай маладосці...» і ўсе мае цвёрдыя «не» пасля такога банальнага прысвячэння паваліліся. Бо Адам Глобус, падпісваючы зборнік, ведаў, што ён меў на ўвазе. Ведаў пра гэта і я. Усялякія згадкі пра «Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» раззбройваюць мяне, і я станаўлюся бесхарактарным, як П'ер Бязухаў у «Вайне і міры» Льва Талстога. Як і ён, я разумею, што дадзенае самому сабе слова не пісаць пра Адама Глобуса нічога не значыць. Бо заўтра я, можа, памру, а можа, жыццёвыя абставіны складуцца так, што ў мяне не будзе часу на тое, каб запісаць свае развагі пра творчасць Адама Глобуса, а я хачу падзяліцца імі з чытачом! А, не дай Бог, што зробіцца з Адамам Глобусам! І я ізноў жа не змагу тады напісаць пра яго так вольна, як цяпер. Мудрыя лаціняне казалі: пра памерлых — ці добра, ці нічога. А пра беларускіх пісьменнікаў — тым больш, кажу я.

Нягледзячы на звычайнае, як для чужога вока, прысвячэнне на кнізе вершаў «Новае неба», насамрэч, часы нашай маладосці былі зусім не звычайныя. І такімі іх рабілі мы. І гэта тое сапраўднае, што назаўсёды звязала нас у мінулым.

Я не магу не напісаць пра Адама Глобуса, нягледзячы на ўсе акалічнасці. Але я знаходжу кампрамісны варыянт. Я напішу не пра ягоную апошнюю кнігу прозы «Тэксты», а вось пра гэты зборнік вершаў пад назваю «Новае неба», які выйшаў у 2010 годзе і які ёсць фактычна зборнікам выбраных вершаў Адама Глобуса за чвэрць стагоддзя ягонай паэтычнай творчасці.

Мне падаецца, гэта будзе добры кампраміс. У вершах, у адрозненне ад той плыні свядомасці, якая ўвасабляецца ў Адама Глобуса ў прозе, ён амаль

нікога не чапляе і не зневажае. А можа быць, гэтага не дапускае сам узнёслы стыль вершаванага радка. Апроч таго, лепшыя ягоныя вершы былі напісаныя даўно, а з цягам часу любы чалавек не становіцца лепшым.

А можа быць, усё таму, што ён забагата піша, — думаю я. Можа, гэтая вядомая пісьменніцкая формула: ані дня без радка, згуляла з Адамам Глобусам злы жарт. Можа, ён, не раўнуючы, як Леў Талстой, хоча пакінуць пасля сябе амаль дзевяноста тамоў розных тэкстаў, пісьменніцкай спадчыны. Вось ён і натуе старанна на паперы ці ў кампутары ўсё, што лічыць для сябе патрэбным. І розум, крытычны з юнацтва, цынічны ад бізнэсу, падсохлы ад смагі, разважлівы і зласлівы розум Адама Глобуса весела скача па рэбрах і костках не такіх паваротлівых як ён і крыўдлівых беларускіх мастакоў і пісьменнікаў, сяброў і знаёмых. Ёсць у гэтых абстынентных скоках і свае святыя мясціны, і свае пэўныя правілы гульні, і багата чаго яшчэ і цікавага, і не зусім.

З «Сказаў», у якія Адам Глобус уціснуў тры розныя кніжкі, дзве з якіх: «Кругагорскія казкі» і «Хлопчыкі» вартыя асобных выданняў, калі б адкласці ў архіў пісьменніка тое, друкаваць зараз з розных прычынаў не варта, можна было б зрабіць файную кніжку. А ўсё таму, што няма ў гэтай кнігі так патрэбнага ёй добрага рэдактара. Адам Глобус, папрацаваўшы сам некалі рэдактарам, і працягваючы працаваць у выдавецкім бізнэсе, праігнараваў рэдактарскую працу. Не тую, па вычытцы тэкстаў, — яны збольшага вычытаныя, а тую, дзе рэдактар патрэбны як умелы дызайнер, які з зараслага і забуялага лесу можа зрабіць дагледжаны парк. «Парк» — менавіта так некалі Адам Глобус назваў свой першы зборнік вершаў у 1988 годзе. На маю думку, тры паэты адфарматавалі маладую беларускую паэзію ў другой палове 80-х і пачатку 90-х гадоў. Яны задалі нечуваны і нябачны дагэтуль у сучаснай беларускай літаратуры ўзровень унутранай і творчай свабоды. Вось жа адзін з іх і быў Адам Глобус.

У тыя часы паэзія і паэтыка, апяванне вясковай савецкай Беларусі перажывала сістэмны крызіс. Горад, які ў 70-я гады высмоктваў сельскую моладзь ды імкліва змяняў да непазнавальнасці адвечныя беларускія краявіды, горад, у якім папярэднія пакаленні адчувалі сябе чужымі, бы «сена на асфальце», багата для каго з пакалення «Тутэйшых» быў ужо родным і натуральным. Мы жылі ў горадзе, мы вучыліся ў горадзе, мы ўсведамляліся ў горадзе, горад быў — нашым. Таму адразу Адам Глобус пазіцыянуе сябе як беларускі гарадскі паэт. Санет «Сталіца» можна лічыць за асабісты творчы маніфест маладога паэта. Ён гучыць моцным дысанансам у хоры тагачаснай паэтычнай лірыкі:

*Мне падабаецца: мікрараён —*
*Жалезны дух у канстуктыўным целе,*
*Дзіцячы пляц і школьны стадыён...*
*Мне падабаюцца шурпатыя панэлі.*

*Люблю метро, асветлены вагон*
*І колы, што на грукат захварэлі.*

*Люблю, калі састаў бярэ разгон*
*У доўгім, як працоўны дзень, тунэлі.*

*Мне да душы падмуркі ў катлаване,*
*Абмазаныя ў чорную смалу.*
*Мне да душы ісці па рыштаваннях*

*На самы найвышэйшы дах. Люблю*
*Убачыць на дарожным скрыжаванні*
*Рассыпаную з кузава зямлю.*

(Сталіца, с. 75)

Гарадская эстэтыка Адама Глобуса была незразумелай і брыдкай для беларускай паэтычнай супольнасці, якая, сціснуўшы зубы, цярпела чужы па духу, зрусіфікаваны горад, як непазбежнае зло. Не ўспрымала ягоныя вершы і тагачасная наменклатура, якая па ўказцы з Масквы вылучыла для беларускай культуры стойла ў савецкай стайні і, зачыніўшы ўсе завалы, трымала яе там у ізаляцыі. Таму самы першы зборнік вершаў Адама Глобуса, хоць і быў ужо набраны ў дзяржаўным выдавецтве, а іншых тады і не было, але быў затым раскіданы. Паказальна, для ўсіх маладых і старых беларускіх творцаў. Але Адам Глобус быў даволі ўпартым, у меру адважным і дастаткова самастойным. Цяжкасці не адбілі ў яго жаданне пісаць. Ён любіў свой Менск, ён жадаў складаць пра яго вершы, ён спяваў пра яго свой аднастайны рокавы напеў, шукаючы, знаходзячы і выкшталцоўваючы адметную эстэтыку з скажоных рысаў індустрыйнай гарадской цывілізацыі. Рыхтык такі ж горад маляваў на сваіх палотнах Фернан Лежэ:

*ідуць каменныя гіганты*
*На эбанітавых руках*
*Пенабетонныя атланты*
*Нясуць урбаністычны гмах.*

*Над нерухомасцямі блокаў,*
*Над пенапластавай гарой,*
*У паралонавых аблоках*
*Стракоча верталётны рой.*

(Шпацыр, с. 65).

Знайсці гэтую эстэтычную вабнасць у рысах і грукаце індустрыйнага савецкага горада цяжка, але Адам Глобус нібы і не зважае на гэта. Бо змалку ён гадаваўся сярод беларускіх хрушчоўскіх панэльна-бетонных «фавэлаў» на запаскуджаных сабакамі і катамі мізэрных дзіцячых пляцоўках. Яго не здзівіць смуродам цесных пад’ездаў і вечна разрытымі дварамі. Ненатуральнае захапленне ў яго выклікалі не родныя лабірынты менскіх вуліц, а драўляныя хаты Койданава і Варакомшчыны.

Такая парадаксальная сутнасць чалавечага таленту, здатнага апяваць і ўзвышаць нават рэзрух і смерць. Многія тагачасныя беларускія літаратары ўспрымалі горад як цывілізацыйную магілу для беларушчыны. Беларуская мова жыла ў вёсцы. На гарадской мяжы сканчалася яе валадарства. З спеўнай і мілагучнай яна пераўтваралася ў брыдкую трасянку. Вось жа, гарадскі беларускі паэт Адам Глобус рашуча бурыць гэтыя стэрэатыпы. Гэта ўяўлялася і прыватным унёскам у новае беларускае адраджэнне, і своеасаблівым мастацкім хэпэнінгам працягласцю ў чалавечае жыццё.

Нагадаю, што праблема беларускага горада паўставала і перад класікамі беларускай літаратуры. І калі Якуб Колас, удзячны сын беларускай вёскі, глядзеў на горад здзіўлёнымі вачыма «дзядзькі», які ездзіў у Вільню, дык для Янкі Купалы горад быў рэальнай неабходнасцю, местам, дзе беларуская шляхта спрадвек вучылася і залатвала розныя гаспадарчыя ды адміністрацыйныя справы. Шляхта не баялася места-горада і не грэбавала ім. І для яе ўсё роўна было, што засценак, што мястэчка, што Менск, што Пецярбург. Для Максіма Багдановіча ж горад быў цалкам сваім. Ён гадаваўся і рос у губернскіх Менску і Горадні, у Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі. Для яго экзотыкай былі вясковыя краявіды Ракуцёўшчыны. І ён пісаў вершы пра сталіцу, гарадскія вершы. Толькі што ў ягоны час сталіцай беларусаў была яшчэ Вільня, а не Менск.

Максім Багдановіч першым у беларускай літаратуры шукаў і знаходзіў «красу» ў гарадскім тлуме, грукаце і мітусні. Таму не дзіва, што Максім Багдановіч стаў паэтычным настаўнікам Адам Глобуса, а Адам Глобус — паслядоўнікам Максіма Багдановіча. Ад Максіма Багдановіча ў Адама Глобуса і любоў да класічных формаў верша. Таксама відаць, што старанна выбудоўваючы структуру сваіх вершаваных зборнікаў, за ўзор Адам Глобус трымаў у галаве багдановіцкі «Вянок».

Цяжкая і бясплённая спадчына сацыялістычнага рэалізму ў літаратуры забывалася, як нудотны сон. Паэты з пакалення «Тутэйшых» вярталіся самі і арыентавалі ўсю беларускую літаратуру на чыстыя крыніцы адраджэнскай паэзіі пачатку ХХ стагоддзя.

Ад пачтаку лёс быў спрыяльны да Адама Глобуса. Ад нараджэння ён адразу атрымаў моўную фору перад іншымі беларускімі гарадскімі дзецьмі. Ён нарадзіўся ў сям'і будучага класіка беларускай літаратуры, ягоная маці была філолагам па адукацыі. Беларуская мова змалку для яго, гарадского хлопчыка, была роднай моваю маці, сям'і. І гэта такая фора, якая перабівае ўсялякія іншыя зласлівыя развагі накшталт таго, што на дзецях геніяў прырода адпачывае. Хутчэй у выпадку з Адамчыкамі падыходзіць іншая прымаўка пра яблыню і яблык, які ад яе далёка не адкочваецца.

А другую творчую фору Уладзімір Адамчык (Адам Глобус) выцягнуў сам, пайшоўшы вучыцца на мастака. Пры ўсіх «але» мастацкая вучэльня, а за ёй тэатральна-мастацкі інстытут былі ў 70-я гады найбольш свабоднымі ў Беларусі навучальнымі ўстановамі. Там працавалі цікавыя выкладчыкі, асобы, і ву-

чыліся таленавітыя вучні, там спелілася творчая асоба Адама Глобуса, якая шукала сябе ў колерах фарбаў і ў фарбах слова.

Адразу скажу, што Адам Глобус — мастак не мой. Я з задавальненнем чытаю ягоныя вершы, я з разнастайнымі адбіткамі эмоыяў на твары чытаю ягоную прозу, але я не ўспымаю неалітычных Венераў, мажных кабетаў з вялікімі цыцкамі і вялікімі шчыліцамі похваў, якія так любіць маляваць Адам Глобус. Здаецца, што ў тыя выгаленыя похвы можна схаваць цэлы свет...

І хаця Адам Глобус-празаік часта і з вялікай асалодаю любіць апісваць розныя стадыі творчага працэсу Адама Глобуса-мастака, я яму чамусьці не веру. Мяне не пераконвае ягоныя майстэрня, мальберт, куча цюбікаў з разнастайнымі фарбамі, натуршчыцы і нават тое, што ён часам прадае свае карціны. Адная мая знаёмая, якая намалявала зграбную паштоўку з праваабарончым зместам, напісала мне, што жыла ў Ізраілі чатыры месяцы і ад суму намалявала там дзве карціны, выставіла іх у інтэрнэце і адную з іх прадала.

Мне здаецца, што ўвесь гэты мастацкі антураж, усе гэтыя мастакоўскія аксэсуары — чыстае прыкрыццё, дымавая завеса. Такім чынам Адам Глобус не пакідае сабе ніводнай вольнай хвіліны, гэтак ён трымае сябе ў руках, каб не сарвацца. Насамрэч, у сваёй майстэрні Адам Глобус, як мне здаецца, забівае адзіноту і хаваецца ад людзей. Урэшце, магчыма я і памыляюся...

Вось чаму дакладна навучыла Адама Глобуса шматгадовае навучанне на мастака, дык гэта бачыць навакольны свет у колерах і матэрыяле. Гэткім каляровым і фактурным, якім Адам Глобус бачыў яго, такім і імкнуўся адбіць у сваіх вершах. Мастацкія інстынкты ды інтэнцыі Адама Глобуса раскрываюцца ў жаданні і ўменні маляваць словам. Такім чынам у яго:

*На шэра-жоўтым сухім асфальце*
*Ляжыць мой сіні вільготны цень.*

(Цень, с. 13)

Рэчы і прадметы маюць у Адама Глобуса колер і якасць. Паэт-мастак дакладна апісвае стан рэчаў ды іх асвятленне:

*У цень залятае сухое лісце,*
*Гарыць блакітна-зялёным агнём.*

(Цень, с. 13)

*У паэта-мастака*
*Блакітна-попельныя хмары*
*Цяклі па дрэвах срэбрам слёз.*

*У мякка-чорныя калюгі*
*Плылі апошнія лісты;*

(Восень, с. 14)

У вершах Адама Глобуса і «валошкавы ранак», і «ружовы голуб», і «маціцовыя туманы», і «сінія фіранкі», і:

*Чырвона-цёмныя лісты,*
*Сарваныя пякучым ветрам,*

*Ляцяць: на чорныя карэнні,*
*Праз ярка-жоўтую зару.*
(Холад, с. 17)

Усе гэтыя цытаты з вершаў са зборніка «Парк». Часам Адам Глобус мастак-паэт выязджае «на натуру» і замалёўвае словам местачковыя краявіды, што ў яго атрымліваецца даволі добра:

*Зачапілася хмара за коміны над хлебазаводам.*
*На рамбазе звінела, заходзілася цыркулярка.*
*Уздымаўся да неба драўляна-бурштынавы водар.*
*За касілкаю сыпала трэск электрычная зварка.*
(На станцыі Койданава, с. 58)

У сваіх вершах Адам Глобус не шкадуе фарбаў, але ў іх амаль адсутнічаюць метафары, а якія ёсць — даволі сціплыя і дакладныя. Мне падабаюцца метафарычна-дакладныя радкі паэта:

*Гумовакрылыя стрыжы*
*Самазахоплена пішчалі,*
*Раскрэслівалі вітражы*
*Над сметніцай і гаражамі.*
(Вечаровае, с. 25)

Вось ужо другое лета «раскрэсліваюць вітражы» над маёй галавою «гумовакрылыя стрыжы». Я люблю назіраць за імі падчас ранішняй і вечаровай праверкі, калі мы стаім, маўчым і чакаем, пакуль палічаць атрад і ўсю зону. Стрыжы менавіта такія і з такога матэрыялу, як апісаў іх Адам Глобус. Яны падаюцца выплаўленымі з чорнай гумы і прашытыя кордам на бабруйскім шынным камбінаце. Яны носяцца туды-сюды бесперастанку, закладаючы віражы, і сварацца, «самазахоплена пішчаць», не зважаючы на чорныя калоны зэкаў, якія нерухома стаяць на праверцы.

Злёгку пазначаны ў «Парку» і час, у якім жыў паэт:

*Вецер кідаў бялізну —*
*Навальніцу палохаў.*
*Ён ляцеў на балконы,*
*Рваў старыя газеты, —*
*І круціла над светам*
*Некралогі з партрэтамі.*
(Гарадскі вечар, с. 71)

Гэта быў такі «некраложны час», калі адзін за другім паміралі старыя генсекі, валадары СССР.

Намаляваў у «Парку» Адам Глобус і сябе, зрабіўшы эскіз да аўтапартрэта:

*Вітаю сваё аблічча*
*У дранай джынсавай куртцы.*
*Яно папяросу курыць*
*І лязгае запальнічкай.*
(Рэклама, с. 72)

Гэты кучаравы, даўгатвары Валодзя Адамчык, з беламорынай у губе, любіць працаваць і дакладна ведае, што ён робіць і чым займаецца:

*Пазітыўна-няярка*
*Скончу дзённыя справы —*
*У «Траецкай» кавярні*
*Вып'ю кубачак кавы.*
(Фотакарэспандэнт, с. 70)

І хоць Адам Глобус з інтэлігентнай сям'і і сам вывучыўся на мастака, але паводзіць сябе рыхтык як хлопец з якіх Шабаноў:

*Я злаўлю цябе, спрытная ластаўка, —*
*Начыкрыжу цвіком ці фламастэрам*
*У салоне начнога аўтобуса,*
*На блакітна-падрапаным пластыку*
*Падпісаўшы — малюнак Глобуса.*
(Аэрадынаміка, с. 56)

Але за знешняй флегматычнай і шэра-будзённай абалонкаю шараговага гарадскога хлопца, якога спрабуе ўдаваць з сябе Адам Глобус, хаваюцца пякельныя жарсці, якія часам прарываюцца на паверхню. І паэт праўдзіва піша пра гэта:

*Я той, у кім жыве глыток спакою,*
*І той, у кім стаіць агонь пякучы.*
*...*
*Я той, у кім заблыталіся страсці,*
*Хто хоча працай выратаваць хворых,*
*Хто не паспеў пакуль яшчэ упасці,*
*Той, хто змяшае разам радасць з горам.*
(Да аўтапартрэта, с. 66)

І ён сапраўды такі! Паэт не маніць і не фанабэрыцца. Тут ужо, калі хто не дае мне веры, раю пачытаць ягоную прозу.

Такі Адам Глобус, які існуе ў «Парку», мне болей падабаецца за сённяшняга. Але, урэшце, і я сам сабе болей падабаюся ў тых гадох. Там, у 80-ых, засталася наша маладосць. Там мы яшчэ не паспелі выпіць атруты з прывабнага келіху жыцця. І віно яшчэ не было за атруту. Там мы былі наіўнейшыя і лепшыя.

Мастацкая адукацыя сфармавала эклектычную эстэтыку творчасці і светапогляду Адама Глобуса. У самавыражэнні паэта намяшана ўсяго. Памятаеце? Ён — «той, хто змяшае разам радасць з горам». Ён давярае толькі сваім пачуццям і нікому не верыць на слова. Ён той — «хто чуе, бачыць, дыхае, кранае». Паэт з-за сваёй мастакоўскай эмпірычнасці проста асуджаны на адзіноту. Таму паэт заўсёды знаходзіцца там, «дзе чалавек пакутліва-самотны», дзе найлепшым сябрам і суразмоўцам для яго ёсць ён сам.

Эклектыка працінае ўсё жыццё Адама Глобуса. Ён часта карыстаецца рускай моваю, але мастацкі свет у яго паслядоўна беларускамоўны. Яго вучаць маля-

ваць монстры сацыялістычнага рэалізму, а ён стварае на палатне абстрактных пачвараў. Ён піша вершы пра «бляшаную поўню» і «асфальтавае мора», пра «механістычнае гудзенне» і «магазінна-пластмасава-новае неба», але старанна рыфмуе радкі і заганяе іх у класічныя формы санетаў, актаў і трыялетаў.

Калі Адам Глобус выдаў свой першы зборнік «Парк», ён выкарыстаў дзве сваіх форы, дадзеных яму жыццём. Але ж ён мусіў за іх і заплаціць. Нічога нікому ў гэтым свеце не даецца задарма. За беларускую літаратурную мову, якую ён літаральна атрымаў у спадчыну, яму прыходзілася адкупляцца, адпіхваючыся рукамі і нагамі ад моцнага пісьменніцкага прыцягнення Вячаслава Адамчыка, ягонага бацькі. Яму прыходзілася даказваць, што ён не другасны, што і ён мае свой розум і свой талент, што ён прыйшоў у літаратуру не «па блату», не за ільготнымі пісьменніцкімі пайкамі і дармовымі пуцёўкамі ў дамы творчасці, што ён і сам нечага варты як пісьменнік і як паэт.

Вядома, не абышлося і без стратаў. Так Уладзімір Адамчык згубіў сваё сапраўднае імя і прозвішча і стаў Адамам Глобусам, узяўшы за псеўданім дзявоцкае прозвішча маці. Што ж тычыцца самастойнасці мыслення і ўзгадаванага творчага «эга» падчас вучобы на мастака, дык тут плата, выглядае яшчэ большай. У сіле індывідуалізму, як іголка ў акаваным куфры, была схаваная будучая слабасць. Плаціць давялося пазней, калі Уладзімір Адамчык-бізнэсмэн забіў Адама Глобуса-паэта. Можа, й не да канца забіў, а скажам так, моцна знявечыў. Але гэта адбудзецца значна пазней.

Ёсць у мяне любімы вобраз у зборніку «Парк». Гэта — «кафельная чайка» ў вершы «Рэзананс», якая сядзіць на «цэментнай балюстрадзе», і ў яе «халоднае сардэчка» «з малакаштоўнага металу». Калі я бегаў на волі па ўзбярэжнай Свіслачы ў парку Горкага ў Менску, дык з боку разбуранай першай гарадской электрастанцыі на «цэментнай балюстрадзе», якая аблямоўвала берагі плыткай Свіслачы, акурат сядзелі нерухомыя маўклівыя чайкі і суправаджалі мяне бліскучымі пацеркамі вачэй. Я бег, мне было горача, пот цёк па маім твары, а нерухомыя «кафельныя» чайкі спакойна назіралі за мной, і ў маіх скронях грукаталі іхнія «латунныя сардэчкі».

Заўважны ў зборніку «Парк» і спробы перайсці ад мастакоўскай апісальнасці да філасофскага спасціжэння жыцця, што так моцна загучыць у наступным зборніку вершаў Адама Глобуса «Скрыжаванне». Пакуль што гэта ці адзінокі радок: «Нас не спыталі, нам далі жыццё...», ці асобны вобраз:

*Мы будуем сабор,*
*дзе, можа, будзе*
*будучае жыць*
*між сцен мінулага,*
*пад купалам прасторы,*
(Зоры, с. 44).

Але яны прадвызначаюць новую іпастась, новы вышэйшы ўзровень паэтычнага таленту Адама Глобуса, які неўзабаве раскрыецца ў наступным зборніку вершаў «Скрыжаванне».

Другі зборнік вершаў Адама Глобуса «Скрыжаванне», змешчаны паэтам у зборнік выбраных вершаў «Новае неба», выйшаў у 1993 годзе і ўключыў у сябе вершы, напісаныя паэтам у канцы 80-х пачатку 90-х гадоў. Час крушэння савецкай імперыі, закладання падвалінаў незалежнай Беларусі, час эканамічнага крызісу, талонаў, страйкаў, жабракоў, дэманстрацыяў, час свабоды, якая нараджалася на нашых вачах і якой суджана было хутка загінуць. Час мройных спадзеваў і агульнай няўпэўненасці. У вершах «Скрыжавання» адчуваецца дух гэтага драматычнага часу. «Скрыжаванне» атрымаўся прафесійна больш моцным зборнікам вершаў за «Парк». Творчы дыяпазон аўтара вырас ад умення маляваць дробныя замалёўкі да ўзроўня лірычных абагульненняў. Паэт авалодаў майстэрствам перадачы праз вершаваны радок сваіх унутраных пачуццяў і эмоцыяў, якія часам разрывалі ягоную свядомасць.

Цяжка ў беларускай паэзіі знайсці больш змрочны па настроях і фарбах зборнік вершаў за «Скрыжаванне». Гарадская тэма ў вершах Адама Глобуса становіцца малаактуальнай. Час зменаў у сацыяльна-палітычным ладзе краіны прынёс другое дыханне для беларускай мовы, якая стала своеасаблівай візітнай карткаю беларускага дэмакратычнага руху ў канцы 80-х пачатку 90-х гадоў. Беларуская мова пераможна загучала на стотысячных мітынгах, з высокіх трыбунаў ды ўрэшце стала дзяржаўнаю. У гарадах імкліва, як грыбы, пачалі з'яўляцца беларускія школкі і ў дачыненні да беларускай мовы знікла ранейшая насцярожанасць. Беларуская мова ў тыя часы хутка пазбаўлялася пагардлівага іміджу «дзеравенскай».

Зрэдку, тым не менш, паэт яшчэ задумваецца над тым:

*Цікава ўсё ж, а да якой мяжы*
*Нас давядзе законатэарэма,*
*Калі замест іскрыстай хрызантэмы*
*Квітнеюць бітумныя капяжы?*

(Рост, с. 82)

Але значна мацней яго турбуюць іншыя пытанні. На вачах змяніўся свет. Паэт рупна натуе атмасферу пярэдадня сацыяльна-палітычнага землятрусу:

*Страціў розум вялікі кароль*
*І завыў у парожнюю бочку.*
*І пачынаецца ў бочцы гул-боль,*
*І віруе і ўдзень і ноччу...*
*...*
*І чакае глухая зямля,*
*Хто ўсім скажа: «Няма караля!»*

(Кароль, с. 95)

Логіка звыклага жыццёвага ўкладу не спрацоўвала. Новы час, які імкліва выспяваў навокал, доўгачаканае і неверагоднае адчуванне Новага неба, выклікала ў паэта інстынктыўнае пачуццё нявер'я ні ў што добрае. Чалавек, які доўга жыве ў зачыненай, заканапачанай з усіх бакоў прасторы, як і ў турме,

прызвычайваецца і баіцца зменаў. Ён цэніць і жыве тым, што мае, што адваявана ім уласным потам, упартасцю і хітрасцю. Ён з недаверам глядзіць у будучыню, бо змены могуць прынесці нешта горшае і пазбавіць і таго, што маеш. Чалавек, які выйшаў урэшце на свабоду, палохаецца Новага неба:

*Адчыніце ўсе дзьверы,*
*Паламіце замкі,*
*Адпусціце ўсе душы*
*На чатыры бакі.*

*Паляцелі ўсе душы*
*На чатыры бакі,*
*Зачыніліся дзверы*
*І ржавеюць замкі.*

*Я стаю на крыжы*
*Беларускіх дарог*
*І не бачу дзвярэй,*
*За якімі ёсць Бог.*
(Скрыжаванне, с. 78)

Паэт спрабуе намацаць мяжу дапушчальнага і не знаходзіць яе. Мары палохаюць і не збываюцца, а барацьба за «хлеб», за сутнасць жыцця расчароўвае, яна асуджаная на пройгрыш:

*Мы стаялі ў чарзе па хлеб,*
*Дастаяліся, тамака смерць.*
*Мы спыталі: «А дзе наш хлеб?»*
*Нам у вочы глядзела сьмерць.*
(Чарга, с. 80)

Зададзенасць жыццёвых рамак, народны характар, звычкі, усё тое добрае і паганае, якое ёсць вакол нас і ў нас, цяжка, а то і немагчыма змяніць, мяркуе паэт. Ёсць нейкая наканаванасць у нашых дзеях, хоць мы і імкнемся вылузацца за межы нашага ўсталяванага існавання:

*У квадрата чатыры вуглы.*
*Хай вялікі, ці самы малы,*
*А ўсё роўна, як ні павярні, —*
*У квадрата чатыры вуглы.*

*Ні адзін, і ні тры, і ні пяць...*
*Можаш плакаць, а можаш скакаць,*
*Можаш біцца аб столь галавой, —*
*Ты не зменіш сістэмы старой.*
(Квадрат, с. 106)

Але жыццё імкне наперад. Адам Глобус не стаіць збоку тых падзеяў, якія адбываюцца ў краіне. Ён — на плошчах, маніфестуе разам з народам за сва-

боду і незалежнасць. Ён лічыць сваім унутраным абавязкам падтрымліваць дэмакратычныя змены. Матывы ўнутранай разгубленасці заглушаюцца чаканным радком суровай, чорна-белай рытмікі беларускай маршоўкі, гімна змагання за вольную Беларусь:

*Мы — беларускі рух!*
*З намі славянскі дух.*
*Покі сумленне ёсьць,*
*Мы — беларускі лёс!*
*...*
*Брат, мой брат — беларус,*
*Годзе трываць прымус,*
*Стань пад штандар са мной,*
*Разам абвесцім бой*

*Проці сваёй брыды,*
*За вызваленне з бяды,*
*Супраць варожых зграй,*
*За беларускі край!*

(Беларускі рух, с. 108)

Нашаніўскія матывы пераможна гучаць у некаторых вершах Адама Глобуса. Ён адчувае і разумее ўсю важнасць і вызначальнасць тых падзеяў, якія ідуць у краіне. Ён заклікае беларусаў не сядзець па дамох, склаўшы рукі, ён заклікае не баяцца і ахвяраваць сабой:

*Дык што рабіць, калі і быў, і ёсць*
*Нязгасны жах прад пашчаю пачвары,*
*Калі наўсцяж ашчэрваецца злосць?*

*Скажу табе, няхай сабе і марна, —*
*Змагайся, каб святое не звялось,*
*Ідзі на бой, ідзі самаахвярна!*

(Паплечніку, с. 89)

І ў той самы час ў душы паэта ідзе вельмі цяжкая, драматычная, унутраная работа. Законы развіцця грамадства, ягоныя паразы і перамогі, — усё, што адбываецца звонку, толькі апасродкавана кранаюць паэта і адбіваюцца на ягонай расколатай душы, заглыбленай у пакуты.

З паэтам можна было ў тыя гады сустрэцца на барыкадах. Але за бунтарскімі баявымі воклічамі хаваецца датклівая натура паэта. І праўдзівыя барыкады пралягаюць праз ягоную душу. І там паэт адзінокі. І там ён змагаецца з цэлым светам. І ніхто не можа дапамагчы яму.

Канец 80-х пачатак 90-х гадоў мінулага стагоддзя быў пераломным часам для найбольш буйных беларускіх паэтаў. Тэктанічны зрух у гісторыі народа непазбежна адбіўся на іхнім уласным лёсе. Кожны з іх па-свойму перажываў

гэтую каштоўнасную пераарыентацыю грамадства. У пэўным сэнсе беларускія паэты аказаліся незапатрабаванымі і неацэненымі ні беларускім грамадствам, ні, тым больш, постсавецкімі ўладамі. Яны, тыя, хто сваёй вольналюбівай творчасцю і нонканфармісцкімі ўчынкамі рыхтавалі змены ў грамадстве, былі праігнараваныя і апынуліся ў сацыяльна-культурным маргінэзе. Чарговы раз у нашай гісторыі беларусам былі непатрэбныя свае прарокі.

Адам Глобус адчувае вострую адзіноту, усеагульную разгубленасць, якая выклікала духоўную спустошанасць. Ён спрабуе супрацiўляцца ўнутранаму бяссіллю:

*Нехта будзе бадзяцца, шукаючы праўду і радасць у стоме.*
*Нехта стане маліцца, забыўшыся, што ён у Бога не верыць.*
*Нехта будзе пацiху спiвацца, а нехта — канаць у дурдоме...*
*Толькі прыйдзе адліга і мы павымаем з-пад лавы цяжкія сякеры.*

(1939. Вільня. Слова беспрацоўнага, с.102)

Але ад сябе не ўцячэш і перад уласным «я» сякерай не памахаеш. А ўнутраны аналіз, падвядзенне рахункаў не суцяшае. Паэт не задаволены сабой, не задаволены сваім жыццём, літаральна ўсім, што ён робіць і чым займаецца:

*Што ні раблю — адны памылкі спрэс.*
*Я сам сабе ўтвараю перашкоды,*
*Працуючы, калі патрэбны продых, —*
*І праца ў рэшце рэшт губляе сэнс.*

(Зімовы лес, с. 86)

Паэт сур'ёзна задумваецца над сваім жыццём. І чым глыбей ён занырвае ў самааналіз, тым менш ён бачыць перад сабой тую мэту, дзеля якой варта ісці наперад. Толькі вобраз брата, як зборны вобраз родных людзей, яшчэ дае нейкі слабы спадзеў, што ўсё, што адбываецца з паэтам, недарэмна, што трэба жыць дзеля таго, каб жыць:

*Ёсць дарога, няма ў той дарогі канца і пачатку;*
*Можа, ёсць, толькі я іх ніколі не ведаў, не бачыў.*
*Я іду, каб дарога прасцейшай здавалася брату;*
*Над пуцінаю рогат крыжуецца з енкам і плачам.*

(Развагі, с. 99)

Такое механістычнае жыццё звонку падаецца бадай што самастойным і ўраўнаважаным, маючым сэнс. Але за знешнім спакоем, штодзённай працаю і будзёнымі клопатамі хаваецца ледзяная пустэча:

*Ён жыве на прыватнай*
*Безвыгоднай кватэры.*
*Ён малюе выдатна*
*На шалёсткай паперы.*
*...*
*Ён надзіва спакойна*
*Адмаўляе спакусы.*

*Ён працуе ў пакоі*
*Невялікім і вузкім.*

*Ён нікуды не лезе*
*І нічога не просіць.*
*Ён малюе прадвесне*
*І графічную восень.*
(Мастак, с. 100)

І каханне не ратуе паэта, не разбівае ягоную адзіноту, не саграе яго ад унутранага холаду і пераўтвараецца ў банальны сэкс:

*Ты прыходзіш, і мы застаемся адны*
*У халодным пакоі ратуемся моўчкі.*
(Ты, с. 111)

Можа, выратаванне ад адзіноты ў святле веры? Можа, у ёй паэт бачыць збаўленне ад сусветнай жудаснай нуды? Ды не:

*Вецер стогне. Вецер вые.*
*У акне старой царквы*
*Плачуць свечкі залатыя.*
*Свечкі плачуць. Плач і ты.*
(Смутак, с. 96)

Рэальнасць у свядомасці паэта перамешваецца з уяваю, усё навокал набывае міфічнае адценне і губляе сэнс. У свеце паэта няма ясных арыенціраў і зніклі ідэалы. Дабро пераліваецца ў зло, тое, што здавалася злом, выяўляецца ў нейкае імгненне дабром:

*Кліча коннік: «Мой брат, устань!»*
*Будзем разам змагацца са злом,*
*Назавём нашу справу дабром!»*
*Узнялася чырвоная здань,*
*Засіпела змяёю зямля,*
*Брату брат крыкнуў: «Зло, гэта ж — я!»*
(Браты, с. 92)

Ніштo не трымае паэта ў гэтай рэчаіснасці. Ён сам можа лёгка перакінуцца ў ваўкалака, бо толькі ў тым, уяўным свеце, яму мроіцца душэўная раўнавага і спакой:

*Узыдзі на гару, абярніся ваўком*
*І ляці праз чатыры гады, —*
*Сваю маці забудзеш і родны свой дом,*
*Не сустрэнеш ніколі бяды.*
(Воўк, с. 79)

Але і раўнавага, і спакой не маюць ніякага значэння і сэнсу. Усё марна і дарэмна ў гэтым свеце — і твае дзеі, і тваё жыццё, перакананы паэт:

*А калі на мяжы паміж ноччу і днём*
*Перакуліцца ўвесь белы свет,*

*Будзе ў цемры свяціць ярка-чорным агнём*
*Непатрэбны і воўчы твой след.*
(Воўк, с. 79)

Хто вінаваты ў гэткім душэўным рэзруху і маральным спусташэнні? Паэт нікога не вінаваціць у гэтай унутранай катастрофе, нікога, апроч самога сябе. Ён не здаецца, ён, як тапелец, хапаецца за саломінку надзеі і шукае выйсця:

*А хто зрабіў з мяне раба?*
*Каму свярбіць мая бяда?*
*Я сам аддаў, крый Бог збрашу,*
*Я сам прадаў сваю душу.*
*А што я мог яшчэ прадаць?*
*І дзе мой Бог, каб ратаваць?*
(Сабака, с. 105)

Паэт шукае выйсця і не знаходзіць. Не ўсе жыццёвыя і душэўныя драмы маюць шчаслівы працяг. І вось ужо пішацца верш, які дакладна перадае стан алкагольнага трызнення , выдатны вар'яцкі верш, напоўнены прывідамі і бязмежнай чорнай самотай:

*Танчыць чорная котка*
*На кухонным стале.*
*Аксамітныя танцы*
*Падабаюцца мне.*

*Лашчаць лёгкія лапы*
*Тонкі глянцавы цень.*
*У духмянай цямрэчы*
*Палымнее агмень.*

*На дварэ халадэча,*
*Свет належыць зіме.*
*Котка, цемра і чарка*
*Суцяшаюць мяне.*
(Аксамітныя танцы, с. 97)

Стан бесперапыннага адчаю і безнадзейнасці не можа не прывесці паэта да думак пра смерць. Не пра смерць, як нейкі акт адчаю, а як пра натуральны працяг існуючага трагічнага стану душы, як наступны крок ва ўласным шляху існавання, барацьбы і знікнення, які ўласцівы ўсяму жывому:

*Засынаю, ізноў засынаю,*
*Бо надзеі ніякай не маю,*
*І ў жыцці ўжо нішто не трымае...*
*Засынае душа, засынае,*
*Перарэзаная трамваем;*
*А вар'яцтва душу абдымае,*

*Закалыхвае і спавівае*
*Чорна-мутарным дымам адчаю...*
(Сон, с. 91)

Гэтае павольнае згасанне бачыцца паэту як у дзіўным сне. І нават прымроены і прыснёны палёт ягонай душы не дае яму супокою:

*Чаму наўскос*
*Ляціць душа?*
*Чаму наўпрост*
*І на пагост*
*Імчыць шаша?*
(Сцяна, с. 93)

Паэт уяўляе працэс сваёй смерці. У смерці ён бачыць пазбаўленне ад пакутаў і атрыманне свабоды:

*У мяне ёсць атрута —*
*Вельмі лёгкая смерць.*
*Можна знішчыць пакуты*
*Волю-вольную мець.*
(Атрута, с. 81)

У вершы «Тастамент» ён падрабязна апісвае працэс свайго добраахвотнага сыходу з жыцця:

*Глыну крышталёвай, халоднай атруты,*
*У студні-лядоўні здранцвее мой лёс.*
(Тэстамент, с. 83)

Згодна сваіх уяваў паэт хацеў бы быць пахаваным не ў зямлі, а на небе:

*Мяне панясіце з ампірнага дому,*
*Туды, дзе па хмарах грымяць перуны.*

*Над небам, на вежы мяне пакладзіце,*
*Хай войстрыя дзюбы арлоў, груганоў*
*Разблытаюць нерваў блакітныя ніці,*
*А даўгія кіпці іх зблытаюць зноў.*
(Тэстамент, с. 83)

Паэт не ўяўляе сябе ў раі. Суладдзе і супакой — не для яго супярэчлівай і грахоўнай душы. І ўсе спадзевы і расчараванні, усё добрае і благое з гэтага зямнога жыцця ён хоча захапіць з сабой. Бязлітасны да гэтага свету паэт гэткі ж бязлітасны да сябе і ў іншым жыцці. Ягоная неўтаймаванасць — бязмежная. Фальшывай абалонкаю здаюцца вонкавы спакой і хвалёная сціпласць беларускай душы:

*Хай велькая зграя чарцей і анёлаў*
*У трубы і дудкі напружана дзьме;*
*А ў грукаце сонечна-месячных колаў*
*Хай лета зруйнуецца ў шарай зіме;*
(Тэстамент, с. 83)

Вось жа, гэтая фантасмагарычная карціна, намаляваная паэтам «велькай зграі чарцей і анёлаў», якая сумесна « у трубы і дудкі напружана дзьме», суправаджаючых ягонае ўяўнае пахаванне, паказвае хіба што ўсю глыбіню таго бедламу, таго спалучэння дабра і зла, якія перапаўняюць душу паэта.

Змаганне дабра і зла няспынна ідзе ўнутры кожнага чалавека. Але не кожны хоча ці ў стане зразумець гэта. Звычайна, мы падсвядома імкнемся думаць пра сябе лепей, чым мы ёсць на самой справе. Мы не зважаем на сваіх «чарцей» і абдорваем увагаю і ласкаю сваіх «анёлаў». Адам Глобус-паэт у вершах імкнецца быць шчырым і знаходзіць мужнасць паглядзець на сябе збоку.

Знішчаны маральна, раздушаны жорсткімі законамі свету, лірычны герой (ці сам паэт?) усё ж знаходзіць Таго, да каго звычайна звяртаюцца людзі ў самыя безнадзейныя моманты жыцця. І нараджаецца, на мой погляд, адзін з лепшых вершаў паэта, верш-малітва:

*Божа, забяры маё жыцьцё,*
*Выратуй знямелую Айчыну,*
*Выратуй ахвяры і злачынцаў...*
*Божа, забяры маё жыццё.*
*...*
*Я слабы, з атручанай душой,*
*Брудны гад, скалечаны, нікчэмны...*
*Веру ў розум светлы і надземны.*
*Я слабы, з атручанай душой.*

*Божа, забяры маё жыццё.*
*Іншага не маю, каб аддзячыць.*
*Ну хіба што гэтым ціхім плачам.*
*Божа, забяры маё жыццё.*

(Спроба малітвы, с. 113)

Верш гэты і сімвалічны, і прарочы, і вельмі асабісты, а праз гэта і вельмі зразумелы ўсім. Ён, як ціхі ўздых чалавека, які дайшоў да дна свайго існавання, але не знік, не адчаіўся дарэшты. Ён яшчэ жыве і на нешта спадзяецца. На што — яшчэ і сам пакуль не ведае, хіба толькі на Яго.

Крызіс яшчэ не мінуў, і не знікла ды ўжо і не знікне ніколі адзінота. Самавынішчэнне давяло да таго, што і на сябе самога паэт паглядае збоку. Ён — ужо не ягоны лірычны герой. Адбылося раздваенне, якое, можа быць, прынясе выратаванне паэту, але не выцягне з прорвы адчаю лірычнага героя:

*Ён шукае дарогі да белых палёў,*
*Над якімі адно толькі новае неба,*
*Там уласная смерць выглядае ганебнай.*
*Ён шукае сабор, а прыходзіць дамоў.*

(Дамоў, с. 112)

Гэтым нясмелым і няпэўным спадзевам на лепшую долю, на тое, што ўсё не так і блага, хоць горш няма ўжо куды, што ўсё ж недзе ёсць гэтая запавет-

ная дарога, гэты шлях да Новага неба і перапыняюцца духоўныя пошукі Адама Глобуса ў зборніку «Скрыжаванне», адным з найбольш моцных паэтычных зборнікаў 90-х гадоў 20-га стагоддзя. Усё ў ім прадумана, усё дарэчы, няма ў «Скрыжаванні» выпадковых вершаў. Пасля «Скрыжаваньня» Адам Глобус нічога лепшага ў паэзіі ўжо не напіша.

Бескампрамісныя пошукі свайго «я» адхінулі Адама Глобуса ад паэзіі. Вершы на новым этапе жыцця паэта аказаліся бесперспектыўнымі, бо яны забіралі ўсю душу паэта без астатку. Таму Адам Глобус-паэт саступіў месца Адаму Глобусу-празаіку. А ўсе вершаваныя радкі, якія часам пісаліся пасля перапынку амаль у дзесяць гадоў — гэта паслякрызісныя рыфмаваныя рэфлексіі, у асноўным на тэму гарэлкі і Вільні:

*Паэты п'юць без меры, без выходных,*
*па-чорнаму, заўжды, як мае быць.*
*З бутэлек модных і простанародных*
*пілі і п'юць, як нашы могуць піць.*

(Паэты, с. 142)

Не цяжка здагадацца, каго меў на ўвазе Адам Глобус, напісаўшы гэты верш. Вершы пра Вільню мне падабаюцца болей. Пра Вільню пісаў Максім Багдановіч, пра Вільню піша і Адам Глобус. Пошукі беларускасці, беларускай тоеснасці працягваюцца. І гэтым цікавыя вершы Адама Глобуса пра Вільню:

*Пачакай, пачакай, раскажы мне пра нашую Вільню,*
*пра яе цудадзейны, спакойны, гаючы настрой,*
*пра яе прыгажосць, пра яе баракальную стыльнасць,*
*пра яе непаўторны, карункавы, бэзавы строй...*

(Начныя словы пра Вільню, с. 135)

Так піша чалавек, які перажыў якуюсь страшэнную хваробу, перахварэў і ходзіць зараз асцярожна, абапіраючыся на кіёк, і пазірае на свет здзіўленымі вачыма, як бы пытаючыся ў самога сябе: няўжо гэта я? Няўжо я — жывы? Мары пра Новае неба засталіся ў мінулым, а сённяшняе няспешнае і размеранае жыццё таксама мае свае маленькія радасці. Прыгажосць Вільні — адная з іх:

*Зімовы вечар. Вільня засынае.*
*Субота дагарае залатая*
*на вежах. Я яшчэ змагу,*
*адкінуўшы маркоту і тугу,*
*дамовіцца з надзейнымі сябрамі,*
*каб зранку памаліцца ў Вострай Браме*
*ды папрасіць у Бога даравацьi*
*грахі усім, хто пойдзе ваяваць*
*за Беларусь, хто меч святы падыме*
*і хто здабудзе волю на Радзіме.*

(Вечаровы настрой, с. 137)

*Бабруйская калонія № 2, жнівень 2013 г*

